

9

ВЕРАСЕНЬ

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

Вокладка **Ю. Зайцава**

Шмуцтытулы **М.** і **У. Басалыгаў** (3 стар.) і фота **В. Ждановіча «Памяць сэрца»** (93 стар.).

---



# ПАЭЗІЯ ❖ ПРОЗА

- Генадзь БУРАЎКІН
- Уладзімір СКАРЫНКІН
- Аркадзь МАЎЗОН
- Валянцін ЛУКША
- Уладзімір КАРАТКЕВІЧ
- Валянціна ХАМЧУК
- Вінь ЛЕ
- Ань ТХО
- Аляксандр КУПРЫН





Генадзь БУРАЎКІН



## • *Я—твой трубач*



●

Я твой трубач,
таварыш камсамол.
Што для мяне скупыя рамкі ўзросту,
Калі тваіх дарог крутыя вёрсты
Пазначаны гісторыяй самой!

Хіба цябе састарылі гады!..
Пакуль святло ў вачах не пахіснецца,
Пакуль тваім агнём сагрэта сэрца,
Я буду ненасытна малады.

Ну а калі ў нагах не стане сіл
І я ў дарозе зморана прылягу,
Ты маладосці мне налі ў біклагу
І да засмяглых вуснаў паднясі.

Я пракаўтну і горкі пыл, і соль —
І звонкую трубу да сонца ўскіну
І пратрублю,
пад ветрам стаўшы,
сыну
Твой юны марш,
таварыш камсамол...

Я — твой трубач, таварыш камсамол...





Уладзімір СКАРЫНКІН



## • *Дарога ў неба*



●

**1.**

Дарога ў неба...
Чалавеку
Карцела вельмі
небасхіл
Пакратаць крыламі
спрадвеку,
І толькі
нехапала крыл.
Ад баравін,
азёрных плёсаў,
Крыніц,
рамонкавых палян
Бязмежнасць
і блакіт нябёсаў
Упарта клікалі
зямлян.
Высока сокалы ляталі,
Увысь цягнуліся лясы.
На вуха месяцу
шапталі
Аб запаветным каласы.
Не баючыся
боскай кары,
З душою птушкі чалавек
Стварыў легенду
**аб Ікары**
І пераказваў
з веку ў век.
Дарога ў неба —
шлях пакутны.
Не здолеў
далячэць да хмар
На крылах мары
дзяк Кракутны —
Народа рускага Ікар.

Ды адрасталі крылы
ў мары,
Як хвост у яшчаркі,—
і зноў
Глядзелі
з зайздрасцю
Ікары
На планерыстаў-каршуноў.

І быў той дзень
сапраўдным святам,
Калі ўзляцеў
увышыню
І зразумеў,
што стаў крылатым,
Прапрадзед мой
упершыню.

## 2.

Сырыя сцены каземата.
Да смерці —
лічаныя дні.
Як гонг,
ударыла гармата
У звар'яцелай цішыні.

Але схаваць за краты
мары
Яшчэ ніколі не маглі
Ні безгаловыя жандары,
Ні самадуры-каралі.
Ім не даводзілася
бачыць,
Як апантаных
сіла гне...
І чэрціць
Мікалай Кібальчыч
Праект ракеты
на сцяне.

І вырастаюць крылы
ў сэрца,
Раяцца думкі
ў галаве.
Не разважае ён
аб смерці —
Ён адчувае,
што жыве.

На твары
свеціцца надзея,
Што неўзабаве
шчодры плён
Павінна даць
яго ідэя,
А значыць —
не памрэ і ён.

Праекта смелага дэталі
І рэйсаў будучых
да зор
Абдумваў ён,
калі чыталі
Яму
смяротны прыгавор.



## 3.

Паліў кастры
кастрычнік шары,
Туман
ахутваў паплавы.
На парыжэлыя імшары
Ранялі смутак
жуўравы.

На бальшаках
раўлі маторы,
Як і раней
у гэты час.
Міргалі хітравата
зоры,
Недасягальныя
для нас.
За паранджою атмасферы
Хавала ад людзей
пагляд
Красуня гордая
Венера —
Як год
і век таму назад.
Ніхто
не заўважаў прыкметы
Таго,
што блізкім стаў
Сусвет.
Успыхнуў,
быццам хвост каметы,
Увышыні
ракеты след.
І сталі явай
летуценні!
Зямля
з узнятай галавой
Глядзела
ў радасным здзіўленні
На штучны
спадарожнік свой.

Ўгары
па небасхіле коўзкім
Ён слізгаў,
як метэарыт.
Напэўна,
жыў бы Цыялкоўскі —
Ад шчасця
плакаў бы
наўзрыд.

Гулі ўначы
аэрадромы...
Праекты
зорных караблёў
Ужо выношваў
невядомы
Да самай смерці
Каралёў.

## 4.

Шчаслівы
я,
скажу адразу,

Што ў гістарычны час жылі
І з касманаўтам першым разам
Мы камсамольцамі былі.

З нас кожны ўзняцца ў космас марыў.
І вось на зорным караблі
Маёр з усмешкаю
Гагарын
Зрабіў віток
вакол Зямлі.

Віток
над раніцаю весняй,
Віток
над першай баразной,
Над звонкай
жаўранкавай песняй,
Над ціхай
матчынай слязой.
Над мітуснёй
і валакітай...
І з неба чорнага,
здаля
Такой прыгожай
і блакітнай
Здалася родная Зямля.

. . . . . . . . . . . . .
І ўсё-ткі нельга жыць
без мары!
Невыпадкова зор агні,
Калі ў палёце быў
Гагарын,
Так ярка ззялі
ўвышыні.

**5.**

Часцей
ракеты казыталі
Сваімі дзюбамі
зеніт.
Ужо «Усходы» наматалі
Вакол Зямлі
клубок арбіт.
Таму,
калі ўзляцеў
другі раз
Высока ў неба
Камароў,
На тварах быў
зайздросны выраз
Амаль ва ўсіх
маіх сяброў.

Шпакі ў садах
спявалі звонка.
Усюды
панаваў настрой,
Нібыта
па другую «зорку»
У космас
паляцеў герой.

Але заблыталіся
стропы,
І нечакана
для усіх



Замоўклі
на паўслове
строфы,
Газетны гоман
раптам сціх.
Змянілі скептыкі
гаворку...
Прымацаваў
да пінжака
Другую
залатую Зорку
Герою
пэндзаль мастака.

**6.**

Аднак бяда адна
не ходзіць.
Каб душы
надламаць журбой,
Яна абавязкова
водзіць
Бяду другую за сабой.
Яшчэ вярэдлівыя раны
Зарубцаваць
не здолеў час,
Калі звонкагалосы
ранак
Вачэй гагарынскіх
пагас...
На непазбежныя ахвяры
Сыны найлепшыя пайшлі...
Бо ўсё-ткі нельга
жыць без мары
І быць шчаслівым
на зямлі.
Няхай гняздзіцца
ў сэрцах вера,
Што дасягальныя
для нас
І сарамлівая Венера,
І неаб'езджаны Пегас.
Хай будзе
цяжкаю задача,
А кожны чалавек —
Ікар.
Няхай заўсёды
зорка Ўдача
Гарыць
над ветразямі мар.
Няхай рыхтуюцца
употай
На подзвіг
душы хлапчукоў.
Няхай
з любоўю і пяшчотай
Надзенуць
на зямлі бацькоў
Гадоў наступных
камсамольцы
На пальцы
суджаных сваіх
З Сатурна
дарагія кольцы
Замест
пярсцёнкаў залатых.





**Аркадзь МАЎЗОН**

Мал. У. ПАШЧАСЦЕВА



# ЛЮДЗІ, АГОНЬ І СМЕРЦЬ

**ДРАМАТЫЧНАЯ АПОВЕСЦЬ ДЛЯ СЦЭНЫ**

***Прысвячаецца камсамолу Беларусі***

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Аўтару ўяўляецца Жанчына ў белым. Высокая. Прыгожая.
Чуваць яе голас. Пяшчотны. Суровы. Ціхі. Грамавы.

ЖАНЧЫНА *(не адразу)*. Сябры! Таварышы! Слаўныя, дарагія! Я — час. Я — сумленне. На маю долю выпала ўзнавіць перад вамі даўно мінулае. Расказаць пра пякельныя дні і ночы. Расказаць, як чорны дым праглынуў сонца. Расказаць пра людзей, што апынуліся ў апраметнай цемры, і пра тое, як людзі гэтыя плацілі сваім жыццём, каб сёння жылі вы і ўсе, каму наканавана жыць заўтра, праз стагоддзі. *(Жанчына робіць некалькі крокаў наперад)*. І не будзе ў маім расказе нічога выдуманага. Усё, як тады, больш чвэрці стагоддзя назад.

Толькі цяпер адкрываецца заслона.
Жанчына адыходзіць убок. За ёй, у начы, руіны, пакручанае ў агні жалеза.
Фантастычная лесвіца.
Барвова-чырвонае неба, чорны цень агромністай шыбеніцы.
Рэшткі таго, што калісьці было вуліцай. Яна пустая.
І няхай руіны будуць увесь час. Да канца.
Святлом, якім трэба асвяціць кожнае новае месца падзей, будзе Жанчына.

ЖАНЧЫНА. Квітнела зямля. Звонкагалосым быў горад. Жылі людзі. Працавалі. Стваралі. Кахалі. Галубілі дзяцей. Смяяліся. І раптам, паўтараю, зямля і горад, і неба, усё жывое апынулася ў палоне смерці. На кожным кроку — смерць.



Грукат кутых абцасаў заглушае яе словы. Уваходзяць тры нямецкія салдаты. Яны спыняюцца і азіраюцца.

ЖАНЧЫНА. Вось яна — смерць. Вось яны, сейбіты смерці. *(Жанчына знікае).*

ПЕРШЫ САЛДАТ. Ціха. *(Закурвае).* Ціха.

ДРУГІ САЛДАТ. Добрая табака.

ПЕРШЫ САЛДАТ. Югаслаўская. Брат прыслаў.

ТРЭЦІ САЛДАТ. Мой у Нарвегіі. Там толькі смярдзючая траска.

ДРУГІ САЛДАТ. Мой — у Францыі. У Парыжы. Прыязджаў у адпачынак. Гаварыў — Парыж прыгожы горад.

ТРЭЦІ САЛДАТ. Масква, кажуць, таксама.

ПЕРШЫ САЛДАТ. Масква? Вялікая брудная вёска. Расія — уся брудная.

ДРУГІ САЛДАТ. І ў Польшчы...

ПЕРШЫ САЛДАТ. Палякі неданоскі. І рускія. І беларусы...

ТРЭЦІ САЛДАТ *(зірнуўшы на гадзіннік і пазяхаючы).* Доўга нам яшчэ тупаць?

ДРУГІ САЛДАТ. Шкадуеш падковы?

ТРЭЦІ САЛДАТ. Ногі. Пакуль яны яшчэ мае, мне іх шкада.

ПЕРШЫ САЛДАТ. Я, як скончыцца вайна — тут асяду. Мэблевую фабрыку адкрыю. Лесу многа. Вілу сабе пабудую. Мільянерам стану.

ДРУГІ САЛДАТ. Я хачу менш. Уцалець хачу. Проста ўцалець.

ТРЭЦІ САЛДАТ. А я дык самую дробязь — паспаць.

ПЕРШЫ САЛДАТ. Ладна, пайшлі. Тут ціха.

Салдаты выходзяць. Моўчкі глядзіць ім услед Жанчына.

ЖАНЧЫНА. Сейбіты смерці называлі сябе людзьмі. І былі на іх падобныя. Знешне. У іх былі вочы, рукі, ногі. Быў мозг і не было сэрцаў. І таму яны былі нелюдзі.



Аднекуль з цемры, як прывіды, паяўляюцца юнак і дзяўчына. Азіраючыся, яны ў імгненне вока наклейваюць на сцяну лістоўку. І адразу ж зусім блізка чуваць крыкі: «Хальт, хальт, хальт!» Потым чарга аўтамата...

Адказам на стрэлы крык — «Мама!..»

Юнак і дзяўчына на долю хвіліны прыціскаюцца да сцяны, потым перабягаюць вуліцу, хаваюцца ў руінах, што насупраць. Да іх падыходзіць Жанчына.

ЖАНЧЫНА. Запомніце, як іх завуць: яе — ЖЭНЯ ІВАНОВА, яго — ХВЕДАР МЕХАЎ. Разам ім тады было... Яшчэ не было і сарака...

У святле мы бачым іх твары — маладыя, зусім яшчэ юныя. І вельмі прыгожыя. І хочацца, каб усе астатнія нашы героі — таксама былі прыгожымі. Былі ўзорам чалавечага харастаў.

ЖЭНЯ. Вось і Толіка не дачакаюцца дома...

ХВЕДАР *(глуха).* І Толіка... І ён не першы і не апошні. Але і тыя, ад каго ён прыняў смерць, таксама не вернуцца дадому...

ЖЭНЯ *(пасля паўзы).* Холадна.

ХВЕДАР *(здымае з сябе куртку, аддае Жэні).* На досвітку заўсёды холадна.

ЖЭНЯ. Дзякуй.

ХВЕДАР *(дастаючы з кішэні лістоўку).* Вось... Адна. Апошняя... Верыш, што мы гэтымі лістоўкамі прыносім фрыцам хоць якую-небудзь шкоду?

ЖЭНЯ. Фрыцам — не ведаю. Нашым прыносім палёгку.

ХВЕДАР. Палёгку. *(Пагдядзеў на гадзіннік.)* Яшчэ дзве гадзіны праклятага каменданцкага часу...

ЖЭНЯ. І нам сядзець тут?

ХВЕДАР. А як пайсці? Куды? Каб самім да іх у лапы? Каб адтуль на шыбеніцу? Я ўжо быў на тым свеце... Там цёмна, холадна.

ЖЭНЯ. Мама не спіць, хвалюецца.

ХВЕДАР. А мае старыя?..

ЖЭНЯ. І твае...

ХВЕДАР. Мы з табой зараз, як у цырку, пад самым купалам ходзім па канаце... адзін няправільны крок і канец... *(Зноў зірнуў на гадзіннік).* Хутка міны нашыя знак пададуць... І такая музыка зайграе... Будзе весялей сядзець.

ЖЭНЯ. Калі жартуеш, ты ўвесь свецішся... *(Уздыхае, паказвае на гадзіннік).* Новы?

ХВЕДАР. Швейцарскі. У аднаго обера з палявой жандармерыі ўзяў. Прыгалубіў яго і... Рашыў — нашто падлу гадзіннік. Яму ўсё адно — кругом дванаццаць. Ну і... толькі прахрыпеў — «майн гот». Што так глядзіш?

ЖЭНЯ. Гляджу...

ХВЕДАР *(пасля паўзы).* А што, павінен быў яго пашкадаваць?

ЖЭНЯ. Не. Толькі гаварыць пра гэта не трэба.

ХВЕДАР *(вымае пісталет).* Вось яшчэ трафей. А толькі нажом лепш. Ціха. Сунуў яго пад рабрыну, па самую ручку. Вось табе і «дайн гот».

ЖЭНЯ. Я ж прасіла...

ХВЕДАР. Слухай ты, тонкая натура! Хочаш, каб з імі ветліва? Гутэн таг, яволь, біттэ?

ЖЭНЯ. Я цябе не папракаю. Проста...

ХВЕДАР. І я — проста. Яны не людзі. Фашысты... І альбо мы іх, альбо... Другое «альбо» адкідваю. Мы! Значыць так, і толькі так. І завучыў я адно слова з іх мовы — капут. Капут ім. Усім!

ЖЭНЯ (*прыслухоўваецца*). Цішэй. Зноў вартавыя.

Хведар рыўком падымае Жэню, хавае за каменне. Прыслухоўваецца. Робіць некалькі крокаў убок.
Жэня і Хведар знікаюць у цемры. У святле тыя ж салдаты. Спыняюцца.

ДРУГІ САЛДАТ (*першаму*). Лоўка ты таго скасіў...
ПЕРШЫ САЛДАТ (*ляпае далоняй па аўтамаце*). Цудоўная машына...
ДРУГІ САЛДАТ. І ты, як машына...

Усе рагочуць...

ПЕРШЫ САЛДАТ. Загад ёсць загад!
ДРУГІ САЛДАТ. Ну, тут ціха...
ПЕРШЫ САЛДАТ. Я і люблю, калі ціха. І трэба, каб было ціха...
ТРЭЦІ САЛДАТ. Хутчэй бы ўжо скрозь стала ціха.

Далёкі выбух. Другі. Трэці.

ПЕРШЫ САЛДАТ (*спалохана*). Партызаны. У раёне вакзала.
ДРУГІ САЛДАТ. Ціха?!

На ўсё неба зарыва далёкага пажару. Выбухі.
Хведар выглядвае з руін. Убачыўшы, што салдаты стаяць да яго спіной, страляе. Салдаты, не паспеўшы нават апомніцца, падаюць.
Хведар выскоквае з руін, забірае ў салдат аўтаматы, дакументы.

ХВЕДАР. Вось цяпер вам ціха... (*Знікае ў руінах*).
ЖАНЧЫНА. Ворагі вельмі хацелі, каб скрозь было ціха. Каб людзі стаялі на каленях. Пакорліва выконвалі кожны іх загад. Тады цішыня. Скрозь. І каб у магільнай цішыні былі чутны толькі іх, вылюдкаў, галасы, іх рогат, іх песні... І свіст іхняга бізуна...

Жанчына зноў робіць некалькі крокаў убок. У святле — куточак майстэрні бляхара. Яна загрувашчана прымусамі, керагазамі, самаварамі, чайнікамі. На стале: ціскі, напільнікі, паяльная лямпа.
У майстэрні АЛЯКСАНДР БЕЛАХВОСЦІК І ДУСЯ.
Чуваць голас нямецкага дыктара: «Расстраляны: Юля Захарэвіч, Міхась Красноўчык, Аркадзь Красноўчык, Клаўдзя Осіпава... Папярэджваю. За дыверсіі супраць нямецкай арміі, за распаўсюджванне бальшавіцкіх лістовак, а таксама за замах на жыццё нямецкага салдата ці афіцэра ў кожным выпадку будуць пакараны смерцю ад пяцідзесяці да ста жыхароў горада. Акруговы камісар штурмбанфюрар...»

ЖАНЧЫНА. Яшчэ першабытныя дзікуны ведалі — страх забівае. Іх нашчадкі, гэтыя вылюдкі, узялі страх на ўзбраенне. Яны не ведалі, не маглі здагадацца, што страх забівае слабога, баязліўца. Дужы, смелы перасільвае страх, перамагае яго. Але ў самага дужага, самага смелага толькі адно жыццё... І кожны хацеў жыць.
ГОЛАС. Увага! Увага! Увага! Па маім загадзе расстраляны Юля Захарэвіч, Міхась Красноўчык...

Дуся закрывае вушы рукамі. Голас дыктара аддаляецца.

ДУСЯ (*не адразу*). Калі гэта скончыцца?
АЛЯКСАНДР. Скончыцца. Калі — не ведаю, але...
ДУСЯ. Пазаўчора сасніла, як і мяне з Паўлікам...
АЛЯКСАНДР. Супакойся...
ДУСЯ. Я... усё ж жанчына, Саша. Маці...
ЖАНЧЫНА. Знаёмцеся,— Аляксандр Белахвосцік, Дуся Міхальчук. Ім разам не было яшчэ і сарака.
АЛЯКСАНДР (*падае Дусі аркуш паперы*). Перадасі яго Васілю Сцяпанавічу.

Дуся пачынае расшпільваць кофтачку, Аляксандр адварочваецца.



АЛЯКСАНДР. Тут дакладна пазначана — дзе і што. Казармы, склады, аэрадром, зеніткі... З улікам усіх апошніх змен... Яны разбяруцца.
ДУСЯ (*схавала план*). Перадам.
АЛЯКСАНДР. Ён прасіў стрэптацыд... Скажаш — пакуль не дасталі. Робім усё, каб... але пакуль... Ён зразумее. Вось, бадай, і ўсё. (*Пасля паўзы*). Як Паўлік?
ДУСЯ. Паўлік! А што яму? Спіць.
АЛЯКСАНДР. Спіць. Ну і няхай спіць. А вырасце і калі будзе пісаць аўтабіяграфію, з поўным правам зможа напісаць: з пялёнак прымаў удзел у барацьбе за вызваленне Радзімы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.
ДУСЯ. З пялёнак... Каб вырас з іх.
АЛЯКСАНДР. Вырасце.
ДУСЯ. Мая свякруха сказала б — дай бог. (*Устае*). Пайду.

Аляксандр абдымае яе, падае пустое вядро, разам з ёй выходзіць. Вяртаецца.

АЛЯКСАНДР (*бярэ газету, чытае*). «Карныя акцыі германскага камандавання вымушаныя. Вінаваты ў іх не немцы, а перш-наперш бальшавіцкія камісары. Няхай бальшавіцкія камісары спыняць дыверсіі, і ў горадзе будзе спакой. Для нас, беларусаў, вайна ўжо скончана. Любая дыверсія супроць нямецкіх войск ужо не вайна, а бандыцкі акт».
ЖАНЧЫНА. Так брахаў у тыя чорныя, гаротныя дні са старонак сваёй газеты — бруднай анучы «Новый путь» яе рэдактар, фашысцкі паслугач Браун. З ім мы яшчэ сустрэнемся...

Імкліва заходзіць ХВЕДАР.

ХВЕДАР. Саша! Бяда!
АЛЯКСАНДР. Што здарылася?
ХВЕДАР. Узялі Жэню. Толькі што. На рынку. Нейкі лейтэнант. Пачалася аблава, ён схапіў яе за руку. Я быў далёка, але кінуўся, каб яе... Ён агледзеў мяне з ног да галавы, штурхнуў, а яе павёў. Я пабег за імі. Лейтэнант падняў пісталет... У яе яшчэ засталося з дзесятак лістовак.
АЛЯКСАНДР (*пасля паўзы*). Так...
ХВЕДАР. Яна... Яна будзе маўчаць. Будзе маўчаць, і яе тады...

Вялікая паўза. Цішыня.

ХВЕДАР. Дзесяць лістовак. Яны ж вешаюць за адну...
АЛЯКСАНДР. Федзя, я ўсё разумею...
ХВЕДАР. Я... я больш не буду браць лістоўкі.
АЛЯКСАНДР. Што?
ХВЕДАР. Не хачу. Што, што яны даюць, гэтыя паперкі? Калі ўжо гінуць, дык не за паперкі, а за большае. Паперкамі няхай ваюе хто іншы...
АЛЯКСАНДР. Ты...
ХВЕДАР. Што я? Што?
АЛЯКСАНДР. Ты будзеш рабіць, што загадаюць.
ХВЕДАР. Сам сабе загадаю! Сам! Я таго лейтэнанта запомніў. На ўсё жыццё. З дня ў дзень шукаць яго буду, знайду і...

Кідаецца да выхаду. Аляксандр заступае Хведару дарогу, штурхае, той падае.

АЛЯКСАНДР. Раней я цябе. Зразумеў, ты... А ну! Устань!

Хведар устае. Аляксандр моўчкі абшуквае яго. Вымае ў яго з кішэні пісталет, нож, гранату.

АЛЯКСАНДР. Ого. Ці не залішне на аднаго. *(Хавае ўсё ў сваё кішэні)*.

ХВЕДАР. Я сам. Сам усё здабыў!

АЛЯКСАНДР. Здагадваюся, што не яны падаравалі. *(Пасля паўзы)*. Я думаў, ты дужэйшы.

ХВЕДАР. Страшна падумаць, што яе заб'юць. Але ж яны... Яны...

Аляксандр ідзе да акна. Глядзіць на вуліцу. Раптам імкліва падбягае да стала. Бярэ прымус, кідае Хведару чайнік. Абодва пачынаюць працаваць. Уваходзіць ШРЭДАР.

ШРЭДАР. Добры дзень.

АЛЯКСАНДР. Добры. Калі ласка. Бітэ...

Убачыўшы Шрэдара, Хведар спачатку адступае, потым робіць крок наперад, пераварочвае табурэтку. Аляксандр злосна глядзіць на яго.

ШРЭДАР. Вы бляхар?

АЛЯКСАНДР. З вашага дазволу. Праўдзівей — з дазволу гарадской управы. Маю патэнт.

ШРЭДАР *(глядзіць на Хведара)*. Ваш напарнік?..

АЛЯКСАНДР. Пакуль яшчэ вучань.

ШРЭДАР. Так і здагадаўся.

Ідзе да Хведара. Той падымае табурэтку. Аляксандр адразу ж забірае яе ў яго, падсоўвае Шрэдару.

АЛЯКСАНДР. Сядайце, калі ласка і... Слухаю вас.

Пераводзіць позірк на Хведара, не бачыць, як Шрэдар, перш чым сесці, вымае з кішэні газету, засцілае ёю табурэтку і садзіцца.

АЛЯКСАНДР. Чым магу дагадзіць?

Шрэдар дастае з кішэні губны гармонік, спачатку грае «Лілі Марлен». Потым ціха — «Інтэрнацыянал». Дае гармонік Аляксандру.

ШРЭДАР. Заўважылі — фальшывіць. А з «Інтэрнацыяналам» фальшывіць нельга. Можаце наладзіць?

АЛЯКСАНДР. Не разумею.

ШРЭДАР. Адрамантаваць?

АЛЯКСАНДР *(разглядвае гармонік)*. Я... Я просты бляхар. Вёдры, прымусы, самавары, жалезныя печкі...

ШРЭДАР. Буржуйкі. Так іх у вас калісьці называлі.

АЛЯКСАНДР. А гэта — тонкая работа. І музыку трэба ведаць. Даруйце, не здолею вам памагчы.

ШРЭДАР. А вы ўсё ж паспрабуйце. Няхай ён у вас паляжыць, можа і... Дарэчы, вас не здзіўляе, што я добра... Не. Добра не тое слова. Амаль добра ведаю вашу мову.

АЛЯКСАНДР. Напэўна, вучыліся. Вучылі вас, перад тым як...

ШРЭДАР. Вучылі. Бацька мой. Ён у 1931 годзе жыў і працаваў у горадзе Магілёве. Немцы тады будавалі шаўковую фабрыку. Яго навучылі рускія, ён — мяне. Ды не толькі мове, шмат чаму яшчэ... Але пра гэта іншым разам... *(Устае)*. Калі мне прыйсці па мой аркестр?

АЛЯКСАНДР. Проста не ведаю, што і сказаць.

ШРЭДАР. Праз тыдзень?

АЛЯКСАНДР. Праз тыдзень...

ШРЭДАР. Пастарайцеся. Гэта для мяне вельмі важна. Да пабачэння.

АЛЯКСАНДР. Усяго добрага.

ШРЭДАР *(Хведару)*. І вам, малады чалавек, да пабачэння. І не толькі са мной...

Выходзіць. Услед ідзе Аляксандр, вяртаецца.

ХВЕДАР. То быў ён. Той лейтэнант. Я пазнаў яго.



АЛЯКСАНДР. Па твары тваім здагадаўся, што пазнаў. Ён цябе таксама.

ХВЕДАР. Нам трэба зараз жа адсюль пайсці. Папярэдзіць усіх — яўка правалена, і... Ён сказаў — да пабачэння не толькі з ім. З кім яшчэ? Га, Саша?

Аляксандр маўчыць.

ХВЕДАР. Чаго маўчыш?

АЛЯКСАНДР. Думаю.

ХВЕДАР. Думаеш. Рабіць штосьці трэба. Рабіць, а не думаць.

АЛЯКСАНДР. Кіпіш, як самавар.

ХВЕДАР. Затое ты халодны, што мярцвяк.

АЛЯКСАНДР. Падумаць варта... *(Пасля паўзы)*. Жэню ўзяў, цябе не крануў. Як лічыш — чаму?

ХВЕДАР. Лістоўкі былі ў яе... Я быў далёка...

АЛЯКСАНДР. Узяў і адразу ж прыйшоў сюды... Нібыта яму хто даў адрас... *(Глядзіць на гармонік)*. Фальшывіць з «Інтэрнацыяналам» нельга... Сам, не баючыся, сыграў «Інтэрнацыянал». Тыдзень. На што даў тыдзень? Каб мы маглі знікнуць? Ці каб мы яму паверылі?

ХВЕДАР. Хіба ты думаеш, што ён?.. Ён — немец! Фашыст. У яго ў руках Жэня. А цяпер можам трапіць у яго лапы і мы.

АЛЯКСАНДР. Чаму ён адразу прыйшоў сюды?

Дапытліва глядзіць на Хведара. Ідзе да табурэткі, на якой сядзеў Шрэдар, скідае з яе газету. Хацеў сесці, але ўбачыў, што разам з газетай паляцелі на падлогу лістоўкі.

ХВЕДАР. Што гэта? *(Падымае адну.)* Нашы. Тыя, што былі ў Жэні.

АЛЯКСАНДР *(бярэ лістоўку)*. Нашы. Ты сказаў, у яе засталося каля дзесятка. *(Таропка збірае лістоўкі.)* Дзевяць. Значыць, у Жэні лістовак ужо няма...

ХВЕДАР. Разумею так. Ён правакатар. Жэню здаў у СД, нам падкінуў лістоўкі... Саша, Саша, нельга нам тут заставацца.

АЛЯКСАНДР *(у роздуме)*. Правакатар?.. А можа?

ХВЕДАР. Што можа? Што? Тут і думаць... няма чаго.

АЛЯКСАНДР. А хочацца думаць... *(Пасля паўзы)*. Нашто даў тыдзень... Зробім так. Скажаш усім каму трэба, каб тыдзень ніхто, ніхто сюды і носу не паказваў. І сам, вядома... ідзі.

ХВЕДАР. А ты?.. Ты будзеш яго чакаць?

АЛЯКСАНДР. Буду.

ХВЕДАР. Адзін? А калі што-небудзь?..

АЛЯКСАНДР. Вось іменна. Калі што — адзін. Ідзі.

Хведар развітваецца з Аляксандрам, ідзе да выхаду, вяртаецца.

ХВЕДАР. Вярні ўсё, што...

АЛЯКСАНДР. Калі дасі чэснае камсамольскае, што ўвесь гэты тыдзень ты...

ХВЕДАР *(не адразу)*. Чэснае камсамольскае...

АЛЯКСАНДР *(вяртае Хведару яго «арсенал»)*. Глядзі.

ХВЕДАР. Сказаў ужо. *(І пасля паўзы)*. Саша, ты думаеш, ён...

АЛЯКСАНДР. Ідзі, Федзя, ідзі.

Хведар выходзіць. Тут жа вяртаецца.

ХВЕДАР. Саша.

АЛЯКСАНДР. Чаму не пайшоў?

ХВЕДАР. Саша, гэта я... Я, напэўна, прывёў яго сюды... Відаць, ён Жэню перадаў якому-небудзь салдату, а сам пайшоў за мной... Паехаў. У якой-небудзь машыне — паехаў за мной... Я... я вінаваты...

*(Прыпаўшы да сцяны).* Я!.. І нікуды я не пайду... Без цябе не пайду... З'явяцца яны. *(Вымае з кішэні пісталет, гранату, нож.)* Разам іх сустрэнем.

АЛЯКСАНДР. Федзя!

ХВЕДАР. Альбо разам пойдзем, альбо...

АЛЯКСАНДР *(не адразу).* Ладна.

Знікаюць у цемры.

ЖАНЧЫНА. Нашы людзі загадзя не рыхтаваліся для барацьбы ў падполлі. Проста — не паспелі. Але калі над горадам апусцілася цемра ночы, сякера смерці — яны не задумваючыся пайшлі ў ноч, супраць смерці. У змаганні набывалі вопыт, праяўлялі цуды храбрасці і... рабілі памылкі.

У святле — невялікі пакойчык у драўляным доме.
У кутку пад абразамі мігціць агеньчык.
За сталом — МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА І КАРОЦЬКА. Кароцька прагна есць.

КАРОЦЬКА. Значыць, расстралялі Пятра?

МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА. Ён жа ў нас быў парцейны.

КАРОЦЬКА. Ага, ведаю.

МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА. Тры месяцы назад расстралялі... Хтосьці выдаў. Схапілі яго на вуліцы і...

КАРОЦЬКА. Яшчэ не пазводзіліся і такія. Эвакуіравацца вам трэ было.

МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА. Хацелі. Ды я якраз захварэла. Яна *(паказвае на дзверы)* без Пятра не хацела... і мяне як кінуць!..

КАРОЦЬКА. Мае старыя эвакуіраваліся. Куды і дзе яны, хто ведае. У вас хоць унучак, дом. У мяне — нікога. Нічога. Дом згарэў. Знайшоў халупу... І што далей...

Заходзіць ДУСЯ.

ДУСЯ. Ну, мой мужчына пад'еў. Пад'еў і спіць. А ты... Ты пакладзі сабе яшчэ. Праўда, небагата. Выбачай...

МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА. Што ўжо там? Не маленькі. Ведае, які час. *(Выходзіць.)*

Дуся садзіцца насупраць Кароцькі. Сама кладзе яму на талерку яду. Кароцька, зачэрпаўшы колькі лыжак, адсоўвае талерку. Закурвае.

КАРОЦЬКА. Дзякую. І я пад'еў. Думаў, ніколі мне ўжо ўдосталь не наесціся. У лагеры немцы кінуць гнілой бульбы — свінні не елі б,— а мы на яе, як звяры. Голад. Немцы глядзяць, рагочуць. Потым сыпане хто з аўтамата... І рашыў я, калі паміраць, дык чалавекам. Павялі нас расстрэльваць... Ноччу, у дождж, я і...

ДУСЯ. Табе пашанцавала.

КАРОЦЬКА. Затое ім не. *(Вымае з кішэні пісталет).* У аднаго яфрэйтара зняў. Яго на той свет, а цацку сабе. *(Хавае пісталет).* Адно шкада — дробязнае ўсё, што раблю. Мне б што-небудзь большае. На ўсё гатовы.

ДУСЯ. На што на ўсё?

КАРОЦЬКА. Каб не аднаго, другога фрыца, а каб сотні... І каб іх у шматкі. Каб у агні гарэлі... Ну, гатовы на ўсё, што загадаюць. А я адзін. Аднаму ж... От жа ж ведаю, ёсць людзі, якія разам...

Дуся маўчыць.

КАРОЦЬКА. Ясна. Нібы і не працавалі мы з табой тры гады побач. Не хадзілі на адны і тыя ж сходы. Не спявалі адны і тыя ж песні.

ДУСЯ. Цяпер спяваюць іншыя песні.

КАРОЦЬКА. Толькі сволачы. А цябе я памятаю...



ДУСЯ. Калі тое было...

КАРОЦЬКА. Такія, як ты, застаюцца такімі ж, якімі былі. Ты была камсамолкай. Не веру я, што ты — спяваеш іншыя песні.

ДУСЯ. Я бачыла смерць. Гэта страшна. У мяне малое.

КАРОЦЬКА. Усё. Годзе пра гэта. Усё. Дарэчы, як яго завуць, малога твайго?

ДУСЯ. Паўлікам. Паўлам Пятровічам.

КАРОЦЬКА. Паўлам Пятровічам...

ДУСЯ *(пасля паўзы).* Ты змяніўся. Каб сам не прыйшоў — не прызнала б. Толькі па валасах прызнала. Рыжы ты. Што наш Шарык.

КАРОЦЬКА. Рыжы. Усё жыццё праз гэта пакутаваў. Аднак — заседзеўся ў цябе. Пайду. *(Устае).* Дзякуй за ўсё. Што ў хату пусціла. Не прагнала. Накарміла...

ДУСЯ. Не чужы ты.

КАРОЦЬКА. Цяпер людзі баяцца адзін аднаго. На лбе ж не напісана, чужы ён ці... Бывай.

ДУСЯ. Усяго добрага.

КАРОЦЬКА. А маё добрае ад мяне залежыць. От сёння ж ноччу першага стрэчнага фрыца, калі адзін будзе, голенькім пушчу...

ДУСЯ. А трапіш да іх у рукі...

КАРОЦЬКА. Вайна. Скрозь агонь. І не я адзін у тым агні... *(Пасля паўзы).* Мне... мне хацелася б убачыць цябе яшчэ раз. Калі можна. Загіну я адзін. Ніхто нават і ведаць не будзе, за што.

ДУСЯ *(не адразу).* Ну што ж, прыходзь.

КАРОЦЬКА. А такі прыйду, га?

ДУСЯ. Да сустрэчы.

КАРОЦЬКА. Да сустрэчы. *(Развітваецца, ідзе да выхаду).* Бывай.

ДУСЯ. Пастой. А як, як у цябе з дакументамі?

КАРОЦЬКА. Для тых, хто да гэтага мае інтарэс — я дэзертыр. Жыць хачу. Для цябе — мне дакументаў не трэба.

Заходзіць МІКОЛА.

МІКОЛА. Добры дзень, суседка.

ДУСЯ. О, сусед! Добры дзень... добры...

МІКОЛА. Ці не разжывуся ў вас газы? Хацеў зацірку зварыць, глянуў — прымус пусты. Я аддам...

ДУСЯ. Зараз пагляджу. *(Кароцьку).* Хадзем. Правяду цябе. А то ў нас Шарык так ужо здзічэў...

Абое выходзяць. Мікола ідзе да акна. Адсоўвае фіранку, глядзіць на вуліцу. Чуваць злы брэх сабакі.

МІКОЛА. І праўда, здзічэў Шарык...

Вяртаецца ДУСЯ.

ДУСЯ. Я ж табе газы наліла. Стаіць там... У сенцах.

МІКОЛА. Хто ў цябе быў?

ДУСЯ. Іван Кароцька. Разам працавалі. Быў у палоне. У Баранавіцкім лагеры. Уцёк.

МІКОЛА. Сам да цябе прыйшоў?

ДУСЯ. Сам. Паказваў пісталет. Гаварыў, што забіў фрыца і...

МІКОЛА. Ходзіць з пісталетам.

ДУСЯ. Нашых шукае. Даў зразумець, што гатовы на ўсё.

МІКОЛА. Спадзяюся, ты...

ДУСЯ *(з іроніяй).* Сказала ўсё. Усе яўкі... клічкі...

МІКОЛА. Я дзеля таго, што фрыцы таксама шукаюць нашых.

ДУСЯ. Не горш за цябе разумею.

МІКОЛА. Калі ён прыйдзе яшчэ?
ДУСЯ. Абяцаў.
МІКОЛА. Усё адно — маўчаць. А потым як-небудзь мяне з ім пазнаёміш. *(Вымае з кішэні пакуначак, перадае Дусі.)* Стрэптацыд. Чырвоны і белы.
ДУСЯ. Ой, дзякуй табе. Ой, які ж ты малайчына!..
МІКОЛА. Гэта не я... *(Зноў глядзіць у акно)*. Кажаш, шукае нашых?
ДУСЯ. Ён сказаў.
МІКОЛА. Ну што ж, калі ён наш, нашы яго прымуць. Рыжы ён.
ДУСЯ. І кудлаты. Як наш Шарык.
МІКОЛА. Сёння ідзеш?
ДУСЯ. Зараз.
МІКОЛА. Не буду затрымліваць. У добры час. Шчасліва. А ты мяне к чорту...

Дуся ківае галавой. Мікола з ёй развітваецца. Выходзіць.

ДУСЯ. Мама!

Заходзіць МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА. Дуся перадае ёй парашкі.

ДУСЯ. Пакладзіце туды ж... Я пакуль што...

Марыя Сяргееўна моўчкі забірае парашкі, выходзіць. Дуся вымае з патаемнага кутка пісталет, хавае за пазуху...

ДУСЯ. Які халодны... *(Пасля паўзы)*. Як ён сказаў — не веру, што ты спяваеш іншыя песні... Гэта праўда. Песні тыя ж...

Заходзіць МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА. На руках у яе загорнутае ў коўдру дзіця. Перадае яго Дусі.

ДУСЯ. Усё сабралі?
МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА. Не першы раз. *(Цяжка ўздыхае.)* Не першы...
ДУСЯ. Дзякуй... Да пабачэння. *(Пайшла.)*
МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА. Пачакай. *(Падыходзіць да Дусі, хрысціць яе, дзіця)*. З богам.

Дуся выходзіць. Марыя Сяргееўна падыходзіць да абразоў.

МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА. Маці божая! Ты таксама мела сына і таксама аддала яго людзям, каб ўратаваць іх. Будзь жа літасцівая і да мяне, і да нявесткі маёй, і да ўнучачкі майго... *(Некаторы час моліцца шэптам, потым зноў уголас)*. Апошнія яны ў мяне. Няма ў мяне больш нікога, апроч іх. Тры сыны на фронце. Мо і галовы ўжо свае ў чыстым полі зложылі. Мужа яе, чацвёртага сына майго, малодшага, Пятра, нелюдзі тут парашылі. Вось і прашу цябе, маці божая, дай ты ёй і ўнучачку майму скрозь ліхалецце гэтае, скрозь гора, агонь — неапаленнымі прайсці, да мяне вярнуцца... *(Зноў моліцца шэптам. Хрысціцца)*.

Пакойчык знікае. І зноў — руіны. Пакручанае жалеза. Лесвіца.

ЖАНЧЫНА. Узнаўляючы мінулае — хачу, каб вы ведалі. У цемры тых начэй, у зацятай барацьбе з ворагам пуцяводнай зоркай людзей была святая вера ў справядлівасць сваёй барацьбы, бо яна вялася, каб выратаваць жыццё ад смерці, захаваць заўтрашні дзень.
Гэта збліжала ўсё чыстае і высакароднае.

Тая ж майстэрня. У паўзмроку бачны агеньчыкі, якія раз-пораз успыхваюць. Гэта нервова кураць АЛЯКСАНДР І ХВЕДАР.

ХВЕДАР *(трымаючы другую руку за пазухай)*. Як у цябе, а ў мяне цярпенне вось-вось лопне.



АЛЯКСАНДР. Лічы яшчэ раз да тысячы.
ХВЕДАР. Ужо да пяці тысяч дайшоў...
АЛЯКСАНДР. Не ведаю, чым памагчы, хіба што аддаць табе частку свайго цярпення. Дык і ў мяне яно канчаецца... Ніколі не думаў, што самае цяжкае — гэта сядзець і чакаць...
ХВЕДАР. Ды яшчэ не ведаючы, чаго чакаеш, чаго дачакаешся.
АЛЯКСАНДР. Я ведаю. І калі спраўдзіцца тое, што хачу, сённяшні дзень палічу адным з лепшых. *(Бярэ гармонік)*. Я за гэты тыдзень столькі перадумаў... Разумееш, справа не толькі ў тым, што папоўніцца наша група... Усё значна глыбей...

Чуваць стук у дзверы. Хведар вымае руку з-за пазухі. У ёй — пісталет. Ідзе да выхаду і адступае. Заходзіць ЖЭНЯ.

ХВЕДАР. Ты?
ЖЭНЯ. Калі я гэта я — дык я...
ХВЕДАР *(злосна)*. Чаго? Табе ж забарнілі прыходзіць... Забылася?
ЖЭНЯ. Забаранілі...
ХВЕДАР. Ведаеш, які тут будзе гармідар, калі што якое?
ЖЭНЯ. Таму і прыйшла. Я таксама ўмею страляць. І яшчэ адзін пісталет лішнім не будзе.
АЛЯКСАНДР. Нічога не заўважыла?
ЖЭНЯ. Не. На вуліцы і каля дому ціха. Хлопчыкі, дарагія мае! Ведаеце — я яму паверыла! Веру. Сэрцам.
ХВЕДАР. Нішто так не падводзіць, як сэрца...
ЖЭНЯ. Мяне яшчэ не падводзіла. І слухайце, што прыдумала.

Хведар махнуў рукой, адвярнуўся.

ЖЭНЯ. Я, я пайду яму насустрач. Адна.
ХВЕДАР. Што?
ЖЭНЯ. Я. Адна...
ХВЕДАР. А калі тваё сэрца памыляецца?
ЖЭНЯ. Тады... *(вымае з сумачкі пісталет, адвярнуўшыся, хавае яго за пазуху)* папраўлю памылку...
ХВЕДАР. Ты не пойдзеш...
ЖЭНЯ. Саша, скажы яму, што ён залішне на сябе бярэ. Напомні, што кіруеш групай ты і толькі ты маеш права загадваць і забараняць.

Пайшла да выхаду. Хведар заступае ёй дарогу.

ЖЭНЯ. Федзя, так трэба і так лепш.
АЛЯКСАНДР. Ідзі, Жэня.
ЖЭНЯ. Я пастараюся сустрэць яго як мага далей адсюль. І калі... Стрэл — знак... Каб вы абое паспелі ўцячы... На ўсялякі выпадак бывайце. *(Пайшла)*.
ХВЕДАР. Саша! Ты... Ты... халодны камень.
АЛЯКСАНДР. Супакойся. Я праўда нічога не ведаю, але здагадваюся...

Хведар адыходзіць углыб, прыпадае да сцяны. Заходзіць ЖЭНЯ. Услед ШРЭДАР.

ШРЭДАР. Гутэн абенд. Добры вечар.
АЛЯКСАНДР. Добры.
ШРЭДАР. Я павінен быў прыйсці раней. Не мог. Гатовы мой аркестр?
АЛЯКСАНДР *(дае яму гармонік.)* Зрабіў, што мог.
ШРЭДАР *(бярэ гармонік, зноў грае «Інтэрнацыянал»)*. О, ужо не

фальшывіць... *(Вымае з кішэні дзве гранаты, падае Аляксандру)*. Прымеце, як плату? Спадзяюся, гэта больш, чым некалькі акупацыйных марак...

ХВЕДАР. А калі яны?..

ШРЭДАР. Не верыце мне... *(Усміхаючыся)*. Разумею. Цяжка адразу паверыць немцу. Так, я немец. Карл Шрэдар. Камуніст. Я не магу вам прад'явіць партыйнага білета, але... Калі вы хочаце і можаце мне паверыць на слова — паверце...

Хведар забірае гранаты, уважліва разглядае іх.

ШРЭДАР *(Хведару)*. І ўсё ж — асцярожней... Іх лепш праверыць у баі... *(Аляксандру)*. З самага пачатку, як апынуўся ў вашым горадзе, зразумеў, што ўсе дыверсіі супраць немцаў — справа рук падполля. Увесь гэты час шукаў дарогі да вас... І мне *(ласкава глядзіць на Жэню)* пашанцавала. І добра, што ў тую аблаву я затрымаў вас. Я, а не які-небудзь іншы Карл ці Фрыц. *(Цалуе Жэні руку і — ужо Хведару)*. Калі ідзеш на заданне з такой прыгожай фройлен, трэба быць асцярожным і больш уважлівым... І не хочаш, а ўсё адно не зводзіш з яе вачэй...

ХВЕДАР. Ужо вучыце нас...

ШРЭДАР. Калі мне было столькі ж год, колькі вам цяпер, я ў Берліне, у трыццаць другім годзе, калі Гітлер і яго банда рваліся да ўлады, распаўсюджваў антыфашысцкія лістоўкі... Праўда, маім памочнікам тады была не такая красуня, а мой сябар Ганс Мюлер. Ён зараз у канцлагеры... *(Паглядзеў на гадзіннік)*.

Набліжаецца грукат цяжкой машыны, потым гул матораў мноства матацыклаў. Усе насцярожваюцца. Хведар вымае з-за пазухі пісталет. Вымаюць пісталеты Жэня, Аляксандр, Шрэдар.
Грукат машыны, гул матацыклаў сціхае.

ХВЕДАР *(апускае пісталет)*. Ваша шчасце...

ШРЭДАР. Так і падумаў... *(Зноў глядзіць на гадзіннік)*. У мяне мала часу. Што я вас папрашу. Мне абавязкова трэба яшчэ раз сустрэцца з кім-небудзь з вас. Добра б з вамі, фройлен.

ЖЭНЯ. Я вас зараз праводжу, і мы дамовімся.

ШРЭДАР. Вы не толькі прыгожая, фройлен. Вы вельмі разумная. Нямецкі афіцэр шпацыруе з мясцовай Грэтхен...

ЖЭНЯ *(глядзіць на Хведара)*. Пайшлі...

ШРЭДАР *(падае руку Аляксандру)*. Дзякуй, што паверылі. Усяго вам добрага.

АЛЯКСАНДР *(не адразу)*. І вам, Карл Шрэдар. Усяго і добрага, і вялікі дзякуй. Рот фронт?

ШРЭДАР. Не. Цяпер інакш: «Смерць нямецкаму фашызму!.. Нямецкім акупантам!»

АЛЯКСАНДР. Смерць!

Шрэдар галантна падае Жэні руку.

ШРЭДАР. Фройлен... Біттэ...

Разам з Жэняй выходзіць. Моўчкі, не тоячы радасці глядзіць ім услед Аляксандр. І разгублена — Хведар.

ЖАНЧЫНА. Так немец, Карл Шрэдар, сын нямецкага камуніста, сам камуніст, прыйшоў да людзей. І гэта было заканамерна, як і заканамерна тое, што яны яму паверылі. Камуніст застаецца чалавекам пры ўсіх, нават самых складаных умовах.



АЛЯКСАНДР. Вось і дачакаліся. І спраўдзілася тое, аб чым думаў. Трэба паведаміць Васілю Сцяпанавічу... Чуеш?

ХВЕДАР *(неахвотна.)* Чую...

Усё знікае ў цемры.
Потым у святле — вуліца. Грукаючы кутымі абцасамі, ідуць нямецкія салдаты. Патруль.

ЖАНЧЫНА. І ўдзень была цемра. Была смерць на кожным кроку. Быў бруд. Здзічэнне. Здавалася, усяму жывому прыйшоў канец... І ўсё ж жыццё брала верх. Уладарна дыктавала сваё.

У святле — куток у разбуранай царкве. Пад абразом сына божага, што павіс уніз галавой, на нейкай скрынцы сядзіць ЖЭНЯ. Заходзіць ХВЕДАР.

ХВЕДАР. Няма.

ЖЭНЯ. Пачакаем яшчэ хвілін дзесяць. *(Усміхаецца)*.

ХВЕДАР. Чаго раптам усміхнулася?

ЖЭНЯ. Падумала, калі б мне месяц назад хто-небудзь сказаў, што буду чакаць спаткання з немцам — ні за што не паверыла б. А вось сяджу, чакаю, хвалююся, чаму позніцца... Хіба не смешна?

Хведар паціскае плячыма.

ЖЭНЯ. Спадабаўся ён мне. Вочы. Такая ў іх туга... І позірк чысты, шчыры.

ХВЕДАР. Ну і... *(Злосна адварочваецца ўбок.)*

ЖЭНЯ. Што, Федзя? Што? *(Паварочвае яго да сябе)*. Гэта ж добра, што ён з намі. *(І пасля паўзы)*. Дождж. Лье і лье... Хаця — восень. Другая восень другога года вайны. Няўжо будзе трэцяя, чацвёртая?.. Гм. Бачу сябе ў тваіх акулярах. Як у люстэрку.

ХВЕДАР. А я сябе ў тваіх вачах.

ЖЭНЯ. Твар у цябе стаў суровы. Вочы злыя...

ХВЕДАР. А ты... Ты засталася такой жа прыгожай.

ЖЭНЯ. Хіба я прыгожая?

ХВЕДАР. Сказаў твой немец...

ЖЭНЯ. Мой... *(Зноў смяецца)*.

Некаторы час глядзяць адзін на аднаго.
Пачуліся крокі. Абое насцярожваюцца. Хведар засланяе сабой Жэню. Вымае пісталет. Крокі бліжэй. Праз долю хвіліны, аднекуль з патаемнага закутка, з'яўляецца хлапчук. На ім падраная ватоўка, штаны з нямецкага мяшка, ззаду на штанах чорны арол, на нагах атопкі.

ЖАНЧЫНА. Славіку Калецкаму было дванаццаць год. Зусім нядаўна ён яшчэ вучыўся ў школе. І перад ім наперадзе быў яркі сонечны дзень. Але і яго яркі сонечны дзень праглынула цемра...

СЛАВІК *(не бачыць ні Жэні, ні Хведара)*. А здорава ён узляцеў, той матацыкліст. Фр... фр... і *(Спявае)*. «Напрасно фашиста ждет фашистка домой. Ей скажут, она зарыдает»... Ну і няхай... *(Дастае з-пад гурбы рыззя загорнуты ў газету паўбохана салдацкага хлеба)*. «Новый путь». Ха... Новый плут!.. *(Адкрывае нажом банку кансерваў, спявае)*. «Она зарыдает. А фюрер ей скажет: погиб, как герой... Что я его кокнул, не зная...» От, каб гэтак самога фюрара. Фюрар-фр...р... Мне за гэта сам Міхаіл Іванавіч, таварыш Калінін, канечне, Героя Савецкага Саюза... Ну, само па сабе — адразу ў камсамол... У школе... Хай хто адважыцца паставіць двойку...

Жэня, не стрываўшы, смяецца. Славік у імгненне вока выхоплівае з-за пазухі пісталет...

С Л А В І К. Хто тут?
Х В Е Д А Р. Мы тут...
С Л А В І К. Рукі ўгору!
Х В Е Д А Р. Так адразу?
С Л А В І К. Я каму сказаў!
Х В Е Д А Р. Апусці пісталет! Ну! У мяне не горшы... І страляю я таксама не горш за цябе. *(Падыходзіць да Славіка, апускае яго руку з пісталетам).* Значыць, ты матацыкліста кокнуў? Як?
С Л А В І К. Ніякага я матацыкліста....
Х В Е Д А Р. Дзе?
С Л А В І К. Ды што ты прычапіўся? Гэта я так... Прыдумаў.
Х В Е Д А Р *(ідзе да рыззя, адкідвае яго. Пад ім некалькі гранат, пісталетаў, гурба патронаў.)* І гэта прыдумаў?

Славік, паглядзеўшы на Жэню, хапае кавалак трубы, кідаецца на Хведара. Жэня — на Славіка. Абое падаюць, валтузяцца на падлозе. Да іх падыходзіць Хведар, адцягвае Славіка, ставіць яго на ногі, адбірае трубу.

Х В Е Д А Р. Я цябе зараз... прыгалублю...
Ж Э Н Я. А ты дужы. З выгляду трасцінка, а дужы...
С Л А В І К. Каб ён табе не памог — ляжала б ужо на дзвюх лапатках і румзала б: «здаюся...» Ну што ж, ваша ўзяла, гады.

Хведар забірае ўсю зброю. Што хавае ў кішэні, а што аддае Жэні.

Х В Е Д А Р. Ёсць у цябе што яшчэ такое?

Славік адварочваецца, маўчыць. Хведар ідзе да скрынкі.

С Л А В І К. Не чапай! *(Кідаецца да яго).* Не чапай!
Х В Е Д А Р *(адсоўвае Славіка ўбок, адкрывае скрынку, вымае адтуль загорнутую ў чыстую хусцінку скрыпку).* Ха!.. Адкуль яна ў цябе? Дзе ўзяў?
С Л А В І К. Мая.
Х В Е Д А Р. Твая?
С Л А В І К. Ну...
Х В Е Д А Р. Умееш?
С Л А В І К. Вучыўся.
Х В Е Д А Р. Дзе, калі?
С Л А В І К. Тады.

Чуваць, як нехта насвіствае мелодыю нямецкага шлягеру тых часоў.

Ж Э Н Я. Ён.
Х В Е Д А Р. Ён. *(Славіку).* Трымай сваю цацку. *(Аддае Славіку скрыпку).* Тупай у той куток, павярніся спіной да мяне і...
С Л А В І К. Што?
Х В Е Д А Р. І не ўздумай варухнуцца. Ну!..

Славік збянтэжана ідзе ў куток. Заходзіць Ш Р Э Д А Р. У руках — чамадан. Маланкай кідаецца да выхаду Славік. Хведар яго перапыняе.

Х В Е Д А Р. Я каму сказаў! Спіной!..
С Л А В І К *(спрабуючы вырвацца з рук у Хведара.)* Забівай так. Каб я бачыў тваю морду. Ты — сволач.
Ш Р Э Д А Р. Добры дзень.
Х В Е Д А Р. Добры.
С Л А В І К. Сволачы! Фашысты!
Х В Е Д А Р. Змоўкнеш ці не?!



С Л А В І К. Гады! Гады!
Ш Р Э Д А Р. Хто гэта?
Х В Е Д А Р. Мой... мой ад'ютант.
Ш Р Э Д А Р. Добра, што дачакаліся мяне.
С Л А В І К. Сволачы!
Ш Р Э Д А Р *(вымае з чамадана міну, падае Хведару).* Вось для чаго прасіў сустрэчу. Заводзіцца, як гадзіннік. Гэта трэба паставіць сюды, завесці на які трэба час, а самому пайсці. Зразумелі?

Хведар моўчкі ківае галавой.

Ш Р Э Д А Р. Новыя. Мы іх нядаўна атрымалі. Здолеў дастаць толькі чатыры *(перадае міны Хведару).* Для мастоў вельмі добра. Асабліва, калі на мосце яшчэ і эшалон...
Х В Е Д А Р. Ясна. *(Хавае міны).* Дзякуй. Цяпер вам заданне. *(Падае Шрэдару пачак лістовак).* Бачыце, гэтыя лістоўкі на нямецкай мове... Гаспадар прасіў распаўсюдзіць сярод вашых салдат...
Ш Р Э Д А Р *(хавае лістоўкі).* Зраблю.
Х В Е Д А Р. Яшчэ.
Ш Р Э Д А Р. Слухаю.
Х В Е Д А Р. Гаспадар прасіў перадаць вам, сказаць дзякуй за ваеннапалонных, якім вы памаглі вырвацца з лагера.
Ш Р Э Д А Р. Рабіў гэта па абавязку сумлення...
Х В Е Д А Р. Яны ўжо б'юць вашых сяброў, ды так, што...
Ш Р Э Д А Р. Тыя, каго яны б'юць, мне не сябры, а, як і табе — ворагі... *(Дапытліва глядзіць на Хведара).* Якія ў цябе злыя вочы...
Х В Е Д А Р *(пазіраючы на Жэню).* Да вашага прыходу яны ў мяне таксама былі добрымі. *(Махнуў рукой).* Ладна, пайду пагляджу, ці можна вам ісці. *(Выходзіць).*
Ш Р Э Д А Р. Яволь. *(Цяпер ужо дапытліва глядзіць на Жэню).* Чаму ён такі калючы?.. Злы?
Ж Э Н Я. Вы — немец.
Ш Р Э Д А Р. А ў кожным немцу ён бачыць фашыста?..
Ж Э Н Я. Іх куды больш, чым камуністаў... Ён ужо аднойчы быў на тым свеце. Фашысты яго расстралялі. Выпаўз з ямы амаль мёртвы... Такое бачыў, што... Мінулай зімой немцы... Ну, фашысты, расстралялі сто дваццаць дзяцей аднаго дзіцячага дома. Расстралялі і акуратна паклалі іх на снезе. Яны ляжалі, як лялькі. Некаторыя з адкрытымі вачанятамі. *(Ледзь стрымліваецца, каб не заплакаць).* Хіба такое забудзеш?
Ш Р Э Д А Р. Вядома.
Ж Э Н Я. А ў горадзе фашысты што робяць?.. Па самы край ні ў чым невінаватымі людзьмі Ілаўскі роў запоўнілі. Старымі, жанчынамі, дзецьмі... *(Паказвае на цень шыбеніцы).* А гэта?
Ш Р Э Д А Р. Так, так, ваша злосць, нянавісць зразумелыя. Мне самому страшна, сорамна, хочацца скавытаць ад злосці, што я немец. Таму і прыйшоў да вас, каб хаця чым-небудзь выкупіць жахлівую віну майго ашуканага народа...

Заходзіць Х В Е Д А Р.

Х В Е Д А Р. Нікога няма. Можаце ісці. Усяго добрага.
Ш Р Э Д А Р. І вам усяго добрага. *(Паглядзеў на Жэню.)* Да пабачэння, фройлен... Вельмі рады, што пазнаёміўся з вамі. Што вы ёсць і такая...
Ж Э Н Я. Да пабачэння. І я, усе мы рады, што вы ёсць і такі...

Шрэдар выходзіць.

СЛАВІК. Немец... Га... Чысты немец... І наш, га?
ХВЕДАР *(злосна)*. Немец, немец... Даў бы я табе зараз! *(Жэні)*. Пайшлі, фройлен...
ЖЭНЯ. Ты што?..
ХВЕДАР *(Славіку)*. Мне з табой цяпер доўга гаварыць часу няма, скажу адно. З гэтага дня — ты ў маім распараджэнні. Сустрэнемся з табой заўтра каля адшчадкасы на плошчы... У тры гадзіны. Ясна?
СЛАВІК. Ну, ясна. А далей што?..
ХВЕДАР. А далей пабачым, хто ты такі і на што здатны. Усё. *(Падае яму руку)*. Бывай!

Хведар і Жэня выходзяць.

СЛАВІК *(не адразу.)* Заўтра. А раптам ён пераапрануты бобік? І немец?.. Хаця бобік мяне так не адпусціў бы... І скрыпку... Ну што ж, пабачым. Пабачым, хто ты такі, на што ты здатны. А склад ты мой не ўвесь забраў. Дурань я ці што — у адным месцы ўсё трымаць? *(На хвіліну выходзіць, вяртаецца з нямецкім аўтаматам.)* Вось у мяне яшчэ нешта ёсць. І калі што, так проста мяне не возьмеш.

Царкву, Славіка ахутвае цемра.

ЖАНЧЫНА. Паглядзім, што робіцца сярод ворагаў.

У святле — службовы кабінет Фішара. У кабінеце ФІШАР, ШТЫГЛІЦ, некалькі афіцэраў, сярод іх ШРЭДАР.

ШТЫГЛІЦ. Гэтыя лістоўкі на нямецкай мове былі знойдзены ў трох салдат.
ФІШАР *(прабег вачыма лістоўкі.)* І што вы з імі зрабілі? З салдатамі?
ШТЫГЛІЦ. Адпраўлены ў штрафны батальён.
ФІШАР. У вас добрае сэрца.
ШТЫГЛІЦ. Я зразумеў.
ФІШАР. Гэта таксама справа рук бандыцкага падполля. Салдат вярнуць. Выявіць, якім чынам гэтыя лістоўкі трапілі да іх, і расстраляць. Перад строем. Што з вамі, лейтэнант Шрэдар?
ШРЭДАР. Не разумею, пан оберст.
ФІШАР. Вы паморшчыліся.
ШРЭДАР. Даруйце, пан оберст. Я проста падумаў — у гэтых салдат, напэўна, ёсць дзеці.
ФІШАР. Дзеці ворагаў Германіі не варты жалю... Вы мяне зразумелі, Штыгліц? Расстраляць перад строем і паведаміць у Берлін, за што расстраляны...
ШТЫГЛІЦ. Слухаю.

Фішар рассоўвае заслону, за якой на сцяне карта яго акругі. Запрашае падысці афіцэраў.

ФІШАР. Мы з усіх бакоў абкружаны партызанскімі атрадамі... Вось, вось, вось... З усіх бакоў. Атрадамі кіруе бальшавіцкае падполле. Літасць да ворага — злачынства перад айчынай. Першы, бязлітасны ўдар нанясем вось тут. *(Паказвае на карту.)* Ясна? *(Закрывае заслону.)* Кодавая назва акцыі — «Гнайнік».
ШТЫГЛІЦ. Цудоўная назва.
ФІШАР *(па чарзе пазірае на афіцэраў. Спыніўся на адным)*. Па распрацаваным вамі плане камандаваць акцыяй таксама даручаю вам.
АФІЦЭР *(выцягваецца)*. Вы застанецеся мною задаволены.
ФІШАР. Гэта будзе заўважана і адзначана. Не сентыментальнічаць. Вы — немец. *(Выцягваецца і вельмі ўрачыста.)* Гістарычная місія немцаў — пабудаваць новы свет, на новых пачатках. І лепшы цэмент для нашай будоўлі — кроў нашых ворагаў. Дадам — самы танны цэмент. Спадзяюся і хачу верыць, што буду мець магчымасць павіншаваць вас яшчэ з адным жалезным крыжам.
АФІЦЭР. Загадзя ўдзячны.
ФІШАР. Жадаю ўсім удачы. Хайль Гітлер!

Хор галасоў: «Хайль Гітлер! Зіг хайль! Хайль Гітлер! Зіг хайль!»

ФІШАР. Я вас больш не затрымліваю.

Афіцэры выходзяць.

ФІШАР. Штыгліц! Я ўсё чакаю, калі вы мяне нарэшце парадуеце поспехамі нашай мясцовай агентуры. Хацеў бы, каб вы мяне парадавалі. Скажам, што старшына?
ШТЫГЛІЦ. Усё ў парадку. Далажыў — выйшаў на след. Як ён сказаў — зачапіўся за нітачку.
ФІШАР. Каб не абарвалася.
ШТЫГЛІЦ. Ён ведае, што яму будзе тады...
ФІШАР. Я сябе адчуваю, нібыта заяц, абкружаны зграяй сабак, што вось-вось схопяць мяне за горла. *(Тэлефонны званок.)* Я! Што, што? Дзе? На шашы, за тры кіламетры ад горада?.. Колькі забітых? Дзевяць салдат і афіцэраў. Так. *(Кладзе трубку.)* Вось, вось яны, тыя сабакі! Вось... Штыгліц!..
ШТЫГЛІЦ. Слухаю.
ФІШАР. Сёння ж расстраляць пяцьдзесят закладнікаў!
ШТЫГЛІЦ. Слухаю.
ФІШАР. Я памыліўся. Сто! Сто! Рускіх многа. Сто!

Замест кабінета — алея ў невялічкім скверы. Голыя дрэвы. Рэшткі таго, што некалі было драўляным будынкам.

ЖАНЧЫНА. Калісьці тут быў скверык. У ім фантан. На задніх лапах стаяў чыгунны леў, і з пашчы яго біў тонкі струменьчык вады. Былі гушкалкі для дзяцей. Стаяў драўляны будынак зялёнага колеру. У ім — тэатр. Невялічкі быў скверык, але вельмі ўтульны.

У скверыку каля дрэва ЖЭНЯ і ХВЕДАР. Чуваць голас дыктара: *«Да ведама жыхарства горада. На падставе загаду аб правядзенні аперацыі адплаты ў сувязі з забойствам нямецкіх салдат і афіцэраў расстраляна сто закладнікаў. Папярэджваю: за кожны новы дыверсійны акт, накіраваны супраць салдат і афіцэраў германскай арміі, колькасць расстраляных з тутэйшых людзей будзе няспынна павялічвацца...»* Голас аддаляецца.

ЖЭНЯ. Няспынна павялічвацца... І як ён проста пра гэта гаворыць... Як аўтамат...
ХВЕДАР. А яны ўсе, як аўтаматы...
ЖЭНЯ. Ведаеш — страшнае падумала. А што калі яны...
ХВЕДАР. Што яны?
ЖЭНЯ *(шэптам)*. Пераможуць... Мы тады як? Усе.
ХВЕДАР. Не!.. Не можа гэтага быць!.. Не можа!..
ЖЭНЯ. Яны — пад Сталінградам...
ХВЕДАР. Я табе ўжо аднойчы сказаў — не думай так... нельга... Тады... тады ўсё...
ЖЭНЯ. Добра... не буду.
ХВЕДАР. Пераможам мы! Змыем гэты бруд, і ўсё будзе, як было. І сонца будзе, і горад. І мы будзем. Такімі ж, як былі...

ЖЭНЯ *(дапытліва глядзіць на Хведара.)* Не, мы напэўна ўжо будзем іншымі. Не такімі, як былі... Ты цяпер ужо іншы. Не такі, якім быў... Нібы скавала цябе што...

ХВЕДАР. Скавала — гэта праўда. І хораша сказала. Памятаеш, я хацеў паехаць у Арктычны інстытут, каб потым стаць зімоўшчыкам... Дык вось, мне здаецца, я ўжо на зімоўцы... І навокал мяне адна толькі палярная ноч, люты мароз, ад якога замерзла нават сонца.

ЖЭНЯ. Як ты схуднеў... і пачарнеў.

Паўза. Цішыня. Жэня абдымае Хведара, цалуе яго. Заходзяць два салдаты.

ПЕРШЫ САЛДАТ. Альзо — хопіць! Ну! *(Адрывае Жэню ад Хведара.)* Аўсвайс! Пашпарт.

Хведар і Жэня падаюць свае пашпарты. Салдат уважліва разглядае іх і аддае.

ПЕРШЫ САЛДАТ. Гут. Можаце прадоўжыць свой любоў. *(Абдымае Жэню, тая адскоквае ўбок.)* Ошэнь прыгожыя ногі, га? Не адмовіўся б з такой...

Салдаты рагочучы выходзяць. Хведар рвануўся да іх. Жэня ловіць яго за руку.

ЖЭНЯ. Ты што?!

ХВЕДАР. Гад! Свіння! Фершлюхтэ швайн!

Жэня засланяе яму рот рукой. Моўчкі глядзіць услед салдатам.

ХВЕДАР. Ведаеш што — папрашу Аляксандра, каб цябе пераправілі ў лес.

ЖЭНЯ. Што?!

ХВЕДАР. Баюся за цябе... Пайшлі.

ЖЭНЯ. Пачакаем. Ён прасіў, вельмі прасіў з ім сустрэцца...

ХВЕДАР. З табой сустрэцца...

ЖЭНЯ. Федзя, ты што?.. *(Раптам.)* Ой, я зараз падумала — ты яго ненавідзіш не толькі таму, што ён немец... Табе, напэўна, здаецца, што ён... што я... Тады гэта.. крыўдна. Падазраваць мяне, што я... што ён да мяне — як можаш? *(Пасля паўзы.)* Папросіш Аляксандра, каб мяне пераправілі ў лес?.. Дык ведай. Я папрашу, каб... каб мяне аслабанілі ад тваёй апекі...

ХВЕДАР. Ну што ж, калі я... калі замінаю табе... Калі ласка... Сустракайцеся адны...

ЖЭНЯ *(не адразу, ласкава, па-даросламу і па-жаночаму)*. Ой, і дурань жа ты... *(Раптам.)* Ён...

Хведар нехаця адыходзіць убок. Заходзіць ШРЭДАР.

ШРЭДАР. Фройлен! Добры дзень.

ЖЭНЯ. Дзень добры.

ШРЭДАР. Прымусіў вас чакаць. Даруйце. Бачыў — да вас ішоў патруль... *(Азіраецца, вымае з кішэні плітку шакаладу, падае Жэні.)* Прашу.

ЖЭНЯ. Ой, дзякуй.

ШРЭДАР. Галандскі. Не эрзац. Сапраўдны. *(Шэптам.)* Тут тое, што трэба неадкладна перадаць. Запомніце, неадкладна! Супраць партызан рыхтуецца карная экспедыцыя... Тут — час. З якога боку пойдуць. Якія часці. Як, чым узброены. Паўтараю — гэта трэба перадаць неадкладна.

ЖЭНЯ. Зразумела. *(Хавае шакалад.)* Дзякуй. Ужо не за шакалад.

ШРЭДАР. А цяпер, фройлен, калі вы не супраць, пройдземся крыху...



ЖЭНЯ. Куды?

ШРЭДАР. Проста — пройдземся.

ЖЭНЯ *(паглядзела на Хведара.)* Не... не трэба... Убачыць мяне з вамі хто знаёмы.

ШРЭДАР. Саромеецеся?

ЖЭНЯ. Даруйце, але...

ШРЭДАР. Ну так. Ніхто ж не ведае, што я... Зразумеў... І вы мне даруйце... *(Выходзіць.)*

Жэня адна. Да яе падыходзіць Хведар.

ЖЭНЯ. Трэба сёння, неадкладна каго-небудзь паслаць да Васіля Сцяпанавіча. Сёння ж. Неадкладна...

ХВЕДАР. Ладна.

ЖЭНЯ. Пайшлі...

Абое выходзяць.
У цемры голас дыктара: «Увага! Увага! Да ведама жыхарства горада...»
У святле — партызанская зямлянка. У ёй ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ.
Некалькі страшэнна худых, змарнелых былых ваеннапалонных.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Віншую вас, таварышы. Віншую, што збавіліся ад пакут. Віншую з вяртаннем у шэрагі байцоў за вызваленне Радзімы.

Хор галасоў: «Служым Савецкаму Саюзу!»

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Іменна, Савецкаму Саюзу.

ПЕРШЫ ВАЕННАПАЛОННЫ. Дзякуй вам, дзякуй. За ўсё...

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Не мне. *(Пасля паўзы.)* Цяпер вось што... Прывядзіце сябе ў парадак, адпачніце, ну а там...

ДРУГІ ВАЕННАПАЛОННЫ. А там ясна што...

ТРЭЦІ ВАЕННАПАЛОННЫ. Дазволіце ісці?

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Ідзіце, таварышы. Ідзіце, сябры мае...

Ваеннапалонныя і астатнія выходзяць. Паўза.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Да чаго давялі. Жывыя шкілеты... Ну, ды нічога. Яны на волі. Падужэюць, акрыяюць...

ЖАНЧЫНА. Васіль Сцяпанавіч Будзінаў. Камуніст. Яго біяграфія — біяграфія Савецкай улады. Ёю ён жыў. Змагаўся, каб яе выратаваць, захаваць.

З мяшком у руках заходзіць СЛАВІК, услед хлопец.

ХЛОПЕЦ. Да вас, Васіль Сцяпанавіч.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Ну, ну...

ХЛОПЕЦ. З горада ён. Кажа, Хведар паслаў.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Хведар. Я такога не ведаю.

СЛАВІК *(збянтэжана)*. Як не ведаеце? Ну, Хведар. Ён сказаў — вы яго ведаеце. Вельмі добра ведаеце. Такі высокі. У акулярах. Хведар...

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Нешта не памятаю.

СЛАВІК *(паказвае на хлопца)*. Няхай ён выйдзе.

Васіль Сцяпанавіч усміхаючыся паказвае хлопцу, каб той пайшоў. Хлопец выходзіць.

СЛАВІК. Маю на продаж сігарэты.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Эрзац? Ці сапраўдныя?

СЛАВІК. Балгарскія. Моцныя.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ *(падае Славіку руку)*. Добры дзень!

СЛАВІК. Добры...

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Чаго Хведар паслаў? Што прасіў перадаць?

С Л А В І К *(садзіцца.)* Зараз. *(Развязвае мяшок, вымае скрыпку, а з яе — пачак сігарэт. Падае Васілю Сцяпанавічу).* Вось. Сказаў — вельмі сакрэтныя звесткі.

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч *(адкрывае пачак, вымае адтуль паперку.)* Адну хвілінку. *(Выходзіць. Адразу ж вяртаецца.)* Сам прыдумаў у скрыпку схаваць?

С Л А В І К. Ага. Падумаў, калі пападуся да немцаў, яны ніколі не здагадаюцца, што...

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Разумна. Ну, а калі б спыталіся, чаму са скрыпкай ходзіш?

С Л А В І К. Сказаў бы — граю. На хлеб зарабляю.

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. А ўмееш?

С Л А В І К. Дык я ж вучыўся. У музычнай школе. Толькі гэта было даўно. Яшчэ да вайны. Да вайны ў Мінску быў. На алімпіядзе.

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Вундэркінд?

С Л А В І К. А што гэта такое?

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Гэта, брат, многа. Вельмі многа. Ну і што, на алімпіядзе?

С Л А В І К. Граў там... Далі прэмію... Другую... Потым вярнуўся дадому... Вучыўся...

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. А ў Маскве калі-небудзь быў?

С Л А В І К. Не. У Маскве не быў. Не паспеў.

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. А хацеў бы туды?

С Л А В І К. Ого! Я ж яе ніколі яшчэ не бачыў. Канечне, хацеў бы... Толькі...

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Што — толькі?

С Л А В І К. Цяпер — не.

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Чаму цяпер не?

С Л А В І К. Цяпер ваяваць трэба. Я даў клятву, самому сабе даў клятву — помсціць за маці...

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. А што з ёй?

С Л А В І К *(не адразу.)* Павесілі... Як заложніцу...

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Як цябе завуць? Прозвішча?

С Л А В І К. Славік. Расціслаў Міхайлавіч Калецкі.

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Вельмі рады пазнаёміцца, Расціслаў Міхайлавіч.

С Л А В І К. Ну, які я Міхайлавіч... Славік і ўсё...

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Славік...

С Л А В І К. Калі мне назад у горад?

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Вельмі спяшаешся?

С Л А В І К. Там у мяне справы.

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Зробім так. Паабедаеш, пераначуеш, і тады ўжо...

С Л А В І К. Як загадаеце.

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Так і загадаю.

Заходзіць шыфравальшчык. Падае Васілю Сцяпанавічу аркуш паперы. Той моўчкі чытае.

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Так. Ясна *(шыфравальшчыку.)* Пакліч да мяне камандзіраў.

Ш Ы Ф Р А В А Л Ь Ш Ч Ы К. Ёсць.

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Яшчэ вось што. Адвядзі ты гэтага Расціслава Міхайлавіча на кухню. Скажы, што загадаў яго накарміць. І — як след накарміць... Потым уладкуеш яго дзе-небудзь паспаць... І каб спаў... *(Славіку.)* Восем гадзін каб спаў... Ідзіце...



Ш Ы Ф Р А В А Л Ь Ш Ч Ы К. Ёсць. *(Славіку.)* Пайшлі?

С Л А В І К. Важныя звесткі?

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Важныя. Ты сабе нават не ўяўляеш, якія важныя! *(Абдымае Славіка.)* Ідзі.

Славік і шыфравальшчык выходзяць. Васіль Сцяпанавіч зноў праглядвае шыфроўку. Вялікая паўза.

В А С І Л Ь С Ц Я П А Н А В І Ч. Карная экспедыцыя. Ну што ж... Сустрэнем. *(Убачыў скрыпку. Узяў яе ў рукі.)* Як ён сказаў — зараз у Маскву не хачу. Ваяваць трэба. Адпомсціць за маці... Адпомсцім! За ўсё! За ўсіх!

Ж А Н Ч Ы Н А. Гэта была другая восень другога года вайны. Нямецка-фашысцкія орды падышлі да Сталінграда. І зноў, як у канцы сорак першага пад Масквой, у канцы сорак другога, на беразе Волгі вырашаўся лёс краіны нашай, дзяржавы, людзей, лёс чалавецтва і наш з вамі лёс. Вайна — працягвалася. Дыктавала сваё. Кожную хвіліну, імгненне. На кожным кроку...

З А С Л О Н А.



## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Ж А Н Ч Ы Н А. Вайна працягвалася. На беразе вялікай рускай ракі вырашаўся лёс краіны, дзяржавы, людзей. Вырашаўся лёс чалавецтва. Наш. Кожнага з нас. Вораг збіраўся святкаваць сваю перамогу. Да Берліна было далёка. Тысячы, тысячы крывавых, вогненных, смяротных кіламетраў. Вайна працягвалася. Не толькі на беразе Волгі. Усюды. Кожную хвіліну, імгненне. На кожным кроку.

Той жа кабінет Фішара. Ён пусты. Імкліва заходзіць Ф І Ш А Р. Следам Ш Т Ы Г Л І Ц, Ш Р Э Д А Р, яшчэ афіцэры.

ФІШАР (*крочыць.*) Генерал-лейтэнант Хойзінгер выказаў сваё катэгарычнае абурэнне з повадў правалу аперацыі «Гнайнік». Ён патрабаваў самага суровага пакарання віноўнікаў правалу. Горад, акруга — загараджальны шчыт на Прыбалтыку, і злачынства, здрада райху дазволяць бандытам дзейнічаць супраць нас. (*Падыходзіць да афіцэра.*) Я вам абяцаў жалезны крыж?

АФІЦЭР. Я...

Фішар моўчкі зрывае ў афіцэра пагоны. Узнагароды. Кідае ўсё на стол.

ФІШАР. Пісталет!

Афіцэр падае Фішару свой пісталет. Фішар вымае з абоймы ўсе патроны, пакідае толькі адзін. Пісталет вяртае афіцэру.

ФІШАР. Той, хто не памірае гераічнай смерцю, памірае ганебнай.

АФІЦЭР (*падае на калені*). Я... я... Бандыты былі папярэджаны. Іх нехта папярэдзіў. Мы трапілі ў пастку. Я прашу вас... У мяне дзеці... Я верай і праўдай...

ФІШАР. Чакаем.

Афіцэр хістаючыся выходзіць. Вялікая паўза, цішыня. Потым у цішыні — блізкі стрэл. І зноў цішыня.

ФІШАР. Партызаны былі папярэджаны. Гэта праўда. Яны ведалі, калі мы пачнем аперацыю, дзе, у якіх пунктах, якімі сіламі. Пытанне — адкуль? Як даведаліся? Баюся... баюся, ці не завёўся які гнайнік у нас, сярод нас. Нехта з нашых паведаміў падпольшчыкам, падпольнаму гаркому, той — бандытам. Ваша думка, Шрэдар?

ШРЭДАР. Магчыма. Хаця не думаю, каб немец...

ФІШАР. Не магчыма, а дакладна. І немцы (*па чарзе глядзіць на ўсіх афіцэраў*) таксама бываюць розныя...

ШРЭДАР. Гэта праўда.

ФІШАР. Займіцеся гэтым, Штыгліц...

ШТЫГЛІЦ. Слухаю.

ФІШАР. Мы на беразе Волгі, а тут... Загадваю.

Штыгліц вымае блакнот, аўтаручку.

ШТЫГЛІЦ. Слухаю.

ФІШАР. З сённяшняй ночы, на працягу тыдня — павальныя вобыскі ва ўсіх дамах. Ва ўсіх без выключэння. З дома ў дом. Адразу ж па ўсім горадзе. Кожны дзень, у месцах, дзе збіраецца народ — аблавы. Кожнага падазронага...

ШТЫГЛІЦ. Запісаў.

ФІШАР. Правал аперацыі патрабуе самай жорсткай адплаты. Загадваю: усе населеныя пункты вакол бандыцка-партызанскай зоны знішчыць! Жывёлу, хлеб, усе іншыя прадукты — канфіскаваць! Усё, што можа гарэць — спаліць! Жыхароў падвергнуць асобай апрацоўцы.

ШТЫГЛІЦ. Разумею.

ФІШАР. (*афіцэрам.*) Можаце ісці. Хайль!

Афіцэры салютуюць, выходзяць.

ФІШАР. Рэдактар тут?

ШТЫГЛІЦ. Чакае.

ФІШАР. Папрасіце.

ШТЫГЛІЦ. Слухаю.

Выходзіць. Вяртаецца з БРАУНАМ.

БРАУН. Маю гонар.

ФІШАР. Добры дзень, добры дзень, мой дарагі рэдактар. Прашу сесці.



БРАУН. Дзякуй. (*Садзіцца.*) Слухаю.

ФІШАР. Як сабе адчуваеце, гер Браун?

БРАУН. Дзякуй, пакуль усё у парадку.

ФІШАР. Пакуль... Я вас разумею...

БРАУН. Я не скарджуся... Мне, мне як і вам вельмі балюча, што... Паверце, я...

ФІШАР. Нічога. Вайна — ёсць вайна. І на вайне як на вайне. (*Паўза.*) Пра становішча ў горадзе і акрузе ведаеце?

БРАУН. Ведаю.

ФІШАР. Прашу вас, гер Браун, ясна і проста паведаміць са старонак сваёй газеты, што калі ў горадзе не спыняцца дыверсіі, накіраваныя супраць узброеных сіл Германіі, не спыняцца забойствы нашых салдат і афіцэраў, я...

БРАУН (*запісвае*). Запісаў.

ФІШАР. Мясцовае насельніцтва павінна зразумець, ведаць, запомніць, што тое, што ўзята германскай арміяй, належыць Германіі. Будзе належаць Германіі. Назаўсёды. І калі мы не шкадуем для гэтага немцаў, мы тым больш не збіраемся шкадаваць рускіх.

БРАУН. Я ўсё запісаў.

ФІШАР. Перакананы: возьмем Сталінград — вайне канец. Таму, паўтараю, мы не маем права дапусціць, каб далёка ад Сталінграда супраць нас дзейнічалі... Я з вамі адкрыта...

БРАУН. Вельмі ўдзячны.

ФІШАР. Урэшце, у нас агульныя інтарэсы. Ці ж не так?

БРАУН. Ужо меў гонар сказаць, што я ніколі не аддзяляў сваіх інтарэсаў ад інтарэсаў маіх суайчыннікаў. Хоць усё жыццё і пражыў у Расіі, айчына для мяне — Германія. Зараз новая, сапраўды вялікая Германія.

ФІШАР. У вас, напэўна, многа работы?

БРАУН (*устае*). Да пабачэння. Хайль Гітлер! Зіг хайль!

ФІШАР. Усяго добрага. Жадаю поспехаў.

Браун, пакланіўшыся, выходзіць. Фішар моўчкі глядзіць яму ўслед. Паўза.

ЖАНЧЫНА. Так, гер Браун сапраўды ўсё жыццё пражыў тут, у нашым горадзе. Раней быў настаўнікам. Яго называлі таварышам Браунам. Лічылі савецкім чалавекам. І ніхто не ведаў, што ён заўсёды быў зацятым ворагам усяго савецкага.

ФІШАР. Штыгліц!

ШТЫГЛІЦ. Слухаю.

ФІШАР. Штыгліц, вам не здаецца, што наша мясцовая агентура не вельмі шчодра плаціць за хлеб, які есць?

ШТЫГЛІЦ. Ясна.

ФІШАР. Дзейнічайце, Штыгліц. Гэта паскорыць нашу перамогу, а яна ўжо блізка.

ЖАНЧЫНА. Так, ворагі ўжо бачылі сваю перамогу. Возьмуць Сталінград, вайне канец. На зямлі, скрозь, усюды іх «новы» парадак.

У святле — скрыжаванне дарог. Шлагбаум з калючым дротам. Чорныя шкілеты абпаленых дрэў. Чорныя коміны, як помнікі...
Будка вартавога. Каля яе прытанцоўвае, каб сагрэцца, салдат. Каб не замерзнуць, ён нацягнуў на сябе столькі рыззя, што больш падобны на пудзіла.
Пачуліся крокі.

САЛДАТ (*уздымае аўтамат*). Хальт! Хальт! Хальт! Хальт!..

У форме паліцаяў з карабінамі цераз плячо заходзяць МІКОЛА і КАРОЦЬКА.

М І К О Л А. Ну што хальт? Мы ж свае...
С А Л Д А Т. А... а... а.. Паліцаі?
М І К О Л А. Я.. я... Паліцаі.
К А Р О Ц Ь К А. Хайль Гітлер!
С А Л Д А Т. Хайль!
М І К О Л А. Што, холадна? Кальт?
С А Л Д А Т. О, кальт! Ошэнь, ошэнь кальт! Рускі мароз — злосны мароз.
М І К О Л А. Які гэта мароз! Усяго трыццаць градусаў. Хочаш, сагрэю?
С А Л Д А Т. Вас?

Мікола палез у кішэню...

С А Л Д А Т. Хэндэ хох!

Мікола паспеў ужо дастаць з кішэні бутэльку самагону.

М І К О Л А. Думаў, граната? Шнапс. Сагрэемся, га?
С А Л Д А Т. О... Шнапс. Хорошо. Рускі шнапс — хорошо.
М І К О Л А *(падае бутэльку.)* Глытай.
С А Л Д А Т. Найн, найн. Спачатку ты. Сам...

Мікола, засмяяўшыся, п'е з бутэлькі. Салдат імкліва выхоплівае яе ў Міколы, п'е сам.

О... цёпла... файер... агонь...
М І К О Л А. Глытай, глытай. *(Кароцьку.)* Дай яму закусіць.

Кароцька вымае з кішэні загорнуты ў хусцінку кавалак сала, дае салдату.

С А Л Д А Т. Шпіг? Сала?..
М І К О Л А. Сала... Гэта, каб яно табе ў горле калом стала...
С А Л Д А Т. Сала. Гут... *(Прагна кусае сала.)* Гут...
М І К О Л А *(пачынае згортваць цыгарку.)* Пакурым? Раўхэн... га?
С А Л Д А Т. Я... *(Падае яму пачак сігарэт.)* Айн сігарэт! Адзін.
М І К О Л А. Не. Гэта дзярмо. А гэта... *(Зацягваецца.)* Люкс, гут... Ну што, Сталінград, га? Ай, ай, ай... І што цяпер будзе, га? Ай, ай, ай.
С А Л Д А Т *(пачынае ўсхліпваць.)* Сталінград, я... дас іст шлехт Сталінград...
М І К О Л А. От я і кажу — шлехт вам... *(Пацягнуўся да бутэлькі.)* Дай і я яшчэ раз глытну.
С А Л Д А Т. Найн, найн. *(П'е сам.)*
М І К О Л А. Ну-ну...
К А Р О Ц Ь К А. От скнара...
М І К О Л А. Парода...
К А Р О Ц Ь К А *(адвярнуўшыся ад салдата, шэптам.)* Ідзе...
С А Л Д А Т *(раптам насцярожваецца, кідаецца ўбок.)* Хальт, хальт, хальт!.. Стой! Ком гір, ком гір! Зофорт!
М І К О Л А. Каго ты гэта? Каго ўбачыў?
С А Л Д А Т *(Міколе, Кароцьку.)* Абтрэтэн!

Заходзіць Д У С Я з дзіцем. За плячыма ў яе рукзак.

Д У С Я. Ну, што хочаш?
С А Л Д А Т. Аўсвайс. Пропуск.

Дуся паказвае салдату пропуск, але той глядзіць не на пропуск, а на Дусю.

С А Л Д А Т. О, які тоўсты баб... Я такі люблю. *(Хоча абняць Дусю, тая адступае.)* Ком гір! Ком, ком! Ну!..
Д У С Я. Чаго прыстаў! Аўсвайс у парадку.



С А Л Д А Т. Я хачу паглядзець, чаму ты такі тоўсты.
Д У С Я. Дзіця кармлю.
С А Л Д А Т. О, дзіця. Пакажы дзіця.
Д У С Я. Дзіця не бачыў?
С А Л Д А Т. Можа, там не дзіця, а кошка. *(Адкрывае Паўліку тварык.)* О я... дзіця я... я... Кіндер... Ідзі. Цяпер ідзі...
Д У С Я. Дзякуй, пан салдат. Дзякуй. *(Выходзіць).*
С А Л Д А Т *(раптам.)* Хальт! Хальт! Стой! Цурюк! Ком гір! Ну!..

Дуся вяртаецца.

Д У С Я. Што яшчэ?
С А Л Д А Т. Што ў рукзак?
Д У С Я. Бульба.
С А Л Д А Т *(Міколу).* Здымаць, развязаць, паказаць.

Мікола, не здымаючы з Дусі рукзака, вымае адтуль некалькі бульбін, падае салдату. Той разразае іх нажом. Адну, другую... Потым сам запускае руку ў мяшок, пакапаўшыся там, вымае міну.

С А Л Д А Т. Бульба? То ёсць бульба? То ёсць міна!
М І К О Л А *(спалохана.)* Міна, га? *(Выхоплівае ў салдата міну, сарваўшы з пляча карабін замахваецца на Дусю.)* Ах ты!.. *(Крычыць.)* От я цябе зараз... *(Салдату.)* Я сам, мы самі яе, гадаўку, у паліцыю, у гестапа! *(Штурхае Дусю)* Ану — ідзі!.. Не тое я цябе тут, на месцы... Ну! Ду, ферфлюхтэ... Га!.. *(Штурхае Дусю ў плечы.)* Мы самі, самі яе... *(Выводзіць Дусю.)*

Следам ідзе Кароцька.
Цемра.

Ж А Н Ч Ы Н А. Рэха Сталінграда адазвалася для нелюдзей магільным звонам. Разгром ворага на Волзе быў для нашых людзей набатам, які надаў ім сілы для барацьбы, яшчэ больш умацаваў іх веру — вораг будзе знішчаны! Але людзі ведалі, што да перамогі яшчэ далёка. Што ім давядзецца прайсці праз мора крыві, агонь і смерць. Што многім давядзецца прыняць смерць, пакуль прыйдзе перамога. Так усё было. *(Пасля паўзы.)* І тое, што ўбачыце і пачуеце далей — таксама не прыдумана, а было...

У святле — зноў пакойчык у драўляным доме. Вечар.
За сталом А Л Я К С А Н Д Р, М І К О Л А, К А Р О Ц Ь К А.

А Л Я К С А Н Д Р. Цяпер нам будзе куды цяжэй. За Сталінград фрыц будзе помсціць. Помсціць на кожным кроку. І мы павінны чакаць усякае. Таму зноў і зноў напамінаю — асцярожнасць! Канспірацыя. Не дай бог, калі даверымся якому-небудзь правакатару. А фрыц іх будзе да нас засылаць.
М І К О Л А. Будзе...
К А Р О Ц Ь К А. Немцы — яны хітрыя. Калі ў лагеры быў, нагледзеўся на іх. Усё стараліся слабейшага каго на свой бок перацягнуць. Ім гэта, канечне, не ўдавалася. Нашы хлопцы трымаліся. Тады яны, немцы, з аўтаматаў па іх... Па нашых. Не разбіраючыся білі, што скаціну. *(Устае.)* А гэта страшна. Страшна, калі на тваіх вачах толькі што быў чалавек і — няма. Ён ужо мярцвяк. Страшна...
М І К О Л А. Гэта праўда...
К А Р О Ц Ь К А. Гэта... Ну... і ўсе маладыя. А каму, каму ў дваццаць — дваццаць пяць год хочацца паміраць? Усе жыць хочуць. Жыццё, яно адно.
М І К О Л А. А ты колькі хацеў бы?

КАРОЦЬКА. Я? Я і ад сотні не адмовіўся б. Гэта я так кажу, што ўсё гатовы быў бы, усё аддаць, абы толькі ворага знішчыць...
АЛЯКСАНДР. Ты казаў, што ў Баранавіцкім лагеры ў палоне быў? Уцёк?
КАРОЦЬКА. Ага. Уцёк. Ноччу...
АЛЯКСАНДР. Як?
КАРОЦЬКА. Ну, гэта павялі нас, на расстрэл. Ноччу... А мы паміж сабой даўно дамовіліся — як выведуць нас за дрот, куды б ні павялі, каб гэта, ну... Кінуцца ўсім у розныя бакі... Так і зрабілі... Немцы, канечне — страляць... А ноч цёмная... Ну і... Пашчасціла мне... Нат і не паранілі...
АЛЯКСАНДР. Табе сапраўды пашчасціла.

Несучы вялікую міску з гарачай бульбай, уваходзіць ДУСЯ. Следам з самаварам — МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА.

ДУСЯ. Павячэраем.
МІКОЛА. Бульбачка, га?..
МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА. Больш нічога няма. Ешце. Пакуль гарачая.
АЛЯКСАНДР. Не турбуйцеся, маці. З'едзімо.
МІКОЛА *(спявае.)* Бульбу варацьь, бульбу парацьь, бульбу ў торбачку... А ведаеце, колькі я розных страў з гэтай бульбачкі прыгатавацьь магу? Калі рабіў у рэстаране на вакзале, дык, бывала...
АЛЯКСАНДР. Чулі ўжо. Не раз.
ДУСЯ. Еш. Ісці табе.
МІКОЛА. Ісці. *(З'еў бульбіну, закурыў.)* Не сказаў бы, што мне ад такой кампаніі вельмі хочацца ў ноч, на мароз. Але... *(Аляксандру.)* Колькі, кажаш, фрыцаў пад Сталінградам паклалі? Каля шасцідзесяці тысяч? Дык я сёння да іх дадам яшчэ аднаго. А мо і двух.
КАРОЦЬКА. Вазьмі і мяне з сабой.
МІКОЛА. Не, браце. Калі на ноч іду, я — ін-ды-ві-ду-аліст. Ноччу аднаму прасцей. Зрабіў. Знік. Усё.
АЛЯКСАНДР *(усміхнуўшыся.)* Ну хто сказаў бы, што ты, чалавек з рэстарана, і такі... Такой адчайнай храбрасці чалавек.
МІКОЛА. Незгаворлівы я чалавек. Аніяк з фрыцамі ўжыцца не магу. Як сапсаваў ён мне дваццаць другога чэрвеня тысяча дзевяцьсот сорак першага года настрой, так да гэтага часу... Розныя ў нас з ім погляды.
АЛЯКСАНДР. Гэта праўда. Погляды розныя. І на ўсё.
МІКОЛА. Пайду.
КАРОЦЬКА. Слухай, можа ўсё ж і мяне возьмеш, га?
АЛЯКСАНДР. Застанешся тут. Мне з табой пагаварыць трэба. *(Міколу).* Удачы табе.
МІКОЛА. Ідзі ты к чорту. *(Апранае форму паліцая, развітваецца з усімі.)* Бывайце.

Марыя Сяргееўна хрысціць яго.

МІКОЛА *(смяецца.)* Думаеце, калі што, паможа?
МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА. Усё табе гы-гы.
МІКОЛА. Я, калі давядзецца, і памру з гы-гы. *(Глядзіць на Кароцьку).* Жыццё адно, і смерць адна. *(Ідзе да выхаду, вяртаецца, бярэ некалькі бульбін.)* Усяго. *(Выходзіць.)*
МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА *(налівае ўсім чай.)* Усё думаю: няўжо прыйдзе дзень, і пайду я ў магазін, і куплю цукру, і пачак чаю, і яшчэ штосьці...



ДУСЯ. А я свайму Паўліку куплю... Ой... нават і не ведаю, што куплю...
АЛЯКСАНДР. Прыйдзе такі дзень. Купіце і цукар, і чай, і абаранкі. І ты Паўліку свайму ўсё што захочаш. Усё купіце. Можа, не адразу, але...
МАРЫЯ СЯРГЕЕЎНА. Хутчэй бы. Адчуваю, пакідаюць мяне сілы.

Паўза. Цішыня. Дуся падае Аляксандру гітару. Гучыць «Синий платочек». Не зводзячы вачэй глядзіць на іх Кароцька. Потым таксама далучаецца да песні.
Яны не адразу пачулі гул матораў аўтамашын, матацыклаў, сабачы брэх...
...Пачулі. Ускочылі. Кароцька выхапіў пісталет. Марыя Сяргееўна штурхнула Аляксандра ў другі пакой.
З грукатам адчыняюцца дзверы. У пакой увальваецца некалькі нямецкіх салдат. На чале іх — Штыгліц.
Чуваць, як у другім пакоі са звонам пасыпаліся шыбы.
Два салдаты штурхаюць перад сабой Аляксандра і Марыю Сяргееўну.

ШТЫГЛІЦ. Вельмі шкадую, што перапыніў вашу вячэру, але, не спадзеючыся, што самі прыйдзеце да нас, дазволіў сабе... *(Падае знак салдатам.)* Абшукаць...

Цемра.

ЖАНЧЫНА. Людзей, што спальвалі свае сэрцы, каб іх агнём асвятліць перамогу, мы сёння называем ГЕРОЯМІ. Самі яны пра гэта тады не думалі. Яны, кожны на сваім месцы і кожны па-свойму, проста і сумленна, да канца выконвалі самы высакародны абавязак чалавека — быць чалавекам. Застацца чалавекам. Самы цяжкі абавязак...

Кабінет Фішара. У ім ФІШАР, ШТЫГЛІЦ, салдаты.
З завязанымі назад рукамі, ушчэнт збіты, напаўголы, але такі ж самы прыгожы, стаіць АЛЯКСАНДР.

ФІШАР. Нам яшчэ доўга чакаць?
АЛЯКСАНДР. Мне ўжо спяшацца няма куды.
ФІШАР. І ўсё ж?
АЛЯКСАНДР. Ох, і абрыдлі вы мне! Ну, добра. Да таго, што сказаў, дадам яшчэ вось што...
ФІШАР. Нарэшце.
АЛЯКСАНДР. Вы мяне не зразумелі. Так. Я быў камсамольцам. Цяпер камуніст. Выконваў волю партыі. Яе загад. Калі б быў беспартыйным, рабіў бы тое ж самае.
ФІШАР. Гэта мы ўжо ведаем.
АЛЯКСАНДР. Значыць, усё. Больш ад мяне нічога не даведаецеся.
ФІШАР. Выбіраеш смерць?
АЛЯКСАНДР. Тысячы, сотні тысяч такіх, як я, на ўсіх франтах, гатовы ў любую хвіліну памерці, каб... каб вас... Я сябе не лічу лепшым за іх. Толькі лічу сябе таксама салдатам.
ФІШАР. Так. І ні аб чым не шкадуеш?
АЛЯКСАНДР. Шкадую. Вельмі. Шкадую, што не ўбачу, як вас, усіх вас, сатруць у парахню. А гэта будзе. Не-мі-ну-ча.

Фішар робіць знак, Аляксандра выводзяць.
Вялікая паўза. Цішыня.

ФІШАР. Не ведаю, як вам, Штыгліц, а мне ён спадабаўся. Ён малайчына. І гэта мяне непакоіць больш за ўсё. Напэўна, усё ж мала ведаць, колькі ў ворага дывізій, самалётаў, гармат. *(Устае, некаторы час*

*моўчкі ходзіць па кабінеце.)* І Сталінград не выпадак. Не стратэгічны пралік. *(Пасля паўзы.)* А цяпер давайце тых. І таго. Крыху пазней.

По знаку Штыгліца салдат выходзіць.

Ф І Ш А Р. Хочаце, раскажу вам, як усё будзе выглядаць далей. І ад іх мы нічога не даб'ёмся... Ні-чо-га...

Ш Т Ы Г Л І Ц. Вы стаміліся. Можа, адпачняце, і мы потым...

Ф І Ш А Р. Пасля вайны. Калі ў нас будзе час адпачыць. Калі нам дадуць гэтую магчымасць.

Салдат уводзіць Д У С Ю з дзіцем на руках і М А Р Ы Ю С Я Р Г Е Е Ў Н У. Фішар ідзе ім насустрач. Доўга, па чарзе, іх разглядвае.

Ф І Ш А Р. Мы ўсё ведаем. І тое, што ты насіла партызанам медыкаменты, марлю, вату. *(Паказвае на дзіця.)* Нават яго ў гэта ўцягнула. На яго накручвала. Ведаем, што ад партызан у горад — несла міны. Усё ведаем. І мы табе ўсё гэта даруем. Можам даравацъ. Табе — па тваёй маладосці, тваёй свякрусе — па старасці. Даруем, калі скажаш, хто даваў табе гэтыя медыкаменты. Медыкаменты ўкрадзены ў нашых шпіталях. Значыць, і краў, і перадаваў іх вам які-небудзь немец. Хто? Вось мае ўмовы.

Дуся маўчыць.

Ф І Ш А Р. Акрамя таго, у цябе знайшлі тол, лістоўкі з заклікам «Смерць нямецкім акупантам!» Хто забяспечваў? Хто пісаў, хто друкаваў лістоўкі? Дзе? *(Глядзіць на Дусю, потым на Марыю Сяргееўну.)* Ты?

Марыя Сяргееўна маўчыць. Фішар вяртаецца да стала, садзіцца, закурвае. Вяртаецца салдат. З ім ушчэнт збіты К А Р О Ц Ь К А.

Ф І Ш А Р. Ты яго ведаеш?

Дуся моўчкі круціць галавой.

Ф І Ш А Р. Ты?

Марыя Сяргееўна таксама круціць галавой, толькі з вялікім жалем, нават болем глядзіць на Кароцьку.

Ф І Ш А Р. Ну а ты іх ведаеш?

К А Р О Ц Ь К А *(не адразу.)* Яе мужа вашы расстралялі. Камуністам быў. А яна *(паказвае на Дусю)*, яна камсамолка. Яны ў кантакце з падпольным гаркомам.

Ж А Н Ч Ы Н А. Прырода ў сваёй бязмежнай шчодрасці дае жыццё чалавеку і слімаку. Але жыве толькі чалавек. Слімак існуе. Бывае і так,— чалавек сам, па сваёй волі ператвараецца ў слімака.

Ф І Ш А Р. Ну...

Дуся маўчыць. Толькі з нямым здзіўленнем, як і Марыя Сяргееўна, глядзіць на Кароцьку.

Ф І Ш А Р. Шкада. Цябе. І малога твайго. Бацькі няма, не будзе цябе і бабулькі, і застанецца ён адзін. Адзін у такі страшны час. Птушанё, выкінутае з гнязда. Думаеш — здзекуюся. А я шчыра. Забіць, знішчыць чалавека проста. Але смерць і так збірае вялікі ўраджай. Хопіць ёй і без вас. І на што спадзяешся? Што можаш зрабіць, маленькая пясчынка? Выратаваць радзіму? А на што табе радзіма, калі цябе ўжо не будзе? Ратуй сябе. Сына. Маці. Пакуль вы яшчэ жывыя...

К А Р О Ц Ь К А. Дурніцы! Вам усім дабра хочуць. Жыццё, жыццё абяцаюць. Згаджайцеся. Усё адно — іх сіла. А тут... Слухайце — жыццё. Яно адно. Двух не бывае. Адно...

Ф І Ш А Р. Ці, можа, баішся, што цябе і старую заб'юць твае сябры? Не бойся. Зраблю так, што палічаць вінаватым яго.



К А Р О Ц Ь К А. Дык я ж...

Ф І Ш А Р. У нас даўно ўжо ёсць распіска, у якой ён абавязваецца добрасумленна служыць нам. Для партызан доказ.

К А Р О Ц Ь К А. Пан афіцэр...

Ф І Ш А Р. Вам дамо магчымасць уцячы. Вы будзеце жыць. І ніхто, ніхто ніколі нічога не дазнаецца.

Дуся маўчыць.

Ш Т Ы Г Л І Ц. Дазволіце?

Фішар моўчкі ківае галавой, Штыгліц вымае пісталет.

Ш Т Ы Г Л І Ц. Зараз твой жывы клубочак ператворыцца ў нішто. *(Глядзіць на гадзіннік.)* Праз дзве мінуты... *(Падымае руку, трымае яе так, каб Дуся бачыла гадзіннік.)* Бачыш, як бяжыць стрэлка?.. Чуеш, як яна адлічвае секунды?

Цішыня. І ў цішыні ўсё гучней цікае гадзіннік. І тут голас Дусі. То не голас. То страшэнны крык. Стогн.

Д У С Я. Не!!! Не! Не!

Ф І Ш А Р *(адводзіць Штыгліцаў пісталет.)* Добра. Няхай ён жыве, твой Іван.

К А Р О Ц Ь К А. Ён не Іван. Ён Паўлік. Павел.

Ф І Ш А Р. Павел. Паўль. Добра, няхай жыве твой Паўль. Але жыць ён будзе роўна столькі часу, колькі ты сама яму адлічыш. І тады ўжо не мы будзем яго забойцамі. Ты сама. Згодзішся на мае ўмовы, якія назваў раней, скажаш вартавому пры камеры. Я ж не веру, што ты гатова забіць сваё дзіця. Што сама не хочаш жыць. Жыць усе хочуць. І ты.

Д У С Я *(пасля паўзы.)* Хачу. І таму я, я скажу цяпер. Тут.

Ф І Ш А Р. Слухаю.

Д У С Я *(шэптам.)* Даруй мне маленькі мой. Не вырасцеш ты... *(Кароцьку.)* А ты... Рыжы сабака! *(Плюе яму ў твар.)*

Кароцька кідаецца на Дусю з кулакамі.

Ф І Ш А Р. Назад! На гэта яна мае права *(Штыгліцу.)* Яна мне падабаецца. *(Дусі.)* Каб даць табе магчымасць падумаць... я... *(Марыі Сяргееўне.)* Падумайце... Цяпер вы самі сабе суддзі. Цяпер ад вас саміх ужо залежыць — жыць ці не.

Падае знак салдату. Той аўтаматам штурхае Дусю і Марыю Сяргееўну да выхаду. На парозе Марыя Сяргееўна адпіхвае ўбок салдата, падыходзіць да Кароцькі.

М А Р Ы Я С Я Р Г Е Е Ў Н А. Ніколі я скупой не была. Але хай бы той кавалак хлеба, што з'еў ты ў маім доме, атрутай для цябе стаў. Не за сябе, не за нас усіх праклінаю. За маці тваю, за бацьку. Вернуцца яны, дазнаюцца, што ты перавертнем стаў, вылюдкам падох — як жыць будуць? Як людзям у вочы глянуць?

Салдат выводзіць Дусю і Марыю Сяргееўну. Вялікая паўза. І тут крычыць Кароцька. І гэта не крык — звярынае скавытанне. Фішар падыходзіць да Кароцькі, моўчкі б'е яго па твары.

Ф І Ш А Р. Што ў камеры?

К А Р О Ц Ь К А *(усхліпваючы.)* Маўчаць у камеры.

Ф І Ш А Р. І ты нічога не даведаўся?

К А Р О Ц Ь К А. Не. Нічога. Пакуль не. Я і так, я і гэтак. Маўчаць.

Ф І Ш А Р. Цябе сёння зноў кінуць туды ж...

К А Р О Ц Ь К А. Пан афіцэр, у мяне на волі... На волі—нітачка. Чалавечак адзін. Калі вы гэтых забіралі, яго тады не было. Пайшоў ён тады. Ён — нітачка...

ФІШАР. Потым я цябе выпушчу. І калі праз тыдзень я не перавешаю ўсё тутэйшае падполле, я павешу цябе.
КАРОЦЬКА. Зраблю. Знайду...
ФІШАР *(Штыгліцу.)* Папрацуйце над гэтай скацінай, каб у камеры паверылі, што ён быў на допыце, і кіньце яго зноў туды.
ШТЫГЛІЦ. Слухаю. *(Кароцьку.)* Ідзі.
КАРОЦЬКА. Пан афіцэр. На мне і так ужо няма жывога месца. *(Падае на калені, плача.)* Пан афіцэр...
ШТЫГЛІЦ. Ідзі!

Кароцька ўстае. Ледзь перастаўляючы ногі, выходзіць.
Услед за ім салдат.
Вялікая паўза.

ФІШАР. Іх давядзецца павесіць. Усіх.
ШТЫГЛІЦ. Слухаю.
ФІШАР. Толькі не спяшайцеся. Хутка вясна... Вось яркім вясновым днём, калі так хочацца жыць... вось тады...
ШТЫГЛІЦ. Слухаю.
ФІШАР. На плошчы. І не здымаць. Каб доўга, доўга віселі...

Уваходзіць обер-лейтэнант. Услед за ім два салдаты нясуць партрэт Гітлера, у якога замест вачэй — дзве дзіркі.

ОБЕР-ЛЕЙТЭНАНТ. Дакладваю...
ФІШАР. Бачу... *(Глядзіць на партрэт.)* Дзе?
ОБЕР-ЛЕЙТЭНАНТ. На плошчы, каля вакзала...

Усе глядзяць на партрэт. Потым па знаку Фішара партрэт выносяць. Обер-лейтэнант і салдаты выходзяць.
Вялікая паўза.
Фішар ідзе да стала, хацеў сесці. Не сеў. Прайшоўся па кабінеце. Спыніўся.

ФІШАР. А што, Штыгліц, калі пераможам не мы? Не мы. Яны пераможуць? Што тады, Штыгліц... Не задумваліся?

Штыгліц маўчыць... і па яго твары і па твары Фішара відаць — ім страшна.
Кабінет знікае ў цемры.

ЖАНЧЫНА. Змаганне працягвалася. Кожная новая ахвяра пякучым болем джаліла сэрцы жывых. І кожны, яшчэ жывы, быў гатовы ў любую хвіліну прынесці ў ахвяру сябе, толькі б перамагчы.

У святле — сцены, скрозь увешаныя «творамі мастацтва».
Саладжавыя пейзажы, партрэты нямецкіх афіцэраў, партрэты іх фраў, партрэты Гітлера. Мноства падрамнікаў, багетных рамачак, рамак.
У пакоі — ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ, МІКОЛА, ЖЭНЯ, ХВЕДАР, ШРЭДАР.

ЖЭНЯ *(не адразу.)* Іх вывелі на Ленінскую... Вялі басанож, акрываўленых, пабітых. На кожным — фанерка з надпісам: «Мы бандыты памагалі партызанам...» Павесілі на рынку. Першым — Паўліка, потым Сашу, Аляксандра. Апошняй — Дусю. Ужо з пятлёй на шыі, яна паспела крыкнуць: «Жывыя, адпомсціце!».
ХВЕДАР. Саша, Аляксандр крыкнуў: «Няхай жыве Савецкая...»

Вялікая паўза.

ЖЭНЯ. Сем чалавек.
ШРЭДАР. І гэта зрабілі немцы...
ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Фашысты.
ЖЭНЯ. І была на рынку такая цішыня, што, здаецца, можна было пачуць, як звіняць ручайкі... *(Плача.)*

Вялікая паўза.



ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. У іх смерці вінаваты і мы. Так. І мы. Парушылі дысцыпліну. Дысцыпліну канспірацыі. Да нас прабраўся правакатар. Самае страшнае для нас.
ХВЕДАР. Хто?
ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Выявіць. Знішчыць. Лічыце гэта заданнем нумар адзін. І зробіш гэта ты, Мікола.

Мікола моўчкі ківае галавой.

ЖЭНЯ. Яшчэ што ніколі не забуду — у блакітным небе спявалі жаваранкі.

Зноў паўза.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Наступнае заданне. *(Вымае з кішэні газету.)* Яго таксама будзем лічыць нумар адзін. *(Чытае.)* «Можна не сумнявацца — насельніцтва нашага горада, вызваленае ад бальшавіцкага прыгнёту, толькі парадуецца знішчэнню фанатыкаў-падпольшчыкаў. Скажа дзякуй нямецкім уладам за іх імкненне навесці ў горадзе парадак». *(Паказвае газету.)* І рэдактара гэтай бруднай анучы — таксама знішчыць.
ХВЕДАР. Гэта прашу даручыць мне. Я... я яго ведаю. Ён у нас, у школе, выкладаў рускую літаратуру і мову... Здарава, падлюга, выкладаў. Я яго... Я любіў яго ўрокі. Ён для нас быў Аляксандр Львовіч, таварыш Браун...
ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Усе мы яго называлі таварышам Браунам. Ён... ён еў наш хлеб. Дыхаў нашым паветрам. *(Злосна камечыць газету.)* Хопіць дыхаць. Хопіць.
ХВЕДАР. Выкананне прыгавора прашу даручыць мне. Здамо яму... Яшчэ раз здамо яму экзамен. Апошні. Так яго раскідаю, што... Прашу гэта даручыць мне.
ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ *(пасля паўзы)*. Калі б не вайна, куды б вучыцца пайшоў?
ХВЕДАР. Не разумею.
ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Кім збіраўся стаць, каб не вайна?
ЖЭНЯ. Хацеў палярнікам. Зімоўшчыкам.
ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Палярнікам... Слава Шміта, папанінцаў спаць не давала... Харошая, цікавая работа. І прафесія самая мірная.
ХВЕДАР. Цяпер вайна... І кожны, хто можа, павінен...
ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Ён цябе вучыў. Яго знішчаць хлопцы з атрада.
ХВЕДАР. Але...
ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Усё. З гэтым усё. *(Пасля паўзы.)* Эх, жэўжыкі! Вам яшчэ жыць і жыць. Вучыцца. Дарэчы, скрыпач твой, Славік Калецкі, ужо на Вялікай зямлі. У Маскве.
ЖЭНЯ. Перапраўлі?
ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Першым жа самалётам. Не хацеў ён. Крычаў — я партызан! Не маеце права! Паляцеў. Будзе там вучыцца. Стане музыкам. Скончыцца вайна — усе збяромся на яго выступленне. І вы — скончыцца вайна — пойдзеце вучыцца... *(Пасля паўзы.)* Аднак вернемся да сённяшніх спраў. Заданне Масквы, камандавання, штаба нашага — узяць пад кантроль дарогу на Ленінград. Задача — скаваць рух нямецкіх эшалонаў на Ленінград. Дрэнна там, у Ленінградзе. Абкружыў яго немец. Наш абавязак хоць чым-небудзь Ленінграду памагчы. Заданне ўсім зонам. Што датычыць — калі, як, што канкрэтна, у дэталях —

пазней. Кожны атрымае свой участак, сваё заданне... *(Жэні, Хведару.)* Можаце ісці. Усяго добрага. Шчасліва.

ХВЕДАР. Ага. Усяго добрага.

ЖЭНЯ. Вам шчасліва вярнуцца. І...

ЖЭНЯ *(не адразу.)* Я так падумала, Васіль Сцяпанавіч, не трэба вам больш сюды, да нас у горад прыходзіць. Вас тут многія ведаюць. Ці мала што...

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Зразумеў. Слухаю. Прыму да ведама... *(Усміхнуўшыся.)* І выканання. Ідзіце.

Абдымае Жэню і Хведара. Тыя выходзяць. Паўза.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Цяпер з вамі, таварыш Шрэдар. Мы вам вельмі ўдзячны за ўсё, што вы для нас зрабілі. Ваша папярэджанне аб карнай экспедыцыі супраць нас, зброя, медыкаменты... Вы нам вельмі памаглі...

ШРЭДАР. Зрабіў, што мог.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Не сумняваюся — зробіце для нас яшчэ больш, але...

ШРЭДАР. Што?

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Ёсць заданне, загад — пераправіць вас у Маскву.

ШРЭДАР. Мяне? У Маскву? Для чаго?

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Для чаго, не ведаю. Думаю, як стары чэкіст, здагадваюся — вам могуць прапанаваць у Маскве...

ШРЭДАР. Што ж. Я камуніст, і...

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Ды і заставацца вам тут... Перакананы, гестапа звярнула ўвагу на прычыну правалу карнай экспедыцыі... Вам трэба пакінуць горад. Вас пераправяць да нас і... *(Міколу.)* Ты яго прывядзеш...

Мікола моўчкі ківае галавой.

ВАСІЛЬ ІВАНАВІЧ. Усё. Да пабачэння, таварыш Шрэдар.

ШРЭДАР. Да пабачэння.

Развітваюцца. Шрэдар пайшоў.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Адну хвіліну. Вазьміце з сабой які-небудзь шэдэўр. Вы ж прыходзілі ў салон... Што возьмеце?

ШРЭДАР *(разглядвае «карціны».)* На мой густ тут нічога няма.

Васіль Сцяпанавіч здымае са сцяны партрэт Гітлера, падае яго Шрэдару.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Няхай гэты яфрэйтар будзе вашым целаахоўнікам.

ШРЭДАР *(смеючыся.)* Ну што ж, няхай.

Узяўшы партрэт, выходзіць.
Васіль Сцяпанавіч падыходзіць да Міколы, садзіцца побач.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Ну!.. Выкладвай, што мучыць. Па вачах тваіх бачу — мучыць. Што?

МІКОЛА *(не адразу.)* Загадка адна мучыць.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Якая загадка?

МІКОЛА. Хто прадаў? Хто? У той вечар, калі іх узялі, я быў з імі. Не. Не калі ўзялі, да таго, як узялі — быў з імі. Былі ўсе свае. Усіх узялі. Потым, потым, калі іх вялі, апошні раз, калі вялі, на шыбеніцу — я быў на вуліцы. Дуся мяне ўбачыла, крыкнула — шарык. Шарык. Дурню зразумела — хацела папярэдзіць, хто прадаў. Шарык? Хто гэта? Няма сярод нашых нікога з такой клічкай. Я ўсіх ведаю.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Усіх ведаеш?

МІКОЛА. Усіх... Дуся неяк пазнаёміла мяне з адным чалавекам. Наш... З мясцовых. Быў у палоне. У лагеры. Уцёк... Гаварыла, перад вайной разам працавалі. Таксама быў камсамольцам. Бачыў яго. Смелы хлопец. І на яго падумаў, можа ён. Але яго таксама ўзялі. Сядзіць ён у СД. Тады ж узялі...

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Тады ж?..

МІКОЛА. Так...

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Адкуль ведаеш, што ўзялі?..

МІКОЛА. Няма яго... значыць, у СД...

Вялікая паўза.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Дусю, Сашу, астатніх павесілі. Яго не.

МІКОЛА. Так. Яго не павесілі.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Можа, там прыкончылі?

МІКОЛА. Можа.

Зноў паўза.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Шарык. Сапраўды — загадка...

МІКОЛА. Вось я і кажу...

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Нейкая сабачая клічка. У Дусі сабака быў. На двары матляўся. Такі кудлаты, рыжы сабака. Але ж сабака не мог...

МІКОЛА *(не адразу.)* Кудлаты, рыжы. Быў, быў у Дусі такі сабака. Рыжы. *(Устае.)* Рыжы. Шарык. Рыжы. Шарык, рыжы. *(Імкліва ідзе да выхаду.)*

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. Стой! Куды?

МІКОЛА. Я ідыёт. Пень... Аглобля...

Імкліва заходзіць ШАРЭМБА.

ШАРЭМБА. Добры дзень.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ. А, мастак! Добры... Што з табой?

ШАРЭМБА. Аблава. Праверка дакументаў... Хадземце. Праводжу праз чорны ход.

ВАСІЛЬ СЦЯПАНАВІЧ *(Міколу.)* Я ўсё зразумеў... Гэта ён — Шарык... Ён — сабака.

Цемра.
Пакойчык Кароцькі. На стале нямецкая свечка-газоўка. На падлозе: сукенкі, паліто, дзіцячыя трусікі. Пара новых ботаў і шмат яшчэ чаго. Усё гэта Кароцька разбірае, пхае ў вялікі мех... Нешта заўважыў на адной сукенцы, паднёс да свечкі, разглядае.

КАРОЦЬКА. Чорт! Такая сукенка, такая сукенка! Запэцкана. Кроўю. *(Адкідвае сукенку. Зноў пхае ўсё ў мяшок. Завязвае яго, скідвае свае боты, нацягвае чужыя.)* Ну, цяпер усё. Парадак. І сёння ж... быў, і няма. Нельга, нельга тут больш заставацца. Фрыц не заб'е — партызаны звядуць... Раздушаць, як вош. А я не вош... Схаваемся як-небудзь, ушыемся ў якую-небудзь дзірачку... Не навек жа гэтае ліхалецце... Возьме верх фрыц — і пры ім паветра хопіць. Прагоняць яго — Расія вялікая, знойдзем зацішны куточак... Толькі б цяпер выкруціцца... А там... *(Апранае паліто, бярэ мяшок. Хацеў патушыць свечку.)* Не! Няхай гарыць. Да канца дойдзе, агеньчык яшчэ за што ўчэпіцца, і ўсё... Усё агнём пойдзе. *(Абкладае свечку ашмёткамі газеты.)* І ўсе сляды... Няма, не будзе слядоў, і я... нібыта і я тут згарэў..

Ідзе да выхаду, на долю хвіліны знікае і ўжо адступае спіной назад, бо на яго ідзе МІКОЛА.

МІКОЛА. Далёка сабраўся?..
КАРОЦЬКА. А гэта я... У вёску... ага... Памяняць сёе-тое... Здароў... Уваходзь...
МІКОЛА. Увайшоў...
КАРОЦЬКА. Памяняць... Захварэў... Відаць, адбілі мне фрыцы лёгкія. Так у грудзях...
МІКОЛА. Чаму на волі? І калі цябе выпусцілі?
КАРОЦЬКА. Ведаў, што спытаеце... ведаў... Учора, учора выпусцілі.
МІКОЛА. Іх усіх павесілі. Цябе выпусцілі. Чаму?
КАРОЦЬКА. Дык жа ж... Яны... Яны мяне не выдалі... Нашы — не выдалі. Сказалі, што не ведаюць мяне... Што я не падпольшчык, а... проста — сусед... Нічога не ведаю... Ну і я ўвесь час — сусед. Я... нічога не ведаю... Пра падполле — нічога.
МІКОЛА. І немцы паверылі? І табе, і ім?
КАРОЦЬКА. Не... білі мяне... Ой як білі — хочаш, пакажу. *(Падымае кашулю.)* Вось, ботамі па... білі... Ну, а потым...
МІКОЛА. Што потым?
КАРОЦЬКА. Учора... выпусцілі... Сам не чакаў, думаў і мяне... Выпусцілі. Я так думаю: паколькі яны, фрыцы, больш нікога не ўзялі — мяне выпусцілі, каб прасачыць... Ну, як прынаду выпусцілі... Вось і хачу... Хачу пайсці з горада... На нейкі час знікнуць...
МІКОЛА. Так...
КАРОЦЬКА. Не верыш мне?
МІКОЛА. Я гэтага яшчэ не сказаў...
КАРОЦЬКА. Клянуся табе, я...
МІКОЛА. Клянешся...
КАРОЦЬКА. Я... *(Нешта хоча дастаць з кішэні.)* Я...
МІКОЛА *(вымае пісталет.)* Рукі!.. Ну...

Кароцька спалохана падымае рукі, пачынае адступаць. Зачапіўшыся за мяшок, ледзь не падае. Мікола, трымаючы напагатове пісталет, развязвае мяшок, вывальвае ўсё на падлогу.

МІКОЛА. Прадаваў жывых, рабаваў мёртвых...
КАРОЦЬКА. Не! Што ты?.. Усё маё. Бацькоў. Шчэ даваеннае.
МІКОЛА. Прадаваў. Каб самому застацца жывым... Заўтра прадаў бы мяне. Прадаваў бы яшчэ і яшчэ...
КАРОЦЬКА. Не! Не! Клянуся, я... павер мне, я... *(Выхоплівае пісталет, але Мікола страляе першы.)*

Кароцька падае на гурбу рыззя.

МІКОЛА. Вось і бірачка... *(Вымае з кішэні паперку, кладзе яе Кароцьку на спіну.)* «Так будзе з кожным, хто супраць нас». *(Кудысьці ўдалячынь.)* Васіль Сцяпанавіч, заданне нумар адзін — выканана. Правакатар знішчаны.

Цемра.

ЖАНЧЫНА. «Так будзе з кожным, хто супраць нас». У гэтых бясхітрасных словах была самая высокая справядлівасць.

У Брауна дома. За машынкай фраў БРАУН.

БРАУН. Друкуй... Мы — беларусы. «Мы» — закрэслі, пішы проста — беларусы...

Фраў Браун стукае па клавішах.



БРАУН. ...павінны зразумець: зараз на свеце няма такой сілы, якая магла б спыніць пераможнае шэсце германскіх узброеных сіл, германскага духу, германскага генію.
ФРАЎ БРАУН. А Сталінград?
БРАУН. Што?! *(Крычыць.)* Ты!... Я прасіў... Ты!..
ФРАЎ БРАУН. Даруй.
БРАУН. Сталінград. На вайне можа быць усялякае. Але мы яшчэ на Волзе. Мы яшчэ...
ФРАЎ БРАУН. Не мы. Яны, і пакуль што...
БРАУН. А я сябе не аддзяляю ад іх. Я — немец. Там, дзе нямецкі салдат, там і я.
ФРАЎ БРАУН. Дыктуй далей.
БРАУН. І прашу цябе, загадваю — больш пра Сталінград ні слова...
ФРАЎ БРАУН. Дыктуй далей.
БРАУН *(не адразу.)* Беларусы, вы добры, працавіты, ціхі народ. Канчайце з бальшавікамі, з рускім, маскоўскім прыгнётам. Ганіце ад сябе камісараў. Парывайце з бандыцка-партызанскім збродам і пад магутнай рукой фюрара — наперад да новага, шчаслівага жыцця... Клічнік.

Фраў Браун, дапісаўшы, моўчкі вымае з машынкі надрукаванае, аддае Брауну. Той моўчкі чытае.

БРАУН. Так. Генералу спадабаецца. *(Складвае надрукаванае, глядзіць на гадзіннік.)* О, так можна і спазніцца. *(Апранае пінжак, ідзе да выхаду.)*
ФРАЎ БРАУН. Чакай.
БРАУН. Што такое?
ФРАЎ БРАУН *(не адразу, ціха)*. Тры дні назад на рынку чула: партызаны проста ў горадзе забілі аднаго і запіску прышпілілі: «Так будзе з кожным, хто супраць нас».
БРАУН. Ведаю.
ФРАЎ БРАУН. Баюся за цябе. *(Паказвае на партрэт.)* Яшчэ не прайшло і года, як забілі яго.
БРАУН. Ніколі гэтага не забуду.
ФРАЎ БРАУН. Яшчэ чула — па ўсёй дарозе на Ленінград крушэнні нямецкіх паяздоў... Узрываюцца масты... У сваіх лістоўках партызаны пішуць: «Смерць нямецкім захопнікам і іх памагатым». І подпіс.
БРАУН. Падпольны камітэт. Ну і што?
ФРАЎ БРАУН. Можа, яшчэ ёсць час адысці ўбок. Мы — настаўнікі. Свой кавалак хлеба...
БРАУН. Мне проста кавалак хлеба мала. І пайшоў я ў той бок, які даўно сабе абраў. І ўсё. Кінем пра гэта. Усё будзе добра.
ФРАЎ БРАУН. Ты таксама баішся.
БРАУН. Маўчы.
ФРАЎ БРАУН. Баішся... усе баімся... мы ўсе...
БРАУН. Маўчы, маўчы, маўчы... і паглядзі, ці стаіць на вуліцы вартавы.

Фраў Браун выходзіць, вяртаецца.

ФРАЎ БРАУН. Вартавы стаіць.
БРАУН. Ну вось. Усё ідзе добра. І далей усё будзе добра. *(Выходзіць.)*
ФРАЎ БРАУН. Дай божа, бо я звар'яцею. Папраўдзе звар'я...

Не паспявае закончыць слова... За акном чуваць стрэл, потым другі.

ФРАЎ БРАУН. Забілі!..

Пакой фраў Браун знікае.

ЖАНЧЫНА. Так паводле прысуду народа былі знішчаны Брауны. Спачатку — бацька, ён быў бургамістрам. Потым сын. Гэта было заканамерна, немінуча, бо так дыктавала правасуддзе. *(Выходзіць наперад).*

За спіной у Жанчыны, у глыбіні, за хвойнікам відаць фермы чыгуначнага моста. Крыху ўбок — будка для вартавой каманды.
Досвітак. Туман.
Паяўляецца і знікае цень вартавога.
Прыгінаючыся бягуць ХВЕДАР і ЖЭНЯ. У руках у Хведара — вялікі мяшок. Спыніліся ля хвойкі...

ХВЕДАР. Вось тут. Лепшага месца і не знайсці...
ЖЭНЯ. Там вартавы...
ХВЕДАР. Я на мост не палезу... Адыходзіць будзем вунь туды...
ЖЭНЯ. Там жа балота.
ХВЕДАР. Ёсць сцяжынка.
ЖЭНЯ. Вартавы пайшоў.
ХВЕДАР. І я пайшоў. *(Вымае з мяшка міну, паўзе да моста, знікае.)*
ЖЭНЯ. Асцярожней...

Зноў паявіўся цень вартавога... Патупаў на адным месцы, знік. І цішыня...
Не зводзячы вачэй глядзіць Жэня ў той бок, куды пайшоў Хведар.

ЖЭНЯ. Ну што ён там так доўга... Хутчэй, хутчэй, мілы... хутчэй.

Зноў паявіўся цень вартавога.
Чуваць нарастаючы грукат поезда.
Убягае Хведар, схапіў Жэню за руку...
Выбух...
Хведар і Жэня выбягаюць... І адразу ж з вартаўнічай будкі па Хведару і Жэні — аўтаматныя чэргі...
**Цемра.**
Глухое балота. Чорны чарот. З неба — рэдкі снег...
З купіны на купіну паўзе Жэня, цягнучы за сабой на кажушку Хведара.
Спынілася. Прысела побач.
Азіраецца. Прыслухоўваецца. Чуваць брэх сабак, голас: «Рус, здавайся!»

ЖЭНЯ. Адарваліся, адарваліся... Сюды яны не сунуцца, але ж і не пойдуць адсюль. Будуць чакаць, пакуль мы самі да іх не выйдзем... Холадна як... *(Заўважыла сняжынкі.)* Снег... Ой, нашто ты... *(Зноў азірнулася.)* Як жа мне цябе, Федзя, выцягнуць адсюль? *(Прыстроілася, каб цягнуць Хведара далей, паслізнулася, упала на яго. Той ад болю апрытомнеў, застагнаў.)*
ХВЕДАР. Дзе мы?
ЖЭНЯ. У балоце. Скрозь балота... І сцяжынкі няма, скончылася. Пайшла пад ваду...
ХВЕДАР. Фрыцы дзе?
ЖЭНЯ. Мы ад іх адарваліся, але...
ХВЕДАР. Што?
ЖЭНЯ. Яны нас абкружылі. Балота...
ХВЕДАР. Снег?
ЖЭНЯ. Снег.
ХВЕДАР. Апошні...
ЖЭНЯ. Ты што?
ХВЕДАР. Для мяне — апошні.
ЖЭНЯ. Не.
ХВЕДАР. Табе холадна.
ЖЭНЯ. Не.
ХВЕДАР. Здымі з мяне куртку і накінь на сябе.



ЖЭНЯ. Я сказала...
ХВЕДАР. Я сказаў...

Жэня асцярожна здымае з Хведара куртку, накідвае на сябе.

ХВЕДАР. Гáды... Прашылі мне жывот... Прыўзнімі мяне.

Жэня прыўзнімае Хведара, кладзе яго галаву сабе на калені.

ХВЕДАР. Вось так, добра... І ўжо не баліць. Толькі кроў усё цячэ... Чаму я цябе так дрэнна, цьмяна бачу?
ЖЭНЯ. Ты без акуляраў... Табе цяжка гаварыць. Маўчы... Я буду гаварыць, а ты маўчы... Толькі пра што гаварыць?.. Ой, як здорава зайграў гэты Зайграеўскі мост... Пакуль яны яго зноў навядуць, з тыдзень эшалоны на Ленінград стаяць будуць.
ХВЕДАР. Ты... Ты не шкадуеш, што...
ЖЭНЯ *(не адразу, ціха.)* Пра адно толькі шкадую.
ХВЕДАР. Пра што?
ЖЭНЯ. Пазней... Як вырвемся адсюль... скажу...
ХВЕДАР. Я ўжо не вырвуся... Я... я ніколі не задумваўся, якімі будуць мае апошнія хвіліны... І вось яны — апошнія...
ЖЭНЯ. Не! Не... Я зараз пацягну цябе... Я з табой... Мы вырвемся...
ХВЕДАР. Адна... Адна пойдзеш...
ЖЭНЯ. Без цябе?
ХВЕДАР. Ага. Пацалуй мяне...

Жэня цалуе Хведара. Той спрабуе яе абняць, але не можа.

ХВЕДАР. У курткі пісталет. Там яшчэ павінны быць два патроны. Усяго два. Прыстрэль мяне....
ЖЭНЯ. Не! *(Адступаючы.)* Ніколі!
ХВЕДАР. Хай гэта будзе тваёй апошняй ласкай... Калі любіш...
ЖЭНЯ. Люблю! Я люблю цябе.
ХВЕДАР. Пашкадуй мяне. А сама ідзі, няхай... ідзі. Вырвешся. Адна вырвешся. Ідзі...*(Брэх сабак усё бліжэй. Усё бліжэй нямецкая гаворка).*
ХВЕДАР. Дзякуй. Дзякуй.

Жэня вымае з кішэні пісталет, узводзіць яго.
Вялікая паўза.
Не зводзячы вачэй глядзіць Жэня на Хведара. І шэптам...

ЖЭНЯ. Я... я люблю цябе... *(Страляе... і зноў шэптам).* Холадна. Як холадна... Так мы і засталіся... Як дзеці. Так і не сталі і ўжо ніколі не станем дарослымі... Ты мне мужам, а я жонкай... І не папросіш у мяне цяпла. І не сагрэю цябе. Холадна... Ва ўсім целе — толькі холад... І адзін патрон... адзін... адзін... *(Зусім побач — галасы: «Рус, здавайся!»)*

Страляе і падае побач з Хведарам.
І нібы салютам іх подзвігу — гул матораў, потым грукат выбухаў.
У праменнях пражэктараў, у сполахах агню — скрыўленыя ад жаху твары Фішара, Штыгліца, нямецкіх салдат.
Потым цішыня.
З цішыні здалёк наплывае ўрачыстая музыка. Харал.
На фоне зыркага агню, на высока ўзнятых руках партызаны нясуць Жэню Іванову, Хведара Мехава.
Палае агонь.
Потым зноў цішыня.

ЖАНЧЫНА. Жэні Івановай, Хведару Мехаву тады было... Разам ім яшчэ не было сарака, калі яны халоднай вясновай ноччу адышлі ў нябыт. І таму, толькі таму сёння жывяце вы, будуць жыць нашчадкі вашы, усе, каму наканавана жыць заўтра, праз стагоддзі... І гэтак жа бяскон-

ца ў памяці нашай, у сэрцах нашых будуць жыць і яны, усе, хто не дайшоў, хто паў на тым вогненным крывавым шляху... *(Ступіўшы некалькі крокаў наперад.)* Наперадзе яшчэ было многа дзён і начэй, поўных агню і смерці. Але прыйшоў і дзень, калі над маім горадам узышло сонца...

За спіной Жанчыны, пад блакітным небам — сённяшні горад. Яго абрысы мяняюцца, і вось ён такі, якім будзе праз сто год, праз тысячу.

ЖАНЧЫНА. Сябры мае. Дарагія мае людзі... Я расказала вам пра тое, што было. Пра людзей і нелюдзей. Пра тое, што сталася б з зямлёй, каб нелюдзі перамаглі. Расказала, чаму перамаглі людзі!

Расказала для таго, каб вы ведалі і запомнілі — на зямлі яшчэ ёсць нелюдзі. І ад нас залежыць, каб нелюдзі больш ніколі не паўтарылі таго, на што адважыліся ўчора... Ад нас, людзі. Запомніце гэта!

ЗАСЛОНА.

**У кастрычніцкім нумары пачынаем друкаваць раман Івана ЧЫГРЫНАВА «ПЛАЧ ПЕРАПЁЛКІ»**



## Валянцін ЛУКША

● ——— ●● *Вясновая ода* ●●● *Музыка*



●

Я зноў пяю нялёгкія дарогі,
Юнацтва камсамольскае пяю.
Я знаю лёс
і строгі,
і нястрогі,
Калі на сцежку я зірну сваю.
І ў глыбіні бунтарскае душы
Сабе мільён разоў я прызнаюся,
Што без дзярзанняў немагчыма жыць,
І я ў дарогу зноў і зноў імкнуся.

●●

Мы вёсны лічым,
пачынаючы з мая,
Маладосць звяраем па вёснах —
Колькі дарог за плячыма маем,
Колькі наканаваў лёс нам.
Жыцця кіпучага апагеі
Мы звяраем надзейна
Па генію,
Па Леніну.

У агоніі білася чорная вайна
На дарогах заодэрскіх дальніх,
А мы Перамозе салютавалі дацямна
На ўзмежках з самаробных танкаў.

Зара журавінкай ірдзелася
белапенным маем.

— Колькі маеце за плячыма?
— Дваццаць маяў.
У райкоме, ушчэнт пракураным,
папярэдзілі строга:
— Ці вытрымаеце?
Нялёгкая ў Нафтаград дарога.
Быў пачатак так падобны на наступленне.
Быў пачатак не вечам урачыстым.
Як порхаўка, развеяліся сумненні,
Мы выстаялі.
Мы —
аднагодкі чорнай вайны,
Мы —
чыё маленства яна здратавала,
Мы —
вядомых і невядомых герояў сыны.
Нам стамляцца,
спыняцца
сумленне не дазваляла,
І праз каторы час на плошчы,
на нядаўнім таку,
Самадзейны аркестр услаўляў перамогу,
І ўглядаўся прыгажуном
маёвай парой у раку
Белакаменны
казачны горад.
Калі горыч сэрца параніла,
Калі не шанцуе ад А да Я,
Мы вясне адрасуем словы прызнання,
Бо вясна займаецца з мая.
І вёсны мы лічым, пачынаючы з мая,
Маладосць звяраем па вёснах,—
Колькі дарог за плячыма маем,
Колькі наканаваў лёс нам.
Жыцця кіпучага апагеі
Мы звяраем надзейна
Па генію,
Па Леніну!

●●●

*Рыгору Раманавічу Шырму*

Заручоны навечна з музаю —
Назаўсёды згубіў спакой,
Бо пульсуе бунтарская музыка
У артэрыі кожнай маёй...

Напаўняе кожную клетку...
Сілай музыкі даражу,
І, як птушка,
у цеснай клетцы,
У палоне яе дрыжу.

Мне
празрыстасць паўночную Грыга.
Мне
Бетховена буйны напал...
Як апошняй надзеі крыга,
Выплывае халодны харал.

О! Стагорлы арган Сусвету!
Без фальшывых нотак!
Ну-ну!
Услаўляй вясну над планетай
І ніколі-ніколі вайну.

За святыню цябе людзі выдалі,
Толькі каб не зманіла, баюся.
На цябе,
як язычнік на ідала,
Штохвілінна малюся,
малюся.

Бо пульсуе бунтарская музыка
У артэрыі кожнай маёй...
Заручоны навечна з музаю —
Назаўсёды згубіў спакой.




Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

Мал. Л. ДУБАРА

# ВОКА ТАЙФУНА

АПАВЯДАННЕ

Бухта ляжала ў чорных, мёртвых сопках, як іртутнае, цьмянае люстра. Спалі на гэтым люстры глухія і насцярожаныя цені караблёў. Злева, досыць далёка, дагарала сузор'е горада, самы край гэтага сузор'я, бо цэнтр ягоны хаваўся за мысам, там, дзе бухта рабіла калена. Справа, у горле заліва, размерана ліў святло маяк, і тады ад яго вострай зоркі цягнулася па вадзе проста да Сцяпана Дубаўца амаль нерухома сцежка.

Ваду цяжка было назваць штылявою. Вада была проста мёртвай. Мёртвая, як гэтая сакавіцкая прыморская ноч. Як цемра.

Тое цямноцце толькі зрэдку ўспорвалі ўспышкі рацьера: караблі нібы скардзіліся адзін-аднаму, што вось вакол ноч, золь і самота, што кілі іхнія дранцвеюць і дубеюць у ледзяной вадзе.

Ды яшчэ рухаліся ад карабля да карабля белыя агеньчыкі на шлюпках. Мігцелі, як зоркі.

«Камандзіры з нарады,— падумаў Дубавец.— Нічога сабе гамарня была. Да трох ночы...»

Ён прыкурыў ад недакурка новую папяросу і выпусціў недакурак. Пачуў, як коратка шыкнула ўнізе, нібы нехта сказаў «цс-с» — і ўсё вакол, сапраўды, заглухла цяжка і сонна: увесь сусвет заторкнуў вушы ватай.

Стаяла ціша. Толькі зрэдку над вадой спявуча стагналі, пераклікаліся карабельныя склянкі. Нібыта кры-



*25 гадоў існуе Дэмакратычная Рэспубліка В'етнам. Гэта гады — нястомнай працы па будаўніцтве сацыялізма і гераічнага змагання в'етнамскага народа за свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы.*

*Слава гераічнаму народу В'етнама!*

**Вінь ЛЕ**

## Карэнне

Пад купалам паветранай трывогі
жыве мой горад,
родны мой Ханой.
І возера Гыом * з перасцярогі
змыкае
над паверхняй люстраной
і купы ніцых лоз, і бамбукі,
каб меч не выпаў з помсцячай рукі.

А тут, дзе я жыву,
ні зацямнення,
ні кананады ў небе па начах.
І ўсё ж не спіцца.
Кожнае імгненне
мы неразлучны. Ты ў маіх вачах.
Настаўнік наш,
савецкі наш таварыш,
на дошцы чэрціць новую дэталь,
а мне ўжо бачыцца,
як сталявары
на Поўначы ў мартэнах плавяць сталь.
Зенітчыкі на баявых гарматах
малююць зорачкі трафей.
Уверх
расце крывая нашае расплаты
крыжамі, хоць яшчэ заморскі звер
крывёю не сышоў.
А ўсё ж ён сыдзе,
дарма, што на разбоі распанеў.
З народным гневам
мір В'етнаму прыйдзе,
захопнікаў змяце народны гнеў.

---

Гыом—у перакладзе азначае «Вернуты меч».



Я так далёка ад цябе, мой горад.
Ты мне даруй,
як і другім сынам,
што ў горкі час тваёй бяды і гора
прыйшлося прыкрываць цябе
не нам.
Мы садам дружбы з тропікаў далёкіх
пад мірным небам братняе зямлі
пілі тут дзень і ноч жывыя сокі...
Мы вернемся дамоў, дзе мы раслі,
а тут пакінем вечнае карэнне
для новых змен,
для новых пакаленняў.

**Ань ТХО**

## Дзяўчаты плятуць сеткі

Мы пляцём сеткі тыя —
гэта тыя,
што з прыпрэлага шоўку,
для рыбы малой, верхаводкі.
Мы пляцём сеткі зя —
для сама, ментуза, язя —
гэта з моцнага рамі,
як з жылля электраправодкі.

Прамень, працяўшы зеляніну пальмы,
як іскарка, упаў на шнур запальны:
вось-вось пачне шыпець, і грымне выбух.
Але затух раптоўна, як і выбег.
Вось бліснуў зноў па гронках на рабінах,
па медзі гільз, па стужках,
карабінах,
што спачываюць на суках,
на коллі,
каб уначы нагаварыцца ўволю.
Бінты ў пакетах, як у дуплах совы,
спяць пры святле і бачаць сон пунсовы —
сон колеру бяды: такая доля
Іх, ратавальнікаў, на ратным полі.
Дзяўчатак гэтых,
што сплятаюць сець,
мінулай ноччу асяняла смерць.
Зноў прыйдзе ноч — зноў бой
і мін выццё,
а ўдзень — калі ж ім спаць?
Бярэ сваё жыццё.

Пераклад Язэпа СЕМЯЖОНА.



*Сто гадоў з дня нараджэння рускага пісьменніка Аляксандра Іванавіча Купрына.*

**Аляксандр КУПРЫН**

# ГАМБРЫНУС

**АПАВЯДАННЕ**

## I

Так называлася піўная ў бойкім партовым горадзе на поўдні Расіі. Хоць яна і месцілася на адной з самых людных вуліц, знайсці яе было досыць цяжка з прычыны яе падземнага размяшчэння. Часта наведвальнік, нават блізка знаёмы і добра прыняты ў Гамбрынусе, умудраўся мінуць гэтую надзвычайную ўстанову і, толькі прайшоўшы дзве-тры крамы, вяртаўся назад.

Шыльды зусім не было. Проста з тратуара заходзілі ў вузкія, заўсёды адчыненыя дзверы. Ад іх вялі ўніз гэткія ж вузкія сходы ў дваццаць каменных прыступак, абабітых і скрыўленых многімі мільёнамі цяжкіх ботаў. Над сходамі ў міжваконні красаваўся гарэльефны размаляваны вобраз славутага апекуна піўной справы, караля Гамбрынуса, велічынёю прыблізна ў два чалавечыя росты. Гэты скульптурны твор быў напэўна першай працай пачынаючага аматара і выглядаў груба выкананым з акамянелых кавалкаў наздраватай губкі, але чырвоны камзол, гарнастаевая мантыя, залатая карона і высока ўзняты куфаль, з якога сцякала белая пена, не пакідалі ніякага сумнення, што перад наведвальнікам — сам вялікі патрон піваварэння.

Піўная мела дзве доўгія, але надзвычай нізкія скляпеністыя залы. З каменных сцен заўсёды сачылася, збягаючы струменьчыкамі, падземная вадзіца і зіхацела ў агні газавых ражкоў, якія гарэлі дзень і ноч, таму што ў піўной вокнаў зусім не было. Але на скляпеннях можна было яшчэ досыць выразна разабраць сляды займальнага насценнага жывапісу. На гэтым жа малюнку балявала вялікая кампанія нямецкіх малойчыкаў у паляўнічых зялёных куртках, у капелюшах з цецеруковымі пёрамі, са стрэльбамі за плячыма. Усе яны, павярнуўшыся тварам да піўной залы і выставіўшы куфлі, віталі публіку, а двое пры гэтым яшчэ абдымалі за талію дзвюх дзябёлых паненак, служанак пры вясковай карчме, а магчыма дачок шаноўнага фермера. На другой сцяне быў намаляваны вялікасвецкі пікнік часоў першай паловы XVIII стагоддзя; графіні і віканты ў напудраных парыках манерна весяляцца на зялёным лузе з ягняткамі, а побач, пад разложыстымі вербамі,— ставок з лебедзямі, якіх грацыёзна кормяць кавалеры і дамы, што сядзяць у нейкай залатой шкарлупіне. На другім малюнку была хахлацкая хата і сям'я шчаслівых маларасіян, якія скачуць гапака са штофамі ў руках. Яшчэ далей красавалася вялікая бочка, і на ёй, увітыя вінаградам і лісцем хмелю, два агідна тоўстыя амуры з чырвонымі тварамі, тлустымі губамі і бессаромна маслянымі вачыма чокаюцца плоскімі келіхамі. У другой зале, аддзеленай ад першай паўкруглай аркай, ішлі малюнкі з жыцця жаб: жабы п'юць піва ў зялёным балоце, жабы палююць на стракоз сярод густога чароту, грае струнны квартэт, б'юцца на шпагах і г. д. Відаць, сцены размалёўваў замежны майстар.

Замест сталоў былі расстаўлены на падлозе, густа пасыпанай пілавіннем, цяжкія дубовыя бочкі: замест крэслаў — невялікія бочачкі. Направа ад уваходу ўзвышалася невялікая эстрада, а на ёй стаяла піяніна. Тут кожны вечар, ужо шмат год запар, граў на скрыпцы для пацехі і забавы гасцей музыкант Сашка — яўрэй, лагодны, вясёлы, п'яны, лысы чалавек, з выглядам аблезлай малпы, няпэўнага ўзросту. Міналі гады, мяняліся лакеі ў скураных нарукаўніках, мяняліся пастаўшчыкі і развозчыкі піва, мяняліся самі гаспадары піўной, а Сашка нязменна кожны вечар к шасці гадзінам ужо сядзеў на сваёй эстрадзе са скрыпкай у руках з маленькім беленькім сабачкам на каленях, а каля гадзіны ночы пакідаў Гамбрынус у суправаджэнні той жа сучкі Белачкі, ледзьве трымаючыся на нагах ад выпітага піва.

Між іншым, была ў Гамбрынусе і другая нязменная асоба —буфетчыца пані Іванова — гладкая, бяскроўная, старая жанчына, якая ад бесперапыннай седні ў сырым піўным сутарэнні нагадвала бледных лянівых рыб, што насялялі глыбіні марскіх пячор. Як капітан карабля з рубкі, яна з вышыні сваёй буфетнай стойкі маўкліва распараджалася абслугай і ўвесь час курыла, трымаючы папяросу ў правым кутку рота ды жмурачы ад дыму правае вока. Голас яе рэдка каму ўдавалася пачуць, а на паклоны яна адказвала заўсёды аднолькавай халоднай усмешкай.

## II

Вялізны порт, адзін з самых вялікіх гандлёвых портаў свету, заўсёды быў повен суднаў. У яго заходзілі цёмна-ржавыя гіганцкія браняносцы. У ім грузіліся, ідучы на Далёкі Усход, жоўтыя таўстатрубыя параходы Добраахвотнага флоту, якія паглыналі штодзень доўгія цягнікі з таварамі або тысячы арыштантаў. Увесну і ўвосень тут развяваліся сотні сцягоў з усіх канцоў зямнога шара, і з раніцы да вечара чувац была каманда і лаянка на самых розных мовах. Ад суднаў да незлічоных пакгаузаў і назад па хісткіх сходнях снавалі грузчыкі: рускія басякі, абадраныя, амаль голыя, з п'янымі, апухлымі тварамі, смуглявыя туркі ў брудных чалмах і ў шырокіх

да каленяў, але абцягнутых вакол галёнкі шараварах, прысадзістыя мускулістыя персы, з валасамі і пазногцямі, пафарбаванымі хной у вогненна-моркаўны колер. Часта ў порт заходзілі зводдаль чароўныя дзвюх- і трохмачтавыя італьянскія шхуны са сваімі правільнымі паверхамі ветразяў — чыстых, белых і пругкіх, як грудзі ў маладых жанчын; паказваючыся з-за маяка, гэтыя стройныя караблі ўяўляліся — асабліва ў ясныя вясновыя ранкі — цудоўнымі белымі зданямі, што плывуць не па вадзе, а ў паветры, вышэй небасхілу. Тут месяцамі гойдаліся ў брудна-зялёнай партовай вадзе, сярод смецця, шкарлупіння ад яек, кавуновых корак і чародак белых марскіх чаек, высакаверхія анаталійскія качэрмы і трапезондскія фялюгі, нязвыкла размаляваныя, з дзівоснаю разьбою і арнаментамі. Сюды зрэдку заплывалі і нейкія дзіўныя вузкія судны, пад чорнымі прасмоленымі ветразямі, з бруднай анучай замест сцяга; абмінуўшы мол і ледзь-ледзь не чыркануўшы аб яго бартом, такое судна, моцна нахіліўшыся на бок і не сцішаючы ходу, залятала ў любую гавань, прыставала сярод рознамоўнай лаянкі, кляцьбы і пагроз да першага зручнага мола, дзе матросы яго,— зусім голыя бронзавыя маленькія людзі,— абзываючыся гартанным клекатаннем, з неверагоднай хуткасцю спускалі падраныя ветразі, і вокамгненна бруднае, таямнічае судна рабілася, як мёртвае. І гэтак жа загадкава, цёмнаю ноччу, не запальваючы агнёў, яно ціха знікала з порта. Увесь заліў па начах кішэў лёгкімі лодачкамі кантрабандыстаў. Тутэйшыя і далёкія рыбакі прывозілі ў горад рыбу: увесну — поўныя баркасы дробнай камсы, улетку — пачварную камбалу, увосень — макрэль, тлустую кефаль і вустрыцы, а ўзімку — дзесяці- і дванаццаціпудовую бялугу, злоўленую часта з вялікай небяспекаю для жыцця за многа вёрст ад берага.

Усе гэтыя людзі — матросы розных нацый, рыбакі, качагары, вясёлыя юнгі, партовыя злодзеі, машыністы, рабочыя, лодачнікі, грузчыкі, вадалазы, кантрабандысты — усе былі маладыя, дужыя, з моцным пахам мора і рыбы, яны ведалі цяжар працы, любілі харaство і жах штодзённай рызыкі, цанілі вышэй за ўсё сілу, маладзецтва, запал і зухаватасць моцнага слоўца, а на сушы аддаваліся з дзікай асалодай гульбе, п'янству ды бойкам. Па вечарах агні вялікага горада, што ўзбягалі высока ўгару, вабілі іх, быццам чароўныя бліскучыя вочы, якія заўсёды абяцаюць нешта новае, раднаснае, яшчэ не зведанае, і заўсёды ашукваюць...

Горад злучаўся з портам вузкімі, крутымі, каленчатымі вулачкамі, па якіх прыстойныя людзі асцерагаліся хадзіць уночы. На кожным кроку тут трапляліся начлежныя дамы з бруднымі закратаванымі вокнамі, са змрочным святлом адзінокай лямпы ўнутры. Яшчэ часцей пападаліся крамы, у якіх можна было прадаць з сябе ўсю вопратку аж да споднняй матроскай сеткі і зноў апранууца ў які хочаш марскі гарнітур. Тут было таксама шмат піўных, тавернаў, кухмістарскіх і корчмаў з выразнымі шыльдамі на ўсіх мовах і нямала яўных і таемных публічных дамоў, з парогаў якіх па начах груба размаляваныя жанчыны зазывалі асіплымі галасамі матросаў. Былі грэчаскія кавярні, дзе гулялі ў даміно і ў шэсцьдзесят шэсць, і турэцкія кавярні з прыборамі для курэння наргіле і з начлегам за пятак; былі ўсходнія шынкі, дзе прадавалі смаўжоў, пeталідзі, краветак, мідзій, вялікіх чарнільных каракаціц ды іншую марскую поскудзь. Дзесьці на гарышчах і ў сутарэннях, за глухімі аканіцамі, знаходзілі прытулак ігральныя прытоны, у якіх штос і бакара не раз заканчваліся тым, што каму-небудзь прапорвалі жывот ці праломлівалі чэрап, і тут жа побач, за рогам, часам у суседняй каморцы, можна было спусціць якую хочаш крадзеную рэч, ад брыльянтавага бранзалета да срэбнага крыжа і ад цюка з ліёнскім аксамітам да казённага матроскага шыняля.

Гэтыя крутыя, вузкія вулачкі, чорныя ад вугальнага пылу, к ночы заўсёды рабіліся ліпкімі і смярдзючымі, нібыта яны пацелі ў немарасным сне.





Мал. А. КАШКУРЭВІЧА

І яны былі падобныя да сточных канаў або да брудных кішок, па якіх вялікі міжнародны горад выкідваў у мора ўсе свае адкіды, усю сваю гніль, паскудзь і распусту, заражаючы імі дужыя мускулістыя целы і простыя душы.

Тутэйшыя распуснікі рэдка падымаліся наверх у прыбраны, заўсёды святочны горад з яго люстраным шклом, гордымі помнікамі, ззяннем электрычнасці, асфальтавымі дарожкамі, прысадамі белай акацыі, велічнымі паліцэйскімі, з усёй яго паказной чысцінёй і добраўпарадкаванасцю. Але кожны з іх, перш чым пусціць на вецер свае працоўныя, зацухмоленыя, падраныя, разбухлыя рублёўкі, абавязкова наведваў Гамбрынус. Гэта было асвенчана даўнейшым звычаем, хоць дзеля гэтага і трэба было пад сховаю вячэрняга мораку прабірацца ў самы цэнтр горада.

Многія, праўда, зусім не ведалі мудрагелістага імя славутага піўнога караля. Звычайна хто-небудзь прапаноўваў:

— Пойдзем да Сашкі?

А другія адказвалі:

— Ёсць! Так трымаць.

І ўжо ўсе разам гаварылі:

— Віра!

Няма нічога дзіўнага, што сярод партовых і марскіх людзей Сашка карыстаўся большаю павагаю і слыннасцю, чым, напрыклад, мясцовы архірэй ці губернатар. І несумненна, калі не яго імя, дык яго жывы, як у малпы твар і яго скрыпка ўспаміналіся часам у Сіднеі і ў Плімуце, гэтак жа як у Нью-Йорку, ва Уладзівастоку, у Канстанцінопалі і на Цэйлоне, не лічачы ўжо ўсіх заліваў і бухт Чорнага мора, дзе было многа прыхільнікаў яго таленту сярод адважных рыбакоў.

## III

Звычайна Сашка прыходзіў у Гамбрынус тады, калі там яшчэ нікога не было, апрача аднаго-двух выпадковых наведвальнікаў. У залах у гэты час стаяў густы і кіслы пах учарашняга піва і было даволі змрочна, таму што ўдзень эканомілі газ. У спякотлівыя ліпеньскія дні, калі каменны горад пакутаваў ад сонца і глух ад вулічнага грукату, тут прыемна адчуваліся цішыня і халадок.

Сашка падыходзіў да прылаўка, вітаўся з пані Івановай і выпіваў свой першы куфаль піва. Часам буфетчыца прасіла:

— Саша, сыграйце што-небудзь!

— Што загадаеце вам сыграць, пані Іванова? — ветліва цікавіўся Сашка, які заўсёды быў з ёю падкрэслена пачцівы.

— Што-небудзь сваё...

Ён садзіўся на сваё месца налева ад піяніна і іграў нейкія дзіўныя, доўгія, тужлівыя п'есы. Рабілася неяк сонна і ціха ў падзямеллі, толькі з вуліцы даносілася глухое вуркатанне горада ды зрэдку лакеі асцярожна пазвоньвалі посудам за сцяною на кухні. Са струн Сашкавай скрыпкі плакаў стары, як зямля, яўрэйскі смутак, увесь затканы і ўвіты сумнымі кветкамі нацыянальных мелодый. Твар Сашкі з напружаным падбародкам і нізка апушчаным ілбом, з вачыма, што востра зіркалі з-пад цяжкіх броваў, зусім не быў падобны ў гэты змрочлівы час на той знаёмы ўсім гасцям Гамбрынуса ашчэраны, мірглівы, скрыўлены твар Сашкі. Сучка Белачка сядзела ў яго на каленях. Яна даўно прывыкла не падвываць музыцы, але страсна-тужлівыя, надрыўныя і праклённыя гукі міжвольна раздражнялі яе: яна ў сутаргавых позяхах шырока ашчэрвала пашчу, завіваючы назад тонкі ружовы язычок, і пры гэтым на хвіліну калацілася ўсім цельцам і пяшчотнай чарнавокай мызай.



Але вось мала-памалу збіралася публіка, прыходзіў акампаніятар, які ўладкаваў якую-небудзь пабочную дзённую справу ў краўца або майстра па гадзінніках, на буфеце выстаўляліся сасіскі ў гарачай вадзе і бутэрброды з сырам і, нарэшце, запальваліся ўсе астатнія газавыя ражкі. Сашка выпіваў свой другі куфаль, камандаваў таварышу: «Майскі парад, эйн, цвэйн дрэй!» — і распачынаў завірушны марш. З гэтае хвіліны ён ледзьве паспяваў вітацца з новымі наведвальнікамі, з якіх кожны лічыў сябе за асаблівага, інтымнага знаёмага Сашкі, аглядваў горда іншых гасцей пасля яго паклону. У той жа час Сашка прыжмурваў то адно, то другое вока, збіраў дагары доўгія маршчыны на сваім лысым пакатым чэрапе, камічна варушыў губамі і ўсміхаўся на ўсе бакі.

Да дзесяці-адзінаццаці гадзін Гамбрынус, дзе месцілася ў залах да двухсот і больш чалавек, ужо быў бітма набіты. Многія, амаль палова, прыходзілі з жанчынамі ў хустачках, ніхто не крыўдаваў на цесноту, на прыціснутую нагу, на пакамечаную шапку, на чужое піва, якое заліло штаны: калі крыўдавалі, дык толькі па п'янцы «для зачэпу». Вільгаць сутарэння, цьмяна паблісківаючы, яшчэ шпарчэй бруілася са сцен, пакрытых маслянай фарбай, а парнасць ад натоўпу капала са столі долу, нібы рэдкі, цяжкі, цёплы дождж. Пілі ў Гамбрынусе сур'ёзна. У норавах гэтай установы лічылася за асаблівую шыкоўнасць, седзячы ўдваіх-утраіх, так устаўляць стол пустымі бутэлькамі, каб за імі не бачыць субяседніка, як у шкляным зялёным лесе. У развале вечара госці чырванелі і рабіліся мокрыя. Тытунёвы дым еў вочы. Трэба было крычаць і нахіляцца цераз стол, каб пачуць адзін аднаго ў агульным тлуме. І толькі нястомная скрыпка Сашкі, які сядзеў на сваім узвышэнні, брала верх над духатою, над гарачынёю, над пахам тытуню, газу, піва і над шумам бесцырымоннай публікі.

Але наведвальнікі хутка п'янелі ад піва, ад блізкасці жанчын, ад гарачага паветра. Кожнаму хацелася сваіх любімых, знаёмых песень. Каля Сашкі заўсёды таўкліся, торгаючы яго за рукаў і перашкаджаючы яму іграць, па два, па тры чалавекі, з тупымі вачыма і няцвёрдым крокам.

— Сашка!.. С-стра-дальную... Зра..— п'яны ікаў: — з-зра-бі ласку!

— Зараз, зараз,— паўтараў Сашка, хутка ківаючы галавой, і са спрытам доктара, без гуку, апускаў у бакавую кішэню срэбную манету.— Зараз, зараз.

— Сашка, гэта ж подласць. Я грошы даў і ўжо дваццаць разоў прашу: «У Адэсу морам я плыла».

— Зараз, зараз...

— Сашка, «Салаўя»!

— Сашка, «Марусю»!

— «Зец-Зец», Сашка, «Зец-Зец»!

— Зараз, зараз...

— «Ча-ба-на»! — галасіў з другога канца залы не чалавечы, а нейкі жарабячы голас.

І Сашка пад агульны рогат крычаў яму па-петушынаму:

— Зар-ра-аз...

І ён іграў без адпачынку ўсе заказаныя песні. Мусіць, не было ніводнай, якой бы ён не ведаў напамяць. З усіх бакоў у кішэні яму сыпаліся срэбныя манеты, і з усіх сталоў яму прысылалі куфлі з півам. Калі ён злазіў са сваёй эстрады, каб падысці да буфета, яго ледзьве не разрывалі.

— Сашачка... Міл чал'век... Адзін куфлік.

— Саша, за ваша здароўе. Ідзі ж сюды, чорт, пячонкі, селязёнкі, калі табе гавораць.

— Сашка-а, піва ідзі пі-іць! — галасіў жарабячы голас.

Жанчыны, схільныя, як і ўсе жанчыны, захапляцца людзьмі эстрады, ка-

кетнічаць, выпінацца і рабалепстваваць перад імі, запрашалі яго шчабятлівым голасам, з гуллівым, капрызным смяшком:

— Сашачка, вы павінны абавязкова ад мяне выпіць... Не, не, не, я вас прасю. І потым сыграйце «кукувок».

Сашка ўсміхаўся, крыўляўся і кланяўся налева і направа, прыціскаў руку да сэрца, пасылаў паветраныя пацалункі, піў каля ўсіх сталоў піва і, вярнуўшыся да піяніна, на якім яго чакаў новы куфаль, пачынаў іграць якую-небудзь «Разлуку». Іншы раз, каб пацешыць сваіх слухачоў, ён прымушаў сваю скрыпку ў лад матыву скуголіць шчанём, рохкаць свіннёю або хрыпець страшэннымі басовымі гукамі. І слухачы сустракалі гэтыя жарты з дабрадушнаю хвальбою.

— Го-го-го-го-о-о!

Рабілася ўсё больш душна. Са столі цякло, некаторыя з гасцей плакалі ўжо, стукаючы сябе ў грудзі, другія з крывавымі вачыма спрачаліся за жанчын і за даўнейшую крыўду і лезлі адзін да аднаго, хоць іх і стрымлівалі больш цвярозыя суседзі, часцей за ўсё падхалімы. Лакеі цудам праціскваліся паміж бочак і бочачак, высока-высока трымаючы над галовамі ў гасцей свае рукі, з нанізанымі піўнымі куфлямі. Пані Іванова, яшчэ больш бяскроўная, абыякавая і маўклівая, чым заўсёды, распараджалася з-за буфетнай стойкі абслугаю, накшталт капітана судна ў часе буры.

Усіх адольвала жаданне спяваць. Сашка, які размяк ад піва, ад уласнай дабраты і ад той грубай радасці, што прыносіла іншым яго музыка, гатоў быў іграць усё, што ад яго патрабавалі. І пад гукі яго скрыпкі ахрыплыя людзі няскладнымі глухімі галасамі крычалі ў адзін тон, пазіраючы ў вочы адзін аднаму з бяздумнай сур'ёзнасцю:

На что нам раз-азлучаться,
Ах, на что в разлу-уке жить.
Не лучше ль повенчаться,
Любовью дорожить?

А побач другая кампанія, стараючыся перакрычаць першую, напэўна варожую, галасіла ўжо зусім не ў лад:

Вижу я по походке,
Что пестреются штанцы.
В него волос под шантрета
И на рипах сапоги.

Гамбрынус часта наведвалі малаазіяцкія грэкі «дапгалакі», якія прыплывалі ў рускія порты на рыбныя промыслы. Яны таксама заказвалі Сашку свае ўсходнія песні, з нудным, гугнявым аднастайным завываннем на дзвюхтрох нотах, і са змрочнымі тварамі, з гарачымі вачыма гатовы былі спяваць іх цэлыя гадзіны. Іграў Сашка і італьянскія народныя куплеты, і хахлацкія думкі, і яўрэйскія вясельныя танцы, і шмат чаго іншага. Аднойчы зайшла ў Гамбрынус купка матросаў-неграў, якім, гледзячы на другіх, таксама вельмі захацелася паспяваць. Сашка хутка ўлавіў на вуха жывую негрыцянскую мелодыю, тут жа падабраў да яе акампанемент на піяніна, і вось, на вялікую радасць і захапленне сталых наведвальнікаў Гамбрынуса, піўная напоўнілася дзіўнымі, капрызнымі, гартаннымі гукамі афрыканскай песні.

Адзін рэпарцёр мясцовай газеты, Сашкаў знаёмы, упрасіў неяк прафесара музычнага вучылішча пайсці ў Гамбрынус паслухаць тамтэйшага знакамітага скрыпача. Але Сашка здагадаўся пра гэта і знарок прымусіў скрыпку больш чым звычайна мяўкаць, бляяць і раўсці. Госці Гамбрынуса так і разрываліся ад смеху, а прафесар сказаў з пагардаю:

— Блазенства.

І пайшоў, не дапіўшы свайго піва.



## IV

Нярэдка далікатныя маркізы і п'янаватыя нямецкія паляўнічыя, тоўстыя амуры і жабы бывалі са сваіх сцен сведкамі такой вясёлай гулянкі, якую рэдка дзе можна было б убачыць, апрача Гамбрынуса.

Прыходзіла, напрыклад, падгуляўшая кампанія злодзеяў пасля ўдалай аперацыі, кожны з каханкай, кожны ў шапцы, па-заліхвацку заламанай набакір, у лакіраваных ботах, з вытанчанымі шынковымі манерамі, з пагардлівым выглядам. Сашка іграў для іх зладзейскія песні: «Загінуў я, хлапчына», «Не плач ты, Маруся», «Прайшла вясна» і іншыя. Танцаваць яны лічылі ніжэй за сваю годнасць, але іх сяброўкі, якія ўсе былі нішто сабе з твару, маладзенькія, некаторыя амаль дзяўчынкі, танцавалі «Чабаны» з віскам і цокатам абцасаў. І жанчыны і мужчыны пілі дужа многа,— блага было толькі тое, што злодзеі заўсёды заканчвалі сваю гульбу даўнейшымі грашовымі непаразуменнямі і любілі знікнуць, не разлічыўшыся.

Прыходзілі вялікімі арцелямі, чалавек па трыццаць, рыбакі пасля багатага ўлову. Позняй восенню выпадалі такія шчаслівыя тыдні, калі за кожны заход выцягвалі штодзённа тысяч па сорак скумбрыі або кефалі. За гэты час самы дробны пайшчык зарабляў больш за дзвесце рублёў. Але яшчэ больш узбагачаў рыбакоў удалы лоў бялугі ўзімку, затое ён і звязаны быў з вялікімі цяжкасцямі. Даводзілася шмат працаваць, за трыццаць-сорак вёрст ад берага, сярод ночы, часта ў непагадзь, калі вада залівала баркас і адразу ж пакрывалася лёдам на вопратцы, на вёслах, а надвор'е трымала па двое, па трое сутак у моры, пакуль не выкідвала куды-небудзь вёрст за дзвесце, у Анапу або Трапезонд. Кожную зіму гінула без вестак да дзесяці ялікаў, і толькі ўвесну хвалі прыбівалі то тут, то там да чужога берага трупы адважных рыбакоў.

Затое, калі яны вярталіся з мора ўдала і шчасліва, дык на сушы імі авалодвала страшэнная прага жыцця. Некалькі тысяч рублёў спускалася за два-тры дні ў самай грубай вар'яцкай, п'янай гульбе. Рыбакі забіраліся ў шынок або яшчэ ў якое-небудзь вясёлае месца, выкідвалі ўсіх пабочных гасцей, зачынялі наглуха дзверы і аканіцы і цэлыя суткі навылёт пілі, аддаваліся каханню, гарлапанілі песні, білі люстры, посуд, жанчын і нярэдка адзін аднаго, пакуль сон не адольваў іх дзе папала — на сталах, на падлозе, упоперак ложкаў, сярод пляўкоў, акуркаў, бітага шкла, паразліванага віна і крывавых плям. Так гулялі рыбакі некалькі сутак запар, часам мяняючы месцы, часам застаючыся ў адным і тым жа. Прагуляўшы ўсё да апошняй капейкі, яны са знакамі боек на твары, калоцячыся з пахмелля, ад якога гуло ў галаве, маўклівыя, прыгнечаныя і ўжо раскаяныя, ішлі на бераг, да баркасаў, каб зноў узяцца за сваё любае і праклятае, цяжкое і захапляючае рамяство.

Яны ніколі не забывалі наведаць Гамбрынус. Яны туды ўрываліся вялізныя, асіплыя, з чырвонымі тварамі, абпаленымі лютым зімнім нордостам, у куртках, што не прапускалі ваду, у скураных штанах і ў валовых ботах па сцёгны,— у тых самых ботах, у якіх сябры іх сярод бурнай ночы ішлі на дно, як камяні.

З павагі да Сашкі яны не выганялі пабочных, хоць і адчувалі сябе гаспадарамі піўной і білі цяжкія куфлі аб падлогу. Сашка іграў ім іхнія рыбацкія песні, напеўныя, простыя і грозныя, як шум мора, і яны спявалі ўсе ў адзін голас, з апошняе сілы напружваючы свае здаровыя грудзі і загартаваныя глоткі. Сашка дзейнічаў на іх, нібы Арфей, які ўціхамірваў хвалі, і здаралася, што які-небудзь саракагадовы атаман баркаса, барадаты, увесь засівераны, падобны да звера чалавечына, заліваўся слязьмі, выводзячы тонкім голасам жаласлівыя словы песні:

Ах бедный, бедный я, мальчишечка,
Что вродился рыбаком...

А бывала яны танцавалі, топчучыся на месцы, са скамянелымі тварамі, грукаючы сваімі пудовымі ботамі, і ад іх па ўсёй піўной несла вострым салёным пахам, які наскрозь уеўся ў іхнія целы і вопратку. Да Сашкі яны былі вельмі шчодрыя і доўга не адпускалі ад сваіх сталоў. Ён добра ведаў парадак іх цяжкога, небяспечнага жыцця. Часта, калі ён іграў ім, дык адчуваў у сваёй душы нейкае шкадаванне і жальбу.

Але асабліва ён любіў іграць англійскім матросам з камерцыйных суднаў. Яны прыходзілі гуртам, трымаючыся рука за руку — усе нібы на падбор грудастыя, з шырокімі плячыма, маладыя, белазубыя, са здаровым румянцам, з вясёлымі, смелымі блакітнымі вачыма. Моцныя мускулы распіралі іх курткі, а з глыбока выразаных каўняроў падымаліся роўныя, магутныя стройныя шыі. Некаторыя ведалі Сашку па ранейшых стаянках у гэтым порце. Яны пазнавалі яго і, ветліва выскаляючы белыя зубы, віталі яго па-руску:

— Здрайст, здрайст.

Сашка сам, без запрашэння, іграў ім.

Напэўна, усведамленне таго, што яны зараз знаходзяцца ў краіне, абцяжаранай вечнай няволяй, надавала асабліва гордую ўрачыстасць гэтаму гімну англійскай свабоды. І калі яны спявалі, стоячы, з непакрытымі галовамі, апошнія цудоўныя словы:

Никогда, никогда, никогда
Англичанин не будет рабом!—

дык міжвольна і самыя буяныя суседзі здымалі шапкі.

Асадзісты боцман з завушніцай і з барадой, якая расла, нібы махры, з шыі, падыходзіў да Сашкі з двума куфлямі піва, шырока ўсміхаўся, ляпаў яго прыязна па спіне і прасіў сыграць джыгу. Пры першых жа гуках гэтага заліхвацкага марскога танца англічане ўсхопліваліся і расчышчалі месца, адсоўваючы да сцен бочкі. Староніх прасілі аб гэтым жэстамі, з вясёлымі ўсмешкамі, але калі хто не спяшаўся, з тым доўга не важдаліся, а проста выбівалі з-пад яго крэсла ладным ударам нагі. Да гэтага, аднак, даходзіла рэдка, таму што ў Гамбрынусе ўсе былі аматарамі танцаў і асабліва любілі англійскую джыгу. Нават сам Сашка, не перастаючы іграць, станавіўся на крэсла, каб лепей бачыць.

Матросы рабілі круг і ў такт шпаркаму танцу пляскалі ў далоні, а два з іх выходзілі на сярэдзіну. Танец паказваў жыццё матроса ў часе плавання. Судна гатова да адыходу, надвор'е цудоўнае, усё як мае быць. У танцораў рукі скрыжаваны на грудзях, галовы адкінуты назад, цела спакойнае, хоць ногі выбіваюць шалёны пошчак. Але вось узняўся ветрык, пачынаецца невялікая гойданка. Для марака — гэта адна радасць, толькі каленцы танца робяцца ўсё больш складаныя і мудрагелістыя. Задзьмуў і сцюдзёны вецер — хадзіць па палубе ўжо не так зручна,— танцораў крыху пагойдвае з боку на бок. Нарэшце вось і сапраўды бура — матроса кідае ад барта да барта, блізка і да бяды. «Усе наверх, здымаць ветразі!» Па рухах танцораў да смешнага зразумела, як яны караскаюцца рукамі і нагамі на ванты, цягнуць ветразі і замацоўваюць шкоты, між тым як бура ўсё мацней гойдае судна. «Стой, чалавек за бортам!» Спускаюць шлюпку. Танцоры, апусціўшы долу галовы, напружыўшы магутныя голыя шыі, вяслуюць частымі ўзмахамі, то згінаючы, то выпростваючы спіны. Але бура праходзіць, мала-памалу сціхае гойданка, праясняецца неба, і вось ужо судна зноў плаўна бяжыць з ветрам, і зноў танцоры з нерухомымі целамі, са скрыжаванымі рукамі вытанцоўваюць вясёлую частую джыгу.





Даводзілася Сашку іншы раз іграць лезгінку для грузін, якія займаліся ў ваколіцах горада вінаробствам. Для яго не было незнаёмых танцаў. У той час калі адзін танцор, у папасе і чаркесцы, лёгка кружыўся паміж бочкамі, закідваючы за галаву то адну, то другую руку, а яго сябры пляскалі ў такт і пакрыквалі, Сашка таксама не мог стрымацца і разам з імі з запалам крычаў: «Хас! хас! хас! хас!» Выпадала яму таксама іграць малдаўскі джок, і італьянскую тарантэлу, і вальсы нямецкім матросам.

Іншы раз у Гамбрынусе біліся, і вельмі страшна. Старыя наведвальнікі любілі расказваць пра легендарную бойку паміж рускімі ваеннымі матросамі, звоненымі ў запас з нейкага крэйсера, і англійскімі маракамі. Біліся кулакамі, касцетамі, куфлямі з-пад піва і нават кідалі адзін у аднаго бочкамі для сядзення. Не да гонару рускіх воінаў трэба сказаць, што яны першыя распачалі скандал, першыя пусцілі ў ход нажы і выпхнулі англічан з піўной толькі пасля паўгадзіннай бойкі, хоць пераўзыходзілі іх па колькасці ў тры разы.

Вельмі часта ўмешваўся Сашка і спыняў сварбу, бо да крыві было на валасок. Ён падыходзіў, жартаваў, ўсміхаўся, крыўляўся, і ў тую ж хвіліну з усіх бакоў да яго цягнуліся келіхі:

— Сашка, куфлічак!.. Сашка, са мной!.. Вера, закон, пячонкі, труна...

Мабыць, на простыя дзікія звычаі рабіла ўплыў гэтая лагодная і смешная ласка, якая весела праменілася з яго вачэй, схаваных пад пакатым чэрапам? Мабыць, своеасаблівая павага да таленту і нешта накшталт удзячнасці? А можа і той факт, што большасць сталых наведвальнікаў Гамбрынуса заставалася вечнымі Сашкавымі даўжнікамі.

У цяжкія хвіліны «дэкохту», што на марскім і партовым жаргоне азначае поўнае безграшоўе, да Сашкі не саромячыся і безадмоўна звярталіся па дробныя сумы або па невялікі крэдыт у буфеце.

Вядома, доўгу яму не вярталі — і не знарок, а таму што забываліся,— але гэтыя самыя даўжнікі ў хвіліну бурнай весялосці вярталі Сашку пазыку з лішкам — за яго песні.

Буфетчыца іншым разам казала яму:

— Дзіўлюся, Саша, як гэта вы не шкадуеце сваіх грошай?

Ён пярэчыў, пераконваючы:

— Пані Іванова. Дык жа мне іх з сабой на той свет не браць. Нам з Белачкай хопіць. Белачка, любая мая, ідзі сюды.

## V

Паяўляліся ў Гамбрынусе таксама і свае модныя сезонныя песні.

У часе вайны англічан з бурамі спявалі «Бурскі марш» (здаецца, менавіта ў гэты час ішла бітва рускіх маракоў з англійскімі).

Самае малое разоў з дваццаць на вечар прымушалі Сашку іграць гэтую гераічную п'есу і нязменна ў канцы яе махалі шапкамі, крычалі «ура», а на тых, што не выказвалі свайго захаплення, касавурыліся з непрыязнасцю,— гэта не заўсёды было добрай прыкметай у Гамбрынусе.

Потым надышлі франка-рускія ўрачыстасці. Граданачальнік з кіслай мінай дазволіў іграць марсельезу. Яе таксама патрабавалі штодзённа, але ўжо не так часта, як бурскі марш, крычалі «ура» радзей і шапкамі зусім не махалі. Адбывалася гэта таму, што, з аднаго боку, не было матываў для ігры сардэчных пачуццяў, з другога боку — наведвальнікі Гамбрынуса недастаткова разумелі палітычную важнасць саюза, а з трэцяга — было заўважана, што кожны вечар патрабуюць марсельезу і крычаць «ура» ўсё адны і тыя ж асобы.

Не надоўга зрабіўся людным матыў кек-уока, і нават якісьці выпадковы, завалтужаны купчык, не здымаючы янотавай футры, высокіх галёш і лісінай шапкі, пратанцаваў яго аднойчы між бочак. Аднак на гэты негрыцянскі танец неўзабаве забыліся.

Але вось распачалася вялікая японская вайна. Наведвальнікі Гамбрынуса пачалі жыць паскораным жыццём. На бочках паявіліся газеты, па вечарах спрачаліся аб вайне. Самыя ціхманыя, простыя людзі сталі палітыкамі і стратэгамі, хоць кожны з іх у глыбіні душы калаціўся калі не за сябе, дык за брата, або, што яшчэ дакладней, за блізкага таварыша: у гэтыя дні акрэслена выявілася тая незаўважная і моцная сувязь, якая яднае людзей, што доўга падзялялі працу, небяспеку і штодзённую блізкасць смерці.

Спачатку ніхто не сумняваўся ў нашай перамозе. Сашка расстараўся дзесьці «Курапаткаў марш» і вечароў з дваццаць узапар іграў яго з некаторым поспехам. Але неяк у адзін з вечароў «Курапаткаў марш» быў назаўсёды заглушаны песняй, якую прывезлі з сабою балаклаўскія рыбакі, «салёныя грэкі», або «піндосы», як іх тут называлі:

Ах, зачем нас отдали в солдаты,<br>Посылают на Дальний Восток?<br>Неужели же мы в том виноваты,<br>Што вышли ростом на лишний вершок?

З тае пары ў Гамбрынусе нічога другога не хацелі слухаць. Па цэлых вечарах толькі і было чуваць патрабаванне:

— Саша, для душы! Балаклаўскую! Запасную!

Спявалі і плакалі і пілі ўдвая больш, чым звычайна, як, між іншым, піла тады паголоўна ўся Расія. Кожны вечар прыходзіў хто-небудзь развітвацца, храбрыўся, хадзіў гогалем, кідаў шапку вобземлю, грозіў адзін разбіць усіх япошак і канчаў прачулай песняй са слязамі.

Аднойчы Сашка з'явіўся ў піўную раней, чым заўсёды. Буфетчыца наліла яму першы куфаль і сказала, як звычайна:

— Саша, сыграйце што-небудзь сваё...

У яго раптам перасмыкнуўся твар і куфаль задрыжэў у руках.

— Ведаеце што, пані Іванова? — сказаў ён быццам бы збянтэжаны.— Мяне ж у салдаты забіраюць. На вайну.

Пані Іванова ўспляснула рукамі.

— Ды не можа быць, Саша! Жартуеце?

— Не,— паныла і пакорліва паківаў галавой Сашка,— не жартую.

— Але ж вы з гадоў выйшлі, Саша? Колькі вам?

Гэтым пытаннем неяк да гэтага часу ніхто не цікавіўся. Усе думалі, што Сашку столькі ж год, колькі сценам піўной, маркізам, хахлам, жабам і самому расфарбаванаму каралю Гамбрынусу, які вартаваў уваход.

— Сорак шэсць.— Саша падумаў.— А магчыма сорак дзевяць. Я сірата,— дадаў ён паныла.

— Дык вы ідзіце і растлумачце каму трэба.

— Я ўжо хадзіў, пані Іванова, я ўжо тлумачыў.

— І... ну?

— Ну, мне сказалі: пархаты жыд, жыдоўская морда, пагавары яшчэ — трапіш у клапоўнік... І далі вось сюды.

Увечары навіна стала вядома ўсяму Гамбрынусу, і ўсе, хто спачуваў Сашку, напаілі яго да непрытомнасці. Ён спрабаваў крыўляцца, грымаснічаць, прыжмурваць вочы, але з яго пакорлівых смешных вачэй пазіралі смутак і жах. Адзін даўгалыгі рабочы, па рамястве кацельшчык, раптам даў згоду пайсці на вайну замест Сашкі. Усе добра разумелі недарэчнасць такой прапановы, але Сашка расчуліўся, праслязіўся, абняў кацельнага майстра і тут жа падарыў яму сваю скрыпку. А Белачку ён пакінуў буфетчыцы.

— Пані Іванова, вы ж прыглядайце за сабачкам. Можа я і не вярнуся, дык будзе вам памяць аб Сашку. Белінька мая! Глядзіце, аблізваецца. Ах

ты, мая бедненькая... І яшчэ папрашу вас, пані Іванова. У мяне за гаспадаром засталіся грошы, дык вы палучыце і адпраўце... Я вам напішу адрасы. У Гомелі ў мяне ёсць стрыечны брат, у яго сям'я, і яшчэ ў Жмерынцы жыве ўдава пляменніка. Я ім кожны месяц... Што ж, мы, яўрэі, такі народ... мы любім сваякоў. А я сірата, я адзінокі. Дык бывайце ж, пані Іванова.

— Бывайце, Саша! Давайце хоць пацалуемся на развітанне. Колькі год... І — вы не сярдуйце,— я вас перахрышчу на дарогу.

Сашкавы вочы былі вельмі сумныя, але ён не мог стрымацца, каб не пажартаваць напаследак:

— А што, пані Іванова, я ад рускага крыжа не здохну?

## VI

Гамбрынус абязлюдзеў і заглух, нібыта ён асірацеў без Сашкі і яго скрыпкі. Гаспадар спрабаваў быў запрасіць для прынады квартэт вандроўных мандаліністаў, з якіх адзін, апрануты аперэтачным англічанінам з рыжымі бакамі і наклееным носам, у панталонах у клетку і ў каўнерыку вышэй носа, выконваў з эстрады камічныя куплеты і бессаромныя рухі целам. Але квартэт не меў ніякага поспеху: наадварот, мандаліністам свісталі і кідалі ў іх аб'едкамі сасісак, а галоўнага коміка аднойчы пабілі тэндроўскія рыбакі за кепскае слова пра Сашку.

Аднак, па старой памяці, Гамбрынус яшчэ наведвалі тыя з марскіх і партовых малайцоў, якіх вайна не пацягнула на смерць і пакуты. Спачатку пра Сашку ўспаміналі кожны вечар:

— Эх, Сашку цяпер бы! Душы без яго цесна...

— Та-ак... Дзе гэта ты зараз лунаеш, шаноўны дружа Сашанька?

В полях Маньчжу-у-у-рии далеко...—

зацягваў хто-небудзь новую сезонную песню, сарамліва змаўкаў, а другі гаварыў нечакана:

— Раны бываюць навылётныя, колатыя і сечаныя. А бываюць і рваныя...

Сибе с победой поздравляю.
Тибе с оторванной рукой...

— Чакай, не скавычы... Пані Іванова, ці няма ад Сашкі якіх вестак? Ліста ці паштоўкі?

Пані Іванова цяпер цалюткія вечары чытала газету, трымаючы яе далёка ад вачэй, адкінуўшы галаву і варушачы губамі. Сабачка ляжаў у яе на каленях і ціха хроп. Буфетчыца цяпер ужо не была падобна да бадзёрага капітана, які стаіць на варце, а яе каманда блукала па піўной вялая і сонная.

На пытанне пра Сашкаў лёс яна нехаця ківала галавой.

— Нічога не ведаю... І пісем няма, і з газет нічога невядома.

Потым павольна здымала акуляры і разам з газетай клала іх побач з цёплым сабачкам і, павярнуўшыся, паціху ўсхліпвала.

Іншым разам яна, схіляючыся над Белачкай, гаварыла жаласлівым, пяшчотным галаском:

— Што, Белінька? Што, сабачанька? Дзе наш Саша? Га? Дзе наш гаспадар?

Сабачка ўзнімаў пяшчотную мызачку, міргаў вільготнымі чорнымі вачыма і ў тон буфетчыцы пачынаў ціхенька скавытаць:

— А-у-у-у... Ау-ф... А-у-у...

Але час абточвае і змывае. Мандаліністаў змянілі балалаечнікі, балалаечнікаў руска-маларасійскі хор з дзяўчатамі, і, нарэшце, мацней за іншых асталяваўся ў Гамбрынусе вядомы Лёшка-гарманіст, па прафесіі злодзей, які пасля жаніцьбы вырашыў нарэшце знайсці праведную дарогу. Яго даўно ведалі па розных шынках, а таму цярпелі і тут, ды, між іншым, і трэба было цярпець: справы ў Гамбрынусе ішлі вельмі кепска.

Міналі месяцы, мінуў год. Пра Сашку цяпер ніхто не ўспамінаў, апрача пані Івановай, ды і тая больш не плакала, калі называлі яго імя. Мінуў яшчэ год, пра Сашку забыўся нават і беленькі сабачка.

Але, насуперак Сашкаваму сумненню, ён не толькі не здох ад рускага крыжа, а нават не быў ні разу паранены, хоць прымаў удзел у трох вялікіх бітвах і аднойчы хадзіў у атаку наперадзе батальёна ў складзе музычнай каманды, куды яго залічылі іграць на флейце. Пад Вафангоу ён трапіў у палон і пасля сканчэння вайны быў прывезены на германскім параходзе ў той самы порт, дзе працавалі і буянілі яго сябры.

Вестка аб яго прыездзе, як электрычны ток, паляцела па ўсіх гаванях, молах, прыстанях і майстэрнях... Увечары ў Гамбрынусе было так многа народу, што многім наогул прыходзілася стаяць, куфлі з півам перадаваліся з рук у рукі цераз галовы, і хоць шмат хто ў гэты дзень пайшлі, не разлічыўшыся, Гамбрынус гандляваў, як ніколі. Кацельны майстар прынёс Сашкаву скрыпку, беражна загорнутую ў жончыну хустку, якую ён тут жа і прапіў. Аднекуль прыцягнулі Сашкавага акампаніятара. Лёшка-гарманіст, чалавек самалюбны і ганарысты, нечакана быў запратэставаў. «Я атрымліваю падзённа, і ў мяне кантракт!» — паўтараў ён упарта. Але яго проста выкінулі за дзверы і мусіць пабілі б, каб не Сашкава заступніцтва.

Ужо напэўна ніводзін з айчынных герояў часоў японскай вайны не бачыў такой сардэчнай і бурнай сустрэчы, якую наладзілі Сашку! Дужыя, закарэлыя рукі падхоплівалі яго і з такой сілай падкідвалі ўгору, што ледзь не разбілі Сашку аб столь. І крычалі так моцна, што газавыя язычкі тухлі, а гарадавы некалькі разоў заходзіў у піўную і ўпрошваў, «каб крыху цішэй, таму што на вуліцы вельмі шумна».

У гэты вечар Сашка перайграў усе любімыя песні і танцы Гамбрынуса. Іграў ён таксама і японскія песенькі, якія вывучыў у палоне, але яны не спадабаліся слухачам. Пані Іванова быццам бы ажыла і зноў бадзёра трымалася над сваім капітанскім мосцікам, а Белка сядзела ў Сашкі на каленях і вішчала ад радасці. Здаралася, што калі Сашка пераставаў іграць, дык які-небудзь прастадушны рыбалоў, які толькі цяпер зразумеў цуд Сашкавага вяртання, раптам усклікваў з наіўным і радасным здзіўленнем:

— Хлопчыкі, дык гэта ж Сашка!

Густым іржаннем і вясёлай лаянкай напаўняліся залы Гамбрынуса, і зноў Сашку хапалі, падкідвалі да столі, дзёрлі горла, пілі, чокаліся і аблівалі адзін аднаго півам...

Сашка, здавалася, зусім не змяніўся і не пастарэў за сваю адсутнасць: час і гора гэтак жа мала закранулі яго знешнасць, як і вылепленага Гамбрынуса, ахоўніка і абаронцу піўной. Але пані Іванова з чуйнасцю сардэчнай жанчыны заўважыла, што з Сашкавых вачэй не толькі не знік выраз смутку і жаху, які яна бачыла ў іх пры развітанні, але зрабіўся яшчэ больш глыбокі і значны. Сашка па-ранейшаму крыўляўся, падміргваў і збіраў на лбе маршчыны, але пані Іванова адчувала, што ён прыкідваецца.

## VII

Усё пайшло сваім ладам, як быццам зусім не было ні вайны, ні Сашкавага палону. Гэтак жа адначалі шчаслівы ўлоў бялугі і лабана рыбакі ў ботах-веліканах, гэтак жа танцавалі каханкі злодзеяў, і Сашка па-ранейшаму іграў матроскія песні, якія ён прывёз з усіх гаваняў зямнога шара.

Але ўжо набліжаліся стракатыя зменлівыя бурныя дні. Аднойчы ўвечары ўвесь горад загуў, захваляваўся, нібы патрывожаны набатам, і ў незвычайны час на вуліцах зрабілася чорна ад народу. Маленькія белыя лісткі хадзілі па руках разам з цудоўным словам: «свабода», якое ў гэты вечар безліч разоў паўтарала ўся неабдымная, даверлівая краіна.

Насталі нейкія светлыя, святочныя, урачыстыя дні, і ззянне іх асвятляла нават падзямелле Гамбрынуса. Прыходзілі студэнты, рабочыя, прыходзілі маладыя дзяўчаты. Людзі з дапытлівымі вачыма станавіліся на бочкі, якія так многа бачылі ўсяго на сваім вяку, і гаварылі. Не ўсё было разабраць у гэтых словах, але ад той палымянай надзеі і вялікай любві, якая ў іх гучала, моцна білася сэрца і раскрывалася ім насустрач.

— Сашка, марсельезу! Сма-алі! Марсельезу!

Не, гэта было зусім не падобна да той марсельезы, якую з такой неахвотай дазволіў іграць граданачальнік у тыдзень франка-рускіх урачыстасцей. Па вуліцах хадзілі бясконцыя працэсіі з чырвонымі сцягамі і песнямі. На жанчынах пунсавелі чырвоныя стужкі і чырвоныя кветкі. Сустракаліся зусім незнаёмыя людзі і раптам, светла ўсміхнуўшыся, паціскалі рукі адзін аднаму...

Але ўся гэтая радасць імгненна знікла, нібы яе змыла, як сляды дзіцячых ножак на марскім узбярэжжы. У Гамбрынус аднойчы ўляцеў памочнік прыстава, тоўсты, маленькі, з вылупленымі вачыма, цёмна-чырвоны, як пераспелы памідор.

— Што? Хто тут гаспадар? — хрыпеў ён.— Падавай гаспадара!

Ен угледзеў Сашку, які стаяў са скрыпкаю.

— Ты гаспадар? Маўчаць! Што? Гімны іграеце? Каб ніякіх гімнаў!

— Ніякіх гімнаў больш не будзе, ваша высакароддзе,— спакойна адказаў Сашка.

Паліцэйскі каля самага носа ў Сашкі грозна памахаў указальным пальцам.

— Ні-я-кіх! Я вам пакажу рэвалюцыю, я вам пакажу-у-у!

Памочнік прыстава, як бомба, вылецеў з піўной, і ўсіх адразу ахапіў смутак.

І на ўвесь горад апусціўся змрок. Хадзілі цёмныя, трывожныя, агідныя чуткі. Гаварылі асцерагаючыся, баяліся выдаць сябе позіркам, палохаліся свайго ценю, нават уласных думак. Горад упершыню з жахам падумаў аб той гразі, якая глуха варочалася пад яго нагамі, там унізе, ля мора, і ў якую ён так многа год выкідваў свае атрутныя выпаражненні. Горад забіваў шчытамі люстраныя вокны сваіх шыкоўных магазінаў, ахоўваў патрулямі гордыя помнікі і расстаўляў на ўсякі выпадак па дварах цудоўных дамоў артылерыю. А на ўскраінах у смуродных каморках і на дзіравых гарышчах дрыжэў, маліўся і плакаў ад жаху выбраны народ божы, які даўно быў пакінуты гнеўным біблейскім богам, але які да гэтага часу верыў, што мера яго цяжкіх выпрабаванняў яшчэ не напоўнілася.

Унізе, каля мора, у вуліцах, якія былі падобны да цёмных ліпучых кішак, адбывалася таемная работа. Насцеж былі расчынены ўсю ноч дзверы шынкоў, чайных і начлежак.

Раніцою пачаўся пагром. Тыя людзі, якія аднойчы, расчуленыя ўсеагульнай чыстай радасцю і замілаваныя святлом будучага брацтва, ішлі па вуліцах з песнямі, пад сімваламі заваяванай свабоды,— тыя ж самыя людзі ішлі цяпер забіваць і ішлі не таму, што ім было загадана, і не таму, што яны былі варожа настроены супраць яўрэяў, з якімі часта падтрымлівалі сяброўскія адносіны, і нават не дзеля карысці — бо ці была яна, а таму, што брудны, хітры д'ябал, які жыве ў кожным чалавеку, шаптаў ім на вуха: «Ідзіце. Усё будзе беспакарана: забароненая цікаўнасць забойства, слодыч разбою, улада над чужым жыццём».





У дні пагромаў Сашка свабодна хадзіў па горадзе са сваёй смешнай, як у малпы, чыста яўрэйскай фізіяноміяй. Яго не чапалі. У ім была тая непахісная душэўная смеласць, тая НЯБОЯЗНЬ БОЯЗІ, якая ахоўвае нават слабага чалавека лепш за ўсякія браўнінгі. Але адзін раз, калі ён, прыціснуты да сцяны дома, саступіў з дарогі натоўпу, які бураю ліўся праз усю шырыню вуліцы, нейкі муляр, у чырвонай кашулі і белым фартуху, замахнуўся над ім зубілам і зарыкаў:

— Жы-ыд! Бі жыда! Да кры-ыві!

Але нехта схапіў яго ззаду за руку.

— Стой, чорт, гэта ж Сашка. Елупень ты, такую тваю ў сэрца, у печань...

Муляр спыніўся. Ён у гэты хмельны, дзікі, бяздумны момант гатовы быў забіць каго хочаш — бацьку, сястру, свяшчэнніка, нават самаго праваслаўнага бога, але гэтак жа быў гатовы, як дзіця, паслухацца загаду кожнай цвёрдай волі.

Ён ашчэрыўся, нібы вар'ят, плюнуў і выцер нос рукою. Але раптам на вочы яму трапіўся белы нервовы сабачка, што, калоцячыся, круціўся каля Сашкі. Хутка нагнуўшыся, ён злавіў яго за заднія ногі, высока падняў, стукнуў галавой аб пліты тратуара і пабег. Сашка моўчкі глядзеў на яго. Ён бег, увесь нахіліўшыся наперад, з працягнутымі рукамі, без шапкі, з разяўленым ротам і вачыма, круглымі і белымі ад шаленства.

На Сашкавы боты пырснулі мазгі з Белачкінай галавы, Сашка абцёр пляму хустачкай.

## VIII

Потым настаў дзіўны час, падобны да сну чалавека, разбітага паралюшам. Па вечарах ва ўсім горадзе ні ў адным акне не свяціўся агонь, але затое зырка гарэлі вогненныя шыльды кафэшантанаў і вокны шынкоў. Пераможцы правяралі сваю ўладу, яшчэ не насыціўшыся ўдосталь беспакаранасцю. Нейкія разбэшчаныя людзі ў манчжурскіх папахах, з георгіеўскімі стужкамі ў пятліцах куртак, хадзілі па рэстаранах і з настойлівай нахабнасцю патрабавалі, каб выконваўся народны гімн, і сачылі за тым, каб усе ўставалі. Яны ўрываліся таксама ў прыватныя кватэры, перакапвалі ўсё ў ложках і камодах, патрабавалі гарэлкі, грошай і гімну і напаўнялі паветра п'янай адрыжкай.

Аднаго разу яны ўдзесяцёх прыйшлі ў Гамбрынус і занялі два сталы. Паводзілі яны сябе самым нахабным чынам, пагардліва абыходзячыся з абслугаю, плявалі цераз плечы незнаёмых суседзяў, клалі ногі на чужыя крэслы, вылівалі на падлогу піва, нібыта яно было не свежае. Іх ніхто не чапаў. Усе ведалі, што гэта шпікі, і глядзелі на іх з тым жа таемным страхам і грэблівай цікаўнасцю, з якою просты люд глядзіць на катаў. Адзін з іх быў завадатар. Гэта — нейкі Моцька Гундосы, рыжы, з перабітым носам, гугнявы чалавек — як казалі — вялікай фізічнай сілы, калісьці злодзей, потым выкідала ў публічным доме, пасля сутэнёр і шпік, хрышчоны яўрэй.

Сашка іграў «Мяцеліцу». Раптам Гундосы падышоў да яго. Моцна схапіў яго за правую руку і, павярнуўшыся назад, да гледачоў, крыкнуў:

— Гімн! Народны гімн! Браткі, у гонар шаноўнага манарха... Гімн!

— Гімн! Гімн! — загулі нягоднікі ў папахах.

— Гімн! — крыкнуў зводдаль адзінокі, няўпэўнены голас.

Але Сашка выхапіў руку і сказаў спакойна:

— Ніякіх гімнаў.

— Што? — зароў Гундосы.— Ты не слухацца! Ах ты, жыд смярдзючы!

Сашка нахіліўся наперад, зусім блізка да Гундосага, увесь зморшчыўся, трымаючы апушчаную скрыпку за грыф, спытаў:

— А ты?

— Што́ а я?

— Я жыд смярдзючы. Ну добра. А ты?

— Я праваслаўны.

— Праваслаўны? А за колькі?

Увесь Гамбрынус грымнуў ад смеху, а Гундосы, белы ад злосці, павярнуўся да хаўруснікаў.

— Браткі! — гаварыў ён дрыготкім, плаксівым голасам чыесьці, чужыя, завучаныя словы.— Браткі, дакуль мы будзем трываць здзек ад жыдоў над тронам і святою царквою?..

Але Сашка, падняўшыся на сваё ўзвышэнне, адным гукам прымусіў яго зноў павярнуцца да сябе, і ніхто з наведвальнікаў Гамбрынуса ніколі не паверыў бы, што гэты смешны Сашка, які заўсёды крыўляўся, можа гаварыць так важка і ўладна.

— Ты! — крыкнуў Сашка.— Ты, суччын сын! Пакажы мне свой твар, забойца... Глядзі на мяне!.. Ну!..

Усё адбылося ў адно імгненне. Сашкава скрыпка высока ўзляцела, хутка мільганула ў паветры, і — трах! — высокі чалавек у папасе пахіснуўся ад звонкага ўдару па скроні. Скрыпка разляцелася на кавалкі. У Сашкавых руках застаўся толькі грыф, які ён пераможна падымаў над галовамі ў натоўпе.

— Браткі-кі, ратуй-уй! — залемантаваў Гундосы.

Аднак ратаваць ужо было позна. Магутная сцяна абступіла Сашку і засланіла яго. І тая ж самая сцяна вынесла людзей у папахах на вуліцу.

Але праз гадзіну, калі Сашка, скончыўшы сваю справу, выходзіў з піўной на тратуар, некалькі чалавек накінуліся на яго. Хтосьці з іх стукнуў Сашку ў вока, засвістаў і сказаў гарадавому, які адразу падбег:

— У Бульварны ўчастак. Па палітычнай. Вось мой значок.

## IX

Цяпер у другі раз ужо навек лічылі Сашку пахаваным. Нехта бачыў усю сцэну, што адбылася на тратуары каля піўной, і перадаў яе іншым. А ў Гамбрынусе засядалі вопытныя людзі, якія ведалі, што гэта за ўстанова Бульварны ўчастак і што гэта за штука помста шпікоў.

Але цяпер пра Сашкаў лёс ужо менш непакоіліся, чым у першы раз, неяк скора забыліся пра яго. Праз два месяцы на яго месцы сядзеў новы скрыпач (між іншым, Сашкаў вучань), якога прывёў акампаніятар.

І вось аднойчы, месяцы праз тры, ціхім веснавым адвячоркам, у той час калі музыканты ігралі вальс «Спадзяванне», чыйсьці танклявы голас усклікнуў спалохана:

— Хлопцы, Сашка!

Усе павярнуліся і ўсталі з бочак. Так, гэта быў ён, двойчы ўваскрэшаны Сашка, але цяпер аброслы барадой, схуднелы, бледны. Да яго кінуліся, абступілі, ціскалі яго, мялі, падсоўвалі яму куфлі з півам. Але раптам той самы голас крыкнуў:

— Хлопцы, а рука!..

Усе разам змоўклі. Левая рука ў Сашкі, скручаная і нібы змятая, была прыціснута локцем к боку. Яна, мусіць, не згіналася і не разгіналася, а пальцы ўвесь час тырчалі каля падбародка.

— Што гэта ў цябе, таварыш? — спытаў, нарэшце, валасаты боцман з «Рускага грамадства».

— Э, глупства... там нейкае сухажылле ці што,— адказаў Сашка зусім спакойна.

— Та-а-ак...

— Значыць, і «Чабану» цяпер канец? — спытаў боцман са спачуваннем.

— «Чабану»? — перапытаў Сашка, і вочы ў яго зайгралі. — Эй, ты! — загадаў ён са звычайнай упэўненасцю акампаніятару.— «Чабана»! Эйн, цвэй, дрэй!..

Піяніст хутка зайграў вясёлы танец, недаверліва азіраючыся назад. Але Сашка здаровай рукой дастаў з кішэні нейкі невялічкі, велічынёю з далонь, прадаўгаваты чорны інструмент з адросткам, уставіў гэты адростак у рот і, увесь сагнуўшыся налева, наколькі яму гэта дазваляла знявечаная, нерухомая рука, раптам засвістаў на акарыне аглушальна вясёлага «Чабана».

— Хо-хо-хо! — закаціліся радасным смехам гледачы.

— Чорт! — усклікнуў боцман і зусім нечакана для самога сябе зрабіў спрытны выхад і пачаў выраблядь дробныя каленцы. Падхопленыя яго парывам, пачалі танцаваць госці, жанчыны і мужчыны. Нават лакеі, стараючыся не траціць годнасці, з усмешкаю перабіралі на месцы нагамі. Нават пані Іванова, якая забылася пра абавязкі капітана на варце,ківала галавою ў такт вогненнаму танцу і злёгку пстрыкала пальцамі. І магчыма нават сам стары, наздраваты, паточаны часам Гамбрынус паварушыў брывамі, весела пазіраючы на вуліцу, і здавалася, што з рук знявечанага, згорбленага Сашкі ўбогая, наіўная свістулька спявала на мове, якую, нажаль, яшчэ не разумелі ні сябры Гамбрынуса, ні сам Сашка:

— Нічога! Чалавека можна знявечыць, але мастацтва ўсё сцерпіць і ўсё пераможа.

**З рускай мовы пераклаў**
**Леў САЛАВЕЙ.**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

- Уладзімір ПАДРЭЗ
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Раман МАЧУЛЬСКІ
- Ларыса МАРУШКА
- Ціхан ПІСКУНОЎ
- Аркадзь БРЖАЗОЎСКІ
- Іван КАЛЕСНІК
- Уладзімір ЛІПСКІ
- Міхась МОДЭЛЬ
- Сцяпан ГРАБЧЫКАЎ
- Алесь БАЧЫЛА
- Рыгор ТРУХНОЎ
- Валянцін САЗАНОВІЧ
- Аляксей СУЭЦІН





**Уладзімір ПАДРЭЗ,**
**першы сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

# НАШАЙ МАЛАДОСЦІ СЦЯГ

Камсамол Савецкай Беларусі — адзін з баявых атрадаў Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі — адзначае сваё слаўнае пяцідзесяцігоддзе. Пяцьдзесят гадоў ЛКСМБ — радаснае свята для ўсіх камсамольскіх пакаленняў, якія прайшлі ў яго баявых шэрагах вялікую школу жыцця, першую рэвалюцыйную загартоўку і пакінулі ў гісторыі краіны Саветаў адметны след.

У гэтыя дні, адзначаючы 50-годдзе авангарда беларускай моладзі, мы з асаблівым хваляваннем і гордасцю акідваем позіркам пражытыя гады, пройдзеныя намі дарогі, дарогі цяжкасцей, нястач і радасных перамог. І як бы далёка ні адышлі ў глыбіню гісторыі гады, камсамол, увесь беларускі народ ніколі не забудуць тых, хто аддаў сваё палымянае жыццё, сваё баявое юнацтва роднай сацыялістычнай Айчыне.

Мы сёння ўшаноўваем светлую памяць і юнага рэвалюцыянера, што загінуў на барыкадах ля чырвонага сцяга, і адважнага конармейца, які праліў кроў за родную зямлю, і палымянага культармейца, што загінуў ад здрадніцкай кулацкай кулі. У сваіх сэрцах мы захаваем навечна мужнасць і подзвіг тых, хто ў халадэчу і спёку, днём і ноччу ўзводзіў першыя будоўлі сацыялізма, хто сабою закрываў амбразуры варожых дотаў, хто ўвайшоў у бессмяротнасць з «Інтэрнацыяналам» на вуснах. Мы заўсёды будзем памятаць пра дваццацігадовых юнакоў, якія не дажылі да сённяшняга дня. Паўвекавы юбілей беларускага камсамола — гэта і іх свята, хоць ім ужо ніколі не будзе пяцьдзесят...

Беларускі камсамол за свой пяцідзесяцігадовы гераічны шлях упісаў у летапіс барацьбы і перамог першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян нямала яркіх старонак. Уся яго гісторыя непарыўна звязана са слаўнай гісторыяй ВЛКСМ, з самаадданай барацьбой маладых патрыётаў за ўстанаўленне Савецкай улады, за пабудову сацыялізма ў нашай краіне.

Палымянае, хвалюючае слова — камсамол — упершыню прагучэла на беларускай зямлі ў канцы цяжкага васемнаццатага года. У Мінску і Віцебску, у Оршы і Магілёве, Гомелі і Бабруйску, у вёсках тады ўзніклі першыя камсамольскія ячэйкі. Юныя, гарачыя, хоць з малой адукацыяй, рабочыя і сялянскія юнакі і дзяўчаты ўсім сэрцам успрынялі Вялікі Кастрычнік, пацягнуліся да новага жыцця. Яны змагаліся за яго, смела і рашуча крочылі за людзьмі вялікай мужнасці і волі — бальшавікамі. Яны атрымоўвалі камсамольскі білет, рускую трохлінейку, дваццаць патронаў і ішлі на перадавую лінію агню змагацца супраць ворага. Змагаліся, як належыць сапраўдным героям, аддавалі сваё юнацкае жыццё за вялікую справу рэвалюцыі.

Суровай, цяжкай вясною дзевятнаццатага года па закліку партыі наша камсамолія мабілізоўвала юнакоў і дзяўчат на барацьбу з інтэрвентамі і белагвардзейскімі бандамі. У поўным баявым складзе, на чале са сваімі важакамі ішлі на фронт камсамольскія арганізацыі. Многія з іх, як напрыклад, Шклоўская, Мазырская, Рэчыцкая і іншыя пераходзілі на казарменнае становішча.

Мужна, гераічна змагаліся. Перагорнем некалькі старонак з гісторыі беларускай камсамоліі тых агнявых, незабыўных гадоў.

У віхуры грамадзянскай вайны нарадзілася слава пра легендарнага камдзіва, звычайнага хлопца з-пад Віцебска Уладзіміра Азіна, палкі якога штурмавалі Казань, Чыстапаль, Царыцын. У тыле ворага бясстрашна дзейнічалі партызанскія атрады, якія складаліся ў асноўным з камсамольцаў і моладзі.

Многія юнакі і дзяўчаты — амаль дзве трэцці усёй камсамольскай арганізацыі Оршы — пайшлі змагацца на самыя цяжкія і адказныя франты — Усходні і Заходні. У сваім пісьме яны наказвалі землякам-аршанцам: «Таварышы, трымайце тыл, пакуль мы вернемся пераможцамі з чырвонага фронту, несучы з сабой зламаны шчыт Калчака». Аршанцы ж адказвалі сваім баявым сябрам: «Дарагія таварышы! Камітэт Аршанскай арганізацыі РКСМ віншуе вас з разгромам калчакоўскіх бандаў. Чырвоная моладзь, якая выйшла з асяроддзя рабочых, бяднейшага сялянства, унесла вялікі ўклад у справу гераічнай барацьбы працоўных з капіталам»...

Нямногія аршанскія камсамольцы тых гадоў дачакаліся светлага дня перамогі. Вялікую мужнасць, геразім у барацьбе за шчасце Радзімы праявіла аршанская камсамолка Раіса Ёміна. Пасля разгрому Калчака яна паехала на Паўднёвы фронт, удзельнічала ў самых жорсткіх баях з ворагам. У адным з баёў, калі загінуў камісар, Раіса замяніла яго на баявым пасту і павяла байцоў у атаку. У студзені 1921 года каля станцыі Лазавая Раісу Ёміну з групай байцоў схапілі махноўцы. Яны доўга і бязлітасна здзекаваліся з дзяўчыны-камісара. Калі выдасць ваенную тайну, ёй прапаноўвалі волю, жыццё, узнагароду, але яна адмовілася ад усяго, не пашкадавала жыцця. Ворагі загубілі юную патрыётку — Раісе ў той час ішоў дзевятнаццаты год.

Гісторыя камсамола Беларусі беражліва захоўвае імёны многіх і многіх юнакоў і дзяўчат, якія з марай пра шчаслівую будучыню ўвайшлі ў бессмяротнасць, чыя трывожная маладосць, семнаццатая вясна былі абпалены агнём жорсткіх змаганняў, авеяны легендарнай славай. У сваіх сэрцах, у памяці сваёй многія пакаленні камсамольцаў і моладзі будуць з гонарам ушаноўваць мужнасць і подзвіг падпольшчыкаў Мінска і Слуцка, маладых патрыётаў Бабруйска і Мазыра, подзвіг герояў-партызан славутай Рудабельскай рэспублікі.

У вастраверхіх будзёнаўках, у пасечаных шрапнеллю шынялях, у зашмальцаваных скуранках з усіх краёў галоднай, змардаванай інтэрвентамі, але ахопленай рэвалюцыйнымі пераўтварэннямі рэспублікі сабраліся на свой першы камсамольскі з'езд юнакі і дзяўчаты — гарачы, цікаўны і рашучы малады народ. З'езд, які адбыўся 24 верасня 1920 года, выбраў Цэнтральны Камітэт і аб'яднаў усе камсамольскія арганізацыі ў Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі.

Перад камсамолам рэспублікі, як і перад камсамоліяй усёй краіны, былі пастаўлены вялікія і адказныя задачы па аднаўленні народнай гаспадаркі, разгортванні мірнага сацыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя задачы былі канкрэтна і яскрава выкладзены ў прамове У. І. Леніна на III з'ездзе РКСМ. «У папярэдняга пакалення, — казаў правадыр, — задача зводзілася да звяржэння буржуазіі. Вы павінны пабудаваць камуністычнае грамадства». Уладзімір Ільіч заклікаў моладзь вучыцца камунізму.

Грамадзянская вайна закончы-

лася, але рэвалюцыя прадаўжалася. Яна патрабавала ад кожнай камсамольскай арганізацыі, ад кожнага маладога патрыёта максімуму новых сіл, вялікага працоўнага энтузіязму для сацыялістычнай перабудовы як у горадзе, так і ў вёсцы. І камсамольцы, уся моладзь з падвоенай энергіяй аднаўлялі разбураную імперыялістычнай вайною і інтэрвенцыяй прамысловасць, арганізоўвалі першыя калектыўныя гаспадаркі, спажывецкія кааператывы, адкрывалі хаты-чытальні, уступалі ў ЧОНы, змагаліся з класавым ворагам. У працоўных буднях яны прадаўжалі і мацавалі вялікую справу Кастрычніка, які даў ім самыя шырокія правы, апрача аднаго — дрэнна працаваць, дрэнна вучыцца, дрэнна служыць свайму класу — класу рабочых і сялян.

Пераможна гучэў у працоўных песнях камсамоліі першых пяцігодак голас беларускай моладзі. У канцы дваццатых гадоў 15 тысяч беларускіх камсамольцаў поплеч са шматлікім атрадам юнакоў і дзяўчат краіны па закліку партыі і па загадзе сэрца накіраваліся ў неабжытыя краі — і ў спёку, і ў лютыя маразы будавалі гарады, заводы, фабрыкі, пракладвалі трасы новых дарог. Было вельмі цяжка. Нехапала будаўнічага матэрыялу, харчу, адзення. Але ў сэрцах маладых патрыётаў жылі працоўная рамантыка, велізарны рэвалюцыйны энтузіязм і неадольнае жаданне змагацца і перамагаць. І на вачах вырасталі, станавіліся ў строй Сталінградскі трактарны і Кузбас, Днепрагэс і Магнітка, Камсамольск-на-Амуры і Турксіб...

Нам вельмі прыемна і радасна атрымоўваць сёння ад іх, тых мужных герояў першых ударных будоўляў сацыялізма, сардэчныя, сагрэтыя бацькоўскай цеплынёю словы прывітання з нагоды залатога юбілею камсамола рэспублікі. У цёплых радках лістоў і тэлеграм мы адчуваем іх неспакойнае камсамольскае юнацтва, баявы запал і святую вернасць вялікай партыі камуністаў, якую выхаванцы беларускага камсамола пранеслі праз усё сваё палымянае жыццё.

У буднях вялікіх будоўляў і пераўтварэнняў мужнела і гартавалася камсамольскае юнацтва. Па прыкладзе сваіх старэйшых таварышаў-камуністаў юнакі і дзяўчаты рэспублікі ішлі на самыя адказныя ўчасткі барацьбы за індустрыялізацыю. Камсамол Беларусі ўзяў шэфства над будаўніцтвам БелДРЭСа, Магілёўскай фабрыкі штучнага шоўку, Віцебскай панчошна-трыкатажнай фабрыкі «КІМ», шасейнай дарогі Масква — Мінск, завода «Гомсельмаш», Аршанскага льнокамбіната... На гэтых і іншых будоўлях першых пяцігодак ствараліся маладзёжныя брыгады, нараджаліся подзвігі маладых; камсамольцы ішлі на адстаючыя ўчасткі, у цэхі і брыгады і выводзілі іх у перадавыя. Барацьба за павышэнне прадукцыйнасці працы, павелічэнне выпуску прадукцыі, за эканомію і беражлівасць была галоўным пытаннем парадку дня камсамольскіх сходаў, складала сэнс жыцця і працы маладых патрыётаў. За першую пяцігодку ў рэспубліцы было пабудавана 1700 новых прамысловых прадпрыемстваў. І сёння, як пароль у будучыню, натхнёна гучаць крылатыя словы: «пяцігодка», «ударнік», «культармія», «лёгкая кавалерыя»...

Вялікія, нябачаныя да таго часу пераўтварэнні адбываліся ў вёсцы. Моладзь станавілася актыўным памочнікам партыі ў калектывізацыі сельскай гаспадаркі, яе сацыялістычнай перабудове. Камсамол рэспублікі правёў у 1929 годзе першы масавы паход моладзі «за высокі ўраджай і калектывізацыю». Былі створаны сотні калгасаў, тысячы юнакоў і дзяўчат па камсамольскім закліку авалодвалі тэхнікай і сельскагаспадарчай вытворчасцю.

Камсамол, моладзь Беларусі будавалі, авалодвалі навукай і адначасова, не забываючыся пра небяспеку, вывучалі вайсковую справу, рыхтаваліся ў любы дзень, у кожную гадзіну грудзьмі стаць на абарону сваёй сацыялістычнай Радзімы.

Нечуваным выпрабаваннем для камсамола Беларусі, як і для ўсяго савецкага народа, выпрабаваннем на жыццё і на смерць была Вялікая Айчынная вайна з фашысцкімі рабаўнікамі. Ад першых выбухаў на золаку 22 чэрвеня 1941 года і да залпаў пераможнага салюту моладзь Савецкай Беларусі самаадданa змагалася з ворагам, паказваючы свету цуд мужнасці і адвагі, святую адданасць свайму народу, Радзіме, сцягу камунізма. З першых дзён вайны ў шэрагі Савецкай Арміі ўступіла звыш 100 тысяч камсамольцаў нашай рэспублікі. Іх бязмежная адданасць камуністычным ідэям з асаблівай сілай праявілася ў жорсткіх бітвах з каварным ворагам у Брэсце і пад Масквой, у Сталінградзе і пад Ленінградам, на Курскай дузе, у бітвах за Мінск і Берлін...

Мы ганарымся тым, што нашу рэспубліку справядліва называюць партызанскай. Наша гордасць заканамерная. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў шэрагах беларускіх партызан і падпольшчыкаў, поплеч з камуністамі, сваімі старэйшымі таварышамі, змагаліся з ворагамі звыш 95 тысяч выхаванцаў Ленінскага камсамола. Пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый на тэрыторыі часова акупіраванай ворагам рэспублікі дзейнічала 10 падпольных абкомаў і 210 міжрайкомаў, гаркомаў і райкомаў камсамола. Юныя мсціўцы пускалі пад адхон варожыя эшалоны, удзельнічалі ў партызанскіх рэйдах і паходах, грамілі фашысцкія гарнізоны.

Многа слаўных спраў на баявым рахунку юных падпольшчыкаў, якія дзейнічалі ў гады фашысцкай акупацыі ў кожным горадзе, у кожным буйным паселішчы рэспублікі. Як сімвал высокага камсамольскага духу, мужнасці і адвагі, у памяці многіх пакаленняў назаўсёды застанецца гераізм маладых патрыётаў камсамольска-маладзёжных арганізацый Мінска і Обаля, Гомеля і Магілёва, Скідэля і Жлобіна, Полацка і Хойнікаў. Мы і сёння, праз чвэрць стагоддзя, чуем словы вялікай мужнасці і бязмежнай любві да Радзімы: «Жыць, жыць! Во як хочацца! Ды не хавацца за спіну таварышаў, а са зброяй у руках, у штодзённай барацьбе з ненавісным шакалам — у гэтым уся прыгажосць і ўся мэта жыцця. Жыць для Радзімы, для рускага народа, змагацца за гонар і свабоду яго — у гэтым уся прыгажосць жыцця, гэта ў цяперашні момант ідэал жыцця».

Гэтыя перадсмяротныя словы напісаў і перадаў з-за кратаў мінскага гестапа сваім таварышам па зброі выхаванец Ленінскага камсамола падпольшчык Іван Казлоў, якому пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. «Апошняе пісьмо Івана Казлова» было апублікавана на старонках падпольнай у той час «Чырвонай змены», яго ведалі напамяць многія народныя мсціўцы — палымяныя, патрыятычныя словы вязня клікалі тую перамогу над ворагам.

Слаўныя, незабыўныя старонкі подзвігу ўпісалі ў гісторыю юныя падпольшчыкі. Толькі ў адным акупіраваным Мінску змагалася з ворагам 46 падпольных камсамольскіх арганізацый, аб'ядноўваючы ў сваіх радах звыш тысячы патрыётаў. Не было такой сілы, якая змагла б супрацьстаяць юным змагарам, пахіснуць іх веру ў святую перамогу над ворагамі — захопнікамі.

Камсамол Беларусі ніколі не забудзе пра гераічны подзвіг сваіх выхаванцаў, герояў Айчыны — Хвядоса Смалячкова, Міхася Сільніцкага, Ефрасінні Зяньковай, Рымы Шаршнёвай, Пятра Купрыянава, Барыса Царыкава і многіх іншых мужных сыноў і дачок беларускага народа. Яны заўсёды будуць служыць узорам гераізму, адданасці роднай партыі, сваёй сацыялістычнай Айчыне.

Баявы подзвіг камсамольцаў і моладзі рэспублікі высока ацэнены Савецкім урадам. 33 тысячы камсамольцаў — партызан і падпольшчыкаў адзначаны баявымі ўзнагародамі Радзімы, 29 членам ЛКСМБ, якія самаадданa змагаліся ў варожым тыле, прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. На сцягу камсамола Беларусі ззяе ордэн Чырвонага Сцяга, якім адзначаны бязмежная мужнасць і стойкасць, праяўленыя ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі.

Вядома, пры ўсім сваім гераізме і мужнасці беларускі народ, моладзь не здолелі б у Вялікай Айчыннай вайне адстаяць сваю свабоду і незалежнасць, каб давялося ім змагацца адзін на адзін з азвярэлым фашызмам. Толькі дзякуючы супольнай самаадданай барацьбе ўсіх народаў — братоў сацыялі-

стычнай Радзімы мы здолелі зламаць хрыбет фашысцкаму зверу.

Сярод партызан і падпольшчыкаў, што змагаліся з ворагам на акупіраванай Беларусі, былі рускія і ўкраінцы, латышы і літоўцы, грузіны і эстонцы, прадстаўнікі многіх іншых народаў. У партызанскіх атрадах поплеч з беларусамі, сынамі і дочкамі ўсіх савецкіх народаў змагаліся супраць агульнага ворага палякі і чэхі, славакі і балгары, венгры і французы, многія прадстаўнікі іншых краін Еўропы, якіх прывяла да нас, у лясы, пякучая нянавісць да фашызму. Аб'яднаныя адзінай мэтай, адзінай воляй, яны разам на фронце і ў тыле здзейснілі подзвіг, роўнага якому яшчэ не ведала гісторыя.

Камсамол Беларусі з гонарам пранёс свой сцяг, авеяны баявой і працоўнай славай, праз новае цяжкае выпрабаванне — гады аднаўлення разбуранай вайною і варожым нашэсцем народнай гаспадаркі. Спатрэбіліся сапраўды карчагінская самаадданасць і высокая камуністычная свядомасць, каб у небывала кароткі тэрмін не толькі ўзняць з попелу гарады і вёскі, але і пабудаваць новыя гіганты індустрыі. У музеях, пакоях і кутках камсамольскай славы, як жывыя рэліквіі, захоўваюцца палымяныя адозвы тых нялёгкіх пасляваенных гадоў: «Мы адродзім цябе, наш родны Мінск!», «Усе, як адзін, на аднаўленне Магілёва!», «Зробім Гомель яшчэ прыгажэйшым, чым быў да вайны». За гэтымі патрыятычнымі лозунгамі — працавітасць і самаадданасць камсамольскага пакалення пасляваенных гадоў.

У той нялёгкі час нашы непрыяцелі за рубяжом на ўсе лады залівaліся ўжо даўно вядомай песняй, што для аднаўлення беларускіх гарадоў і сёл спатрэбяцца многія і многія гады. Але яны зноў не ўлічылі таго, што Беларусь — крэўная зямля адзінай сям'і народаў СССР. Адразу ж пасля вызвалення рэспублікі ад фашысцкіх захопнікаў нам на дапамогу прыйшлі рускія і ўкраінцы, таджыкі і ўзбекі, грузіны і армяне... З усіх канцоў краіны патокам ішлі ў Беларусь эшалоны з будаўнічым матэрыялам, металам, прамысловым абсталяваннем, адзеннем. На новабудоўлях рэспублікі разам з беларускімі юнакамі і дзяўчатамі працавалі пасланцы братніх народаў нашай шматнацыянальнай краіны. З іх дапамогай мы перамаглі і на працоўным фронце.

У моладзі 60-х гадоў, якая варыць сталь і кіруе аўтаматычнымі лініямі, стартуе ў касмічныя далячыні і распрацоўвае ў канструктарскіх бюро новыя кварталы жылых дамоў, мы бачым тую ж мужнасць і рашучасць, тую ж рэвалюцыйную страснасць і працавітасць, якія былі ўласцівы равеснікам Паўкі Карчагіна і маладым будаўнікам БелДРЭСа, героям Вялікай Айчыннай вайны і наваселыцам цалінных зямель. Вернасць бессмяротным ленінскім запаветам, слаўным традыцыям партыі і народа беларускі камсамол, уся моладзь рэспублікі з гонарам пранеслі праз усё пяцідзесяцігоддзе і з пачуццём глыбокай адказнасці высока нясуць яе ў кіпені сённяшніх працоўных будняў.

Ленінскія словы аб тым, што «толькі ў працы разам з рабочымі і сялянамі можна стаць сапраўднымі камуністамі», клічуць маладых патрыётаў на пярэдні край барацьбы за камунізм. Толькі за апошнія дваццаць гадоў камсамол Беларусі накіраваў на буйнейшыя новабудоўлі краіны звыш ста тысяч сваіх выхаванцаў. Яны прымалі самы актыўны ўдзел у збудаванні Брацкай ГЭС і Нарыльскага горнаметалургічнага камбіната, асвойвалі багацці Сібіры і Далёкага Усходу, пракладвалі праз непраходную тайгу сталёвую магістраль Абакан — Тайшэт. Яны ўзводзяць і сёння буйнейшыя будоўлі, над якімі шэфствуе камсамол.

Не толькі рамантыка клікала і кліча камсамолію ў нялёгкі працоўны шлях. Ёю кіруе гарачае жаданне прынесці як мага больш карысці народу, знайсці сваё месца ў шэрагах байцоў за будучыню, пакінуць значны след на зямлі. Як помнікі працоўных перамог, як сімвал славы беларускай камсамоліі ўзвышаюцца гарады юнацтва — Светлагорск і Наваполацк, Салігорск і Белазёрск. Працавітымі рукамі моладзі асушаны тысячы гектараў палескіх балот.

Ударныя камсамольскія будоўлі сталі для юнакоў і дзяўчат са-



праўднай школай палітычнага і працоўнага выхавання, творчай лабараторыяй перадавога вопыту, сацыялістычнай арганізацыі працы. Тут, на скрыжаваннях камсамольскай славы, зліліся ў адно цэлае клопат пра вырашэнне вялікіх дзяржаўных задач і асабістую зацікаўленасць юных.

Нават цяжка пералічыць усе тыя выдатныя справы, якія вырашае сёння 960-тысячны атрад беларускай камсамоліі. Шэфства над ударнымі камсамольскімі будоўлямі і ўкараненне ў вытворчасць дасягненняў навукі і тэхнікі, барацьба за павышэнне прадукцыйнасці працы, за новую эканамічную рэформу, эканомію і беражлівасць, удзел у двухгодцы «камсамол — сельскай школе», масавы паход вясковай моладзі за авалоданне тэхнічнымі прафесіямі — гэтыя і многія іншыя праблемы паспяхова вырашае гвардыя камсамола рэспублікі.

Вялікае ўздзеянне на павышэнне працоўнай і палітычнай актыўнасці юнакоў і дзяўчат мелі такія важныя падзеі ў жыцці партыі і народа, як XXIII з'езд КПСС, 50-годдзе Вялікага Кастрычніка і Ленінскага камсамола, паўвекавы юбілей нашай рэспублікі і Кампартыі Беларусі і 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна. Гэтыя вялікія палітычныя падзеі камсамольцы, уся беларуская моладзь па добрай традыцыі азнаменавалі новымі выдатнымі перамогамі ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве.

За старанную працу, за глыбокую адданасць Радзіме, вялікім запаветам Ільіча, за плённую работу па камуністычным выхаванні моладзі і ў сувязі з 50-годдзем ВЛКСМ Любанская раённая камсамольская арганізацыя ўзнагароджана ордэнам Чырвонага Сцяга, а Наваполацкая — ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. 25 камсамольскіх арганізацый рэспублікі ўзнагароджаны Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР, а дзесяткам уручаны памятныя сцягі ЦК ВЛКСМ.

Камсамольскія арганізацыі вялікую ўвагу аддаюць палітычнай асвеце моладзі, праяўляюць клопат аб тым, каб памагчы юнакам і дзяўчатам авалодаць марксісцка-ленінскім вучэннем, навучыць іх рабіць жыццё па Ільічу. У апошні час значна пашырыліся рамкі палітычнай асветы моладзі, павялічылася колькасць гурткоў, семінараў, пачалі паўней улічвацца запатрабаванні і цікаўнасць моладзі, іх агульнаадукацыйны і культурны ўзровень. Вялікую папулярнасць і масавую аўдыторыю заваявалі такія формы вывучэння тэарэтычнай спадчыны Ільіча, як ленінскія ўрокі, тэматычныя вечары, універсітэты ленінскіх ведаў і ленінскія народныя школы, навукова-тэарэтычныя канферэнцыі, экскурсіі па ленінскіх мясцінах.

Своеасаблівай школай камуністычнага выхавання юнакоў і дзяўчат з'явіўся Ленінскі залік, у часе якога нарадзіліся цікавыя пачынанні, новыя формы работы з моладдзю. Камсамольцы Мінскага аўтазавода правялі конкурс на лепшы рэферат па творах Леніна, а такса-ма на лепшую работу па гісторыі камсамольскай арганізацыі прадпрыемства. З добрай ініцыятывай, накіраванай на далучэнне моладзі да засваення багатай тэарэтычнай спадчыны, выступілі камсамольцы Мінскага трактарнага завода, аршанскіх заводаў «Чырвоны барацьбіт» і лёгкага машынабудавання, юнакі і дзяўчаты трох калгасаў Мядзельшчыны, якія носяць імя У. І. Леніна.

Кіруючыся запаветамі Ільіча, камсамольцы, моладзь імкнуцца глыбока ўспрыняць і праводзіць у жыццё багацце яго ідэй, няспынна выхоўваць у сабе такія каштоўныя якасці барацьбітоў-рэвалюцыянераў, як ленінскі светапогляд, высокая класавая самасвядомасць, бязмежнае служэнне Радзіме.

Важнай вяхой у жыцці камсамола, усёй моладзі краіны з'явіўся XVI з'езд ВЛКСМ і выступленне на ім з яркай прамовай Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Л. І. Брэжнева. З'езд паставіў перад камсамолам новыя задачы па камуністычным выхаванні маладога падрастаючага пакалення. У рэзалюцыі XVI з'езда ВЛКСМ ёсць такія радкі: «У цэнтры практычнай дзейнасці камсамольскіх арганізацый прамысловасці, транспарту, будоўляў, калгасаў і саўга-

саў, сферы абслугоўвання, навукова-даследчых арганізацый павінна быць мабілізацыя юнакоў і дзяўчат на рашэнне народнагаспадарчых задач, якія ставіць партыя. З'езд заклікае маладых працаўнікоў унесці дастойны ўклад у далейшае развіццё сацыялістычнай эканомікі, інтэнсіфікацыі ўсіх яе галін, у выкананне рашэнняў снежаньскага (1969 г.) Пленума ЦК КПСС».

У чым бачыць свае задачы рэспубліканская арганізацыя?

Перш за ўсё ў тым, каб высока ўзняць ролю кожнай камсамольскай арганізацыі на заводзе, будоўлі, у калгасе, саўгасе, у навучальнай установе і школе, уцягнуць увесь шматтысячны атрад камсамоліі рэспублікі ў барацьбу за максімальнае выкарыстанне тых велізарных рэзерваў, якія маюць прамысловасць, сельская гаспадарка, навука і культура Беларусі. Мы бачым сваю задачу і ў тым, каб усюды і заўсёды ствараць для маладога чалавека творчую атмасферу, павышаць яго свядомасць і актыўнасць у вырашэнні самых важных народнагаспадарчых задач, узмацняць увагу камсамольскіх арганізацый да кожнага юнака і дзяўчыны, праяўляць цікавасць да іх працы, вучобы, да іх запатрабаванняў і клопатаў.

Напярэдадні 50-гадовага юбілею ЛКСМБ прыкметна ўзрасла палітычная і працоўная актыўнасць камсамольцаў, усёй моладзі. На адрас ЦК і абкомаў ЛКСМБ паступаюць шматлікія тэлеграмы, пісьмы, у якіх юнакі і дзяўчаты паведамляюць пра свае абавязацельствы і працоўныя здзяйсненні, пошукі і знаходкі.

Моладзь Савецкай Беларусі настойліва, з вялікай упартасцю змагаецца за тэхнічны прагрэс і павышэнне прадукцыйнасці працы, за паляпшэнне якасці прадукцыі і зніжэнне яе сабекошту, актыўна займаецца пытаннямі навуковай арганізацыі працы. Трэці пленум ЦК ЛКСМБ, які нядаўна адбыўся, абмеркаваў важныя пытанні ўдзелу камсамольцаў, моладзі ў барацьбе за тэхнічны прагрэс, вызначыў месца кожнага юнака і дзяўчыны ў гэтай важнай справе.

Камсамольскія арганізацыі буйнейшых прадпрыемстваў рэспублікі ўзялі шэфства над асваеннем вытворчасці новай тэхнікі, машын, прыбораў, такіх, як аўтамабіль павышанай грузападымальнасці, доследныя ўзоры трактара МТЗ-80, электравылічальнай машыны «Мінск-32», 75-тоннага самазвала БелАЗ-549 і многіх іншых.

Вядома, што эфектыўнасць вытворчасці залежыць у многім ад удзелу юнакоў і дзяўчат у рацыяналізацыі і вынаходніцтве. Цяпер у рэспубліцы створана і дзейнічае каля 7 тысяч творчых брыгад па новай тэхніцы, грамадска-канструктарскіх, тэхналагічных і нарміровачных бюро. Шэрагі актыўных удзельнікаў руху тэхнічнай творчасці маладых змагароў за новае, перадавое выраслі да 30 тысяч чалавек. Звыш 200 тысяч юнакоў і дзяўчат набылі за апошні час новыя прафесіі, павысілі сваю кваліфікацыю.

Сучасная моладзь бачыць сваё галоўнае прызванне ў тым, каб, як вучыў У. І. Ленін, штодзень вырашаць «практычна тую ці іншую задачу агульнай працы, няхай самую маленькую, няхай самую простую».

Наша партыя паставіла перад камсамолам адказную і пачэсную задачу — выхоўваць юнакоў і дзяўчат усебакова развітымі, высокаадукаванымі, стойкімі змагарамі за нашу вялікую справу, узбройваць іх марксісцка-ленінскай ідэалогіяй, фарміраваць у іх навуковы камуністычны светапогляд. Выконваючы гэтую задачу, камсамольскія арганізацыі Беларусі аддаюць вялікую ўвагу выхаванню моладзі на рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцыях партыі і народа.

Кожны год тысячы і тысячы юных следапытаў ідуць па мясцінах рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы, каб сэрцам прыпасці да подзвігу людзей, якія сваёй мужнасцю, воляй да перамогі, сваёй непахіснасцю здзіўляюць свет. Гэты рух юных, прасякнуты духам нястомнага пошуку, у нас стаў сапраўды масавым і з'яўляецца адным з магутных сродкаў выхавання лепшых маральных якасцей маладога сучасніка.

Як пісаў М. І. Калінін, выхаванне патрыятычнага пачуцця да Радзімы павінна грунтавацца не на адцягненых паняццях абавязку, а на канкрэтных прыкладах. Летась у рэспубліцы была праведзена аперацыя «Беларусь-25», прысвечаная 25-й гадавіне вызвалення рэспублікі ад фашысцкіх захопнікаў. У паходзе ўдзельнічалі камсамольцы 6136 арганізацый. За час аперацыі адбылося 18 тысяч сустрэч з ветэранамі рэвалюцыі і вайны. Сабраныя дакументы і матэрыялы далі магчымасць стварыць 640 музеяў баявой славы (усяго іх у нас каля 4500), былі ўстаноўлены 156 мемарыяльных дошак, 52 абеліскі і 67 помнікаў, закладзена 32 паркі і 80 сквераў, пасаджана 360 алей. Маладыя патрыёты высветлілі гісторыі 680 імёнаў невядомых раней воінаў, што загінулі ў баях за Радзіму.

У практыцы работы па ваеннапатрыятычным выхаванні ў нас ужо акрэсліліся такія кірункі, як фарміраванне ў юнакоў і дзяўчат камуністычнага светапогляду, ідэйная загартоўка, выхаванне ў іх якасцей патрыётаў-інтэрнацыяналістаў. Шмат робім, каб маладыя людзі нястомна авалодвалі ваеннатэхнічнымі ведамі, раслі фізічна загартаванымі, былі заўсёды гатовымі выступіць на абарону сваёй сацыялістычнай Айчыны.

Паўвека разам з партыяй, з усім народам крочыць у камуністычнае заўтра баявы атрад ВЛКСМ — Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі. І заўсёды, у самыя складаныя і адказныя для лёсу сваёй Радзімы часы камсамол шукаў і знаходзіў велізарнейшую сілу і натхненне ў неацэнным вопыце партыі. Яна, Ленінская партыя, праяўляе выключныя клопаты пра камсамол, развіццё яго ініцыятывы, заўсёды аказвае практычную дапамогу і падтрымку ў вырашэнні ўсіх дзяржаўных, гаспадарчых і культурных задач. Яркім сведчаннем матчынага клопату партыі пра выхаванне маладога падрастаючага пакалення з'яўляюцца такія важныя дакументы, як Пастанова ЦК КПСС «Аб 50-годдзі ВЛКСМ і задачах камуністычнага выхавання моладзі», «Аб рабоце Краснаярскай краявой партыйнай арганізацыі па кіраўніцтве камсамолам», пастанова ЦК КПБ «Аб 50-годдзі ЛКСМ Беларусі», у якіх вызначаны задачы камсамола, асноўныя кірункі яго дзейнасці на сучасным этапе.

І сёння, азіраючыся на свой пяцідзесяцігадовы шлях, беларускі камсамол сваё шчырае слова падзякі прыносіць вялікай партыі Леніна, якая ад першага дня нараджэння выхоўвала і гадавала яго, заўсёды бачыла ў ім свайго баявога памочніка, свой надзейны рэзерв.

Пяцьдзесят гадоў высока і з гонарам нясе беларуская камсамолія ленінскі сцяг, перадаючы яго ад пакалення да пакалення. Пяцьдзесят гадоў — гэта баявы рапарт сваёй роднай партыі, Радзіме, свайму народу пра баявыя подзвігі і працоўныя здзяйсненні, пра сваю вернасць справе Кастрычніка і ленінскім ідэалам. І няма ў свеце нічога вышэй за гонар няўхільна ісці ўперад у камуністычную будучыню, следуючы бессмяротным запаветам вялікага Леніна.



Урачыстае шэсце фестывалю.



Сустрэча з Бацькам Мінаем.

# СВЯТА НА ЗЯМЛІ ПАРТЫЗАНСКАЙ

**Фотарэпартаж Валянціна ЖДАНОВІЧА**

Маладыя пасланцы Брэста.






Камень, прывезены з Брэсцкай крэпасці, умуроўвае ў будынак 31-й віцебскай школы заслужаны будаўнік БССР Мікалай Мядзведскі (справа).

Гэта было пад Віцебскам. У тры гадзіны 55 мінут, на досвітку, выбухі і страляніна прарвалі сонную цішыню возера. А над палатачным гарадком пачулася: «Трывога! Трывога!».

Аббіваючы густую расу, беглі ўзводы праз лес, беглі ярам, узгоркамі, неслі на сваіх плячах параненых, змагаліся з варожымі пікетамі, паўзлі па-пластунску, перабіраліся ад узлеску да ўзлеску пад навесным агнём праціўніка.

А калі з дыму выбухнулі промні зыркага сонца, апынуліся ўзводы перад вышынёй, якая аж заходзілася ў шалёнай кулямётнай траскатні. З крыкам «ура!» хлопцы і дзяўчаты рушылі на штурм, і чырвоны сцяг усе вышэй падымаўся па схіле вышыні, па драбінах «генеральскай» вышкі, пакуль ранішні ветрык не разгарнуў яго ў сінім прасторы.

Атака на вышыню паўтаралася сем разоў, і сем сцягоў урэшце затрапяталі над ёй, бо то быў не бой, а ваенная гульня «Малая Дзвіна», і ўзводы — турысцкія каманды з усяе рэспублікі — не ваявалі, а спаборнічалі паміж сабой на спрыт, дужасць і вынослівасць.

XII Рэспубліканскі злёт удзельнікаў паходу па месцах рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы быў прысвечаны 50-годдзю камсамола Беларусі. Ад мінулых злётаў сёлетні адрозніваўся яшчэ і тым, што супаў з правядзеннем абласнога фестывалю моладзі. І старадаўні гераічны Віцебск у гэтыя дні расцвіў квеценню ўсмешак, над яго плошчамі гучэлі ўрачыстая музыка, гарачыя прамовы.


Аперацыя «Малая Дзвіна». Чырвоны сцяг — на вышыню!


Мітынг інтэрнацыянальнай дружбы.

Фестываль і злёт адкрыліся на плошчы імя Леніна, ля помніка Уладзіміру Ільічу, куды на бронетранспарцёры быў дастаўлены факел, запалены ад Вечнага агню на плошчы Перамогі ў Мінску. Аперацыяй «Факел» кіраваў Герой Савецкага Саюза генерал-лейтэнант артылерыі І. С. Жыгараў.

А праз гадзіну дванаццаць дэлегатаў злёту здымаюць з бронетранспарцёра жалобныя вянкі. Над Успенскай горкай плывуць хмары, пад хмарамі — жалобныя гукі рэквіема. Павольным крокам кіруюцца дэлегаты да магіл савецкіх воінаў і партызан, што загінулі за вызваленне роднай зямлі. Схіляюцца галовы, апускаюцца долу сцягі.

«Нішто не забыта, ніхто не забыты» — гэты дэвіз стаў неад'емным у выхаванні нашай моладзі на гераічных традыцыях тых дзён, калі вогненныя віхуры

Госць фестывалю — лётчык-выпрабавальнік Герой Савецкага Саюза Георгі Масалоў.





Дужыя, спрытныя, смелыя...



Развітальны касцёр.

палалі над нашай зямлёй. Гэтыя традыцыі жывуць у справах пасляваенных пакаленняў — самаадданасць і цвёрдасць кіруе імі ў вучобе і працы, як кіравала іх бацькамі ў змаганні.

Пра гэта добра сказала Наташа Калакольчыкава, дзесяцікласніца 31-й віцебскай школы, калі Мікалай Міхайлавіч Мядзведскі, заслужаны будаўнік БССР, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, кавалер ордэна Леніна, умураваў у сцяну школы камень з легендарнай Брэсцкай крэпасці. Гэты камень прывезлі віцебскім камсамольцам іх брэсцкія таварышы. Нездарма месцам для яго выбралі сцяну 31-й школы. Яна знаходзіцца на самай прыгожай вуліцы горада, у новым раёне. Маладыя віцябляне папрасілі гарадскі Савет, каб гэтая вуліца была названа імем Камсамола Беларусі.

Аперацыя «Брэсцкі камень» адразу ж ператварылася ў другую аперацыю пад назвай «Партызанская зямля». З усёй Віцебшчыны да падножжа помніка слаўнаму партызану бацьку Мінаю юнакі і дзяўчаты прынеслі скрыначкі з зямлёй, сабранай у мясцінах партызанскіх баёў і стаянак, на папялішчах зруйнаваных гітлераўцамі вёсак.

Моладзь шануе памяць пра герояў. Яна гатова па першым закліку стаць на абарону сацыялістычнай Бацькаўшчыны. Але яна не хоча вайны, пратэстуе супраць кожнай спробы імперыялізму развязаць крывавую бойню. Так гаварылі ўсе ўдзельнікі інтэрнацыянальнага мітынгу дружбы, што быў на плошчы Свабоды. Пад вежаю старадаўняй віцебскай ратушы нашы землякі і замежныя студэнты з дваццаці сямі краін, што прыехалі на аўтапоездзе «Дружба», пакляліся змагацца за мір і братэрства паміж усімі народамі свету.

Вайна пакінула на беларускай зямлі цяжкія раны. Якое б ні было ў нас свята, а забыцца на страты, на жахі, на гора ваеннае мы не можам. У сэрцы кожнага беларускага камсамольца жыве неўміручая памяць пра сваіх старэйшых таварышаў, якія не дажылі да вялікага свята — залатога юбілею ЛКСМБ. І таму над віцебскім стадыёнам у дзень закрыцця фестывалю і злёту, перад тым як 800 гімнастаў паказалі прыгожыя практыкаванні, гучэлі вершы, прысвечаныя змаганню народаў за мір.

Праз усе гады беларускі камсамол не толькі вучыўся і працаваў, спяваў песні і здабываў сусветныя спартыўныя рэкорды. Ён быў таксама мужным салдатам, адважным партызанам.



**Рэпартаж з роздумам пра будні маладых хлебаробаў чытайце ў наступным нумары**

**Раман МАЧУЛЬСКІ,**
**Герой Савецкага Саюза**



# ЗАЎЖДЫ НА ПЯРЭДНІМ КРАІ

Неяк быў я ў Барысаве на вечары-сустрэчы пакаленняў. Выступалі старыя бальшавікі, удзельнікі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Дзяліліся ўспамінамі тыя, хто ў першыя паслярэвалюцыйныя гады закладваў асновы сацыялістычнай індустрыі, хто, перамагаючы жорсткае супраціўленне кулакоў і падкулачнікаў, ствараў першыя калгасы, нішчыў спрадвечныя бальнягоывя межы. Слова бралі стаханаўцы і ўдарнікі трыццатых гадоў, воіны і партызаны Вялікай Айчыннай вайны, героі пасляваенных аднаўленчых гадоў, сённяшнія перадавікі камуністычнага будаўніцтва.

Моладзь сустракала і праводзіла іх бурнымі воплескамі. І было радасна ад таго, што цяперашнія юнакі і дзяўчаты памятаюць і шануюць справы і подзвігі сваіх дзядоў і бацькоў, што яны лічаць сябе прадаўжальнікамі гэтых спраў і подзвігаў.

Усхвалявала і ўзрушыла мяне на тым вечары і адна асабістая сустрэча. Змусіла зноў, у каторы ўжо раз, азірнуцца назад, на гады ўсенароднага змагання з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Да мяне падышоў чалавек сярэдняга росту, круглатвары, з кучмой светлых валасоў. От жа бывае так: пастарэў, пацяжэў чалавек, гады паступова, пакрысе забралі ў яго яркі блакіт вачэй, накінулі на твар сетку маршчын, запаволілі хаду, а вось жа абмінулі, амаль не кранулі валасоў. Нават сівізны не падкінулі.

Менавіта па валасах я адразу і пазнаў у чалавеку Хвядоса Вавілавіча Юданава — былога камандзіра партызанскага атрада імя Варашылава, што ўваходзіў у склад брыгады імя Шчорса. У гады вайны я ведаў Хвядоса Юданава як умелага арганізатара, таленавітага камандзіра, мужнага і смелага чалавека.

Мы шчыра, па-мужчынску абняліся. Пачалася ажыўленая, хоць даволі і бязладная гаворка, як заўсёды бывае, калі праз шмат гадоў сустракаюцца людзі. Мы гаварылі пра вогненныя гады, пра наша тагачаснае лясное жыццё, успаміналі былых сяброў і знаёмых. Скончылася тым, што Хвядос Вавілавіч запрасіў мяне ў госці — у калгас «Маяк камунізма», дзе ён старшынюе.

— Паедзем, Раман Навумавіч, у наш «Маяк», — гаварыў ён.—Пабачыце, як жывуць і працуюць нашы людзі, што яны сёння маюць...

«А чаму б і не з'ездзіць? Чаму б і не паглядзець, як былы партызанскі камандзір камандуе цяпер мірным войскам? Пэўна ж, няблага камандуе, калі ўжо добрых шаснаццаць гадоў трымае ў руках старшынёўскія лейцы».

І вось тады, калі быў я ў «Маяку камунізма», калі Хвядос Вавілавіч вадзіў мяне па фермах, калі з захапленнем і, падалося, з гонарам, расказваў ён мне пра заўтрашні дзень гаспадаркі, пра лепшых людзей калгаса, у мяне і ўзнікла думка і жаданне расказаць пра гэтага чалавека.

Лёгка вымавіць — расказаць пра чалавека. А як гэта зрабіць? З чаго пачаць?

Памяць вяртала мяне да тых незабыўных дзён, калі давялося ўпершыню сустрэцца і пазнаёміцца з гэтым чалавекам. То былі дні вайны.





Пра Хвядоса Юданава я ведаў, што нарадзіўся ён у вёсцы Сморкі, на Барысаўшчыне, у беднай сялянскай сям'і. Бацька яго, Вавіла Андрэевіч, меў чатырох сыноў і дзве дачкі. Паставіць іх на ногі, вывесці ў людзі ён не паспеў: у 1927 годзе памёр, пакінуўшы дзяцей — адно пад адным — жонцы. Вядома, што калі б не Савецкая ўлада, пайшлі б сыны і дочкі гаротнай удавы змалку парабкаваць, не ведалі б яны ні маленства, ні юнацтва. Цяжка, вядома, даводзілася жанчыне, шасцёра ж дзяцей на руках, але ж і гадавала, і вучыла.

Пасля заканчэння Вяляціцкай сямігодкі Хвядос пайшоў працаваць у Барысаўскі леспрамгас — валіць і трапяваць лес. Не дужа па ягонай сіле была тая работа, але хлопец стараўся— трэба было памагаць маці. Пасля і не шкадаваў: праца ў лесе, пад дажджом і сонцам, загартавала юнака, надала яму ўпартасці, разважлівасці.

Была і служба ў Чырвонай Арміі. Вярнуўся дадому ўжо сталым чалавекам. Дэмабілізаванага чырвонаармейца Хвядоса Юданава землякі выбіраюць старшынёй Навасёлкаўскага, а пасля Лошніцкага сельсаветаў.

На гэтай пасадзе і заспела яго Вялікая Айчынная вайна. Па ўказанні райкома партыі Хвядос Юданаў застаецца на акупіраванай Барысаўшчыне і з першых дзён уключаецца ў актыўную барацьбу з фашысцкімі захопнікамі. Спачатку ён быў сувязным і разведчыкам партызанскага атрада, які ўзначальваў сакратар райкома партыі І. Яраш. У лютым 1942 года сакратар райкома трагічна загінуў. Вось тады камуніст Хвядос Юданаў і пачаў думаць над тым, каб стварыць самастойны атрад народных мсціўцаў.

Прайшло колькі часу, і красавіцкім днём 1942 года былы старшыня сельсавета правядзіў у лесе першы сход членаў сваёй партызанскай групы. Сярод іх былі камуністы, камсамольцы і актывісты Вяляціцкага і іншых сельсаветаў, што адразу ж пайшлі ў лес, каб помсціць ворагу — М. Белы, М. Панкавец, А. Траццякоў, В. Лукомскі, К. Белы, Ф. Аляксееў, К. Хадасевіч, Я. Паляшчук, С. Паўлавец, Ф. Паўлавец. Яны сталі стрыжнем будучага партызанскага атрада імя Варашылава.

Месцам дыслакацыі групы сталі лясы паміж рэчкамі Бобр і Нача. Для буйных баявых аперацый яшчэ не было ні сіл, ні магчымасцей. Байцы групы Юданава наладжвалі засады на дарогах, каб упаляваць фашысцкую аўтамашыну, узрывалі альбо спальвалі масты, нападалі на абозы праціўніка, знішчалі яго патрулі, каралі гітлераўскіх паслугачоў — карацей, наносілі фашысцкім акупантам шкоду дзе маглі і як маглі.

Група расла. Неўзабаве да яе далучылася яшчэ дзесяць чалавек — жыхары вёскі Выдрыца, потым — з іншых вёсак. Да канца чэрвеня ўжо налічвалася больш за 60 чалавек.

Першага мая 1942 года ў раёне дзеяння атрада прызямлілася група разведчыц-дыверсантак на чале з Аленай Колесавай. Народныя мсціўцы з вялікай радасцю сустрэлі пасланцоў Вялікай зямлі, аказалі разведчыцам дапамогу. А дапамога гэтая была вельмі дарэчы. Сталася так, што парашут Зіны Марозавай зачапіўся за дрэва. Дзяўчына павісла высока над зямлёй. Яна абрэзала стропы і, падаючы, моцна пакалечылася. Партызаны зрабілі ўсё, каб вылечыць разведчыцу.

Група Алены Колесавай прабыла ў атрадзе цэлы месяц. За гэты час дзяўчаты-разведчыцы пазнаёміліся з людзьмі, з мясцовасцю, асвойталіся са становішчам у варожым тыле. 5 чэрвеня Алена Колесава, папоўніўшы групу шасцю тутэйшымі партызанамі, пакінула атрад — пачала самастойна выконваць заданні камандавання Заходняга фронту.

Прыблізна ў гэты ж час варашылаўцы прынялі другую групу дэсантнікаў з Вялікай зямлі, якую ўзначальваў Рыгор Сарока. Праз некаторы час Сароку абралі камандзірам атрада, а Юданава — камісарам.

За лета варашылаўцы папоўнілі свае рады — да канца жніўня ў атрадзе было ўжо каля сотні байцоў. Мелі не толькі вінтоўкі і кулямёты, а і тол, узрывальнікі, бікфордаў шнур. Паявіліся ў атрадзе і вопытныя падрыўнікі-дэсантнікі. Актывізаваўшы баявую дзейнасць, варашылаўцы ўсё часцей пачалі выходзіць на чыгунку Барысаў — Прыяміна — Крупкі — Бобр, пусцілі пад адхон нямала варожых эшалонаў, што ішлі да лініі фронту. Неаднаразова наладжвалі засады і на шасейных дарогах, абстрэльвалі гітлераўскія аўтакалоны.

У сярэдзіне верасня таго ж 1942 года з атрада імя Варашылава зноў вылучылася група. Былы камандзір Рыгор Сарока забраў з сабою амаль палову асабовага складу атрада. Рэшту народных мсціўцаў узначаліў старшы лейтэнант Аляксей Бухаў, які якраз напярэдадні прыбыў з-за лініі фронту з чатырма падрыўнікамі. Ён камандаваў варашылаўцамі да студзеня 1943 года. 10 студзеня 1943 года камандзірам атрада стаў Хвядос Юданаў, камісарам — М. Белы, начальнікам штаба — К. Касцюкевіч. Паводле ўказання Барысаўскага міжрайкома партыі атрад увайшоў у склад брыга-

ды імя Шчорса і заставаўся ў гэтым злучэнні аж да таго часу, пакуль Барысаўшчына не была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Дэсантнікі аказвалі вялікую дапамогу атраду. Яны навучылі партызан мініраваць чыгуначныя і шасейныя дарогі, перадавалі ім свой вопыт, шчодра дзяліліся патронамі, толам і іншымі боепрыпасамі.

Дэсантнікі і народныя мсціўцы часта разам выходзілі на баявыя заданні. У вёсцы Выдрыца Крупскага раёна стаяў даволі буйны фашысцкі гарнізон. На ўзбраенні гітлераўцаў былі ручныя кулямёты і аўтаматы. Вакол галоўнага апорнага пункта — драўляна-земляная сцяна з амбразурамі. На развілцы дарог, што вялі ў вёску, ля моста праз рэчку Бобр, на ўскраіне вёскі — дзоты і акопы.

У разгроме Выдрыцкага гарнізона, акрамя атрада імя Варашылава, бралі ўдзел дэсантныя групы Колесавай, Сарокі і Спрогіса, а таксама група партызан 128-га атрада. Асноўнай ударнай групай камандавалі Юданаў і Спрогіс. Група Сарокі прыкрывала подступы да вёскі з боку Вяляціч, а подступы з боку Крупак прыкрывала група народных мсціўцаў сто дваццаць восьмага атрада.

12 верасня 1942 года, уночы, партызаны ўброд перайшлі рэчку Бобр на поўдзень ад Выдрыцы і ўпрытык падышлі да гарнізона. Кругом панавала мёртвая цішыня, якая бывае толькі на золку. Партызаны пачалі непрыкметна, каля платоў і за хлявамі, прасоўвацца да апорнага пункта. Але ці то хто неасцярожна шархануўся каля плота, ці то сабака, які ўчуў чужога чалавека і забрахаў, зняць ахову не ўдалося. Да будынка, у якім спалі гітлераўцы, заставалася ўсяго нейкіх дзвесце метраў, калі фашысцкая ахова ўсчала страляніну. Імгненна партызаны кінуліся ў атаку. Завязаўся бой. Гітлераўцы люта адстрэльваліся. І тут раптам ад байца да байца пранеслася чутка, што паранена Лёля — так усе ў атрадзе ласкава звалі Алену Колесаву. Гэта нібы падштурхнула хлопцаў, і за некалькі хвілін яны авалодалі апорным пунктам.

Разграміўшы гарнізон, партызаны рынуліся да моста праз Бобр, разагналі ахову, падпалілі мост і, счакаўшы, пакуль ён рухнуў у ваду, адышлі.

Гарнізон у Выдрыцы перастаў існаваць. Было знішчана 42 гітлераўцы. Астатнім удалося ўцячы ў Крупкі. Партызаны страцілі ў гэтым начным баі толькі аднаго чалавека. Двое былі паранены. Алена Колесава была паранена смяртэльна — ранічкай яна памерла. Слаўнай дачцы савецкага народа пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. У гарадскім пасёлку Крупкі камсамольцы і моладзь Беларусі паставілі ёй помнік.

Праз шмат гадоў Хвядос Вавілавіч расказваў мне пра той Выдрыцкі бой:

— Хлопцы біліся, як ільвы. Нават не ведаю, каго вылучыць. Усе байцы праявілі выключную смеласць, мужнасць і знаходлівасць. Як пачулі, што Лёля паранена, дык так рванулі, што, пэўна, нішто не магло б іх спыніць!..

Пра самога ж сябе прамаўчаў. Як заўсёды. А між тым, як я даведаўся ад байцоў, сам Хвядос паказаў сябе ў баі адважным і разумным камандзірам. Партызаны так і казалі: «Камандзір наш быў наперадзе. Усім нам прыклад падаваў».

Вельмі ўдала была праведзена аперацыя па знішчэнні склада боепрыпасаў у гарнізоне Сморкі. Яе бліскуча здзейснілі мясцовыя падпольшчыкі — сувязныя і разведчыкі атрада імя Варашылава.

У Сморках знаходзіўся гарнізон, там былі штаб фашысцкага батальёна, склады боепрыпасаў і фуражу.

Партызаны даўно вастрылі зуб на гэтыя склады. Але падступіцца да іх было не так лёгка — гарнізон узмоцнена ахоўваўся. Урэшце было вырашана, што лепш за ўсё могуць справіцца з гэтай задачай падпольшчыкі маладзёжнай арганізацыі, якая існавала ў Сморках яшчэ з восені 1942 года. У яе ўваходзілі настаўнік мясцовай школы Мікалай Шарай, камсамолец Міхаіл Багданоўскі, настаўніца Алена Ляшэня і пятнаццацігадовы Іван Івашкавец. Група назвала сябе «Экіпаж машыны баявой».

На пачатку «Экіпаж машыны баявой» займаўся толькі зборам разведвальных звестак аб колькасці гітлераўцаў, іх узбраенні і абарончых збудаваннях у гарнізонах, сачыў за рухам варожых цягнікоў да лініі фронту. Акрамя гэтага, здабывалі для партызан зброю, боепрыпасы і медыкаменты, распаўсюджвалі сярод насельніцтва і гітлераўскіх салдат зводкі Саўінфармбюро, партызанскія лістоўкі і савецкія газеты.

Пазней, калі ў Сморках размясціўся гарнізон, кіраўніцтва атрада пачало даручаць падпольнай камсамольскай групе і дыверсійныя заданні. Адным з такіх заданняў было знішчэнне гарнізоннага склада боепрыпасаў. «Экіпаж» справіўся з гэтым заданнем бліскуча. У ноч з 16 на 17 чэрвеня 1943 года гітлераўскі склад запалаў. Далёка ў цішы начы чутны былі выбухі мін і гранат.

З мужнага «экіпажа» жывы цяпер толькі Мікалай Шарай. Ён пасля вызвалення Барысаўшчыны пайшоў на фронт, вярнуўся дадому з пяццю ўрадавымі ўзнагародамі і ўжо шмат гадоў працуе настаўнікам у родных Сморках. Іван Івашкавец у 1944 годзе таксама пайшоў на фронт, вярнуўся дадому інвалідам і ў 1968 годзе памёр. Алену Ляшэню гітлераўцы ўвосень 1943 года арыштавалі і па-зверску закатавалі, Міхаіл Багданоўскі загінуў смерцю героя на зямлі братняй Польшчы.

Пра ўсё гэта расказаў мне Хвядос Вавілавіч тады, калі я гасцяваў у яго. І зноў жа з уласцівай яму сціпласцю ні слова не сказаў пра тое, што ініцыятарам стварэння камсамольскай падпольнай арганізацыі ў родных Сморках быў ён, што ўсе гады вайны ён пільна сачыў за дзейнасцю членаў «Экіпажа машыны баявой», падтрымліваў і накіроўваў іх дзейнасць.

Хвядос Вавілавіч разам з начальнікам разведкі і контрразведкі атрада Маркам Панкаўцом ды намеснікам камісара па рабоце сярод камсамола Фёдарам Аляксеевым прымаў актыўны ўдзел у выкрыцці і абясшкоджанні групы шпіёнаў-дыверсантаў, якая была заслана ў брыгаду імя Шчорса з Барысаўскага і Крупскага гарнізонаў. На чале гэтай групы была мацёрая фашысцкая разведчыца, урач Капіталіна Забеліна. Яна здолела заслаць сваіх агентаў амаль ва ўсе атрады, у тым ліку і ў групу партызан, якая была пры штабе брыгады. К. Забеліна павінна была паводле задання фашысцкай разведкі ў адзін дзень атруціць увесь асабовы склад брыгады разам з яе камандзірамі. Для гэтага ўсе агенты былі забяспечаны дастатковай колькасцю моцнага атрутнага рэчыва. Злачынства гэтае, на шчасце, было папярэджана.

І яшчэ адзін выпадак, да якога мeў непасрэднае дачыненне Хвядос Вавілавіч.

Гэта было, — расказваў мне Фёдар Аляксееў,— у канцы 1943 — на пачатку 1944 года. Наш атрад базіраваўся тады ў раёне возера Пясечнае. А дзейнічалі мы, галоўным чынам, на тэрыторыі Барысаўскага і Крупскага раёнаў. Як член Барысаўскага падпольнага райкома камсамола я быў адказны за работу сярод моладзі па Вяляціцкім, Негнавіцкім і Мётчанскім сельскіх саветах. У многіх вёсках зоны ўжо тады дзейнічалі падпольныя камсамольскія арганізацыі.

У снежні 1943 года падпольшчыкі з вёскі Ярцаўка браты Герман і Адольф Бабровічы паведамілі, што ў Барысаве жыве іх далёкі сваяк Ржэвуцкі, які працуе цырульнікам, і што да яго часта заходзіць адзін работнік СД, які нібыта праяўляе жаданне сустрэцца з партызанамі і нават перайсці да іх. Я даў заданне Бабровічам, а таксама сакратару падпольнай камсамольскай арганізацыі Валянціну Абрамовічу праверыць чуткі, высветліць сапраўдны настрой гэтага работніка СД, таму што ўсё гэта магло быць і грубай правакацыяй.

Прыкладна ў канцы студзеня 1944 года сувязныя паведамілі, што калі мерkаваць па паводзінах немца, яго жаданне сустрэцца з партызанамі самае шчырае. Атрымаўшы дазвол ад камандавання атрада, я прызначыў сустрэчу з Гансам Раабам у лесе, на дарозе паміж вёскамі Шылінам і Вяліка-Негнавічамі.

У прызначаны час Ганс Рааб прыйшоў з Германам Бабровічам на дамоўленае месца. Ён добра гаварыў па-руску і сказаў, што бачыць хуткі крах гітлераўскай ваеннай машыны і хацеў бы сам наблізіць гэты крах. Яшчэ паведаміў, што бацька яго немец, а маці чэшка, што сам ён ніколі не быў прыхільнікам гітлерызму, хоць і з'яўляецца членам фашысцкай партыі.

Другая наша сустрэча адбылася ў лютым у Ярцаўцы, у хаце ў Бабровічаў. На гэты раз Ганс паведаміў, што фашысты рыхтуюцца закінуць у савецкі тыл свайго агента, што гэты агент павінен папярэдне ўвайсці ў давер да партызан з тым, каб яны памаглі яму перабрацца за лінію фронту, і што выкананне гэтага задання даручана яму, Гансу Раабу, што фашысцкае камандаванне санкцыянавала гэтую ягоную сустрэчу з партызанамі. У заключэнне ён сказаў, што калі гэтым агентам будзе прызначаны ён, Ганс Рааб, дык, каб увайсці ў давер да партызан, яму будзе дазволена прывезці з сабой зброю і боепрыпасы.

У канцы лютага Ганс Рааб праз нашых сувязных паведаміў, што яго кандыдатура чамусьці не ўхвалена, што ад яго патрабавалі толькі паказаць месца партызанскага лагера і што на 13 сакавіка назначана блакада лесу. Мы далі нашым сувязным указанне паказаць яму месца аднэй нашай зямлянкі ў лесе непадалёку ад Ярцаўкі, у якой мы спыніліся. Атрады былі папярэджаны, каб пэўны час у гэты раён не заходзілі партызанскія групы.

Каб немцы паверылі, што партызаны і сапраўды размяшчаюцца тут, мы яшчэ з вечара 12 сакавіка разлажылі каля зямлянкі агонь, каб гарэў усю ноч, а самі адышлі ў іншае месца. Раніцай гэты ўчастак лесу сапраўды быў акружаны карнікамі. Яны падышлі да зямлянкі, убачылі вогнішча, свежыя сляды і вырашылі, што партызаны толькі што пакінулі стаянку.

Непакоячыся, што гітлераўцы пасля гэтай няўдачы могуць западозрыць Ганса Рааба, мы прызначылі яго пераход у атрад на другі ж дзень. Ён прыехаў у дамоўленае месца на аўтамашыне, прыхапіўшы з сабой ручны







Тамара Трацэўская — даярка, удзельніца мастацкай самадзейнасці калгаса.

●

Дзве сяброўкі-гародніцы Галя Гендзік і Галя Круглік.

●

Трактарыст Павел Купрэеў.

●

Бібліятэкарка Марыя Гігевіч.

●

У калгаснай лабараторыі Лідзія Чыжык і галоўны заатэхнік Ядвіга Церашчук.

●

Новы ўраджай калгас сустракае падрыхтаваным. Пра гэта патурбаваліся машыніст збожжасушыльнай устаноўкі Аляксандр Клімковіч, механік Мікалай Магучы і галоўны інжынер калгаса Іван Зарэцкі.







кулямёт і аўтамат. Машыну мы падпалілі, а самі след у след пайшлі праз лес на партызанскую базу. Ганса Рааба потым перапраўлі ў штаб злучэння, а адтуль за лінію фронту.

Цяпер, калі мінула чвэрць стагоддзя з часу нашай Вялікай Перамогі, цяжка ўзнавіць усе дэталі амаль трохгадовага партызанскага жыцця і барацьбы. Далёка не ўсё з гісторыі атрада імя Варашылава, якім камандаваў Хвядос Юданаў, прыгадаў і я. Таму хочацца прывесці тут ацэнку баявой дзейнасці атрада і яго камандзіра, дадзеную па гарачых слядах падзей кіраўніцтвам брыгады імя Шчорса. У тым афіцыйным дакуменце гаварылася:

«Атрад імя Варашылава, якім камандаваў Х. В. Юданаў, быў перадавым у брыгадзе па разгроме варожых гарнізонаў і камунікацый... Байцамі атрада спушчан пад адхон 41 варожы эшалон, пры гэтым разбіта 25 паравозаў, 95 вагонаў з жывой сілай праціўніка, 18 — з боепрыпасамі, 12 — з прадуктамі харчавання, 34 — з абмундзіраваннем, медыкаментамі і іншым ваенным рыштункам, 24 платформы з баявой тэхнікай, танкамі і артылерыяй, 11 цыстэрнаў з палівам. Падбіта і знішчана 31 варожая аўтамашына, узарвана і спалена 16 мастоў агульнай даўжынёй 483 пагонныя метры, разбурана 28,5 кіламетра ліній сувязі, знішчаны склад з боепрыпасамі, разбурана 17 маслазаводаў і разгромлена 11 гарнізонаў праціўніка. На рахунку атрада — 2 365 забітых і параненых фашысцкіх салдат і афіцэраў.

Будучы спачатку камісарам, а пасля камандзірам атрада, Х. Юданаў выхоўваў байцоў сваім асабістым прыкладам, натхняў іх на бязлітасную барацьбу з нямецка-фашысцкімі акупантамі».

Дадам яшчэ, што разам з Хвядосам Вавілавічам у шэрагах народных мсціўцаў змагаліся з ворагам яго браты Пятро, Рыгор, Уладзімір і сястра Юля, што ў жніўні 1942 года гітлераўскія вылюдкі па-зверску закатавалі іх маці—простую сялянскую жанчыну, якая выгадавала і блаславіла сваіх дзяцей на барацьбу з ворагам, за свабоду і незалежнасць Савецкай Радзімы. Які яшчэ большы подзвіг магла здзейсніць жанчына-маці!

●

30 чэрвеня 1944 года на плячах гітлераўцаў, што нястрымна каціліся на захад, у Нова-Барысаў уварвалася трыццацьчацвёрка лейтэнанта Паўла Рака. Экіпаж танка загінуў у няроўнай бітве з ворагам на вуліцах горада. Але барысаўчане не забылі герояў. Іх баявая машына была паднята на гранітны п'едэстал і навечна застыла ўзбоч шашы ў Барысаве як сімвал славы і гордасці нашай арміі-вызваліцельніцы.

У той жа дзень, 30 чэрвеня, у Барысаўскі раён прыбыў былы сакратар Мінскага абкома КП(б)Б Павел Раманавіч Бастун. Тры гады назад, адсюль, з Барысаўшчыны, ён адыходзіў з апошнімі нашымі часцямі на ўсход, а цяпер з перадавымі часцямі наступаючай Чырвонай Арміі зноў вярнуўся сюды.

Адразу ж перайшоў да мірнай стваральнай працы і Хвядос Вавілавіч Юданаў. З першага дня вызвалення раёна ён — намеснік старшыні райвыканкома.

Асабліва цяжкі быў першы пасля вызвалення год. Савецкі ўрад, родная Камуністычная партыя рабілі ўсё, каб памагчы беларускаму народу хутчэй залячыць нанесеныя нямецкімі акупантамі раны. Але яшчэ ішла вайна, Чырвоная Армія гнала фашыстаў на захад. Фронт патрабаваў вялікага напружання сіл і сродкаў для поўнай перамогі над ворагам.

Не адразу зніклі цяжкасці і ў наступныя гады: усе мы ведаем і памятаем, што пакінулі гітлераўцы на шматпакутнай нашай зямлі пасля трох гадоў акупацыі. Ляжалі ў руінах гарады. Груды гарэлай цэглы і металу засталіся на месцах былых заводаў, фабрык, электрастанцый. Былі разрабаваны і знішчаны калгасы і саўгасы, інстытуты і школы, клубы і бібліятэкі. Тысячы мірных вёсак глядзелі ў неба чорнымі камінамі спаленых хат. За тры гады вайны былыя калгасныя і саўгасныя нівы пазарасталі кустоўем і дробналессем.

І ўсё ж пры дапамозе ўсяго савецкага народа, у першую чаргу пры дапамозе вялікага рускага народа, працоўныя Беларусі з дня ў дзень, з году ў год залечвалі цяжкія раны.

Першыя, самыя напружаныя пасляваенныя гады Хвядос Вавілавіч працаваў на кіруючых пасадах у савецкіх органах Барысаўшчыны і Смалявіччыны. Праз некаторы час яго накіроўваюць на вучобу ў Рэспубліканскую партыйную школу. Пасля заканчэння школы ён — у Мінскім раёне, працуе старшынёй райвыканкома.

1953 год. Хвядос Вавілавіч па ўласным жаданні ідзе ў калгас. Калгаснікі выбіраюць яго старшынёй праўлення. З таго часу ён нязменна кіруе «Маяком камунізма». Цяпер гэта — адна з перадавых і багатых гаспадарак Барысаўскага раёна.

Калі ў 1954 годзе ў калгасе было 276 галоў буйнай рагатай жывёлы (з іх — 108 кароў), дык у 1969 годзе — 1 453 галавы, у тым ліку 510 кароў.



Надоі малака ад адной каровы адпаведна — 1 311 кілаграмаў і 3 578, ураджай збожжавых — 12,9 цэнтнера з гектара і 33,3 цэнтнера, бульбы — 152 і 242. Пятнаццаць гадоў назад «Маяк камунізма» прадаваў дзяржаве збожжа — 45 тон, малака — 43 тоны і мяса — 39 тон, а ў 1969 годзе было прададзена: збожжа — 164 тоны, малака —1 603 і мяса — 351 тона.

За апошнія гады ў калгасе пабудаваны чатыры кароўнікі, свінарнік з адкормачнікам, сем сховішчаў для бульбы і гародніны, зернесклад з сушылкай, дом культуры, пяць брыгадных клубаў... Будаваць жа трэба яшчэ і яшчэ!..

Матэрыяльны дастатак сёння прыйшоў у хаты калгаснікаў. Кожная трэцяя сям'я мае тэлевізар, многія маюць пральныя машыны, газавыя пліты, матацыклы. Урэшце, чаму ж яму не быць, гэтаму матэрыяльнаму дастатку, калі ў 1969 годзе сярэднямесячны заробак палявода склаў 73 рублі, трактарыста-механізатара — 98 рублёў, даяркі — 174, цялятніцы — 203; свінаркі — 213 рублёў!

Часта ў газетах можна прачытаць, што справы ў калгасе ішлі кепска, а з прыходам новага старшыні ўсё змянілася, калгас стаў расці, нібы на дражджах. Вядома, многае залежыць ад кіраўніка. Але ж які б ён ні быў, новы старшыня, ён не прывёз з сабой чароўнай палачкі, па адным узмаху якой справы ў гаспадарцы пайшлі на лад. Галоўную прычыну зрухаў трэба заўсёды шукаць у працы ўсяго калектыву на чале з кіраўніком, задача якога — узняць людзей, абудзіць іх ініцыятыву, жаданне працаваць, скіраваць іх працоўны імпэт у належным кірунку.

Хвядос Вавілавіч, як мне думаецца, калі наважыўся пайсці ў адсталую, маламоцную гаспадарку, разумеў, што зямля любіць не пражэкцёраў, а дбайных гаспадароў, што сілы і шчодрасць яе збудзіш не пагоняй за рэкордамі, а штодзённай і заўсёднай працай, што гаспадарку трэба падымаць паступова, з году ў год, нарошчваць сілы, ствараць рэзервы, думаць пра заўтрашні дзень. А яшчэ — дбаць, клапаціцца пра людзей, ведаць іх думкі, жаданні, патрэбы.

Былы партызанскі камандзір пакрысе, у будзённых клопатах і турботах, асвойваў складаную навуку гаспадарання — асвойваў свядома і ўпарта.

Магчыма нават, што навука гэтая так і не асвоена яшчэ да канца. Бо вось памятаю яго словы: «Так, партыя і ўрад зрабілі вельмі шмат для развіцця сельскай гаспадаркі, адкрылі шырокія шляхі і магчымасці для рэзкага ўздыму эканомікі ўсіх калгасаў і саўгасаў. Але гэта якраз і дабавіла ўсім нам, і кіраўнікам, і спецыялістам, клопатаў і турбот. Цяпер, у новых умовах, проста злачынна гаспадарыць кепска, неразумна».

— Раман Навумавіч,— сказаў неяк пры сустрэчы Хвядос Вавілавіч. — На вайне ведай адно — як мага лепш бі ворага. А тут штодня — новыя клопаты, новыя задачы. Аж галава кругам ідзе...

Не, не крывіць душой Хвядос Вавілавіч. Так і працуе ён, з неспакойнай думкай пра тое, каб і далей расла і мацнела гаспадарка, каб яшчэ заможней і шчаслівей жылі нашы людзі.

Мусіць жа зусім не выпадкова да ордэнаў Чырвонай Зоркі і Чырвонага Сцяга, якія атрымаў Хвядос Юданаў за баявыя заслугі, далучыліся ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга і ордэн Леніна, атрыманыя ім за самаадданую працу на перадавой лініі мірнага фронту — за поспехі ў развіцці грамадскай гаспадаркі калгаса.

**Сустракаюцца пакаленні. Да піянераў прыйшлі Герой Савецкага Саюза Раман Мачульскі і старшыня калгаса Хвядос Юданаў.**



# КУР'ЕР МАРЫЯ СУРАГА



Падхапіўся вецер. Раптам пацямнела, завіхурыла мяцеліца.

На пероне нікога не было: аб'явілі, што цягнік позніцца на цэлую гадзіну. А Марыя ўсё стаяла і паглядала ў той бок, адкуль павінны паказацца доўгачаканыя агні.

Стала трывожна. Каб у вагоне, можна было б паставіць кошык пад лаўку. І калі што якое — гэта не яе. Кошык зусім лёгкі, невялікі. Хлеб, бутэлька малака і некалькі яблыкаў, а пад гэтым... Яе чакаюць, вельмі чакаюць! Адозвы неабходна перадаць да вечара, а ноччу іх расклеяць. А калі цягніка зусім не будзе? Трэба ісці ў вакзал і чакаць...

Марыя ўжо не глядзела на семафор і павярнулася, каб ісці ў будынак, як аднекуль узяўся малады чалавек, прапанаваў:

— Я памагу, прошэ...

«Хвост!» — апаліла Марыю здагадка, але яна знайшла ў сабе сілы ўсміхнуцца:

— Дзенькую бардзо, — і пайшла.

Малады чалавек не адставаў. Ён прапусціў Марыю ўперад і адчыніў перад ёю дзверы:

— Прошэ... — потым знайшоў для яе месца і зноў прапанаваў: — Прошэ...

Марыя села, падумала:

«Трэба спакойна паесці», — дастала бутэльку малака, адламала кавалачак хлеба. Прапанавала маладому чалавеку яблык. Ён ахвотна ўзяў, але, відаць, таксама хваляваўся, бо ўсё паглядаў на дзверы, на худым твары выступілі кропелькі поту.

Марыя запівала хлеб малаком, а ў галаве круціліся думкі: «Як з грашыма? 200 злотых... выкінуць... толькі не ім... Няўжо на гэтым усё?!»

Раптам малады чалавек падскочыў, паглядзеў на выхад, паказваючы некаму нешта на мігі. І Марыя ўбачыла паліцыянтаў. Пачалася праверка дакументаў. Астатнія хвіліны прайшлі для яе як у тумане. Улучыўшы хвіліну, калі шпік падняўся, робячы нейкія знакі паліцыянтам, Марыя нагнулася і кінула грошы далёка пад лаўку.

Паліцыянты ўжо былі каля яе. Марыя дастала з-за пазухі дакументы.

— Устаць, пся крэў! — вылаяўся паліцыянт, нават не зірнуўшы на паперы.

Малады чалавек падаў яму Марыін кошык. Стала так ціха, што чуваць было, як у кутку спакойна храпе стары, абвешаны торбамі.

Марыя не спяшаючыся ўстала з лаўкі. З кален на падлогу пакаціўся жоўты, нібы наліты мёдам, яблык. Жанчына-суседка нагнулася, падняла, падала Марыі. Тая з удзячнасцю паглядзела на яе, і раптам у галаву стукнула думка: «Няхай возьме грошы...» І тут Марыя загаласіла, кінулася да жанчыны, абняла яе:

— А завошта ж мяне, невінаватую. А мамачка мая!..

— Прэндзай, прэндзай! — крычаў паліцыянт, адцягваючы Марыю ад жанчыны.

— Завошта яе? Навошта вам гэтае дзеўчанё? — зашумелі навокал.

Паліцыянты павярнуліся да натоўпу, і Марыя паспела прашаптаць на вуха жанчыне:

— Грошы пад лаўкай, шукайце, — і пайшла.

Усё цела зрабілася цяжкае, як не сваё. Калючы снег сек у твар. Яе гналі па пуці напрасткі да пастарунка. Марыя падняла вочы на семафор: ён ужо быў адкрыты. Прыбываў яе цягнік.

«Няхай б'юць, толькі б не захварэць... Няхай б'юць...»

У пастарунку, зусім нечакана для яе, ветліва прапанавалі сесці.

— Прошэ!

«Мяняеце тактыку, — хацелася сказаць тоўстаму вуграстаму каменданту. — Не выйдзе, прошэ пана!..»

Камендант вылажыў усё з кошыка на стол. Разгарнуў газеты. Што былі на рускай мове, бачыла Марыя, адклаў. Узяў адозву і пачаў узірацца ў яе.

«Не ўмееш ты чытаць, не дарос», — падумала Марыя.

Камендант нічога не мог прачытаць па-руску, падняў вочы на Марыю:

— Цо то ест? Цо?

— Прачытайце, прошэ пана, а я не вем, цо то ест...

А сама гэту адозву ведала напамяць.

**«Чаму цвёрдая Савецкая ўлада, нягледзячы на нечуваныя цяжкія выпрабаванні і пакуты голаду і цяжкасці?.. Таму, што ёсць улада саміх працоўных, улада мільёнаў рабочых і сялян... Савецкая ўлада — за працоўных. Вось у чым крыніца сілы і цвёрдасці, крыніца непераможнасці ва ўсім свеце Савецкай улады. Ленін».**

— Ленін! Ленін! Ленін! — тахкала сэрца.

Марыя ўсміхалася. Гэтая ўсмешка вывела каменданта з раўнавагі. Ён падаўся да дзяўчыны і зароў:

— Ленін! Усюды Ленін! Пся крэў!.. Цо то ест? — і ўдарыў Марыю. Яна ўпала б, каб не спінка крэсла. У галаве зашумела. А камендант роў:

— А ты яго відзяла? А ты яго слыхала?

«Бачыла і чула!» — хацелася крыкнуць Марыі, але яна спакойна сказала іншае:

— Дзе ж тая ў вас свабода? — і ўздыхнула.

Твар каменданта аж пачарнеў, ён яшчэ раз ударыў Марыю:

— У адзіночку!

Адчыніліся дзверы, і Марыя ўбачыла павятовага камісара.

Камендант выцягнуўся ў струнку.

Камісар паглядзеў на Марыю, на раскладзеныя газеты і адозвы, прысеў на камендантава крэсла. Не зводзячы вачэй з адозвы, сцягваў пальчаткі. Зноў глянуў на Марыю. Позіркі сустрэліся. Марыя не павяла вачыма. Камісар прамармытаў: «Гм...»

«Зараз пачнуць», — падумала Марыя.

Камендант падсунуў камісару нейкі лісток, сам стаў зводдаль. І пачаўся допыт.

— Назвіско?

— Вольга Улас, — Марыя Сурага назвалася сваёй партыйнай клічкай.

Яе пачалі біць. Потым ледзь жывую павалаклі ў камеру. Падлога была халодная, смярдзючая. Марыя прытулілася гарачым тварам да сцяны, і тут, на адзіноце, у памяці пачалі ўзнікаць малюнкі яе яшчэ такога кароткага жыцця.

Яна з мамай ляжыць на печы. Увосень, калі браліся ўжо замаразкі, вылі вятры і ў хаце было холадна, забіраліся яны на печ. Зверху накрываліся кажухом, бо вецер хадзіў па хаце, і Марыя прасіла маму, каб яна расказвала ёй казкі.

...І вось мама ў дамавіне, а Марыі ўсяго дзесяць гадоў.

— Мама, мамачка! — шэпча Марыя праз слёзы. — Якая ўжо вялікая бярозка на тваёй магілцы...

...А камендант крэмзаў крывымі літарамі:

*«Ад 7 лютага 1936 года.*

*Аб арышце на чыгуначнай станцыі ў Валожыце Радзымінскага павета васемнаццацігадовай жанчыны Вольгі Улас, бацькі няма. Вольга Улас пражывала ў Наваельні Навагрудскага ваяводства. Пры вобыску ў яе былі знойдзены дзве пачкі камуністычных адозваў і газет на рускай і польскай мовах...»*

Марыя сядзела на ледзяной падлозе, абхапіўшы рукамі калені, і перад яе вачыма ўсё ўставала так ясна, што, здавалася, быццам гэта — ява.

...У хаце Сурагаў пачалі часта збірацца знаёмыя і незнаёмыя. Гаварылі паціху, быццам ад некага хаваліся. Аднойчы пачула Марыя, што ў Расіі памёр вялікі чалавек, імя яго Ленін. Што чалавек той даў людзям у той краіне зямлю на вечныя вякі, ніякіх паноў там няма і дзеці ў школу ходзяць. Марыя бачыла, як дзядзькі разглядалі нейкі лісток і казалі: «Па ўсім відаць, што чалавек быў разумны. Ён пра такіх думаў, як мы».

Марыя ціхенька злезла з печы, глянула на лісток, што трымаў у руках брат, і ўбачыла на тым лістку чалавека, якога звалі Леніным і які памёр. Брат хацеў накрычаць на Марыю, каб не лезла куды не след, але чамусьці перадумаў і ціха сказаў: «Запомні гэтага чалавека і нікому не кажы, што ты яго бачыла. У нас за гэта — турма...»

Залезла яна тады на печ, накрылася з галавой, доўга думала пра таго чалавека, пра Расію. Некалі, як яна падрасце і не будзе баяцца, выйдзе ціхенька з хаты ў летнюю ноч, пойдзе на Нясвіж, Качановічы, балотам, полем, потым трыста метраў прапаўзе па нейкай нейтральнай паласе, а потым і Расія (так мужчыны казалі). Там і вучыцца можна. Бо дома, у Заполлі, усё цяжэй было жыць. У той год нават гурок да бульбы не давалі...

Марыя курчыцца ад холаду, хоча падняцца, але ногі як не свае. Зноў садзіцца на ледзяны цэмент. Толькі не думаць пра тое, што будзе. Зноў будуць пытаць пра ўсё спачатку, цягнуць па слову... «Калі звязалася з камуністамі? Хто ўцягнуў?»

У дванаццаць гадоў яна пазнаёмілася з камуністамі. Была прачыстая, як кажуць людзі. У Карэлічах сабралася народу, як ніколі. Марыя ведала, што павінна адбыцца, і старалася не адыходзіць ад брата. І толькі скончылася імша ў царкве, Валодзя з мужчынамі стаў у шэраг і пайшлі. Валодзя выняў сцяг з-пад крыса, начапіў на дрэўка, узняў высока над галавой. Вецер спаласнуў яго раз-другі, выпрастаў, нацягнуў.

Раптам нехта крыкнуў: «Паліцыя!» Замітусіліся шэрагі. Брат сцягнуў з дрэўка сцяг, азірнуўся навокал: «Куды яго?» — убачыў Марыю і пхнуў ёй пад кофту. «Бяжы!» — прашаптаў. Марыя шмыгнула ў натоўп.

Яна стала памочніцай брата і яго таварышаў. У шаснаццаць гадоў яна стала камсамолкай. І ёй было даручана першае заданне. Таварыш Шайгак паціснуў руку, як дарослай, і сказаў: «Тваё першае выпрабаванне. Вытрымаеш — малайчына!»

Не ведала яна тады, што гэта было выпрабаванне яе перад вялікай дарогай.

«Каб вы яшчэ, прошэ пана, ведалі, што я хадзіла ў Савецкую, вам так ненавісную Расію, вы мяне адразу б павесілі», — усміхаецца Марыя і ўспамінае, як яны першы раз з Аляксандрам Цабам дабіраліся да граніцы.

...Без перашкод прайшлі Нясвіж, Качановічы. Ішлі моўчкі, быццам не ведалі адно аднаго. Потым пайшлі балотам, як некалі мужчыны казалі. Непадалёк крумкалі жабы, нешта плюхнула ў ваду, з-пад ног спалохана шаснула патрывожаная птушка. Марыя ішла за Цабам крок у крок, старалася думаць аб чым іншым, толькі б супакоіцца. Потым пачалося поле. Ішлі вузкай сцяжынкай, якая вілася ў жыце. Каласы былі яшчэ шаўкавіста-мяккія і прыемна казыталі твар. Поле кончылася так нечакана, як і пачалося. «Цяпер паўзком», — шапнуў Цаба. Маленькая худзенькая Марыя паўзла, бы яшчарка... Трыста метраў нейтральнай паласы... Марыя з прыемнасцю глытала халодныя чысцюткія кропелькі расы...

І вось СССР.

У тую ноч яна ўбачыла на вялікім партрэце Леніна. Яна адразу яго пазнала, бо глядзела дома не раз на той лісток, які пазней зашыла ў коўдру. Цаба сказаў ёй: «Цяпер можаш глядзець колькі хочаш. Праз яго яны тут так хораша жывуць. І мы прыйшлі сюды па гэта шчасце...»

Праз два дні яны пайшлі назад.





Потым былі дзве восені, дзве зімы, дзве вясны і адно лета. За гэты час яна перанесла больш за паўтоны падпольнай літаратуры.

«Вось, прошэ пана, — з'едліва ўсміхаецца Марыя, выцягваючы знямелыя ногі. — Каб вы ведалі, то лопнулі б са злосці!..»

...Другое лета Марыя не дахадзіла. Аднойчы таварышы з Цэнтральнай тэхнікі КПЗБ сказалі ёй: «Марыя, табе абавязкова трэба вучыцца». І яна засталася ў Мінску. За чатыры месяцы яна авалодала пачатковай граматай і стала студэнткай рабфака. На рабфаку тры гады, потым здала экзамены ва ўніверсітэт. Але вучыцца больш не давялося: адклікалі.

Першы дзень у Мінску. Смешна цяпер. Пайшла ў магазін, выбрала сукенку, плашч, туфлі. А туфлі былі на абцасах, і Марыя першыя дні не ўмела ў іх хадзіць, ступала нібы па лёдзе, баючыся пакаўзнуцца.

Дзе б яна ні ішла, усюды чытала надпісы, шыльды. Ёй хацелася прачытаць уголас, каб чулі людзі, што і яна ўмее чытаць. Як толькі паступіла на рабфак, купіла сабе невялічкі партрэт Леніна, паставіла на сваёй тумбачцы, хоць у пакоі вісеў на сцяне такі ж, толькі большы. Праз гэтага чалавека яна вучыцца, праз яго яна тут, у Савецкай Расіі.

«Толькі ў Маскве не ўдалося пабыць, у Маўзалеі, — уздыхае Марыя. — Усё збіралася, і не выйшла. Нічога, пабуду. Толькі застацца жывой... Буду маўчаць, хай лепш заб'юць. Першы раз то ўдалося вырвацца...»

Так нічога і не даведаліся тады ад Марыі. Павезлі з гэтым у Баранавічы. Судзілі. Далі шэсць месяцаў.

Пасля тых пабояў і хваробы Марыя доўга не магла адысці. На сувязь ні яна, ні яе сябар Мікалай Быліч не маглі хадзіць некаторы час. Праз месяцаў шэсць Марыя зноў папрасілася, але ёй прапанавалі другую работу — кур'ерам Цэнтральнай тэхнікі. Неўзабаве Марыя паехала ў Варшаву. А там — заданні, заданні, паездкі, паездкі...

І вось зноў арышт. І чым яна магла выклікаць падазрэнне? Але нічога дзіўнага: цяпер шпікі сачылі за кожным чалавекам, нават, як кажуць, не верылі самі сабе.

У дзвярах засвяцілася вочка, крыкнулі:

— Грэешся, пся крэў! Зараз сагрэюць! Начальства пад'ехала... Вядома, гэткую птушку злавілі, — гэта ўжо гаварылася некаму на калідоры.

Праз некалькі мінут Марыю выклікалі...

●

**...У хаце моладзь, дачка, яе сяброўкі. Ім па васемнаццаць. Усе вучацца: хто ў тэхнікуме, хто ў інстытуце.**

**На стале яблыкі, мёд.**

**Вельмі ціха. Ніхто не адважваецца папрасіць Марыю Іосіфаўну, каб яна далей расказала пра сябе. Марыя Іосіфаўна адчула гэта, уздыхнула:**

**— Быў такі допыт, пасля якога я не думала, што буду жыць. На мне не было жывога месца. Папаролі штыкамі, што я нават не магла прыперціся да сцяны, так балела ўсё...**

**Адправілі ў Варшаву, потым у Навагрудак. Усё цягалі, дабіваліся, хто я, што я. Ды ўсё дарэмна. І вось суд. Далі пяць гадоў. Вывезлі ў горад Плоцк, кіламетраў сто ад Варшавы, там была турма з рэжымам. Як пачалася польска-германская вайна, бомба ўпала на турму. Стражнікі разбегліся. Тады мужчыны выбілі сцяну і ўсе выйшлі... Пехатою прабраліся ў Беласток і там сустрэлі сваіх. Два гады працавала старшынёй Запольскага сельсавета. Як трохі акрыяла, у Маскву паехала, у Маўзалей пайшла. Ільічу нізка пакланілася, як жывому, расказала пра ўсе свае справы... І сіл набралася — нават самой не верылася, што столькі перажыла... А тут вайна. Давялося зноў ісці ў падполле, а потым перабрацца да партызан...**

**Ціха, так ціха, што чуваць, як б'ецца аб шыбу начны матыль. Усе маўчаць. Магчыма, думаюць хто пра што. Марыя Іосіфаўна, напэўна, думае пра дачку, бо скідае з ілба яе непаслухмяныя мяккія валасы, глядзіць у яе вочы. Пра што думаюць дачка і яе сяброўкі? Вядома, пра сваё. Як трэба жыць, з каго браць прыклад...**

**Вёска Заполле,**
**Карэліцкі раён.**

**Ларыса МАРУШКА.**

# КАМСАМОЛЬСКАЕ СЭРЦА

Была нядзеля. Дзень адпачынку.

На вуліцы поўна моладзі. Жарты, смех, музыка. Залівaецца гармонік. І раптам нечаканая вестка абрывае ўсё: «Вайна!..» Неўзабаве з торбамі, з чамаданамі ў Данілавічы пацягнуліся натоўпы людзей. Пачалася мабілізацыя. Мужчыны адпраўляліся на фронт.

✦

Дар'я і яе муж Архіп сядзелі на лаўцы сумныя. У іх два сыны. Адзін у арміі, а меншы, Мікола, толькі што скончыў сямігодку і цяпер хадзіў на працу ў калгас.

— Можа ўжо забілі Сымона. Ён жа недзе ў Брэсце служыў,— бядуе Дар'я.

— Годзе табе, старая! — храбрыцца Архіп.— Так ужо і забілі. Я колькі ў тую вайну цягаўся па акопах і цэлы застаўся. У нас цяпер тэхніка — не тое, што тады. Не пусцяць немчуру!..

— І Мікола вось...— разважае далей Дар'я.— Хутка шаснаццаць споўніцца Падаспее яшчэ якраз...

— Не трэба, мама,— уступае ў гаворку Мікола.— Я ўжо рашыў, што мне рабіць.

— Глядзі ты на яго, ён ужо рашыў...— занепакоілася маці.

Пад той час у хату да дзядзькі Архіпа завітаў старшыня калгаса Іван Літвінаў. Ён павітаўся і прысеў на зэдлік. Памаўчалі.

— Не сумуйце,— урэшце прамовіў старшыня.— Гора цяпер у кожнага. Але горам ворага не спыніш. З ворагам трэба змагацца. Я зайшоў, каб Мікалай брыгаду прыняў. Болей некаму. Падлеткі — мая працоўная армія зараз. Што вы мне скажаце?..

— Ці справіцца ж? — азвалася Дар'я.

— Нічога, пацягне! — падахвоціў сына Архіп. — Калі што такое, то і я памагу...

Так Мікола Гаўрыленка стаў брыгадзірам. Хлопец ён быў рослы, старанны, і справы ў яго пайшлі няблага. Тым часам з захаду насоўвалася фашысцкая навала. Фронт быў ужо на Дняпры. Усё часцей і часцей над вёскамі праляталі фашысцкія самалёты. Яны скідалі бомбы на Гомель, і зарыва ад пажараў палыхала па вечарах.

За Данілавічамі пачалі капаць супрацьтанкавы роў. Працавалі пераважна жанчыны. І Мікола-брыгадзір завіхаўся ў грамадзе з рыдлёўкай, а тады спяшаўся на поле, дзе пераспяваў ужо лён...

Якраз апоўдні Мікола загуменнем вяртаўся дадому. Заўважыў, як з Веткі на Данілавічы імчаў грузавік. І тут жа — аўтаматная чарга. Грузавік спыніўся. Потым з лагчыны вынырнуў танк і па шляху пасунуўся на Ветку. Мікола прысеў за куст. «Немцы!» — мільганула думка.

Танк ужо схаваўся за ўзгоркам, калі Мікола заўважыў у бульбоўніку чалавека ў вайсковай вопратцы. Ён поўз ад машыны гародамі.

«Відаць, параненых»,— падумаў Мікола і, прыгінаючыся, баразнамі пабег насустрач. Некалькі крокаў... Спыніўся. Загаварыў з вайскоўцам, які ляжаў на траве.

— Што з вамі? Можа чым памагчы?..

— Фашысты... Я ранены. Нага...— ледзь чутна прамовіў вайсковец, просячы паратунку.

— Пачакайце. Зараз перавяжу, — і Мікола скінуў з сябе сарочку, разарваў яе і ўмомант забінтаваў нагу лейтэнанту. Крыху акрыяўшы, той сказаў:

— Мы ў Касцюкоўку ехалі. Таварыш загінуў, а я вось... У Касцюкоўку мне трэба, да палкоўніка. Падвязі, калі можаш. Маё прозвішча Званцоў, Ігар Кірылавіч...

— Добра,— згадзіўся Мікола. Паляжы тут, а я — па каня...

Назаўтра ў Замосці былі фашысты. Потым фронт адкаціўся за Гомель. На захопленай зямлі фашысты пачалі наладжваць «новы парадак». Неўзабаве ў Замосце прыехалі на матацыклах два немцы. Ісака Гукава прызначылі за старасту. Тады ж адзін з іх, відаць, нейкі начальнік, важна ўсеўшыся за сталом, пачаў перабіраць паперы, і адразу да старасты:

— Гук, ты плёхой стараста. Ты скрываеш камуніст і партызан.

— Не, пан, у нас іх няма,— адказаў Ісак Гукаў.

— Мальшацы! — раптам зароў эсэсавец. — Сюда айн момент Гаўрыленка Міколяй. Паліцай, шнель! — крыкнуў ён на двух з белымі павязкамі, што былі з немцамі. Яны ўскінулі вінтоўкі за плячо і паклыпалі за старастам.

Мікалай у гэты час сядзеў за сталом. Гаўрыленкі якраз абедалі. Паліцаі падхапілі Міколу пад рукі і прывялі ў хату да старасты.

— О, Гаўрыленка Міколяй! — з нейкай з'едлівай ухмылкай загаварыў немец, калі стараста сказаў, што гэта той хлопец, якога загадалі прывесці.





Мікалай стаяў з апушчанымі рукамі, пільна глядзеў на фашыста з кручкаватым носам і рыжым чубам.

«Віславухі»,— падумалася.

А «віславухі» гаварыў:

— Ты камсамолец, партызан? Раскажы ўсё і пойдзеш да маткі.

Мікола маўчаў.

— Што ж ты, мой малчык, мальчыш? Раскажы...

Мікола глянуў у акно і ўбачыў на вуліцы маці і бацьку, якіх не пусцілі ў хату: яны стаялі і трывожна пазіралі на вокны. Ля хаты збіраліся людзі, шапталіся, крадком паказвалі на хату. Мікола бачыў, як маці ражком хусткі выцірала вочы. «Плача», — падумаў.

— Ты камсамолец? — зноў паўтарыў немец-эсэсавец.

— Камсамолец, — спакойна адказаў Мікола.

— Молодзец,— саладжава прамовіў немец і паглядзеў у паперку.— Ты савецкі ранены афіцэр у Касцюкоўка адвёз?

— Я,— прызнаўся Мікола, разглядаючы вушы немца, якія раптам зрабіліся малінавымі.

— О, ты харошы малчык. Мы любім такой смелост. Аддай мне свой камсамольскі білет.

— Ён у мяне дома,— адказаў Мікола.

— Прынясі білет. Аддай яго нам пры народзе. Я табе дам гэтую кніжку. Тут карцінка харошы...

— Не аддам,— паўтарыў Мікола.

— Не трэба так, малчык. Будзеш на шыбеніцы... Што твой білет?.. Аддай!..

— Не аддам,— цвёрда сказаў камсамолец.

— О, ты смелы! Я знаю. А матка ты свой любіш?

— Люблю...

— Гук,— звярнуўся немец да старасты.— Прывядзі матка. А малчыку — сорак шомпал. Паліцай! Не аддасць — павесіць!..

Падумаў Мікола, што праз яго будуць мучыць маці. Холад прайшоў па целе. Сэрца як акамянела, стала цяжка дыхаць.

— Аддай! — ён зноў пачуў голас эсэсаўца і глянуў на паліцэйскіх, якія ў руках ужо трымалі шомпалы. Падумаў: «Маці біць будуць».

— Аддам,— вымавіў ён і паглядзеў на немца, у якога, як падалося, вушы пабялелі і абвіслі.

— Молёдзец,— гітлеравец аж пацёр рукі ад задавальнення.— Ты з вінтоўка хадзіў. Дзе твой вінтоўка?..

— Дома,— адказаў Мікола і падумаў: «Гад нейкі прадаў»,— і ціха дадаў:— І вінтоўку аддам...

— Курт,— звярнуўся немец-начальнік да другога эсэсаўца і пачаў гаварыць з ім па-нямецку. Той узяў аднаго паліцэйскага, і яны павялі Міколу на двор.



Мікола Гаўрыленка.

Архіп і Дар'я думалі, што сына адпусцілі, і на вуліцы кінуліся да яго, але немец крыкнуў: «Хальт!», наставіў аўтамат. Тады яны памкнуліся ісці следам — фашыст зноў пагразіў аўтаматам.

Мікола вынес з каморы паляўнічую стрэльбу, яе тут жа забраў паліцэйскі, потым доўга поркаўся ў куфэрку, пера-трос кніжкі, нарэшце, штосьці паклаў у кішэню пінжака і сказаў:

— Вядзіце.

Каля хаты старасты сабралася ўжо шмат людзей. Калі канваіры падвялі Міколу, з натоўпу выскачыла Полька Сафонава і заенчыла:

— Пан, гэта не тая стрэльба. У яго была новая, вінтоўка была...

«Вось хто мяне прадаў»,— падумалася Міколу.

Немец спыніўся, паглядзеў на жанчыну, не зразумеў, што яна сказала, і загадаў ісці ў хату.

— О, ахота!..— узрадаваўся немец-начальнік, убачыўшы стрэльбу, і тут жа запытаўся, паказваючы на тую жанчыну, што енчыла:

— А матка што скажа?

Жанчына затараторыла:

— У яго вунь такая была стрэльба,— яна паказала на вінтоўку, што трымаў паліцэйскі.— Ён з такой ганяў нас равы капаць, каб танкі вашы не прайшлі. Схаваў. Няхай прынясе!..

— Добра. Ты харошы матка. Спасіба.

Немец-начальнік пацёр левае вуха, і яно зрабілася чырвоным, ухмыльнуўся, і да Міколы:

— Ты, хлопец, жартаўнік. Ты і вінтоўка прынясеш. Прынясеш? — кіўнуў ён галавой і, не чакаючы адказу, прапанаваў: — А цяпер аддай свой білет. Ты яго прынёс? Давай!..

Мікола дастаў з кішэні кніжачку і палажыў на стол. Немец-начальнік схапіў кніжачку і пачаў разглядваць, потым разгарнуў і раптам адхіснуўся, бы апёкся. Перад ім ляжала савецкая лістоўка. Зверху вялікімі літарамі было напісана: «Смерць фашысцкім акупантам!»

— О! — ачомаўшыся, прастагнаў немец і раз'юшана зароў: — Партызан! Камуніст! Расстраляць! Дамоў! Вобыск!..

Паліцэйскія, стараста і другі эсэсавец паімчаліся да Архіпа, перавярнулі і ператрэслі ўсё ў хаце. Міколавага білета не знайшлі. На вінтоўку наткнуліся на гарышчы, пад страхою. Калі прынеслі вінтоўку, немец-начальнік ускіпеў:

— Партызан! Камсамолец! На шыбеніцу!

Міколу вывелі на вуліцу. Маці і бацька плачучы кінуліся да сына, але даўганосы эсэсавец схапіўся за аўтамат: «Хальт!» Потым даў чаргу ўверх. Міколу пасадзілі ў кузаў. Сюды ж селі і паліцэйскія.

...Назаўтра Архіп паехаў у Ветку. Знайшоў сына ў акопчыку на гародах. Ён увесь быў пакалечаны: рукі вывернуты, твар пабіты. Фашысцкая куля ў патыліцу абарвала жыццё камсамольца.

✦

Мікола Гаўрыленка пахаваны на замосцеўскіх могілках. Бацька і маці яго памерлі. Іх пахавалі побач з магілай сына. З торфазавода «Бальшавік» часта наведваецца ў Замосце брат Сымон, які прайшоў шлях за гады вайны ад Брэста да Арла і назад да Берліна. У Замосці жывуць Міколавы сёстры Клава і Вара.

Замосцеўскія піянеры кожнай вясной абсаджваюць магілу героя-камсамольца кветкамі. Яны цвітуць усё лета. Глядзіш на блакітныя пялёсткі і думаеш: такія ж блакітныя і чыстыя былі і вочы ў Міколы.

**Ціхан ПІСКУНОЎ,**
**настаўнік.**

## Старонкі з новай кнігі Віталія ВОЛЬСКАГА «ПА ДАРОГАХ ПАЛЕССЯ»

### вы прачытаеце ў наступным нумары






# 1970

## КАСТРЫЧНІК

**2**

50 гадоў назад (1920) У. І. Ленін выступіў на III з'ездзе РКСМ з прамовай «Задачы саюзаў моладзі».

**5—7**

30 гадоў назад (1940) праходзіў XIV з'езд ЛКСМ Беларусі.

**5**

60 гадоў з дня нараджэння (1910) Г. П. Кесаравай, доктара біялагічных навук, прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.



Г. П. Кесарава.

**16**

60 гадоў з дня нараджэння (1910) П. П. Падкавырава, кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**17**

70 гадоў з дня нараджэння (1900) І. Р. Гямбіцкага, беларускага мастака-графіка.



П. П. Падкавыраў.

**21**

50 гадоў з дня нараджэння (1920) І. Я. Фецісава, беларускага мастака-жывапісца.

**30**

10 гадоў назад (1960) адбыўся ўрачысты пуск газаправода «Дашава — Мінск».

**кастрычнік**

10 гадоў назад (1960) адкрыты Інстытут анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Міністэрства аховы здароўя БССР.

Прамежкавая помпавая станцыя на трасе «Дашава— Мінск».



І. Я. Фецісаў.



І. Р. Гямбіцкі.



# ЭЛЕКТРОННАЯ ДЫНАСТЫЯ «МІНСК»

**Бюро ЦК ВЛКСМ, разгледзеўшы прадстаўленне камісіі па прэміях Ленінскага камсамола ў галіне навукі і тэхнікі, пастанаўляе прысудзіць прэмію Ленінскага камсамола за 1969—1970 гг.:**

**ПЫХЦІНУ Вадзіму Якаўлевічу, начальніку аддзела; КАВАЛЕВІЧУ Эдуарду Вікенцевічу, начальніку аддзела; КАЧКОВУ Уладзіміру Пятровічу, начальніку лабараторыі; НЕМЕНМАНУ Марку Яфімавічу, начальніку аддзела — работнікам Мінскага філіяла навукова-даследчага цэнтра электронна-вылічальнай тэхнікі; ЦІТОВУ Анатолю Міхайлавічу, намесніку галоўнага тэхнолага Мінскага завода электронных вылічальных машын імя Г. К. Арджанікідзе; ШКУТУ Мікалаю Васільевічу, загадчыку лабараторыі Інстытута матэматыкі Акадэміі навук Беларускай ССР — за ўдзел у стварэнні электронных вылічальных машын сямейства «МІНСК».**

З пастановы бюро ЦК ВЛКСМ.

У гэтай сям'і столькі талентаў, што просты пералік іх змусіў бы пазелянець ад зайздрасці самага фанабэрыстага вундэркінда. Машыны з сям'і «Мінск» імгненна перамнажаюць дзесяцізначныя лічбы, праектуюць дэталі, ставяць дыягназы, а яшчэ могуць ствараць музыку, маляваць, гуляць у шахматы...

Хто ж падараваў электроннаму ўмельцу столькі здольнасцей?

Шасцёра самых маладых «бацькоў», якіх мы запрасілі ўзяць удзел у гэтай гутарцы, прадстаўляюць тры калектывы, што працуюць над стварэннем машын серыі «Мінск»: Мінскі філіял навукова-даследчага цэнтра электронна-вылічальнай тэхнікі, Мінскі завод электронных вылічальных машын імя Арджанікідзе і Інстытут матэматыкі Акадэміі навук БССР.

Вадзім Пыхцін.



Эдуард Кавалевіч.



Уладзімір Качкоў.





Знаёмімся: Вадзім Пыхцін, Эдуард Кавалевіч, Уладзімір Качкоў, Марк Неменман, Анатоль Цітоў, Мікалай Шкут. Усе — амаль аднагодкі, сярэдні ўзрост — трохі за трыццаць. Апрача Вадзіма Пыхціна, які прыехаў з Масквы, усе вучыліся ў Мінску — хто канчаў універсітэт, хто політэхнічны... І ні адзін не думаў, што калі-небудзь яму давядзецца мець справу з электроннымі вылічальнымі машынамі.

**— Як жа здарылася, што ўсе шасцёра сталі «бацькамі» ЭВМ «Мінск»?**

**Марк Неменман:** — Я скончыў матэматычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна ў пяцьдзесят восьмым і пачаў выкладаць там жа, дзе вучыўся. Тры гады выкладаў матэматыку, а потым рашыў папрацаваць з вылічальнай тэхнікай...

**Эдуард Кавалевіч:** — А мы з Мікалаем Шкутам вучыліся ў адной групе на тым жа факультэце, што і Марк, толькі на год пазней. Пасля выпуску па размеркаванні трапілі ў Інстытут матэматыкі Акадэміі навук БССР. Паўтара года працавалі разам. Зацікавіліся праблемамі «машыннай мовы». Так у лютым шэсцьдзесят першага года я апынуўся ў СКБ завода электронных вылічальных машын.

**Вадзім Пыхцін:** — Калі я пасля заканчэння Маскоўскага энергетычнага інстытута прыйшоў у СКБ завода імя Арджанікідзе, тут яшчэ выпускаліся лямпавыя машыны «Мінск-1». Іх прадукцыйнасць была ў сотні разоў меншая за цяперашнія мадэлі. У распрацоўцы асобных сістэм ЭВМ «Мінск-2» я і мае таварышы ўжо ўдзельнічалі. Гэта была першая машына серыі «Мінск», якая працавала на паўправадніках. Яна была задумана для навуковых разлікаў. Але хутка мы даведаліся, што заказчыкі пачалі выкарыстоўваць яе «не па прызначэнні»: у той час адчуваўся недахоп ЭВМ для эканамічных разлікаў. Мы пачалі думаць над такой машынай, і ў выніку з'явіліся «Мінск-22», «Мінск-22м». Потым былі створаны больш дасканалыя мадэлі — «Мінск-23» і «Мінск-32». Апошняя адрозніваецца ад сваёй прабабкі «Мінск-1» прыкладна так, як паршнявы самалёт ад рэактыўнага. А прайшло не так многа часу — усяго дзесяць гадоў.

— Кожная новая марка машыны, — працягвае размову **Марк Неменман,** — часцей за ўсё пераўзыходзіць усе папярэднія па сваіх асноўных параметрах — хуткасці дзеяння, аб'ёму аператыўнай памяці і г. д. «Мінск-32», напрыклад, мае аператыўную памяць у восем разоў большую, чым, напрыклад, «Мінск-22м», а выконвае праграму ў чатыры разы хутчэй. Можна прывесці яшчэ некаторыя важныя характарыстыкі машыны «Мінск-32».

Скажам, магчымасць нарошчвання камплекту знешніх прыстасаванняў. Да яе можна падключыць да 136 розных сістэм уводу і вываду інфармацыі, прамежкавай памяці ці нават яшчэ такую ж машыну. І ўсе гэтыя

Марк Неменман.



Анатоль Цітоў.



Мікалай Шкут.



сістэмы будуць працаваць адначасова, а вылічэнні ў гэты час не спыняцца. Прадукцыйнасць машыны, такім чынам, істотна павялічваецца.

Ці яшчэ прыклад — адначасовае выкананне некалькіх праграм. Наша новая машына паспяхова спраўляецца з чатырма задачамі адначасова. У яе аператыўнай памяці знаходзіцца дыспетчар — так называецца спецыяльная праграма, якая кіруе працэсам адначасовага рашэння задач.

**— Якія ж задачы можа рашаць машына і як гэта робіцца?**

**Мікалай Шкут:** — ЭВМ і, у прыватнасці, «Мінск-32», можа прадказаць надвор'е; калі спатрэбіцца, выбраць найбольш рацыянальны шлях для выканання плана прамысловым прадпрыемствам, сканструяваць новы станок і правесці вельмі складаныя матэматычныя разлікі. Увесь «сакрэт» у тым, як растлумачыць машыне, чаго ад яе хоча чалавек. Яна ж не разумее чалавечай мовы, з ёй можна гаварыць толькі на яе, «машыннай» мове. ЭВМ аперыруе толькі прасцейшымі арыфметычнымі дзеяннямі — складаннем, адыманнем, множаннем і дзяленнем. Значыць, любое заданне ёй павінна быць прапанавана ў выглядзе паслядоўнага раду гэтых дзеянняў, закадзіраваных у лічбах. Гэтая паслядоўнасць называецца алгарытмам, запісаным на машыннай мове, або праграмай. Працэс праграміравання надзвычай працаёмкі і патрабуе шмат часу. Аблегчыць і паскорыць яго можна з дапамогай алгарытмічных моў і спецыяльных транслятараў. У свеце існуе каля дзвюх тысяч розных алгарытмічных моў. Самыя пашыраныя з іх — «Фартран», «Алгол-60» і «Кабол» намнога аблягчаюць размову чалавека з машынай.

Калектыў нашай лабараторыі прыклаў нямала намаганняў, перш чым былі створаны транслятар — свайго роду перакладчык з алгарытмічнай мовы «Алгол-60» на мову электронна-вылічальнай машыны «Мінск». На гэтую работу пайшло шмат часу. Затое цяпер чалавеку ўжо не трэба траціць цэлыя месяцы на праграміраванне. Машына сама за некалькі хвілін зробіць з дапамогай транслятара пераклад на сваю, машынную мову.

**Марк Неменман:** — Дарэчы, «Мінск-32» выдатна разумее мову сваіх папярэдніц — «Мінск-22» і «Мінск-22м».

**— Колькі аперацый выконвае ЭВМ — ну, скажам, у секунду?**

**Вадзім Пыхцін:** — Да 30 тысяч. Цяжка ўявіць? «Мінск-32» можа адначасова «размаўляць» з некалькімі дзесяткамі тэлеграфных апаратаў, якія знаходзяцца ў розных пунктах. Гэтая машына можа трымаць у сваёй «памяці» запас інфармацыі аб'ёмам у сто кніжных старонак. Апрача таго, ёсць яшчэ магнітныя стужкі, на кожную з якіх можна запісаць да пяці тысяч кніжных старонак. І ўсё гэта «Мінск-32» прачытвае з такой хуткасцю, на якую не здольны ні адзін фенамен.

Дарэчы, «Мінск-32» у гэтым сэнсе не з'яўляецца чэмпіёнам сярод сваіх электронных сваякоў. У нас і за рубяжом ёсць хуткадзейныя ЭВМ, якія выконваюць да мільёна аперацый у секунду. Асаблівасцю мінскіх машын з'яўляецца тое, што яны прызначаны для шырокага карыстання. У адрозненне ад унікальных камп'ютараў такое прызначэнне ЭВМ патрабуе ад канструктараў захавання цэлага шэрагу зусім супярэчлівых патрабаванняў — такіх, як, напрыклад, адносна невысокі кошт і дастаткова высокая надзейнасць, універсальнасць і прастата ў эксплуатацыі, серыйнасць і тэхналагічнасць у вытворчасці. На мой погляд, нашы машыны адпавядаюць усім гэтым патрабаванням. Асноўнае адрозненне ЭВМ «Мінск» ад іншых мадэлей — масавасць: бадай, у сваім класе гэта найбольш папулярныя і пашыраныя машыны.

**— Дарэчы, дзе яны працуюць?**

**Уладзімір Качкоў:** — Наколькі нам вядома, «Мінск-32» зараз апрацоўваюць вынікі ўсесаюзнага перапісу насельніцтва. «Мінск-23», устаноўленая ў цэнтральным агенцтве Аэрафлоту, займаецца браніраваннем месц для транзітных пасажыраў. Нашы машыны працуюць на ленінградскім заводзе «Электрасіла», на маскоўскім падшыпнікавым, на многіх мінскіх прадпрыемствах — трактарным, гадзіннікавым, на заводзе аўтаматычных ліній...





**Эдуард Кавалевіч:** — Што датычыць зарубежных маршрутаў, то іх таксама нямала: Польшча, ГДР, Балгарыя, Алжыр, Чэхаславакія, Венгрыя, ААР... Мне было даручана сачыць за работай «мінчанак» у Англіі і Галандыі. Чырванець за іх не давялося.

**— Справа тут, мусіць, не толькі ў канструкцыі, але і ў тым, як ідэя ўвасоблена ў «матэрыяле»?..**

**Анатоль Цітоў:** — Так. Вельмі многае залежыць ад таго, як зроблена машына. Калі, скажам, у транзістарным прыёмніку пяць-шэсць трыёдаў, то ў машыне «Мінск-32» іх дзесяткі тысяч. Кожная клетка машыннай памяці выконвае пэўную функцыю, а такіх клетак — амаль трэць мільёна. Правадамі адной машыны «Мінск-32» можна двойчы аперазаць Мінск па кальцавой магістралі. Можна сабе ўявіць, што азначае сабраць і наладзіць такую складаную сістэму...

Аднак галоўная цяжкасць яшчэ не ў гэтым. Калі вытворчасць наладжана, «настроена» на выпуск пэўнага віду прадукцыі, усё ідзе нармальна. А калі, як у нас, ледзь не кожны год даводзіцца пераналаджваць вытворчасць? Інакш нельга, бо прадукцыя наша асаблівая. Машына, якая сёння лічыцца верхам дасканаласці, заўтра ўжо не задавальняе ўзрослых патрабаванняў — інакш кажучы, яна старэе. І вось толькі асвоіўшы выпуск навінкі, мы вымушаны адразу ж пачынаць падрыхтоўку да пераходу на другую мадэль. Для гэтага кожны раз трэба ўдасканальваць тэхналагічны працэс, змяняць аснастку, павышаць кваліфікацыю людзей. Праўда, канструктары мінскіх машын клапоцяцца пра тое, каб кожная наступная мадэль як бы вырастала з папярэдняй і, такім чынам, захоўвалася «пераемнасць» ад пакалення да пакалення. Але вытворчасць усё роўна з кожным годам будзе мяняцца. Гэта і ёсць прагрэс. Зараз, напрыклад, завод выпускае «Мінск-32» — машыну на паўправадніках, а хутка з'явіцца прынцыпова новая мадэль — больш сучасная, чым яе папярэдніцы.

**— Давайце крыху памарым. Як вы ўяўляеце сабе ЭВМ у бліжэйшай будучыні?**

**Уладзімір Качкоў:** — Вядома, будуць прадаўжацца пошукі шляхоў павышэння хуткасці дзеяння і надзейнасці электронна-вылічальных машын, будзе аддавацца ўсё большая ўвага ўдасканаленню сувязі чалавека з машынай. Дасягнутыя за апошні час поспехі — такія, напрыклад, як магчымасць адначасовай эксплуатацыі ЭВМ некалькімі спажыўцамі — забяспечваюць амаль неабмежаваныя магчымасці выкарыстання гэтых машын і робяць іх вернымі памочнікамі чалавека.

Сёння электронна-вылічальныя машыны служаць пераважна навуцы, эканоміцы, вытворчасці. Я думаю, што неўзабаве сфера іх прымянення ахопіць і наш быт. Ужо цяпер можна сабе ўявіць абаненцкія пульты кіравання, устаноўленыя ў кожнай кватэры і звязаныя тэлефоннымі лініямі з агульнай, «камунальнай» ЭВМ. Кожны пульт забяспечаны тэлевізійным экранам і клавіятурай пішучай машынкі. Пры дапамозе такой сістэмы абанент атрымае магчымасць «праглядаць» на экране свайго пульта патрэбныя для яго кнігі і матэрыялы з бібліятэкі, што захоўваюцца ў знешняй памяці агульнай ЭВМ. Можна таксама карыстацца сістэмай машыннага праектавання. Атрымаўшы патрэбную інфармацыю, машына «выдасць» вам не толькі чарцяжы, але і вынікі даследавання спраектаванай пабудовы метадам мадэлявання...

**— Вы, мусіць, любіце і навуковую фантастыку, ці не так?**

**Марк Неменман:** — Фантастыку, пэўна, чытаюць усе. Я, напрыклад, з пісьменнікаў-фантастаў паважаю больш за ўсё братоў Стругацкіх і Станіслава Лема...

**— Вы, безумоўна, сустракалі ў кнігах апісанне «бунту машын» — дарэчы, гэта ёсць і ў Брэдберы: робаты, якія выйшлі з падпарадкавання чалавеку, накіроўваюць супраць яго сваю сілу... Як вы да гэтага ставіцеся?**

**Марк Неменман:** — Ніяк...
**Эдуард Кавалевіч:** — Я не прымаю гэта ўсур'ёз...
**Мікалай Шкут:** — У мяне, напрыклад, выклікаюць пярэчанне выразы, якімі даволі часта карыстаюцца: «электронны мозг», «кібернетычны розум»... Розум можа быць толькі адзін — чалавечы. Машына не можа думаць. Усяму, што яна робіць, навучыў яе чалавек. Таму ніколі машыне, няхай самай «разумнай», не наканавана ўзняцца над чалавекам, заняволіць яго. Грамадства тэхнакратыі, дзе чалавек — нявольнік высокаарганізаванай машыны — у нас, прынамсі, немагчыма. Што ж датычыць «бунту робатаў», то гэта, на мой погляд, выдумка фантастаў. Усякі машынны «бунт» можа быць супакоены простым націсканнем кнопкі.
**Марк Неменман:** — Але наогул пытанне гэтае выклікае шмат дыскусій.

**— ЭВМ — гэта, вядома, ваша асноўнае захапленне. А што яшчэ?**

**Эдуард Кавалевіч:** — Апрача электронна-вылічальнай тэхнікі, маё захапленне — аўтамашына. Яе марка «Волга». Сябры лічаць мяне заядлым аўтааматарам, але мне ніяк не выпадае як след пасядзець за рулём. Прычынай таму частыя камандзіроўкі, звязаныя з нашай агульнай машынай...
**Марк Неменман:** — А маё хобі — турызм. Люблю павандраваць з рукзаком. Быў на Каўказе і на Алтаі, на Цянь-Шані і на Далёкім Усходзе...
**Чыясьці рэпліка:** — Ён у нас — адзіны халасцяк, таму і турыст.

**— Значыць, сямейных сярод вас, як кажуць, пераважная большасць? У якой жа сям'і вы праводзіце больш часу — у сваёй ці электроннай? Ці не дае хто-небудзь прычыны прыраўноўваць сябе да ЭВМ?**

**Эдуард Кавалевіч:** — Ды амаль у кожнага з нас жонка таксама працуе з электроннымі машынамі. Мая, напрыклад, — старшы інжынер-праграміст універсітэцкага вылічальнага цэнтра, там жа працуе і жонка Мікалая Шкута. А жонка Уладзіміра Качкова прымае ўдзел у распрацоўцы праграм для «Мінск-32».

**— Усе вы, здаецца, былі на XVI з'ездзе ВЛКСМ. Чым вам запомнілася гэтая падзея?**

**Вадзім Пыхцін:** — Мы былі запрошаны на з'езд як госці. Тут нам і ўручылі прэміі Ленінскага камсамола. Гэта было пасля пасяджэння секцыі «Моладзь і павышэнне эфектыўнасці грамадскай вытворчасці», у рабоце якой мы прымалі ўдзел. Ганаровыя ўзнагароды ўручаў у Калоннай зале Дома Саюзаў сакратар ЦК ВЛКСМ Генадзь Елісееў. Зразумела, што менавіта гэтая падзея запомнілася нам. Такая ўзнагарода шмат да чаго абавязвае. Мы лічым, што яе варты многія нашы таварышы па рабоце. Прыкладзем усе сілы, каб апраўдаць камсамольскую ўзнагароду. Новае пакаленне машын серыі «Мінск», над якім цяпер працуе наш калектыў, прадоўжыць слаўныя традыцыі сваёй электроннай дынастыі.

**Гутарку вёў Аркадзь БРЖАЗОЎСКІ.**



# ЛІНІЯ НАПРУЖАННЯ

## ДЫНАСТЫЯ САКОЎСКІХ

Часта прыходзілі Анатолю лісты ад сястры. І кожны заканчваўся аднолькава: «Прыязджай, паглядзі, як жывём і працуем».
Пра Новалукомль Анатоль нямала ўжо ведаў і з газет, і па радыё чуў. Але пабачыць горад сваімі вачыма пакуль не давялося. Шчыра кажучы, ён асабліва і не імкнуўся ў гэты горад, хоць там працавалі ягоныя сёстры Валянціна і Марыя. Першая прыйшла сюды ажно шэсць гадоў назад Валянціна Сакоўская — ветэран усесаюзнай камсамольскай новабудоўлі... Малодшая, Марыя, пасля васьмігодкі скончыла Новалукомльскае прафтэхвучылішча. Яна стала тынкоўшчыцай. Хоць сёстры працуюць у розных брыгадах, але жывуць у адным пакойчыку інтэрната будаўнікоў.
— От каб і Анатоль быў з намі, — неяк за вячэрай падала думку Валянціна.
— Тут лягчэй было б халасцяку, — жартавала Марыя. — Нявесту яму знайшлі б...
Але брат адмоўчваўся. Не даваў сёстрам згоды ехаць у Новалукомль. Не хацелася хлопцу пакідаць Мінск, завод аўтаматычных ліній, дзе пасля вайсковай службы працаваў слесарам.
Сёстры ж стаялі на сваім. Яны ўсё слалі лісты, хвалілі горад, інтэрнат, працу на будоўлі. «Паеду, пагляджу, а там відаць будзе», — парашыў нарэшце Анатоль.
Анатоль перш-наперш завітаў у родную вёску Дворышча, што ў Чашніцкім раёне. Цёпла сустрэлі яго дома. А меншым братам і сёстрам ён цэлы вечар расказваў пра сталіцу, пра жыццё ў Мінску. Бацьку ж і маці сказаў, што заўтра мае ехаць да сясцёр.
— Глядзі, сынок, дзе лепш, — ціха зазначыла Марыя Аляксандраўна. — Ты маеш спецыяльнасць. А Валька ж дзіцем з дому выйшла, ды, бач, ужо не адну работу ўмее рабіць. Можа, каля сясцёр табе і не горш будзе...
Настрой у хлопца быў няпэўны.
У Новалукомль Анатоль выехаў раненька, першым аўтобусам. Быў панядзелак. З Чашнікаў на будоўлю пасля нядзелі вярталіся юнакі і дзяўчаты — будаўнікі, мантажнікі. Асфальтаваная стужка дарогі сама клалася пад шыны «ЛАЗа».
На даляглядзе, дзе калісьці была невялічкая вёска Пыркаўшчына, віднелася труба. Яна нібы краналася блакіту, дыхаючы ў неба клубамі шызага дыму. Сталі выразна бачны контуры самой электрастанцыі, абрысы пад'ёмных кранаў, глыба жалезабетону. І ва ўсе бакі на магутных сталёвых апорах разбягаліся лініі электраперадач высокага напружання. Ад праменняў сонца правады вогненна паблісквалі...
Лініі высокага напружання... Колькі іх тут!..
А воддаль сінела роўнядзь возера. Над ёй снавалі быстрыя белыя чайкі. Яны чамусьці нагадалі Анатолю лісты, што ляцелі да яго ў Мінск ад Валі і Марыі.
Анатоль хутка знайшоў інтэрнат будаўнікоў. Падняўся на пяты паверх, пастукаў у дзверы.
— Нарэшце! Праходзь, Толік, — сустрэла яго Марыя. — Я паклічу Валю. Яна побач у дзяўчат. Пра Маскву ўсё расказвае. Была на з'ездзе камсамола.
— Добра, што прыехаў, — прывітаўшыся, сказала Валя. — Сёння брыгада наша выходзіць у другую змену. Адпачнеш, я горад табе пакажу, з дзяўчатамі пазнаёмлю.
— Брыгада будаўнікоў Любы Смірновай, — расказвала пасля брату Валянціна, — калектыў камуністычнай працы. На Лукомльскую ДРЭС дзяўчаты прыехалі з розных куткоў краіны. Сама Люба Смірнова — з Арлоўшчыны. Скончыўшы прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча, яна чатыры гады працавала на Ермакоўскай ДРЭС. Па закліку камсамола, сярод першых будаўнікоў яна прыехала і ў Лукомль. Яна ўжо мела не адну спецыяльнасць. Свой вопыт яна ахвотна перадае маладым будаўніцам.
Калі Анатоль пайшоў у аддзел кадраў, Валянціна засталася чакаць яго на вуліцы. Там спыталі ў хлопца пра спецыяльнасць, дзе працаваў раней.



Валянціна Сакоўская, будаўнік.



Мантажнік Слава Нікіфараў.

— Рабочыя рукі патрэбны,—сказалі хлопцу ў аддзеле кадраў. А Сакоўскімі ганарымся мы. Добра працуюць сёстры вашы. Дынастыя цэлая будзе!...

Анатоля накіравалі слесарам у аддзел галоўнага механіка, далі месца ў інтэрнаце.

Ідучы ў гарадок будаўнікоў, Валя ўсё расказвала пра электрастанцыю. Яна сваімі рукамі закладвала падмуркі першых камяніц. Валя знатны чалавек у горадзе, мае тры будаўнічыя прафесіі. Яна—дэпутат раённага Савета.

Яе біяграфія—гэта біяграфія волата беларускай энергетыкі, жыццяпіс якога прыкладна такі:

1964 год. Красавік. На Лукомль прыбылі першыя будаўнікі ўзводзіць магутную ДРЭС.

Восень. Каля вёскі Вал закладзен першы камень у падмурак першай камяніцы будучага горада энергетыкаў.

1965 год. Снежань. Наваселле ў першым пяціпавярховым жылым доме. Бульдазерыст Сяргей Дзядзёшкін, шафёр Мікалай Дзямідчык, муляры Анатоль Краска, Уладзімір Дубко і іншыя сталі першымі навасёламі сярод будаўнікоў Лукомльскай ДРЭС.

Снежань. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 31 снежня 1965 года гарадскому пасёлку энергетыкаў прысвоена назва — Новалукомль.

1966 год. Лістапад. Брыгада Уладзіміра Якаўчыца пачала мантаж падмурка галоўнага корпуса ДРЭС. У падмурак была пакладзена сталёвая пліта з надпісам: «Лукомльская ДРЭС. Новалукомль. 15 снежня 1966 г.»

1967 год. Жнівень. Брыгада мантажнікаў Аляксандра Абознага змантціравала першую калону галоўнага корпуса.

Верасень. Пачаліся першыя заняткі ў новым будынку сярэдняй школы.

1969 год. Студзень. Брыгады мантажнікаў Яўгена Герына і Вайнена Хюрынена пачалі мантаж першага катла ДРЭС.

22 снежня ноччу першы блок Лукомльскай ДРЭС даў прамысловы ток.

...Першы блок волата беларускай энергетыкі працуе. Магутнасць яго—300 тысяч кілават. Каб уявіць гэта, варта сказаць, што адзін агрэгат у два з палавінай разы магутнейшы за ўсе электрастанцыі Беларусі, якія працавалі ў 1940 годзе. Першы блок—гэта дзесяць БелДРЭСаў, пяць Волхаўбудаў.





Юры Казанкоў — майстар цэха кантрольна-вымяральных прыбораў.



Гэта не шматпавярховы дом, а кацёл электрастанцыі.

Першы блок дае за суткі сем мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі. Што гэта азначае на практыцы? Адна кілават-гадзіна—гэта альбо здабытыя 75 кілаграмаў вугалю, альбо выплаўленыя 50 кілаграмаў сталі, ці вытканыя 10 метраў тканіны, ці спечаныя 90 кілаграмаў хлеба. Інакш кажучы, пры дапамозе электраэнергіі, якую дае першы блок Лукомльскай ДРЭС за суткі, можна здабыць ці 540 тон вугалю, ці выткаць 72 мільёны метраў тканін і г. д.

Нездарма ж некалі Уладзімір Ільіч Ленін на лістку, укладзеным у тэкст плана ГОЭЛРО, намаляваў сэрца. Пад малюнкам быў подпіс: «Электрыфікацыя». Ад намаляванага сэрца беглі промні да пяці квадратаў, кожны з якіх азначаў самую неабходную жыццёвую патрэбу народа: жыллё, харч, адзенне, транспарт, культура.

## ЧЫРВОНЫЯ КАСКІ

Больш за паўгода ззяе сонца Лукомля. Яно прыводзіць у рух магутныя станкі на заводах і фабрыках, свеціць мільёнамі электралямпачак у кватэрах рабочых, у хатах калгаснікаў. Першы блок флагмана беларускай энергетыкі—у страі.

Напружана працуе калектыў ДРЭС і на мантажы іншых блокаў. У пачатку чэрвеня закончана водная прамыўка другога катла, завершаны мантаж другой турбіны, сабраны кандэнсатар трэцяй. Да пачатку ліпеня быў гатовы другі блок электрастанцыі. А гэта значыць, што мантажнікі брыгад Хюрынена, Асокіна, Мопсана і многіх іншых сабралі кацёл, турбіну, падключылі да іх тысячы прыбораў, каб раней на месяц даць электраэнергію.

Будаўнікі стараліся. У горадзе выраслі сцены новых камяніц.

— Моладзь працуе цудоўна,—гаворыць сакратар камітэта камсамола Генадзь Анціпенка.—Будаўнікі, мантажнікі, эксплуатацыйнікі—на які ўчастак ні завітай—усюды камсамольцы. А наша сям'я на будоўлі—не малая. 750 чалавек. І лепшыя з іх носяць чырвоныя каскі...

...Уладзімір Аляксеевіч Чамаданаў. Гэта прозвішча добра вядома на будоўлі. Ён узначальвае брыгаду па мантажы кантрольна-вымяральных прыбораў. Па гадах—малады, а працоўны стаж—салідны. Уладзімір прымаў удзел у мантажы

пяці блокаў. Да Лукомльскай ДРЭС ён працаваў у Тульскай вобласці, у Татарыі. Яго брыгадзе заўсёды даручаліся самыя складаныя аперацыі. Увесь калектыў працуе зладжана. Не падводзяць свайго брыгадзіра ні ветэраны, ні навічкі.

Цепла гаворыць пра Вячаслава Папова, Уладзіміра Казакова, Пятра Зашчарынскага, Славу Міканорава, Уладзіміра Браушкіна сам брыгадзір. Толькі аднаго з іх ён абмінае, свайго роднага брата, Віктара. Электразваршчыкам працуе. На Лукомльскую ДРЭС прыехаў з Томска.

Пахвалы заслугоўвае і брыгада трубаправодчыкаў, якую ўзначальвае Барыс Рамашоў. У гэтым калектыве праслаўленыя спецыялісты: Аляксандр Жук, які будаваў Беларускую атамную электрастанцыю, вопытны такелажнік. Сам брыгадзір Барыс Рамашоў працаваў у Балгарыі, на сібірскіх электрастанцыях. А цяпер памагае беларускім энергетыкам. Свой багаты вопыт і майстэрства ён перадае навучэнцам прафтэхвучылішча, якіх у брыгадзе каля трыццаці чалавек. Большасць з іх выказала згоду пасля вучобы застацца працаваць у гэтай брыгадзе.

Нельга абмінуць і шчыт кіравання першага блока. Ён вельмі ўражвае: перамігваюцца сотні агеньчыкаў: блакітных, чырванаватых, зялёных. Гэта да прыбораў, установленых на шчыце, бягуць сігналы ад механізмаў энергаблока. Каб даведацца аб спраўнасці пэўнага вузла, машыністу патрэбны толькі секунды.

А манцірyюць шчыты кіравання пераважна дзяўчаты. Мантажом аўтаматыкі яны авалодалі тут, на будоўлі. Хораша глядзець, як лёгка разбіраюцца ў складаных перапляценнях каляровых дроцікаў дзявочыя пальцы. Галіна Малахоўская, Наташа Зелянкова, сёстры Люда і Рая Жарулік добра чытаюць схемы і чарцяжы, бо маюць не толькі практыку, але і веды. У кожнай з іх—або сярэдняя спецыяльная, або агульнасярэдняя адукацыя. Гэтую брыгаду па мантажы кантрольна-вымяральных прыбораў узначальвае Мікалай Саявец.

**СЁННЯ І ЗАЎТРА ЭНЕРГАВОЛАТА**

Новалукомль — горад на беразе возера. Шэсць гадоў назад тут было поле, яго называлі Вераб'ёвы горы.

Шэсць год—і вырас цэлы горад. Сучасны. Шматпавярховыя дамы. Кінатэатр «Электрон» з глядзельнай залай на чатырыста месц. Перад кінатэатрам—плошча, на якой пагодным днём безліч дзіцячых калясак. Іх столькі, як у сталічным горадзе таксі. Тут заўсёды пануе вясёлы дзіцячы смех, як вясною птушыны грай у гаі.

Расці, весяліся, Новалукомль! Для цябе ёсць яслі і сады, школы, клубы...

У Новалукомлі жывуць і працуюць беларусы і рускія, літоўцы і ўкраінцы, татары і лезгіны... Іх дружба гартавалася ў мароз, калі капалі першыя катлаваны. Іх сяброўства мацнела, калі хлопцы і дзяўчаты ў спёку ўзнімалі карпусы энергаволата. Ленінград, Таганрог, Ульянаўск і Свярдлоўск, Масква і Мінск, Ерэван і Брацк слалі сюды магутныя катлы, турбіны, жалезабетонныя канструкцыі, пад'ёмныя краны і электраправады, каб флагман беларускай энергетыкі рос не па днях, а па гадзінах.

І яму—расці і расці. Сёлета ўступяць у строй яшчэ два энергаблокі магутнасцю па 300 тысяч кілават кожны. А да канца наступнай пяцігодкі—яшчэ шэсць блокаў. Лукомльская ДРЭС дасць тады Радзіме два мільёны чатырыста тысяч кілават-гадзін электраэнергіі.

Іван **КАЛЕСНІК.**

Малюнкі **Пятра ЛЫСЕНКІ.**



НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# ДЫЗАЙНЕРЫ—ВЫПУСК ПЕРШЫ

Яшчэ не астыла пажарышча вайны, яшчэ зіркалі чорнымі праймамі мёртвых вокнаў каробкі дамоў, як пастановай ЦК Кампартыі Беларусі ў Мінску быў адкрыты Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. І вось ён адзначае свой дваццаціпяцігадовы юбілей. За гэты час з яго сцен выйшла шмат акцёраў, рэжысёраў, мастацтвазнаўцаў, жывапісцаў, графікаў, скульптараў, а таксама майстроў прыкладнога мастацтва. Сёлетні выпуск адметны яшчэ і тым, што ўпершыню на Беларусі атрымалі дыпломы дызайнеры — мастакі прамысловай эстэтыкі.

Часопіс звярнуўся да старшыні Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі **Уладзіміра Фёдаравіча Маркава,** кандыдата мастацтвазнаўства, дацэнта Вышэйшага мастацкага вучылішча імя В. Мухінай (Ленінград), з просьбай падзяліцца сваімі думкамі пра сёлетні выпуск.

***„Маладосць“: — Якое ваша агульнае ўражанне ад дыпломных работ 1970 года?***

**Маркаў:** — З радасцю сведчу, што ў параўнанні з 1969 годам — тады я таксама быў старшынёй камісіі — сёлетні ўзровень прадстаўленых на абарону твораў вышэйшы. А гэта значыць, што прыкладное мастацтва на Беларусі набыло далейшае развіццё, бо рэспубліка мае толькі адну навучальную ўстанову, дзе рыхтуюць прыкладнікоў.

Мне падабаецца, што традыцыйныя беларускія матывы лагічна ўплятаюцца ў работу маладога кераміста Віктарыі Данчук «Палескія легенды» (дэкаратыўныя пласты), у работу яе калегі Віктара Угрыновіча, які вынайшаў новы тэхналагічны прыём: разрэзаў уздоўж зробленыя ганчарным спосабам гліняныя цыліндры і з гэтых элементаў стварыў цікавы фрыз для «карчмы». Яго работа адметная яшчэ і тым, што ён смела спалучае ў адным творы разнастайныя матэрыялы: кераміку, дрэва, крышталь. Кераміст Вячаслаў Абухаў таксама адышоў ад акадэмічных канонаў. Яго паркавыя скульптуры з шамоту вельмі смелыя па задуме, незвычайныя па форме. І добра, што малады мастак стварыў іх для дзіцячага саду,— мы павінны клапаціцца пра выхаванне эстэтычных пачаткаў у нашых маленькіх грамадзян. Святочны, урачысты настрой застаецца ад набору шкляного посуду, які зрабіла Зоя Лучанок. Мяккі колер, звычайнае таннае шкло, лёгкае ў масавай вытворчасці — а паглядзіце, як гарманічна, з якім густам выкананы ўвесь набор, які ён багаты, арыстакратычны нават!

Ёсць выразныя работы ў інтэр'ершчыкаў. Яўген Ларчанка, несумненна, эрудзіраваны, таленавіты чалавек, прапанаваў праект інтэр'ера Дома пісьменнікаў у Мінску. Ён выкарыстаў гратэскную форму. Упэўнены, што многія элементы яго дыплома знойдуць месца ў жыцці. З вялікім размахам і з любоўю распрацаваў свой праект Мікалай Пратасаў. Тэма незвычайная: «Мінскі заапарк». Вельмі маштабна, рамантычна па стылі выглядае спартыўная база ў праекце Аляксандра Лазарэвіча. Рамантыка натхніла і маладога мадэльера Веру Марціненку: элегантным, зручным, сучасным атрымалася яе адзенне для спартсменаў-аматараў.



Андрэй Гарачы. Праект вялікагрузнага самазвала.



Аляўціна Маісіенка. Спартыўныя кубкі. Шкло.

*„Маладосць": — Як мы заўважылі, усе дыпломныя работы, адзначаныя вамі, павінны рэалізавацца. Безумоўна, гэта сведчыць пра вялікі прафесійны ўзровень выпускнікоў. Але ці не здаецца вам, Уладзімір Фёдаравіч, што мастак, які заканчвае вышэйшую навучальную ўстанову, павінен дэманстраваць свае веды не столькі ў канкрэтнай распрацоўцы, колькі ў тэарэтычным, у патэнцыяльным плане, каб выявіць усе магчымасці свайго таленту, а не адну яго прыватную якасць?*

**Маркаў:** — Я разумею вас, і такая думка ўзнікла ў мяне, калі абаранялі свае работы мадэльеры. Сапраўды, чаму б маладому мастаку, замест таго каб слепа ісці за модай (а яна, дарэчы, увесь час плыве да нас з-за мяжы), не рызыкнуць стварыць прынцыпова новы кірунак мадэліравання адзення, разлічанага не на сёння, а на заўтра? Такі пошук прынёс бы вялікую карысць і мастаку, і мадэліраванню. Умець абстрагавацца ад прыватнага — вось паказчык творчай сталасці мастака. І ў гэтым сэнсе мяне больш узрадавалі дызайнеры.

Перш--наперш, вылучаецца дыплом Сяргея Жаркевіча, ужо сталага чалавека, які працуе мастаком-канструктарам на Мінскім трактарным заводзе. Яго ўніверсальна-прапашны трактар Т-80 адпавядае самым сучасным канонам як тэхнічнай эстэтыкі, так і самым вялікім патрабаванням, што ставяцца перад універсальнай сельскагаспадарчай машынай. Нажаль, ваш часопіс не зможа пакуль змясціць фотаздымак гэтага праекта, бо ён яшчэ не запатэнтаваны. Такім чынам, Жаркевіч выступае ў ролі мастака-вынаходніка, які здолеў зазірнуць далёка наперад, яго творчая фантазія абганяе час, а тым не менш праект мае вялікае практычнае, надзённае значэнне.

Цікавыя работы атрымаліся таксама ў Канстанціна Яновіча «Перспектыўнае самаходнае шасі» і ў Аляксандра Елісеева «Аднастоечны падоўжна-апрацоўчы станок з агрэгатных вузлоў».

У дызайне ёсць такое паняцце, як прамысловая графіка. Гэта — малюнкі для ўпаковак, этыкеткі, рэклама і інш. Міхась Басалыга — загадчык аддзела прамысловай графікі ў філіяле Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі — бліскуча абараніў дыплом «Сувенірная ўпакоўка прадукцыі кандытарскай фабрыкі «Камунарка», а яго калега па рабоце Юры Кухараў — дыплом «Сувенірны набор настойкі «Зуброўка». І зноў мастакі выступаюць як канструктары: Басалыга прапаноўвае вельмі зручныя скрыначкі, а Кухараў — незвычайныя бутэлькі. Дарэчы, абодва дыпломнікі добра выкарысталі беларускія нацыянальныя матывы.

*„Маладосць": — Як выглядаюць нашы першыя дызайнеры на фоне выпускнікоў іншых навучальных устаноў краіны?*

**Маркаў:** — Добра. А ўвогуле, перад усімі дызайнерамі — незвычайна шырокія прасторы для творчасці. Бо дызайн — не проста прыгожая форма для машын, станкоў і прадметаў хатняга ўжытку. Шырокаразвіты дызайн стварае для дзяржавы прадпасылкі капіталанакаплення. Гэта і прэстыж на міжнароднай арэне, і патэнтная чысціня вынаходстваў (цяпер патэнтуецца не толькі змест, прынцып дзеяння машын, але і яе форма), і, безумоўна, у сувязі з гэтым валютная палітыка, бы ў практыцы міжнароднага гандлю цяпер хутка развіваецца ліцэнзаванне. Калі ж адкінуць усе гэтыя «знешнія» прычыны стымулявання дызайна, дык застаецца яшчэ адзін бок справы. Дызайнер не проста вынаходзіць больш прывабную і зручную форму. Ён, як правіла, выступае як сааўтар, або нават і аўтар больш зручнай, больш эканамічнай, больш прадукцыйнай машыны. Таму лёд недаверу, які раней стрымліваў росквіт айчыннага прамысловага мастацтва, цяпер хутка растае.

*„Маладосць": — Што трэба рабіць, каб гэты лёд раставаў як мага хутчэй?*

**Маркаў:** — Прапагандаваць! Як мага шырэй прапагандаваць дасягненні дызайнераў. Нажаль, усесаюзны часопіс «Декоративное искусство» яшчэ мала робіць для прапаганды тэхнічнай эстэтыкі. А часопіс «Техническая эстетика» занадта навукападобны, ён — для вузкага кола спецыялістаў. І гэта ў той час, калі савецкі дызайн зацвердзіўся на ўсіх галоўных сваіх кірунках.

*„Маладосць": — Што асабліва ўразіла вас сёлета ў інстытуце?*

**Маркаў:** — Тое, што за паўтара гады інстытут адбудаваў сабе новы вучэбны корпус.

*„Маладосць": — ?!*

**Маркаў:** — Не здзіўляйцеся. Усім мастацкім навучальным установам краіны нехапае вучэбна-вытворчай базы. А тут — зайздросны прыклад!

*„Маладосць": — Што б вы пажадалі будучым выпускнікам і тым мастакам, якія ўжо выйшлі на самастойную дарогу творчасці?*

**Маркаў:** — Самых вялікіх поспехаў у пошуках. І яшчэ — больш сур'ёзна ставіцца да нацыянальных традыцый. Нацыянальнае — гэта не бяздумнае капіраванне мінуўшчыны, а яе творчае асэнсаванне з пазіцый сучаснасці. Аўтамабілі, трактары, электроніка, хімічныя заводы, а перш-наперш стваральнік усяго гэтага — чалавек — вось галоўны матэрыял для маладога мастака, які імкнецца да ўслаўлення свайго народа. Трэба больш шукаць і не баяцца памылак. Тыя часы, калі твор, які не падобны быў на фатаграфію, лічыўся крамолай, прайшлі. Лепш дваццаць разоў памыліцца, але сказаць новае слова ў мастацтве, чым рабіць усё жыццё толькі правільнае, ды безнадзейна бяздарнае.



# ДА КАМСАМОЛЬСКАГА ЮБІЛЕЮ

Ардэнаносная камсамолія Беларусі святкуе сваё пяцідзесяцігоддзе. Святкуе ўрачыста, радасна. За пяцьдзесят гадоў напісаны цудоўны летапіс барацьбы і перамог. Ён напісаны крывёю юнацкіх сэрцаў, няўрымслівасцю і мужнасцю характараў, працавітымі рукамі. Пра маладую гвардыю рэспублікі, яе перамогі і здабыткі расказваюць новыя кнігі, якія выйшлі да камсамольскага юбілею.

З цікавасцю сустрэнуць чытачы **паэтычны зборнік «Арлянятам»**. Ён з серыі кніжак-«малютак». Але своеасаблівасць зборніка не ў тым. Упершыню тут сабраны вершы аб моладзі народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка.

Гэй, узвейце сваім крыллем,
Арляняты, буйна, бурна,—

гэтыя палымяныя Купалавы радкі гучаць і сёння, як бадзёры заклік да працы, да новых здзяйсненняў, як запавет быць заўжды маладымі сэрцам і душой. Вершы народных паэтаў пададзены ў зборніку на дзвюх мовах: беларускай і рускай. Прадмову да зборніка напісаў Генадзь Жабіцкі.

Кніжку **«У працы і ў баі»** напісалі ветэраны камсамола 30—40-х гадоў. Тут нібыта сустрэліся два пакаленні моладзі: передваеннага часу і гадоў Айчыннай вайны. Але гэта толькі першае ўражанне. На самай справе то адно пакаленне: няўрымслівае юнацтва. Яно ў адзіным вобразе—адданых, шчырых, смелых людзей—жыве вось ужо цэлае паўстагоддзе. Жыве і будзе жыць такім, таму што няма перапынку ў эстафеце пакаленняў, няма і не можа быць змен у нашых пачуццях да партыі, Радзімы. Пра гэта вельмі яскрава гаворыць у сваіх нататках Герой Савецкага Саюза Зінаіда Тусналобава-Марчанка: «Мы пра славу не думалі. Ні калі біліся з ворагам, ні калі змагаліся за жыццё. Думалі толькі пра цябе, Радзіма. Таму што няма нічога на зямлі даражэй. Такімі нас выхаваў камсамол—інакш мы жыць не можам».

Зборнік успамінаў адкрываецца расказам першай на Віцебшчыне стаханаўкі Тацяны Канстанцінаўны Падскочай. Яе гаворку пра тое, як моладзь прывучалася да тэхнікі, прадаўжае Павел Ігнатавіч Канопліч. Ён здзін з тых, хто на сталёвым кані пракладваў першую баразну на Палессі. Герой Сацыялістычнай Працы Павел Ігнатавіч застаўся верны сваёй справе нават з ампутаванымі нагамі.

Пра камсамол 30-х гадоў расказваюць таксама былы супрацоўнік ЦК ЛКСМБ Аляксандр Іванавіч Бабчынскі, былы культармеец, а цяпер вядомы беларускі вучоны Іван Мікалаевіч Лушчыцкі.

На заводах і будоўлях, за партай і ў полі гартавалася наша юнацтва. Выпрабаванне гэтага гарту прайшло ў жорсткай барацьбе з ворагам і вытрымана на выдатна! Ні агонь з варожых дотаў, ні катаванні, ні цяжкасці і перашкоды не спынілі юнакоў і дзяўчат на шляху да Перамогі. Поплеч з камуністамі ішлі яны на самыя рызыкоўныя выпрабаванні.

Пра мужных маладых воінаў, падпольшчыкаў і партызан расказваюць у зборніку І. Д. Вятроў, В. І. Лузгін, Т. М. Стрыжак, А. Д. Рудак, М. С. Руціч. Пра кожнага з іх, як і пра іх успаміны, можна гаварыць бясконца. Слушна зазначае ў прадмове да кнігі сакратар ЦК ЛКСМБ Генадзь Анціпаў: «Успаміны камсамольскіх работнікаў і радавых камсамольцаў 30—40-х гадоў будуць з хваляваннем і цікавасцю ўспрыняты маладымі чытачамі. Пра гераічнае мінулае нашых бацькоў заўсёды чытаць цікава. А гэтыя радкі асаблівыя. Яны напісаны жывымі, непасрэднымі ўдзельнікамі падзей. Напісаны сэрцам».

Тэме вайны прысвечаны яшчэ некалькі выданняў, якія выйшлі ці выходзяць у выдавецтвах «Беларусь» і «Народная асвета». Гэта ў першую чаргу запіскі **А. Ю. Дзенісевіча «Арлінае племя»**. Улетку 1942 года аўтар успамінаў, як прадстаўнік ЦК ЛКСМБ абышоў усю Мінскую вобласць. Арганізоўваў работу камсамольскага падполля, удзельнічаў у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Жывы сведка падзей цёпла расказвае пра многіх маладых патрыётаў-камсамольцаў.

Варта назваць кніжку **Я. І. Драбінскага «Ад Гомеля да Эстрамадуры»** — пра слаўнага сына беларускага народа Мікалая Дворнікава, **пісьмы Веры Харужай** аб камсамоле, **нарыс Я. Пушкіна** і **М. Ткачова «Камсамольскі камісар»** — пра неўміручы подзвіг камсамольскага камісара Любы Гайдучонак. Урэшце — зборнік нарысаў **«Камсамольскі білет»**. «...Вы раскрыеце гэту кнігу,—гаворыцца ў прадмове,—і прачытаеце пра юнага падпольшчыка з Мінска Захара Галу. Вы даведаецеся пра юную партызанку Рыму Кунько, якая загінула ў той год, калі ёй уручылі камсамольскі білет. Даведаецеся пра юных герояў, чые камсамольскія білеты былі прабіты варожымі кулямі...»

Сённяшнім будням беларускай камсамоліі прысвечана брашура былога сакратара ЦК ЛКСМБ, цяпер загадчыка аддзела ЦК КПБ **Генадзя Жабіцкага «Юнацтва крочыць у камунізм»**. Яркія, пераканаўчыя прыклады сцвярджаюць, што не такое ўжо і будзённае жыццё сённяшняй моладзі. З тым жа юнацкім запалам яна працуе, праяўляе творчасць і ініцыятыву, пастаянна вучыцца ленінскай мудрасці, рыхтуе сябе да любых, самых цяжкіх выпрабаванняў, да абароны заваёў Кастрычніка. Брашура ілюстравана фотаздымкамі пра шматбаковае жыццё беларускага камсамола.

У гэтай жа серыі «Юнацтва ў вялікім паходзе» выйшла кніжка **«Сэрцам дакрануўшыся да подзвігу»**. Аўтары яе—маладыя журналісты Анатоль Сілянкоў, Іосіф Калюта, Ванда Гуртавенка і іншыя. Іх нарысы таксама пра маладых. Пра рабочых, калгаснікаў, школьнікаў. Толькі не зусім звычайныя камсамольскія арганізацыі, у якіх жывуць і працуюць маладыя героі нарысаў. Гэтыя арганізацыі носяць імёны герояў-землякоў.

Герой Савецкага Саюза Міша Курбатаў, праўда, ніякі не зямляк гродзенцам. Ён нарадзіўся і рос на беразе Амура, на далёкаўсходняй станцыі Магдагачынск. Але малодшы сержант Міша Курбатаў аддаў жыццё і за гродзенскіх хлопцаў і дзяўчат. На тым месцы, дзе ўпаў абліты крывёю Міша, узведзены карпусы завода «Аўтазапчастка» і ўстаноўлены абеліск. Міша быў равеснікам сённяшніх пяцісот членаў ВЛКСМ, якія аб'яднаны ў заводскай арганізацыі. Ён вельмі любіў жыццё, чыстае неба. Маладыя рабочыя завода парашылі: Міша Курбатаў будзе навечна ў спісе камсамольскай сям'і. Аўтар нарыса расказвае, як маладыя заводчыкі спаборнічаюць за кубак Курбатава, як з гонарам ушаноўваюць яго імя ў працы, памяці, жыцці.

Да серыі «Юнацтва ў вялікім паходзе» належыць кніга **А. Якаўлева «Ісці на гарызонт»**. У форме інтэрв'ю аўтар расказвае пра Івана Васільевіча Горскага, які пяць гадоў служыў на «Аўроры», удзельнічаў у штурме Зімняга, пра ўрача, аўтара п'ес «Выклік багам», «Грэшнае каханне», Анатоля Дзяледзіка, пра Героя Сацыялістычнай Працы, заслужаную настаўніцу БССР Арыядну Іванаўну Казей, пра цудоўнага савецкага спартсмена Аляксандра Мядзведзя і іншых. Настаўніца, урач, афіцэр Савецкай Арміі, каваль, загадчыца клуба, вучоны—людзі розных пакаленняў і прафесій—вядуць размову пра высокія маральныя якасці чалавека, пра нашага сучасніка, яго планы і мары.

Да юбілею перавыдадзены для моладзі кнігі **У. І. Леніна «Задачы саюзаў моладзі»**, **М. І. Калініна «Пра камуністычнае выхаванне»**, **Н. К. Крупскай «Выбранае»**. Выйшлі новыя кнігі **Анатоля Журава «Пад кіраўніцтвам партыі»**, **«Ленін—моладзі»**, перавыдадзена яго кніжка **«У баях народжаны»**.

Ленінскаму камсамолу Беларусі—пяцьдзесят. Уперадзе—новыя рубяжы, новыя планы. Дарога без прывалаў. Новыя, яркія старонкі з'явяцца ў камсамольскай біяграфіі. Паэты і празаікі ўвекавечаць іх у летапісе народнай славы.

**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**загадчык сектара інфармацыі ЦК ЛКСМ Беларусі.**




**Яўген РАМАНОВІЧ.**
**«РЭКІ ЦЯКУЦЬ З РУЧАЁЎ».**
**Выдавецтва «Беларусь».**
**Мінск, 1969.**

# ЛЯ ВЫТОКАЎ ТЭАТРА

Кніжка ўспамінаў Яўгена Рамановіча «Рэкі цякуць з ручаёў» чытаецца лёгка, з цікавасцю. Мова яе жывая, у ёй багата гумару, дасціпнасці. Гэта асабліва прыемна адзначыць таму, што даволі часта мемуары з элементамі даследвання пішуцца суха, нудна.

Праца аўтара прысвечана вытокам і нараджэнню беларускага нацыянальнага тэатра. Крытык і артыст, ён непасрэдны ўдзельнік падзей, з якімі нас знаёміць. Можа і залішне падрабязна тут гаворыцца пра дзіцячыя забаўкі пісьменніка і спадарожнікаў яго маленства на старажытнай Камароўцы. Але галоўная думка нарыса скіравана на тое, каб маляўніча перадаць, з якім імпэтам і тэмпераментам аддавалі свае здольнасці роднай культуры пачынальнікі прафесійнага тэатра.

Няма ў кнізе аб'ектывісцкай халоднай сузіральнасці. У ёй б'ецца гарачае сэрца чалавека, улюбёнага ў нацыянальнае мастацтва, якому аддадзены дзесяткі год паўнакроўнага, дзейснага жыцця. Старому майстру ёсць што сказаць нашай моладзі, і робіць ён гэта з сапраўдным натхненнем.

Пра многае дазнаёмся мы з кнігі.

У дні лютаўскай рэвалюцыі ў Мінску адбыўся гістарычны сход інтэлігенцыі, на якім арганізатар нацыянальнага тэатра Ігнат Буйніцкі сказаў: «Давайце, браткі, пачнем добрую справу. Народ прагне беларускага слова са сцэны, хоча бачыць творы яго слаўных песняроўдраматургаў Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, ды і лепшыя п'есы іншых народаў зямлі чалавечай. З'яднаемся ў Таварыства, пакажам людзям тэатральнае мастацтва...»

Мы знаёмімся з першымі крокамі сцэнічнага жыцця У. Крыловіча, Б. Платонава, Л. Ржэцкай, К. Саннікава, Г. Грыгоніса, з тым, як яны прыйшлі ў беларускі тэатр і пад мастацкім кіраўніцтвам Я. Міровіча стварылі першы Беларускі дзяржаўны тэатр, цяперашні Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Аўтар не мінае велізарнай ролі нашых драматургаў у гэтай вялікай высакароднай справе. Цёплыя словы знайшоў Я. Рамановіч, каб расказаць пра вялікую дапамогу стваральнікам першага дзяржаўнага тэатра з боку Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Чарота, Змітрака Бядулі, Андрэя і Алесі Александровічаў.

Вядома, што на пачатку сваёй дарогі беларускі тэатр быў сінтэтычным, аб'ядноўваў усе жанры. Добра робіць Яўген Рамановіч, калі выказвае павагу кампазітару і хормайстру Уладзіміру Тэраўскаму, харэографу Канстанціну Алексютовічу, рэжысёру і акцёру Фларыяну Ждановічу, якія аддалі свой талент росквіту беларускай савецкай культуры. Дэталёва і цікава гаворыцца пра Першае Беларускае таварыства драмы і камедыі і яго значэнне ў прапагандзе твораў нацыянальнага мастацтва.

Нельга не адзначыць прынцыповую, партыйную пазіцыю тэатразнаўца. Праз усю працу праходзіць думка, што нацыянальны тэатр набываў сталасць дзякуючы таму, што ў яго рэпертуары былі не толькі беларускія п'есы, але і творы Чэхава, Караленкі, Горкага, Крапіўніцкага. Дадзена выразная ацэнка станоўчага ўплыву рускай, украінскай і польскай прагрэсіўнай культуры на развіццё нашага тэатра.

Драматург успамінае, як у часе паказу ў Маскве спектакля «На купалле» (1923 г.) А. В. Луначарскі і Г. В. Чычэрын паднеслі артыстам кветкі, а М. І. Калінін уручыў тэатру за мастацкія здабыткі Грамату УЦВК.

Аўтар кнігі не абмінае і лірыка-рамантычных эпізодаў. Яны памагаюць лепш уявіць настрой людзей, пра якіх ён піша, багацце душэўнага свету пачынальнікаў беларускай савецкай драматургіі і заснавальнікаў тэатра імя Янкі Купалы.

Цікава чытаюцца старонкі пра сустрэчы Я. Рамановіча са З. Бядулем, Э. Самуйлёнкам і К. Чорным. Перад намі ўзнікаюць партрэты людзей разумных, таленавітых і гарачых сэрцам, якія ведалі цану мастацкаму слову, палымяна любілі Радзіму і народ.

Шкада, што пісьменнік абмежаваўся скупымі радкамі ў размове пра Кузьму Чорнага. Але спадзяемся, што ў другой частцы мемуараў будзе сказана важкае слова пра Чорнага, Крапіву і ўсіх, хто аддаў свой талент беларускаму тэатру, сваё літаратурнае майстэрства стварэнню вобразаў будаўнікоў сацыялістычнага і камуністычнага грамадства.





Найбольш увагі ў кнізе аддадзена акцёрам. І гэта зразумела. Менавіта праз іх тэатр вядзе шчырую гаворку з людзьмі аб тым, што хвалюе і радуе, непакоіць і выклікае добрыя пачуцці.

Праўда, аўтару можна зрабіць папрок, што, назваўшы многа людзей, якія адыгралі станоўчую ролю ў станаўленні прафесійнага тэатра, ён не заўсёды з дастатковай грунтоўнасцю спыняецца на мастацкіх асаблівасцях таленту кожнага, на іх творчай індывідуальнасці.

Спрэчным з'яўляецца прынцып «імпрэсіяністкай» падачы матэрыялу, без належнай гістарычнай і храналагічнай паслядоўнасці. Можна згадзіцца з Я. Рамановічам, што «У Ясеніна і Чарота былі празорлівыя вочы, аднолькава кучаравіліся валасы на крутых скронях і заўсёды ўсміхаліся губы. І Ясенін і Чарот падабаліся жанчынам, і яны адыгралі ў іх жыцці немалую ролю». Але такая аналогія пераконвае мала, як і сцвярджэнне, што «творы паэтаў напаўняюць адны вобразы — палі і лугі, азёры і рэкі; што ў іх вершах гучыць адна думка».

Я. Рамановіч называе пастаноўкі «Раскіданага гнязда», некаторых іншых п'ес Купалы, Коласа, Кудзелькі, але, нажаль, рэдка аналізуе іх змест і форму. Драматург і крытык сам бачыў названыя спектаклі і таму меў магчымасць аб іх сказаць больш пераканаўча, чым даследчыкі, якія карыстаюцца толькі архіўна-літаратурнымі крыніцамі.

Кніга «Рэкі цякуць з ручаёў» узбагачае нашы веды і ўяўленні пра вытокі беларускага нацыянальнага тэатра.

**Міхась МОДЭЛЬ.**




**Адам МАЛЬДЗІС.**
**«ПАДАРОЖЖА У XIX СТАГОДДЗЕ».**
**Навукова-папулярныя нарысы.**
**Выдавецтва «Народная асвета».**
**Мінск, 1969.**

# ЦІКАВАЯ, КАРЫСНАЯ ВАНДРОЎКА

Беларуская навукова-папулярная літаратура яшчэ і сёння не можа пахваліцца сваімі поспехамі: здабыткі яе пакуль што даволі сціплыя. І таму з вялікай цікавасцю бярэш у рукі кнігу Адама Мальдзіса «Падарожжа ў XIX стагоддзе», прысвечаную відным дзеячам беларускай культуры.

Аўтар паставіў перад сабой нялёгкую, але адказную і пачэсную задачу: расказаць у навукова-папулярнай форме пра асобных дзеячаў беларускай літаратуры і культуры XIX стагоддзя, пра рэвалюцыйных дэмакратаў, пазнаёміць з іх жыццём і дзейнасцю, з тымі ўмовамі, у якіх ім даводзілася жыць, працаваць, змагацца. Ён вядзе чытача па жыццёвым і творчым шляху першых найбольш значных беларускіх (і беларуска-польскіх) паэтаў, якія ўнеслі свой уклад у нашу літаратуру пры яе зараджэнні (Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, У. Сыракомля, В. Каратынскі, А. Вярыга-Дарэўскі, А. Плуг). «Усе яны з павагай і сімпатыяй,— заўважае аўтар,— адносіліся да запрыгоненага беларускага селяніна, пішучы на яго мове, выклікалі цікавасць да беларускага народа, сцвярджалі, што і на «мужыцкай» мове можна ствараць мастацкія каштоўнасці. Усе яны стаяць ля вытокаў той ракі, імя якой — новая беларуская літаратура».

Перад чытачом адкрываюцца герaічныя старонкі з жыцця змагароў за народнае шчасце, паўстаюць вобразы рэвалюцыйных дэмакратаў. Упершыню даецца больш-менш сістэматычнае (наколькі дазваляюць дайшоўшыя да нас звесткі) апісанне жыцця і дзейнасці кампазітараў, якія былі цесна звязаны

з Беларуссю па сваім паходжанні або пісалі музыку на беларускім матэрыяле (М. Агінскі, С. Манюшка, А. Абрамовіч).

Асобны раздзел кнігі прысвячаецца беларускім вучоным і падарожнікам, сусветна вядомым дзеячам навукі, якія не змаглі прымірыцца з тагачаснымі ўмовамі і вымушаны былі пакінуць сваю радзіму, вандраваць па свеце, жыць у выгнанні або ў царскай ссылцы (І. Дамейка, Б. Дыбоўскі, А. Янушкевіч, К. Ельскі). «Пазбаўленыя магчымасці працаваць непасрэдна для суайчыннікаў, яны працавалі для чалавецтва,— канстатуе аўтар кнігі.— Яны памнажалі славу сваёй радзімы, адкрываючы і даследуючы чужыя кантыненты. Верныя свабодалюбівым, гуманістычным традыцыям свайго шматпакутнага народа, яны неслі свабоду іншым народам і іншым краінам».

Цікавыя раздзелы, прысвечаныя пошукам і знаходкам архіўных матэрыялаў пра беларускіх пісьменнікаў, іх рэчаў, кніг, якія сталі вялікай бібліяграфічнай рэдкасцю. «Гісторыя беларускай літаратуры XIX стагоддзя поўна белых плям,— справядліва адзначаецца ў раздзеле «У пошуках старадаўніх рукапісаў».— Спіс яе здабыткаў куды меншы, чым спіс страт. Колькі твораў знішчана няўмольным часам і ваеннымі завірухамі, колькі назаўсёды загінула ў шуфлядах цэнзарскіх сталоў і шафах следчых камісій!» Адам Мальдзіс настойліва шукае і нярэдка знаходзіць нявыкарыстаныя архіўныя дакументы, старанна вывучае іх і выяўляе новыя матэрыялы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю славутых людзей мінулага.

Каштоўнасць сабранага і асэнсаванага аўтарам матэрыялу, а таксама вялікае выхаваўчае яго значэнне бясспрэчныя. Кніга вучыць любіць і паважаць нашых папярэднікаў, якімі мы маем падставы ганарыцца, памяць якіх мы павінны ўшаноўваць, не забываючы, што яны ў нечувана цяжкіх умовах зрабілі свой уклад у духоўную скарбніцу свайго народа, а тым самым узбагацілі і сусветную культуру. І калі мы вучым наша падрастаючае пакаленне паважаць усе народы, малыя і вялікія, паважаць кожную нацыю, то пачынаць гэта павінны іменна з выхавання любві і пашаны ў першую чаргу да сваёй нацыі, да сваёй культуры, да сваёй радзімы: толькі той, хто бязмежна любіць сваю радзіму, свой народ, здольны стаць сапраўдным інтэрнацыяналістам і змагацца за шчасце ўсяго чалавецтва.

Адам Мальдзіс асвятляе спадчыну беларускай літаратуры з улікам апошніх дасягненняў літаратуразнаўчай навукі. Ён старанна аналізуе тэксты, часта панавому прачытвае той ці іншы радок і выяўляе нямала новых звестак, свежага матэрыялу, які не заўсёды можна знайсці ў працах, напісаных раней.

Аўтар не імкнецца навязаць чытачу свае погляды, не стараецца павучаць, не становіцца ў позу маралізатара. Ён, як чалавек з пэўным жыццёвым вопытам і багацейшы ведамі, проста расказвае пра якую-небудзь з'яву ці падзею, але расказвае жыва і эмацыянальна.

Нарыс пра Ігната Дамейку пачынаецца, напрыклад, так: «Вазьміце атлас і прыгледзьцеся да карты паўднёваамерыканскай краіны Чылі. Бачыце: ля Ціхага акіяна, там, дзе да яго падступаюць магутныя вяршыні Андаў, знаходзіцца горад Дамейка. А крыху на поўнач — горны хрыбет, які носіць тое ж імя. Геолагі могуць назваць мінерал дамейкіт, батанікі — фіялку дамейкіяну, заолагі — малюска науцілус дамейкус. Аднак мала хто ведае, што ўсё гэта: і горад у далёкай краіне, і горны ланцуг, і кветка, і мінерал, і жывёліна — названы так у гонар нашага земляка, выдатнага рэвалюцыянера, вучонага і падарожніка Ігната Дамейкі».

У такім жа ключы, даволі займальна напісаны ўвесь нарыс. У іх прыводзяцца цікавыя факты і падрабязнасці з жыцця Ігната Дамейкі. Так, пасля таго, як вучоны падаўся ў адстаўку з пасады рэктара ўніверсітэта (1884 г.), «чылійскі ўрад,— паведамляе аўтар,— рашыў выпусціць у гонар нашага земляка памятны медаль і ўстанавіць яму самую высокую пенсію ў краіне — 6000 піястраў у год». І далей: «23 студзеня 1889 года ў Сант'яга перастала біцца сэрца патрыёта, падарожніка, вучонага. Дзень пахавання быў аб'яўлены днём нацыянальнай жалобы. Урад абвясціў Дамейку нацыянальным героем рэспублікі. На яго магіле быў пастаўлены мармуровы абеліск».

Кніга Адама Мальдзіса як бы рассоўвае гарызонты нашага ўяўлення гісторыі беларускага народа. Застаецца толькі пашкадаваць, што тыраж яе надта малы — дзевяць тысяч экземпляраў. Спадзявацца пры такім тыражы на шырокае кола чытачоў цяжка, бо кніга адразу ж пры выданні становіцца бібліяграфічнай рэдкасцю.

**Сцяпан ГРАБЧЫКАЎ.**





Алесь БАЧЫЛА



# ПАСЛЯ ДАРОГІ

Прaглядаючы падарожныя блакноты і перачытваючы запісы гутарак з людзьмі, якія мелі дачыненне да Максіма Багдановіча, я кожны раз заўважаў, што не ўсё запісанае мне ўдалося поўнасцю выкарыстаць. Сёе-тое выпадала з таго плана, якім я кіраваўся пры падачы матэрыялаў у папярэдніх нататках, тым больш, што друкаваліся яны з перапынкам у некалькі месяцаў. За гэты час назапашваліся новыя матэрыялы, адкрываліся новыя факты, узнікалі новыя думкі і меркаванні.

Ужо ў Мінску сляды навялі мяне на асабісты дзённік паэта, які знаходзіўся ў рукапісным аддзеле Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР сярод матэрыялаў пад агульнай назвай «Архіў Язэпа Дылы».

Пра існаванне гэтага дзённіка ведала вельмі абмежаванае кола людзей. Нават многія з даследчыкаў творчасці Максіма Багдановіча, калі я напамінаў пра дзённік, паціскалі плячыма і дзівіліся: «Няўжо ёсць такі дзённік?» Так і ляжаў ён амаль нікім дагэтуль не чапаны ў інстытуцкіх шафах. Я ўжыў слова «амаль» не выпадкова, бо ўсё ж да дзённіка — ледзь не адзінага ўцалелага рукапісу паэта — дакраналіся рукі тэатральнага даследчыка Алега Саннікава. Больш месяца праседзеў ён з павелічальным шклом у руках над невялікімі аркушамі паперы, напісанымі бісерным почыркам. Расшыфраваныя словы і цэлыя сказы ён старанна заносіў у асобны сшытак. Але да канца расшыфраваць тэкст, напісаны алоўкам пяцьдзесят чатыры гады назад, так і не ўдалося. Дзённік пісаўся не для пабочных вачэй і яго аўтар не клапаціўся пра выразнасць почырку, а некаторыя словы нават падаваў у скарачэннях, зразумелых толькі яму самому.

І ўсё ж месяц крапатлівай працы не прапаў марна. Нават па тым, што расшыфравана,— а расшыфравана крыху больш за трэць тэксту,— мы можам скласці ўяўленне пра паэтаў характар, пра яго погляды на жанчын і пра яго блізкія адносіны з Клавай, якую ён сустрэў улетку 1915 года ў Старым Крыме пад час свайго лячэння там.

Якім было гэтае захапленне: выпадковым ці сур'ёзным? Адказаць цяжка. Хутчэй за ўсё, не выпадковым, бо пазней, як засведчыць бацька, ён перапісваўся з ёю. Праўда, бацька, які «не ўчытваўся ў гэту перапіску, а толькі бегла прагледзеў яе», палічыць гэты эпізод выпадковым, нехарак-

Гэтым мы заканчваем публікацыю падарожных нататкаў Алеся Бачылы, прысвечаных М. Багдановічу (пачатак гл. «Маладосць» № 11 за 1968 г., № 6 за 1969 г.)

тэрным. Што ж, бацькам заўсёды дзеці здаюцца толькі дзецьмі. А дзеці тым часам становяцца дарослымі і па-даросламу мысляць і адчуваюць.

Забудется многое, Клава,
Но буду я помнить всегда,
Как в сердце шипела отрава
Любви, и тоски, и стыда.

Чым больш учытваешся ў старонкі дзённіка, тым больш разумееш характар паэта — яго дабрату, мяккасць і разам з тым — парывістасць і настойлівасць. Сустрэча з Клавай прынясе Максіму нямала душэўных перажыванняў. Будуць у яго і дні светлых радасных узлётаў, і дні пакутлівага разладу. Тады ён запіша ў дзённіку (дзённік пісаны па-руску): **«Я не выдержал, встал, к себе ушел. До трех часов ночи сидел, писал. На другой день не разговаривал, пишу. Ночь сижу, пишу. На следующий день опять. Иду в четверг обедать — Клава говорит: «Почему вы меня сторонитесь?.. Слезы навернулись...»**

А хто ж хоча бачыць слёзы, асабліва жаночыя? Ды яшчэ, калі ён паэт, чалавек надзвычай мяккага і чулага сэрца... І зноў у іх наладзяцца добрыя адносіны. І зноў яны да позняе ночы будуць разам бавіць свой час, не ў сілах сказаць адно аднаму «да спаткання».

Ужо пара мне дадому збірацца,—
Вечар позны, а час не стаіць.
Ах, калі б ты магла здагадацца,
Як не хочацца мне ўхадзіць.

Невядома, адрасаваліся гэтыя словы Клаве, ці не, — але напісаны яны былі ў той час, калі ён заседжваўся да трох гадзін ночы, выліваючы ў вершах свае пачуцці.

Хто ж яна, тая Клава, — віноўніца і паэтавых пакут і паэтавай радасці? На гэтае пытанне дзённік не дае адказу. Мы так і не ведаем ні яе ўзросту, ні прафесіі, ні занятку. Ведаем толькі. што **«Клава на венецианку с картины Врубеля «Венеция» похожа».** Яе партрэт дапаўняюць яшчэ і радкі з верша, дзе паэт, звяртаючыся да Клавы, гаворыць, што будзе заўсёды помніць: **«Тебя в темно-синем платочке и песню, что пела мне ты».** З Клавай пазнаёміўся паэт на другі дзень свайго прыезду ў Стары Крым. **«Тогда же вечером разговорился с Клавой. Знакомых у меня не было, и я каждый вечер с ней сидел, разговаривал...»**

Напачатку сумесныя гутаркі вечарамі, потым — вандраванне па ваколіцах Старога Крыма і нарэшце — блізкія адносіны, пра якія падрабязна расказвае дзённік. У ім — тое, што пісалася для сябе, што з'яўляецца таямніцай за сямю замкамі.

Клава не была адзіным паэтавым захапленнем. Яшчэ пад час першай сваёй паездкі ў Крым, у 1909 годзе, Максім рамантычна закахаўся ў Кіціцыну — дзяўчыну містычна настроеную. Пра гэтае першае захапленне ведаў бацька па расказах і па перапісцы сына. М. А. Кіціцынай прысвечаны, як зазначае Адам Ягоравіч, трыялет, які пачынаецца словамі «Я бальны бескрыдлаты паэт». Трыялет, напісаны на адвароце гімназічнай фотакарткі, так і застаўся па невядомай прычыне неадасланым. Магчыма, к гэтаму часу адрасата ўжо не было ў жывых? Канкрэтна сказаць мы не можам, бо не маем адпаведных матэрыялаў. Аднак для здагадак падставы ёсць. Нагадаем адзін з лепшых лірычных вершаў «Цемень», пад якім рукою паэта ў дужках напісана: **«Ахвярую М. А. Кіц-най».** Па часе ён напісаны пасля трыялета. А па настроі — гэта крык паэтавай душы, вялікі боль сэрца. Такім болем хутчэй за ўсё магла быць смерць блізкага чалавека. Яна і нарадзіла пачуцці, поўныя безвыходнай тугі і жалю:

Аўтограф з дзённіка
Максіма Багдановіча.

Я сяджу без агню. Я стаміўся, прамок.
Над зямлёю — імгла, у душы маёй змрок.
О, як пуста у ёй! О, як холадна жыць!

Кожны раз, калі глыбокае пачуццё трывожыла паэта, яно абавязкова вылівалася ў вершы. Так было з Кіціцынай, так было і з Клавай. Толькі аднойчы паэт знарок адвёў нас ад пошукаў адрасата. Я маю на ўвазе вершаванае апавяданне «Вераніка». Чамусьці аўтар палічыў патрэбным забяспечыць «Вераніку» эпіграфам **«Яна — выдумка маёй галавы».** Бацька ў сваіх успамінах выкарыстае гэта для сцвярджэння, нібы яго сын увогуле стараніўся інтымных пачуццяў і паставіў эпітэт для таго, **«каб тут не западозрылі жывой сардэчнай прывязанасці»,** якой, на яго думку, у Максіма ніколі не было.

Мілыя добрыя бацькі! Як вам хочацца, каб вашы дзеці паводзілі сябе не па-даросламу. Што ж, даруем вам ваша заблуджэнне і не будзем вас дакараць за гэта. Мы разумеем, што кожны вобраз — стаіць за ім канкрэтны прататып, ці не — выдумка пісьменніка. Але ж на гэтай падставе не будзем катэгарычна сцвярджаць, што персанаж твора не меў прататыпа, што за вобразам Веранікі не стаяла канкрэтная асоба.

Чытаючы апісанні прыроды ў «Веранікі», мы адразу пазнаем Ракуцёўшчыну, дзе былі:

І вулка, веючая сном,
І ціхі старасвецкі дом
З цяністым, адзічэлым садам;
Над ім шпакоўніца ўгары,
А ўкруг схіліўся тын стары.

Праўда, «ціхі старасвецкі дом», абнесены старым тынам, цяпер ужо раскіданы, на яго падмурку стаіць новая хата. Не стала і адзічэлага саду. Старэйшыя з жыхароў Ракуцёўшчыны В. Ясловіч і яго жонка не памя-


Урубель. Венецыя.



Ракуцёўшчына.

таюць, каб у фальварку была паненка па імені Вераніка. Але ж не абавязкова, каб яна жыла ў Ракуцёўшчыне. І не абавязкова, каб яна звалася Веранікай. Паэт мог даць ёй сваё імя. В. Еслановіч і яго жонка ўспамінаюць, што па суседстве быў яшчэ адзін фальварак, і там таксама жылі паненкі. І хоць гэта не абавязкова, каб вершаванае апісанне поўнасцю адпавядала жыццёваму, аднак не лішне нагадаць і такія радкі з «Веранікі»:

І толькі ўжо тады я ўгледзеў,
Што поруч, як цвяток лясны,
Узрасла ў красе сваёй вясны
Дачка самотная суседзяў.

Нельга не заўважыць і такую акалічнасць. Аблічча Веранікі, як і дзяўчынкі з верша «У вёсцы», нагадвае паэту вобраз Рафаэлеўскай мадоны. Відаць, час і абставіны выклікалі аднолькавае ўяўленне аб красе — і паэт не задумваючыся паўтарае выкарыстанае параўнанне.

Падзеі, апісаныя ў «Вераніцы», па часе ахопліваюць значны перыяд. Ён вымяраецца гадамі, а не тымі няпоўнымі двума месяцамі, якія прыпадаюць на жыццё паэта ў Ракуцёўшчыне. Магчыма таму паэт і палічыў патрэбным паставіць пад «Веранікай» эпітэт «Гэта — выдумка маёй галавы», каб не было ніякай неадпаведнасці. Бацька ж зразумее гэта па-свойму і растлумачыць эпіграф, як сведчанне «целомудренности» сына, які не хацеў, каб яго западозрылі ў «жывой сардэчнай прывязанасці».

Думаецца, што Максіма ў гэты час не магло б збянтэжыць западозранне. Як-ніяк, яму ішоў дваццаты год — і ён меў права самастойна вырашаць свае, нават самыя далікатныя, справы.

Лірычны герой — заўсёды часцінка аўтарскага Я. Яму аўтар давярае свае самыя запаветныя думкі і пачуцці; яму аддае, як законнаму нашчадку, і частку сваёй біяграфіі. Не абавязкова, каб яна паўтарылася ў тых формах, у якіх вылілася ў самім жыцці. Формы могуць мяняцца. Аднак сутнасць падзеі ад гэтага не траціць сваёй канкрэтнасці. Вось чаму мы ўсё ж прытрымліваемся тае думкі, што на стварэнне вобраза Веранікі паэта натхніла канкрэтная асоба. Яна яшчэ і пазней напомніць пра сябе.

Я ў сад пайшоў. Ўсё глуха, дзіка,
Усё травою зарасло.
Няма таго, што раньш было,
І толькі надпіс «Вераніка»,
На ліпе ўрэзаны ў кары,
Казаў вачам аб тэй пары.

А што да эпіграфаў, дык іх, як і самі вершы, не заўсёды трэба разумець просталінейна. Гэтая просталінейнасць — і яшчэ я дадаў бы: адчуванне непагрэшнасці — неаднойчы падводзілі Адама Ягоравіча, якому здавалася, што сваіх дзяцей ён разумее лепш за ўсіх. Па гэтай прычыне шмат якія яго дзеянні выклікалі, асабліва з боку Максіма, не толькі незадавальненне, але і рашучы пратэст. Згадаем спрэчку бацькі і сына пасля таго, як Максім закончыў гімназію. З якім імпэтам Максім ірваўся ў Пецярбургскі ўніверсітэт, як ён горача пратэставаў: **«Пракурорам не хачу, адвакатам не хачу, суддзёю не хачу, хачу быць літаратарам ці вучоным».** І ўсё ж бацька, насуперак волі сына, вырашыць яго лёс самастойна, пашле вучыцца ў Яраслаўскі юрыдычны ліцэй. Пашле, хоць пазней напіша: **«Я не перашкаджаў сваім дзецям быць, кім яны хочуць...»** Не перашкаджаў, але не ўсім. І, відаць, Максіма меў на ўвазе, калі пазней, гаворачы аб дзецях, прызнаваўся, што **«ніколі не быў задаволены тым, хто яны ёсць».**

Аднак сказаць, што Адам Ягоравіч не быў задаволены ўсімі дзецьмі, нельга. Лёвам і яго матэматычным дараваннем бацька захапляўся. Ён рабіў усё магчымае, каб вучыць сына далей, тым больш, што і настаўнікі прарочылі Лёву вялікую навуковую будучыню як матэматыку. Значыць, больш за ўсё бацькаву незадаволенасць выклікаў Максім. І ў гэтай справе нам трэба разабрацца больш дэталёва, нічога не ўтойваючы і нічога не пакідаючы без увагі. Мы ведаем, што бацька не рабіў неабдуманых учынкаў. Ён быў даволі адукаваным і выхаваным чалавекам. І вось, каб зразумець стаўленне Адама Ягоравіча да сынавай паэтычнай працы, трэба перш за ўсё зразумець яго самога і яго стаўленне да «беларусікі» наогул.

Ні для каго не сакрэт, што Адам Ягоравіч у свой час нямала сіл і энергіі аддаў на збіранне і вывучэнне вуснай творчасці беларусаў, што ён цудоўна ведаў родную мову. Цудоўна ведаў тое, чаго так не хапала сыну, па што сын звяртаўся чамусьці не да бацькі, а да староннiх людзей. Відаць жа, нешта стрымлівала сына і не давала яму магчымасці ва ўсім раіцца з бацькам. На першых кроках Максімавым паэтычным дарадцай становіцца хросная маці Вольга Епіфанаўна Сёмава. Не бацька, а яна выпісвае Максіму беларускія газеты «Наша доля» і «Наша ніва». З ёю паэт доўгі час перапісваецца, пасылае на прагляд свае вершы. А бацька робіць выгляд, нібы нічога не заўважае, каб пазней толькі засведчыць: **«Я не спрабаваў ахалоджваць яго парыву, хоць, вядома, ясна сабе ўяўляў тыя велізарныя цяжкасці, якія належала адолець нешматлікай беларускай інтэлігенцыі, што працавала ва ўмовах выключна цяжкіх».**

У другім месцы ён выкажацца больш катэгарычна: **«Малюнак беларускага адраджэння быў даволі бязрадасны»,** і тут жа з пачуццём шкадавання дадасць, што Максім **«...нібы не заўважаў гэтай бязрадаснасці»,** што ён **«...быў поўны бадзёрасці і веры ў светлую будучыню свайго народа, да якога ён не ўспеў нават належным чынам прыгледзецца».**

Чытаеш такое і дзіву даешся: як жа мог Адам Ягоравіч, хто столькі папахадзіў па роднай зямлі, столькі панаслухаўся родных песень і казак, не адчуць і не зразумець будучыні свайго народа. А пры больш пільным жаданні мог бы зразумець, успомніць і тых, хто змагаўся ў атрадах Кастуся Каліноўскага за гэтую будучыню, і тых, хто пачынаў ужо і літаратуру на беларускай мове. Аднак усё гэта нібы прайшло міма ўвагі Адама Ягоравіча. Не звярнуў ён асаблівай увагі і на творчасць пазнейшых паэтаў, якія ўзняліся на хвалі рэвалюцыі 1905 года і якіх заўважыў яго блізкі сябар Максім Горкі і пазайздросціў іх яснасці, прастаце і пажадаў: «Нашым бы крыху такіх якасцей...»

Погляды і перакананні чалавека фарміруюцца пераважна ў юнацкім узросце. А ён, як вядома, у Адама Ягоравіча прыпадае на перыяд вучобы ў семінарыі. Праўда, найбольш дальнабачным семінарыстам (такім, як Канстанцін Міцкевіч — будучы Якуб Колас) і семінарыя не здолее затуманіць позірк і прывіць скепсіс да лёсу і будучыні беларускага народа. Больш таго, яны стануць песнярамі і змагарамі за гэтую будучыню. Адам Багдановіч перакананні семінарскіх настаўнікаў зробіць сваімі перакананнямі і на поўным сур'ёзе будзе пісаць пра свой народ у прадмове да кнігі «Перажыткі старажытнага светаўспрымання ў беларусаў», выдадзенай у Гродні ў 1895 годзе: «І жыццё беларуса, і яго творчая дзейнасць рэзка пазначаны пячаткай няразвітасці, адсталасці, забітасці».

Пра песні.

«Амаль усе яны бляклыя, ...нявытрыманыя, аддаюць нейкай прыбі-

тасцю творчасці, духоўнай беднасцю... Мелодыі іх, відаць, яшчэ бяднейшыя за змест».

Пра мову.

«Беларуская мова, перш за ўсё, небагатая на словы... Яна таксама бедная на формы выяўлення і моўныя формы».

Погляды гэтыя з гадамі не памяняліся. Ва ўсякім выпадку, пра іх змену нідзе Адам Ягоравіч не гаворыць. А маючы такія погляды, хіба ж мог ён ухваляць сынава захапленне «беларусікай». Які ж гэта бацька жадае горшага сваім дзецям? І ён, перакананы, што робіць толькі дабро, рабіў адваротнае. У гэтым была не віна яго, а яго бяда, яго самая найбольшая бацькаўская трагедыя. Не маючы бацькавай падтрымкі і заахвочвання, нават беларускую мову сын вывучае самастойна. Якога ж напружання патрабавала ўсё гэта ад хворага чалавека! Не ўтойвае гэтага і сам бацька. Пазнаёміўшыся з сынавымі рукапісамі і сшыткамі, ён засведчыць: **«Колькі там выпісак са слоўнікаў, зборнікаў і старадрукаваных кніг! Які з паэтаў, хто ўсмактаў беларускую мову з малаком маці, падымаў гэтую цяжкую, крапатлівую, крахаборчую працу? А ён, слабагруды, хілы, падняў. І нёс яе цярпліва, упарта, і для мяне і для ўсіх, хто абкружаў, непрыкметна. Ён рэдка звяртаўся да мяне за парадай ці тлумачэннем. А больш не было да каго звярнуцца, і, папраўдзе кажучы, ні да кога ён і не звяртаўся».**

Шкада, што гэтае разуменне прыйшло да бацькі занадта позна...

Адам Ягоравіч быў цвёрда перакананы, што Яраслаўскі юрыдычны ліцэй — найлепшая навучальная ўстанова для сына. Сын жа трымаўся іншага погляду, і хоць ліцэй наведваў акуратна, а залікі здаваў, як кажа бацька, «не вельмі», лекцыі слухаў нячаста. Яго вабіла не юрыспрудэнцыя, а літаратура, беларускае зямляцтва, дзе наладжваліся лекцыі па гісторыі роднага краю, чыталіся беларускія вершы і спяваліся беларускія песні.

Там ён жыў паўнакроўным жыццём. А дома зноў акунаўся ў адзіноту. Душою адчуваючы бацькава стаўленне да «беларусікі», ён і не імкнуўся зблізіцца з ім, бо зближаюцца людзі аднолькавых поглядаў. Аднолькавых поглядаў у іх не было, і яны з кожным годам аддаляліся ўсё далей і далей. Гэтую душэўную далёкасць няцяжка заўважыць і ва ўспамінах Адама Ягоравіча, калі чытаць іх уважліва.

Згадаем 1917 год. Цяжка хворы Максім у канцы лютага вымушаны тэрмінова выехаць у Ялту на лячэнне. Ён спісваецца з бацькам, і яны дамаўляюцца сустрэцца ў Сімферопалі. Аднак абставіны склаліся такім чынам, што ў Сімферопалі яны не сустрэліся.

**«У Сімферопалі я атрымаў ад яго некалькі пісем,** — кажа Адам Ягоравіч. — **Тон быў самы спакойны, нічога трывожнага. Але калі б і было штонебудзь трывожнае, дык я наўрад ці змог бы паспяшыць яму на дапамогу».**

Аж не верыцца, што гэта кажа бацька. Але не будзем загадзя дакараць яго, бо ўсё ж... тон сынавага пісьма быў спакойны, а падзеі пасля Лютаўскай рэвалюцыі — вельмі неспакойныя.

**«Вялікае аддзяленне сялянскага банка,** — пісаў ён, — **больш за 150 чалавек служачых, бурліла і хвалявалася».**

Мы не ведаем, як доўга цягнуліся гэтыя хваляванні і ці быў у іх нейкі спад або заспакаенне. Але ўсё ж, відаць, за два месяцы можна было знайсці час, каб праведаць хворага сына, тым больш што Ялта не так ужо і далёка ад Сімферопаля. Такога часу не знайшлося. І толькі ў канцы мая, калі не атрымаў ад Максіма адказу на два лісты, Адам Ягоравіч захваляваўся. І... зноў не мог выехаць у Ялту, бо ў гэты час заехаў з фронту Лёва, — і бацькава ўвага і клопат былі аддадзены яму.

**«А Максім у гэты час дажываў свае апошнія дні, паміраючы ў поўнай адзіноце і закінутасці»,** — нібы старонні чалавек, засведчыць бацька і не палічыць патрэбным хоць позна, але... раскаяцца.

І пахаваюць паэта чужыя людзі, для якіх ён быў усяго толькі нейкім студэнтам. Яны ж знойдуць адрас і выклічуць бацьку, каб перадаць паперы і рэчы, якія засталіся пасля смерці Максіма.

Немагчыма ўсё гэта вытлумачыць сёння. Немагчыма знайсці і прычыны, каб нейкім чынам калі не апраўдаць, дык хоць бы зразумець бацькавы паводзіны. Відаць, таму нямногія з даследчыкаў бяруцца за гэтую вельмі далікатную справу. Пра адносіны з бацькам нідзе не абмовіўся і сам Максім, разумеючы, што скаргамі нічога не палепшыш.





Так і разышліся яны, не развітаўшыся...

Смерць забірала ў Адама Ягоравіча аднаго сына за другім. Праз год не стане Лёвы. Загіне ён пасля ранення на фронце. Гэта будзе для бацькі самы цяжкі душэўны ўдар. Са смерцю Лёвы адыдзе ў нябыт яго самая светлая надзея. Іншы б пасля такіх удараў лёсу аслабеў, душэўна занямог і пакінуў бы культурна-асветніцкую дзейнасць. Іншы.., але не Адам Ягоравіч. Жыццёвыя выпрабаванні не зломяць яго волі, не асудзяць на творчую бяздзейнасць. У яго быў, як справядліва зазначае ў адным з лістоў Кацярына Паўлаўна Пешкава, «неистребимый запас жизненной энергии». І ўсю яе ён аддасць на карысць грамадскай справе. Ён засядзе за аб'ёмістую працу «Мова зямлі», дзе зацікавіцца водна-рачнымі і азёрнымі назвамі — дадатковым сведчаннем побыту і гісторыі славянскіх народаў. Працу не ўдалося выдаць асобнай кніжкай пры жыцці, нягледзячы на станоўчыя водгукі вучоных і старанні Максіма Горкага. І ўсё ж да апошніх дзён Адам Ягоравіч не пакіне пісьмовага стала. Ён напіша ўспаміны пра сваё дзяцінства, успаміны пра сына Максіма (па просьбе Інбелкульта) і вялікія ўспаміны пра М. Горкага.

З імем Горкага ў Адама Ягоравіча звязана нямала светлых дзён. Вялікі пісьменнік з асаблівай увагай ставіўся да свайго сябра. Збліжалі гэтых людзей не толькі агульныя погляды на падзеі дарэвалюцыйнага жыцця ці сваяцтва, але і агульнасць поглядаў на літаратуру. Адам Ягоравіч меў добры літаратурны густ, і з яго думкай заўсёды лічыўся Аляксей Максімавіч. І не толькі ў першыя гады знаёмства. Пра гэта сведчыць пісьмо М. Горкага з Сарэнта, датаванае 4 жніўня 1925 года: **«Получил интересное и, как всегда, содержательное письмо Ваше, старый друг А[дам] Е[горович]. Спасибо. Вы сказали много лестного для меня, а — признаюсь — я этого не ожидал. Я очень верю в такт и художественный вкус Ваш...»**

І калі Адама Ягоравіча напаткаюць у жыцці матэрыяльныя цяжкасці, Аляксей Максімавіч прыйдзе яму на дапамогу. На невялічкім, у тры чвэрткі, аркушыку паперы, вырваным са школьнага сшытка, Адам Ягоравіч запіша пазней «для памяці»: **«Істотную матэрыяльную дапамогу для працягу маіх даследаванняў у галіне геаграфічнай наменклатуры, як этналагічнага матэрыялу («Мова зямлі»), аказаў А. М. Горкі, прадаставіўшы мне права, у імя старой дружбы, звяртацца да яго за субсідыяй, каб я мог спакойна працягваць свае даследаванні, за 5 год, пасля выхаду майго ў адстаўку (1930-ы г.), я атрымаў з яго сродкаў 7 100 р.».**

У сямейным архіве ёсць паштовыя квіткі, з якіх відаць — калі і якую грашовую суму высылаў Адаму Ягоравічу праз сакратароў М. Горкі. Пасля смерці Аляксея Максімавіча клопаты пра свайго даўняга сябра і родзіча бярэ на сябе Кацярына Паўлаўна Пешкава. Пра гэта сведчаць захаваныя дакументы. На адвароце аднаго з квіткоў, датаваных 2.II.34 г., яе рукой напісана: **«Дорогой Адам Егорович, одновременно с посылкой, в коей К. Н. вложила толокно, а я наконец полученное лекарство, перевожу Вам немного денег на Торгсин.**

**Привет. Е. Пешкова».**

Сума ні на квітку, ні на паштовай картцы агенцтва Таргсін не прастаўлена. Ды, урэшце, справа і не ў суме, а ў той увазе і клопатах, якія праяўляла Кацярына Паўлаўна ў тыя не вельмі багатыя гады. Вельмі балюча ўспрыняла яна і вестку пра смерць Адама Ягоравіча. У сваім пісьме яна пісала: **«У меня с Ад[амом] Егор[овичем] ушел последний человек, связывавший меня с нижегородским прошлым. Много тогда пережито вместе радостного, потом много тяжелого.**

**Напишите мне о его последних днях».**

Павел Адамавіч Багдановіч у адказ напісаў ёй вялікі ліст. Спярша пісаўся чарнавік, які займае 12 старонак-чвэртак, а потым — белавік. Гэты

чарнавік, напісаны сінім чарнілам, дробным бісерным почыркам і захаваўся ў сямейным архіве.

З ліста мы дазнаемся, што зіму 1939—1940 гадоў Адам Ягоравіч перанёс добра. Сёмага красавіка яму споўнілася 78 гадоў. Улетку ён марыў наведаць сваю радзіму — Халопенічы.

**«Яму вельмі хацелася пабыць там,** — піша Павел Адамавіч, — **паглядзець на родныя мясціны, дзе прайшло яго маленства. «А тады можна і памерці», — казаў ён».**

Сын, улічваючы слабае здароўе, пачаў адгаворваць бацьку ад такой паездкі. Адам Ягоравіч настойваў на сваім. Ён лічыў, што ў яго хопіць сіл з'ездзіць на радзіму.

**«Ды чым я рызыкую,** — нарэшце сказаў ён, — **што, прыехаўшы туды, памру? Дык мне і хацелася б там памерці».**

І ўсё ж сын пераканаў бацьку — і яны не паехалі ў Халопенічы. Сілы Адама Ягоравіча таялі. Ён нікуды не выходзіў з кватэры, зрэдку ўставаў з ложка, каб сесці за свой рабочы стол.

Яго вельмі радавалі весткі з Беларусі.

**«Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Саюз пісьменнікаў БССР,** — піша далей Павел Адамавіч, — **можна сказаць, наладзілі аднаўленне яго ў правах спадчынніка на ганарар за творы сына... Гэта заспакойвала бацьку, дазваляла лягчэй глядзець на будучыню. Сардэчная ўвага да яго скрашвала яго апошнія дні. Яго радавала ўсё, што гаварыла пра ўзрастаючае прызнанне Максіма».**

Няхай у апошнія дні, але нарэшце сынава імя прыносіла бацьку душэўную раўнавагу і суцяшэнне. Зорка Максімавай славы ярка ўзыходзіла на літаратурным небасхіле і ўзыходзіла, каб свяціць не толькі роднаму краю, але і ўсім людзям, якія ўмеюць разумець і цаніць прыгожае.

На дварэ пачынала гаспадарыць вясна. І чым большую сілу набірала яна, тым больш слабелі Адамавы сілы. Усё часцей у дом запрашаецца доктар Емяльянаў. Усё часцей прыносіцца кіслародная падушка. І ўсё ж, калі аднойчы ўвечары доктар сказаў: «Жаваранкі прыляцелі, Адам Ягоравіч», — хворы ажывіўся і ціхім голасам вымавіў: «Хацеў бы я іх паслухаць...»

Кожнае раніцы ён пытаўся ў сына, які сёння дзень, відаць, прыдаваў гэтаму нейкае значэнне. А незадоўга да смерці пацікавіўся, у які дзень памерла Аляксандра Паўлаўна.

14 красавіка прыйшло пісьмо ад З. Бядулі. У ім паведамлялася пра матэрыяльную дапамогу Адаму Ягоравічу, пра новы помнік, які будзе пастаўлены на магіле Максіма.

**«Мацуйцеся, сівы арол,** — падбадзёрваў З. Бядуля, — **і працягвайце пісаць свае ўспаміны пра сябе і Беларусь мінулую».**

Адам Ягоравіч уважліва праслухаў пісьмо, якое прачытаў сын, і прамаўчаў. Ён ужо нічога не мог адказаць, бо, відаць, сам разумеў, што яго дні злічаны.

Сваю смерць Адам Ягоравіч сустракаў спакойна.

78 гадоў пражыў, — казаў ён Емяльянаву, — ідзе 79-ы год. Гэта не кепска. Не многія могуць гэтым пахваліцца.

16 красавіка 1940 года ён памёр, а 18 красавіка яго пахавалі.

**«Было шмат сонца, якое так любіў бацька, і шмат жывых кветак,** — піша Павел Адамавіч. — **Сціпла, прыгожа, высакародна жыў бацька — сціпла, прыгожа і высакародна пакінуў ён жыццё. Пахавалі тату на могілках пад вялікай бярозай. На пахаванне прыехаў з Масквы мой стрыечны брат Барыс Галаван і з Горкага стрыечная сястра Нюта Гапановіч. Я быў гэтаму страшэнна рад, бо бацька ёй казаў: «Паміраць я прыеду ў Ніжні. Ты, Нюта, здолееш пахаваць мяне так, як хацеў бы я».**

Спакойна адышоў у нябыт чалавек, які меў «неистребимый запас жизненной энергии». Не ўсё яму ўдалося ў жыцці, не заўсёды ён разумеў, дзе ляжаць яго сапраўдныя скарбы. Але ж ён хацеў зрабіць людзям як мага больш дабра. І самым вялікім дабром, вянком дабра — з'яўляецца Максім, яго сумесны з Марылькаю сын.

За гэта ім — наш нізкі паклон і вечная памяць.





# ЦЕНЬ СВАСТЫКІ

Дзве сусветныя вайны на працягу жыцця аднаго пакалення нічому не навучылі цяперашніх заходнегерманскіх рэваншыстаў. Забыўшыся на ўрокі гісторыі, яны зноў узяліся за старое рамяство — распальванне новай сусветнай вайны.

У свой час заснавальнікі навуковага камунізма Маркс і Энгельс раскрылі перад міралюбівымі народамі звярыны твар юнкерскай Германіі. Ужо тады яны гаварылі, што рэжым прускай шаблі нясе пагрозу не толькі немцам, але і народам Еўропы. У наступны перыяд ні рэвалюцыя 1918—1919 гадоў, ні Веймарская рэспубліка не змаглі вывесці Германію з ганебнага кола імперыялізму і рэваншызму. Паражэнне рэвалюцыйна-дэмакратычных сіл у краіне ў ходзе лістападаўскай рэвалюцыі з'явілася істотнай прадпасылкай для прыходу да ўлады ў Германіі нацысцкай зграі Гітлера.

Пасля краху фашысцкага грабежніцкага райха прайшло дваццаць пяць гадоў. На нямецкай зямлі цяпер існуюць побач дзве дзяржавы: сацыялістычная міралюбівая Германская Дэмакратычная Рэспубліка, якая будуе новы лад, і капіталістычная Федэратыўная Рэспубліка Германіі, дзе зноў працвітаюць неанацызм і рэваншызм. Многае з таго, што цяпер дзеецца ў палітычным жыцці Заходняй Германіі, нагадвае часы панавання нацыстаў. Чалавецтва ніколі не забудзе лагераў смерці ў Асвенціме, Бухенвальдзе, Дахау, Трэблінцы, Майданеку і іншых.

Хіба пасля крывавых оргій нацысцкіх банд у гады «тысячагадовага райха» можа быць месца для прапаганды чалавекаиенавісніцкіх ідэй нацызму і неанацызму? Безумоўна, не. У сапраўднасці ж заходнегерманская рэакцыя, адкінуўшы прэч урокі гісторыі, зноў стала на шлях мілітарызму і рэваншызму. Перш за ўсё яна пачала гадаваць неанацысцкую партыю, дзе акапаліся самыя заўзятыя падпальшчыкі вайны, старыя фашысцкія злачынцы часоў Гітлера. Імперыялісты Захаду разам са сваімі прыхільнікамі ў Боне, імкнучыся завуаляваць неанацызм у ФРГ, распаўсюджвалі байкі пра тое, што Заходняя Германія не мае нічога агульнага не толькі з фашысцкім мілітарысцкім мінулым Германіі, але і з неанацызмам. Яны ўсюды трубілі, што ФРГ — гэта міралюбівая, дэмакратычная дзяржава, якая развіваецца па шляху «адкрытага» грамадства. За гэтым міфам яны імкнуліся схаваць той факт, што ў гэтай краіне ўстанавілася і ўзмацнела татальная ўлада ста манаполій, якія праследуюць даўнія агрэсіўныя мэты.

Блізарукая знешняя палітыка ФРГ часоў Адэнаўэра—Эрхарда, якая грунтавалася на нежаданні прызнаць вынікі другой сусветнай вайны, на славутай «дактрыне Хальштэйна», на тэрытарыяльных прэтэнзіях да Польшчы, Чэхаславакіі і СССР, прывяла восенню 1966 года да глыбокага крызісу знешняга і ўнутранага курсу Бона. У гэтай сітуацыі крайнія мілітарысцкія сілы паспрабавалі прарэпетыраваць захоп улады праз «бунт генералаў», у ФРГ загаварылі пра неабходнасць паставіць на чале ўрада «моцную асобу» для больш эфектыўнага правядзення палітыкі рэваншу. Тады ў цяню палітычных куліс узняўся выразны нацысцкі прывід у выглядзе неафашысцкай «Нацыянал-дэмакратычнай партыі».

Станаўленне новай фашысцкай партыі, якая трымалася на падмурку нямецкай імператарскай партыі, саюза сапраўдных немцаў і айчыннага саюза, а таксама цэлага шэрагу іншых рэакцыйных груп, ішло ў першую чаргу ў 60-х гадах. Якраз у гэты час у Заходняй Германіі пачалі назірацца прыкметы

крызісу створанай пасляваеннай сістэмы.

Нямецкі дробны буржуа (асяроддзе сілкавання фашызму ў мінулым) адчуў няўпэўненасць у заўтрашнім дні, патрэбу ў трывалай уладзе і ў цвёрдай руцэ. Гэта мела немалаважнае значэнне для разгортвання прапаганды неафашызму. На парламенцкіх выбарах 1965 года кандыдаты нацыянал-дэмакратычнай партыі сабралі па ўсёй краіне каля 2 працэнтаў галасоў. Потым у ходзе выбараў у ландтагі зямель (1966—1968 гады) НДП атрымала ад 7 да 10 працэнтаў галасоў.

Хоць выбары ў бундэстаг у канцы 1969 года не апраўдалі разлікі неанацыстаў і яны не здолелі прабрацца ў парламент ФРГ, нацыянал-дэмакратычная партыя застаецца пагрозай для далейшага палітычнага развіцця Заходняй Германіі. Яна сабрала на апошніх выбарах у бундэстаг прыкладна паўтара мільёна галасоў, г. зн. у два з лішнім разы больш, чым у 1965 годзе. Колькасць выбаршчыкаў, якія галасавалі за нашчадкаў і пераемнікаў Гітлера, амаль у пяцьдзесят разоў перавышала колькасць членаў неанацысцкай партыі.

Паводле слоў кіраўніка партыі фон Тадэна НДП налічвае ў шэрагах бундэсвера 1 500 актыўных членаў, сярод іх 500 афіцэраў і 2 генералы. У канцы 60-х гадоў па спісах нацыянал-дэмакратычнай партыі дэпутатамі зямель ФРГ былі выбраны 36 ваеннаслужачых. Усё гэта сведчыць пра тое, што заходнегерманская армія моцна звязана з вярхушкай партыі. Акрамя ваеншчыны новай фармацыі, як і ў гады Веймарскай рэспублікі, неанацысцкая партыя абапіраецца на розныя зямляцтвы, якіх у ФРГ сотні. Сярод іх — арганізацыі судэцкіх немцаў, прыбалтыйскіх немцаў, банды з Прыкарпацця і Букавіны, саюз сілезскіх немцаў, здраднікі Савецкага Саюза і іншыя.

Пасля выбараў у бундэстаг увосень 1969 года пазіцыі ўсіх гэтых рэваншысцкіх элементаў у пэўным сэнсе ўмацаваліся. Калі раней яны былі прадстаўлены ў парламенце ФРГ 42 дэпутатамі, то цяпер маюць там 53 месцы. Шматлікія мілітарысцкія саюзы і зямляцтвы ў Боне маюць сотні газет, часопісаў і выдавецтваў, тыражы якіх складаюць 2,5 мільёна экземпляраў. Магнаты Заходняй Германіі прадастаўляюць у распараджэнне неанацысцкіх саюзаў усе сучасныя сродкі прапаганды, уключаючы кіно, радыё, тэлебачанне. Цяперашнія нацы, як і іх папярэднікі ў дваццатых гадах, знаходзяцца на ўтрыманні манапалістаў як заходнегерманскіх, так і замежных. Ля калыскі нацысцкага і неанацысцкага руху стаялі і стаяць гарматныя каралі не толькі ФРГ, але і ЗША. Як у Мюнхене пасля першай сусветнай вайны, так і цяпер правячыя колы ЗША праяўляюць вялікія сімпатыі да неафашысцкага руху ў Заходняй Германіі. Невыпадкова ж, што відныя гітлераўцы знайшлі прыстанішча ў Злучаных Штатах і там працягваюць плесці цянёты змовы супраць міру і чалавецтва.

Нацысты старой і новай фармацыі пракламіруюць перавагу германскай нацыі, ядзерную зброю, выкараненне камунізма, вяртанне нямецкіх калоній і многае іншае. І хоць неанацысты на словах адхрышчваюцца ад імперыялістычнай праграмы гітлераўцаў, на справе яны паўтараюць у прыкрытым выглядзе нацысцкія лозунгі старых часоў. У НДП акапаліся многія старыя фашысцкія драпежнікі і занялі ў яе кіраўніцтве пануючае становішча. Акрамя фон Тадэна—нацыста даваенных часоў, мы сустракаем там такіх асоб, як Вільгельм Гутман, былы бургамістр Тынгена ў Бадэне. Ён вядомы як кат і забойца многіх тысяч людзей. Акрамя яго, членамі гэтай партыі з'яўляюцца такія мацёрыя забойцы, як Вальдэмар Шутц, Эміль Дорн, прафесар Эрнст Арых, Вальтэр Бохман, Зігфрыд Мельман і многія іншыя асобы, якія займалі высокія пасады ў гестапа і СС. Можна без перабольшання сказаць, што кіраўніцтва НДП складаецца ў асноўным з гітлераўцаў, якія напярэдадні і ў гады другой сусветнай вайны зрабілі самыя цяжкія злачынствы супраць чалавецтва і падлягаюць міжнароднаму суду.

Нягледзячы на няспынную ўнутраную грызню, НДП за апошнія гады ўмацавала свае пазіцыі. Калі вясной 1965 года яна налічвала менш адной тысячы членаў, то ў чэрвені 1966 ужо 18 тысяч, а ў канцы 1968 года—каля 40 тысяч. У ФРГ не засталося ніводнага гарадскога і сельскага раёна, у якім бы не было мясцовага аддзялення НДП.

Сучасны ідэолаг неанацызму Грабер заклікае раз і назаўсёды пакончыць з пытаннем пра гістарычную віну Германіі. Такім чынам, не толькі выцягваецца на божы свет старая легенда пра ўдар кінжалам у спіну ў канцы першай сусветнай вайны, але і ўзмоцнена падаграваецца нацыяналізм. Махровыя рэакцыянеры з ліку «вялікіх немцаў» зноў выцягваюцца на арэну. Гісторыя для цяперашніх бонскіх гаспадароў — гэта Фрыдрых Барбароса, Фрыдрых Другі, Бісмарк, Гіндэнбург і нават Гітлер, ратныя подзвігі ландскнехтаў, ідылія быту нямецкага Міхеля. У школьных падручніках ухваляецца адкрыты разбой. Там не знайсці ні Томаса Мюнцара, ні сілезскіх ткачоў, ні герояў-рэвалюцыянераў Бебеля, Лібкнехта, Тэльмана, ні іншых нацыянальных герояў Германіі.

Зноў, як у часы Гітлера, на шчыт узнімаюцца сентэнцыі, што «спрадвечны мір—гэта мара і далёка не цудоўная, вайна ж складае неабходны элемент энергіі чалавецтва», бо «вайна засцерагае народы ад гніення». Гэтым апраўдваецца палітыка Гітлера як спроба засцерагчы нямецкі народ ад распаду.

Неанацызм заўсёды ішоў і ідзе поплеч з рэваншызмам. Так было ў перыяд умацавання фашызму ў Веймарскай Германіі, так працягваецца, з некаторымі адхіленнямі, і зараз, хоць у Боне і робяць выгляд, што не заўважаюць адраджэння ў ФРГ неафашызму. Многія з бонскіх кіраўнікоў разводзяць рукамі, сцвярджаючы, што гаворка пра з'яўленне новых фюрараў—проста фантазія, агітацыйны трук камуністаў. Некалькі дзесяткаў гадоў назад, калі карычневая чума ў Веймарскай Германіі яшчэ не выйшла са сваіх берагоў і не разлілася па ўсёй краіне, дзеячы буржуазных і сацыял-дэмакратычнай партый гаварылі ў адказ на заклік камуністаў сумесна змагацца з фашызмам, што ў гэтым няма ніякай неабходнасці. Аднак прайшло нямнога гадоў, і жыццё паказала, што праўду гаварылі камуністы: звар'яцелы фюрар ужо сядзеў у крэсле рэйхсканцылярыі. Германія стала казармай, дзе рыхтавалася гарматнае мяса для новай вайны. Усяго шэсць гадоў спатрэбілася Гітлеру, каб пусціць у ход ваенную машыну. Усім вядома, якой жахлівай цаною народы зямлі заплацілі за імкненне нямецкай манапалістычнай эліты панаваць над светам. 50 мільёнаў чалавечых жыццяў адабрала другая сусветная вайна. Прайшло ўсяго 25 гадоў, як адгрымелі апошнія залпы гармат. І зноў цень свастыкі засланяе далягляды.

Першыя парасткі неафашызму паявіліся яшчэ ў дні Нюрнбергскага працэсу. Здавалася, што міжнародны суд, які паставіў да ганебнага слупа ўсю нацысцкую сістэму трэцяга рэйха, павінен быў стаць грозным перасцярогай для тых, хто выпадкова пазбег лёсу Герынга, Гебельса, Рыбентропа і іншых. Але дзе там! Фултанская прамова Чэрчыля, палітыка Трумэна і амерыканскага вялікага бізнесу зноў вывелі на авансцэну флікаў і крупаў. Разам з імі прыйшлі адэнаўэры, і ўсё пачалося спачатку. Пасля таго як былі аддадзены забыццю Патсдамскія рашэнні і Злучаныя Штаты ўзялі курс на аднаўленне заходнегерманскага ваеннага патэнцыялу, неафашызм пачаў усё больш узнімаць галаву.

Падтрымкай для нацы адэнаўэрскай фармацыі было ўтварэнне ў 1949 годзе Федэральнай Рэспублікі Германіі. Адразу з усіх нор павылазілі фашысты. Займаючы ключавыя пазіцыі ў новай дзяржаве, яны зрабілі ўсё, каб даць прастор неанацысцкаму руху. Ужо ў пачатку пяцідзесятых гадоў з'явіўся «Саюз маладых немцаў». На чале яго сталі былыя афіцэры і кіраўнікі гітлераўскай моладзі—Петэр Вальдаў, Рэйнхардзі і іншыя. Сярод завадатараў гэтай неафашысцкай банды знаходзіцца нацыст-гітлеравец Пауль Лют. Цікава, што ў грошах малойчыкі з «Саюза маладых немцаў» не адчувалі патрэбы. Акрамя мільёнаў марак, выдадзеных нямецкімі магнатамі, ішлі яшчэ долары і фунты. Апрача «Саюза маладых немцаў», у наступныя гады з'явіліся дзесяткі і сотні розных арганізацый, якія носяць адкрыта неафашысцкі характар.

Вялікую ролю ў росце неафашызму ў Заходняй Германіі адыгрывала і адыгрывае амерыканская служба шпіянажу і разведкі. Шматлікія нацысцкія саюзы ў той ці іншай ступені звязаны з разведвальнымі цэнтрамі ЗША і Заходняй Германіі. Палітыка дзяржаўнага дэпартамента ЗША, накіраваная на ператварэнне ФРГ у імперыялістычны арсенал НАТО, садзейнічае росту нацыяналізму ў Германіі. У пяцідзесятыя гады побач з «Саюзам маладых немцаў» з'явіўся «Першы легіён»—адкрыта пранацысцкая групіроўка, якую апякаў кёльнскі банкір Пфердменгес, блізкі сябар Адэнаўэра. У кастрычніку 1950 года фракцыя Камуністычнай партыі Германіі ў бонскім парламенце патрабавала, каб прэзідыум бундэстага даў звесткі аб прадстаўленых міністэрствам субсідыях неафашысцкаму «Нямецкаму саюзу». Пад крылцам Адэнаўэра была легалізавана тэрарыстычная арганізацыя «Вервольф». Потым створаны саюз «Брудэршафт» на чале з баронам Штаўфенбергам. Гэты «яснавяльможны барон» прытрымліваецца погляду, што сітуацыя ў Заходняй Германіі апраўдвае і дазваляе стварэнне падпольных арганізацый.

У сувязі з узмацненнем халоднай вайны і разгортваннем амерыканскай агрэсіі ў В'етнаме яшчэ больш узрасла роля ваеншчыны ФРГ. Неанацысцкія сілы зноў, як і ў папярэднія гады, пачалі ўзнімаць на шчыт геапалітыку. Цяпер тэорыя «жыццёвай

прасторы» ўжо абяцае працоўным Заходняй Германіі вырашэнне сацыяльных праблем за кошт іншых краін і народаў. Фактычна гэта заклік да новай вайны.

Струхнелая тэорыя жыццёвай прасторы, на якую абапіраецца сучасная геапалітыка ФРГ, цяпер выглядае трохі інакш, чым у часы панавання Гітлера. Яе прапагандысты адмовіліся ад апоры на біялагічны расізм. Але сутнасць геапалітычных поглядаў засталася недатыкальнай. Рэакцыя ФРГ, ведучы барацьбу супраць прагрэсіўных сіл, адначасова аберагае як скрытых, так і адкрытых прыхільнікаў фашызму. Немалы ўклад у пашырэнне хлусні і абгрунтаванне чалавеканенавісніцкіх ідэй унеслі не толькі паслядоўнікі Ратцэля і Хаўсгофера, але і некаторыя гісторыкі і сацыёлагі цяперашняй Заходняй Германіі. У сваіх кнігах яны груба пераглядаюць гістарычнае мінулае нямецкага народа і з універсітэцкіх кафедр ганьбяць нямецкую дзяржаву рабочых і сялян, імкнучыся дыскрэдытаваць у вачах германскага народа вызваленчую місію Савецкага Саюза ў вайне з фашызмам. Гэтыя людзі расхвальваюць гітлераўскі райх, які быццам бы выратаваў Германію ад развалу. Ідэалагічныя прыслужнікі фашызму працягваюць дурманіць нямецкае падрастаючае пакаленне. У падручніку па гісторыі для школьнікаў старэйшых класаў сцвярджаецца, нібыта Гітлер распачаў вайну супраць Расіі таму, што быў упэўнены ў тым, што Сталін нападзе на Германію. Паражэнне гітлераўскага райха тлумачыцца як вынік падрыўных дзеянняў здраднікаў.

У вуснай і друкаванай прапагандзе, як і ў мінулыя часы, немцам прыпісваецца гістарычная роля культуртрэгераў, якія неслі цывілізацыю іншым народам. Неанацысты ўзмоцнена прапагандуюць тэзіс наконт выключнай гістарычнай місіі немцаў. Фактычна гэта і ёсць усхваленне крывавых подзвігаў «псоў-рыцараў» на славянскіх землях.

Прапагандысты расісцкіх ідэй добра ведаюць, куды яны накіроўваюць свае атручаныя стрэлы. У 1968 годзе англійскі сацыёлаг праводзіў апытанне школьнікаў ФРГ пра іх адносіны да іншых народаў. І вось вынікі: 71 працэнт ненавідзіць рускіх, 46 працэнтаў — французаў, 39 — яўрэяў. Апытанне вучняў ва ўзросце 13—18 год, праведзенае заходнегерманскім сацыёлагам Вольфам, выявіла такія меркаванні юных грамадзян ФРГ пра іншыя нацыі: рускія—грубыя і жорсткія, палякі—брудныя і лянівыя, чэхі і славакі—вераломныя і грубыя. Значыць, зноў неабходны культуртрэгерскі паход на ўсход.

Неанацысты аб'яўляюць сябе нашчадкамі другога райха Бісмарка, а ў апошні час пачалі нават афішыраваць сваю сувязь з ідэямі Гітлера. Афіцыйна пануючай дактрынай стала ў іх гістарычная пераемнасць. З яе выводзяцца тэрытарыяльныя прэтэнзіі, напрыклад, патрабаванне аднаўлення германскіх граніц 1939 года. Усё гэта сведчыць пра вялікую небяспеку фашызму ў Германіі.

Цяпер, ва ўмовах існавання міралюбівай дэмакратычнай Германіі, якая з'яўляецца састаўной часткай сацыялістычнай сістэмы, чорным сілам нямецкай рэакцыі не ўдасца ажыццявіць свае злачынныя задумы. Усе міралюбівыя сілы здольны перагарадзіць шлях неанацызму.

**Рыгор ТРУХНОЎ,**
**прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.**



# «ЦУДАДЗЕЙНЫЯ» ЗНАХАРЫ

### 5 000 ЛІР ЗА «КАНСУЛЬТАЦЫЮ»

У вас не ладзіцца на службе? Вашы акцыі падаюць у цане? Ці, можа, вас падточвае невылечная хвароба? А вас, сіньёра, пакінуў няверны каханы? Або на прыкмеце спрытная саперніца?

О, у Італіі ад гэтых трывог лёгка пазбавіцца! У самім толькі Мілане налічваецца ажно 2 000 поўнасцю легальных хірамантаў, астролагаў і нават «святых». У Рыме іх яшчэ больш — 3 000. А ў Неапалі — 8 000! Выбіраць, як бачыце, ёсць з чаго.

Часопісы перапоўнены рэкламай, бульварныя газеты, захлынаючыся ад захаплення, на ўсе лады распісваюць цудадзейныя таленты знахароў XX стагоддзя. Таму не дзіўна, што ў прыёмных пакоях тых магаў заўсёды поўна лёгкаверных італьянцаў, якія рады аддаць ашуканцам за пятнаццаціхвілінную «кансультацыю» 5 000 лір.

І завуць сябе гэтыя знахары экзатычна: Марка, Джэніўс, Аленка, Яўфраста. А на самай справе яны маюць звычайныя італьянскія імёны: Марэці, Брамбіла ды Роза таксама.

Цудатворцы вельмі добра разумеюць, як многа значыць вонкавы выгляд. Перш за ўсё трэба, каб быў загадкавы, містычны выгляд, які павінен уразіць кліента. Можна нагнаць на яго жах сваімі раскудлачанымі, як у шаманскім экстазе, патламі, вар'яцкім бляскам вачэй. Або пасадзіць яго ў крэсла з надламанай ножкай перад расхістаным сталом, дзе бязладна накіданы неспадзяваныя рэчы: белыя, жоўтыя, чырвоныя, зялёныя, пакункі і пакуначкі, чорнае адзенне, аздобленае злавеснымі сімваламі, а таксама шпагі, крыжы, а падчас і костачкі ад вішань, шкілеты рыб таксама.

Можна зацікавіць наведвальніка і, наадварот, сваёй дакладнасцю, пунктуальнасцю, ахайнасцю.

Даволі часта італьянскія шарлатаны, прываблiваючы публіку, карыстаюцца не такімі ўжо і бяскрыўднымі хітрасцямі. Вось, напрыклад, Марыя Лаінеры з невялікага мястэчка Сорса, што на поўначы Сардыніі. Хто б мог падумаць, што гэтай набожнай, дабрачыннай жанчынай, вернай дачкой каталіцкай царквы можа зацікавіцца паліцыя. «Такая добразычлівая, такая святая. Ніводнага сольда з тых грошай, што ёй давалі кліенты, не брала сабе. Кожны ведае, што за тыя грошы наладжваліся служэнні ў гонар Ісуса Хрыста», але далёка не кожны ведаў пра салідны банкаўскі рахунак, пра шэсць будынкаў ды некалькі немаленькіх зямельных надзелаў «святой» Марыі.

Ды і з выгляду яе цудадзейства зусім не выклікала падазронасці: дзесятак свечак, чорныя таблеткі з салодкага кораня, пляшка воцату, пляшка «свянцонай вады», шпількі ды яшчэ кілаграмаў з шэсцьдзесят зямлі з найпрыгажэйшых мясцін Сардыніі.

З той зямлі Марыя зрабіла штосьці накшталт ложка, куды ўстаўляла свечкі, загорнутыя ў рызманы, у якія былі натырканы шпількі. Вось гэтыя «лялькі», як яна звала іх, маглі ў патрэбную хвіліну нейкім чынам выскачыць з зямлі. Тады ўжо кліент мог быць спакойны, «святая» выгнала з яго хваробу. Перадала хваробу шпількам, што былі ўторкнуты ў ляльку.

Але гэта ўжо быў канец рытуалу. Спачатку ж Марыя нястрымна галасіла, а «памочніцы» яе пяшчотна супакойвалі. Потым яна канвульсіўна ўздрыгвала і ўпадала ў транс. А калі «святая» аж вар'яцела, «памочніцы» пачыналі несамавіта прыгаворваць: «Яна памерла, яна памерла! Святая мадонна, дапамажы ёй адолець д'ябла, які не хоча, каб выздаравеў кліент».

«Святая» Марыя магла нават весці доўгія размовы з душамі памёршых родзічаў сваіх кліентаў. Вось, напрыклад, нейкі татачка-нябожчык запэўніваў свайго сына — кліента Марыі, што справы таго пойдуць цудоўна, калі ён закупіць колькі соцень служэнняў, каб схіліць да сябе ласку боскую і настрашыць таго праклятага недаступнага сатану. Звычайна грошы за тыя служэнні перадаваліся праз Марыю Лаінеры...

Аднойчы грашавіты сіньёр Маўрыцыё Сарыга атрымаў такі ліст: «Або ты дасі два мільёны чалавеку, які прыйдзе да цябе, або мусіш добра пільнаваць свайго сыночка».

Выкраданне дзяцей у Італіі не дзіва, таму сіньёр Сарыга перапалохаўся не на жарт. Што рабіць? Хтосьці з сяброў параіў яму звярнуцца за дапамогай да

«святой» Марыі Лаінеры. Сарыга паслухаўся.

Пасля належнага рытуалу «замагільны голас» прамовіў:

— Усё будзе добра, калі Маурыцыё закупіць у мяне 700 служэнняў.

«700 служэнняў па 1000 лір кожнае...— меркаваў Сарыга. — Ды лепш ужо развітацца з сямістамі тысячамі, чым з двума мільёнамі. Вось толькі аднаго не ўцямлю...»

— Даруйце,— кажа ён перш чым даць грошы,— мой бацька размаўляў чыста на тасканскім дыялекце, чаму ж тады замагільны голас звяртаўся да мяне па-сардзінску?

«Святая» нямее ад неспадзеўкі, потым штосьці блытана тлумачыць. Сарыга абяцае заплаціць, а сам, пакінуўшы знахарку, шыбуе проста да камісара паліцыі. Той бярэцца за справу. Высвятляецца, што ніхто іншы, як сама Марыя напісала пагрозлівы ліст...

Так закончылася дзейнасць сардынскай «чарадзейкі».

А колькі такіх здарэнняў бывае ў Італіі!

Адной дзяўчыне проста з-за цікаўнасці захацелася наведаць хіраманта. А той па яе далоні «вычытаў», што да бедалагі падкралася нечаканая хвароба, і толькі 200 тысяч лір могуць ад яе выратаваць.

Італьянскія даследчыкі разважаюць, што 95 працэнтаў магаў — шарлатаны. А астатнія? Хіба пяць працэнтаў — сапраўдныя прарокі і выратавальнікі? Не. Проста яны за знахарскімі рытуаламі, містычнымі заклінаннямі хаваюць дзівацтвы, у якіх няма нічога звышнатуральнага.

Шырока вядомы ў Італіі такі сабе Ілявон, якога завуць «прафесарам». Ён пражыў восем гадоў у тыбецкіх манастырах, засвоіў там асновы гіпнатычнага таленту; акрамя таго, Ілявон вывучаў псіхіятрыю, засвойваў розныя медыцынскія навіны. Вось ужо дзе не заступніцтва памёршых бацькоў, а псіхічная, фізічная і маральная тыранія іншы раз памагае яму лячыць нервовыя захворванні. Але сваю справу Ілявон выдае за цудадзейства.

А як ставяцца да гэтага італьянскія ўлады?

Яны ўмешваюцца толькі тады, калі знахарскі бізнес даходзіць да адкрытага злачынства, як скажам, у выпадку з той жа Марыяй Лаінеры.

А тым часам паток лёгкаверных імкне да варажбітоў, хірапрактыкаў, спірытаў, натурапатаў, астролагаў ды хірамантаў...

І адбываецца ўсё гэта ў другой палове XX стагоддзя...

**З успамінамі**
**пра Якуба КОЛАСА**
**выступіць у бліжэйшых нумарах**
**Аляксандра СМОЛІЧ**



# МОЛАДЗЬ ШТУРМУЕ РЭКОРДЫ



Віктар Быкаў.

Бязлітасна пячэ кубінскае сонца. Гарачыня — дыхаць нечым. У такія хвіліны адчуваеш, як сілы пакідаюць цябе. Здаецца, лёг бы і адразу забыўся пра ўсё на свеце. Але пра адпачынак і думаць не прыходзіцца: ідзе гарачы бой. Алена Новікава зноў і зноў ідзе ў атаку. Апошняя фінальная сустрэча. Саперніца беларускай спартсменкі — вядомая румынская фехтавальшчыца Дрымба. Гэтая сустрэча — цяжкае выпрабаванне волі і майстэрства, і тут галоўнае — не спасаваць.

Здаецца, румынка ўжо гатова святкаваць перамогу. Яна вядзе з лікам 3 : 2. Яшчэ націск, яшчэ адзін укол — і перамога. Толькі Лена збірае ўсе свае сілы і раўняе лік.

У тыя лічаныя секунды, калі суддзі разбіраюць чарговую атаку, абедзве спартсменкі падаюць на дарожку. Сябры памагаюць ім падняцца, падбадзёрваюць, жадаюць поспеху.

Спартсменкі не маюць сілы выйсці ў раздзявалку. Іх літаральна выносяць на руках. Але барацьба за званне чэмпіёнкі свету яшчэ не закончана. Праз пяць мінут Лена зноў на дарожцы. Выявілася, што ў Новікавай і Дрымбы аднолькавая колькасць ачкоў. І зноў — цяжкія секунды змагання. Наша выдатная беларуская дзяўчына, выхаванка Ленінскага камсамола, выстаяла. Залаты медаль чэмпіёнкі свету ёсць!

Гэтая ўзнагарода — сапраўдны подзвіг у спорце. А колькі іх здзейсніла мінская студэнтка Алена Новікава! Камсамольцы Беларусі паслалі яе на XVI з'езд ВЛКСМ.

Калі мы гаворым пра рэкорды, перамогі на стадыёне, то перад намі паўстаюць героі гэтых падзей — юнакі і дзяўчаты, выхаванцы камсамола, якія ўпісалі нямала старонак у спартыўны летапіс Беларусі. Іх тысячы і тысячы. Хто не ведае ў нашай краіне цудоўнага асілка, заслужанага майстра спорту Аляксандра Мядзведзя. Ён двойчы заваёўваў залатыя медалі на Алімпійскіх гульнях. Аляксандр Мядзведзь шэсць разоў быў удастоены самых вышэйшых узнагарод на чэмпіянатах свету па вольнай барацьбе.

— Сваімі поспехамі я абавязаны камсамолу,— з гонарам гаворыць Аляксандр.— Камсамол навучыў мяне змагацца і перамагаць, заўсёды быць стойкім, нават тады, калі бывае вельмі цяжка.

Многа выдатных майстроў спорту падрыхтавана ў гарадах і сёлах рэспублікі. І ўсе яны прайшлі школу камсамола. Гэта датычыць і заслужаных майстроў спорту Аляксея Нікančыкава, Рамуальда Кліма і іншых праслаўленых чэмпіёнаў.

Асабліва актывізаваліся нашы майстры ў апошнія гады. Два рэкорды свету былі ўстаноўлены маладым цяжкаатлетам Арнольдам Галубовічам. Беларускі штангіст, выступаючы на чэмпіянаце свету і Еўропы ў Варшаве, заваяваў два срэбраныя і два бронзавыя медалі. Чэмпіёнам свету (у камандным заліку) па сучасным пяцібор'і ў 1966 годзе стаў Вячаслаў Бялоў. У тым жа годзе праславіла сябе і Тамара Шыманская. Яна заваявала тры залатыя медалі першынства Еўропы па веславанні на байдарках каноэ.



Тамара Лазаковіч.

А колькі вялікіх перамог на рахунку нашага снайпера Віталя Пархімовіча! Ён разам са сваімі таварышамі ўстанавіў чатыры рэкорды свету.

Захапляюць подзвігі велагоншчыка Віктара Быкава, весляра Анатоля Каптура, фехтавальшчыцы Тацяны Самусенка... Яны не раз перамагалі на першынствах свету і Еўропы. Зараз расце новае пакаленне — юнае, неспакойнае. Гэта наша алімпійская надзея — Тамара Лазаковіч, Надзя Яроха, Вольга Корбут, Людміла Коласава, Яўген Гаўрыленка. Цяжка пералічыць іх усіх.

Выхаванцы беларускай фізкультурнай арганізацыі 28 разоў заваёўвалі званні чэмпіёнаў свету, 55 сыноў і дачок Беларусі адстойвалі спартыўны гонар Радзімы на Алімпійскіх гульнях. У мінулым годзе шэсць нашых майстроў сталі чэмпіёнамі свету, а дзевяць — чэмпіёнамі Еўропы.



Палац, прасторны і светлы, стаяў на беразе Дзвіны ў чаканні хвалюючых падзей. Вось-вось заіграе аркестр, упадзе на зямлю разрэзаная чырвоная стужка, і хтосьці скажа:

— Сардэчна запрашаем!

У гэты велічны будынак зноў увойдзе моладзь, якая прыходзіла сюды кожны дзень — у спяцоўках, з кельмай у руках. Сёння яны ў святочных касцюмах. Сёння яны не будаўнікі, а навасёлы.

Здаецца, усё падрыхтавана да ўрачыстага цырыманіялу. Усё? Пачакайце. А імя для новага Палацу спорту? Тут жа адбылася кароткая нарада. Хроснымі былі тыя, хто будаваў. Усе аднадушна вырашылі — «Камсамолец». І вось віцебскі «Камсамолец» гасцінна расчыніў для моладзі дзверы. У ім і плавальны басейн, і велізарная зала, і пакоі для заняткаў. Тут сотні спартсменаў могуць удасканальваць сваё майстэрства, рыхтаваць сябе да подзвігу на стадыёнах. Верыцца, што «Камсамолец» дасць пуцёўку ў вялікі спорт многім і многім юнакам, якія мараць пра перамогі.



Віталь Пархімовіч.

Моладзь шэфствуе над многімі спартыўнымі новабудоўлямі. Рукамі маладых у апошнія гады пабудаваны і будуюцца плавальныя басейны, залы, стадыёны не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы. Гомель і Віцебск, Полацк і Орша, Маладзечна і Міёры... Гэта адрасы новых спартыўных баз. Яны створаны на грамадскіх асновах. І невыпадкова на франтонах будынкаў, басейнаў, залаў з'явіліся словы: «Маладосць», «Юнацтва», «Камсамолец»...

Маладыя энтузіясты Рагачова пабудавалі цудоўны стадыён, спартыўную залу. Сотні юнакоў і дзяўчат працавалі на будоўлі. У хуткім часе яны зноў справяць наваселле — рыхтуецца да здачы плавальны басейн з падагрэвам.

Штурм рэкордаў, як ні дзіўна, пачынаецца... з цаглянай кладкі. Не здзіўляйцеся. Цяжка гаварыць пра дасягненні ў спорце, падрыхтоўку майстроў высокага класа, калі няма добрай базы для заняткаў, умоў для трэніровак. Гэта добра засвоіў камсамол і паспеў шмат чаго зрабіць. Толькі за апошнія тры гады пабудавана 18 стадыёнаў, 17 плавальных басейнаў, каля 400 спартыўна-гімнастычных залаў, больш 600 лыжных і турысцкіх баз. Многа гэта ці мала? Параўнайце самі. У дарэвалюцыйнай Беларусі было ўсяго толькі 70 спартыўных арганізацый, 2,5 тысячы фізкультурнікаў, пяць пляцовак і сем спецыялістаў. Цяпер у распараджэнні дзвюхмільённай арміі фізкультурнікаў рэспублікі — 1700 спартыўных залаў, 70 буйных стадыёнаў. А што датычыць пляцовак, то іх лік вядзецца ўжо на тысячы.

Толькі футбольных палёў абсталявана ў гарадах і сёлах больш васьмі тысяч. Гэта важкі ўклад фізкультурнікаў Беларусі ў рэалізацыю вядомай пастановы ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб мерах па далейшым развіцці фізічнай культуры і спорту».



Аляксандр Мядзведзь (справа).



Вячаслаў Бялоў — чэмпіён свету па сучасным пяцібор'і і чэмпіёнка Алімпійскіх гульняў Алена Новікава.




Тамара Шыманская.

●

Раз у чатыры гады нашы спартсмены здаюць сур'ёзны экзамен. Ніхто не вызваляецца ад яго. І праслаўлены майстар, і навічок, які робіць першыя крокі ў спорце — усе робяць справаздачу. Экзаменатарам выступае Спартакіяда народаў СССР.

Трапіць у фінал — заключную стадыю гэтага спартыўнага форуму—мара кожнага фізкультурніка. Шлях да фіналу складаны і цяжкі. Ён бярэ свой пачатак на заводах і фабрыках, у калгасах і саўгасах, у інстытутах і школах.

Спартакіяда — агляд нашых дасягненняў перад Алімпійскімі гульнямі. А як вядома, на кожным аглядзе добра відаць не толькі дасягненні, але і недахопы. У гэтым і сутнасць праверкі.

Спартакіяда пачала ўжо свой імклівы бег. Яна стартавала ў калектывах фізкультуры. Вельмі важна, каб кожнае яе спаборніцтва стала сапраўдным святам сілы і здароўя. Вядома, належыць нямала зрабіць, каб новыя старты азнаменаваліся масавасцю і майстэрствам. Гэта галоўны крытэрый савецкага спорту.

У нас ёсць цудоўныя рэзервы. Адзін з іх — сельскі спорт. Ён мае вялікія патэнцыяльныя магчымасці. А вось выкарыстоўваюцца гэтыя магчымасці далёка не поўнасцю. Сельская моладзь уступае сваім гарадскім калегам і ў майстэрстве, і ў масавасці. Думаецца, што гэта часовая з'ява. Ужо не раз гаварылася, што і на сяле могуць расці алімпійскія чэмпіёны. Трэба толькі вырашыць некаторыя праблемы развіцця сельскага спорту. Першая з іх — база. Праўда, у апошнія гады ў многіх калгасах і саўгасах абсталяваны спортпляцоўкі. Але іх яшчэ не хапае. Другая праблема — кадры. На сяле мала спецыялістаў, якія б маглі рыхтаваць змену алімпійскім чэмпіёнам. У асобных гаспадарках пачалі працаваць інструктары-метадысты фізкультуры. Аднак такая пасада ўведзена ў штат пакуль толькі ў якіх 500 гаспадарках.

Многае можа і павінен зрабіць горад. Калектывы фізкультуры прадпрыемстваў шэфствуюць над калгасамі і саўгасамі. Нажаль, сям-там шэфы вельмі прымітыўна разумеюць сваю задачу. Зрабіў наскок у вёску, здзівіў людзей сілай біцэпсаў — і дадому. Вядома, чакаць істотных перамен ад такіх візітаў не выпадае. Моладзі калгасаў і саўгасаў патрэбна дапамога ў будаўніцтве спартыўных збудаванняў, у арганізацыі спаборніцтваў, у стварэнні секцый. Гэта добра разумеюць студэнты — будучыя спецыялісты фізкультуры. Кожнае лета яны ствараюць ударныя брыгады, едуць у вёску, каб памагчы сваім равеснікам у арганізацыі фізкультурна-масавай работы.

У даўгу перад спортам і школа. Менавіта тут нашы юнакі і дзяўчаты атрымліваюць першую загартоўку. У школе закладваецца фундамент здароўя, а галоўнае — на ўсё жыццё выхоўваецца любоў да фізічнай культуры. Вось чаму важна пастаянна абуджаць ініцыятыву моладзі ў правядзенні рознага роду спартыўных мерапрыемстваў — школьных спартыўных святаў, ваенна-спартыўных гульняў, спаборніцтваў на прызы Герояў Савецкага Саюза і г. д.

Нажаль, у школьнікаў нямала праблем. У школах слабая спартыўная база. У 3,5 тысячы з іх наогул няма спартыўных залаў. Больш таго, у многіх школах не абсталяваны спартыўныя пляцоўкі. Мала сродкаў выдзяляецца на набыццё інвентару. Не ўсё добра і са спецыялістамі. Не сакрэт, што менавіта ад іх залежыць многае. Але бяда ў тым, што яшчэ ў многіх школах урокі фізічнага выхавання вядуць людзі, якія не маюць спецыяльнай адукацыі.

Мала ў нас, асабліва на сяле, дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ. А таму многія таленты доўга застаюцца незаўважанымі. Адной з надзённых задач камсамола варта лічыць далейшае павышэнне ўвагі да разгортвання спартыўнай работы на вёсцы.

**Валянцін САЗАНОВІЧ,**
**намеснік Старшыні Камітэта па фізкультуры і спорце пры Савеце Міністраў БССР.**



**Раздзел вядзе міжнародны гросмайстар Аляксей СУЭЦІН**

# ЦІКАВЫ ЭЦЮД

Гледзячы на дыяграму, цяжка ўявіць, што барацьба ў гэтым вельмі няпэўным становішчы будзе вырашана атакаю белых, скіраванаю на верны мат. І гэта атака зусім заканамерна для такой пазіцыі.




Белыя: Крh1, Лс3, Кс2 (3).
Чорныя: Крg4, Cb4, Кg1; пп. е3, f3 (5).

Матэрыяльна сілы амаль роўныя. Пешкі чорных дасягнулі небяспечнай трэцяй гарызанталі. І ўсё ж такі ў чорных вельмі складанае становішча: слон чорных «b4», конь «g1» і пешка «е3» атакаваны белымі.

Пачынаецца фарсіраваная барацьба.

1. Лс4+!

Толькі так. Да нічыёй прывяло б 1. К : b4? е2!, 2. Кd3 е1Ф!, 3. К : е1 f2, 4. Кс2 Ке2, 5. Ке3 Крh3!

1. ...Крg3, 2. К : е3.

Пад боем дзве фігуры чорных. Здаецца, што барацьба закончана. На самай жа справе яна толькі пачынаецца. «Козырам» чорных робіцца іх прахадная пешка на «f2».

2. ...Се1!, 3. Лg4+ Крf2, 4. Л : g1 Кре2, 5. Кf5 f2.

Калі за тры хады перад гэтым здавалася, што справы чорных зусім дрэнныя, цяпер, наадварот, непазбежнай здаецца нічыя.

І вось тут настае час з'яўлення галоўнай ідэі белых—іх атакі на караля з мэтаю непазбежнага мата.

6. Лf1!! Кр : f1, 7. Кg3×!

Трэба мець добрую фантазію, каб разлічыць, што галоўны ўдар павінен быць зроблены маларухомым канём на «с2»!

Гэты эцюд належыць савецкаму майстру Г. Каспарану.

## наша аўтары

●

**БУРАУКІН Генадзь** нарадзіўся ў 1936 годзе на Полаччыне. Скончыў філфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.
Аўтар зборнікаў вершаў «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне».
Цяпер — карэспандэнт газеты «Праўда» па Беларускай ССР.

●

**СКАРЫНКІН Уладзімір** нарадзіўся ў 1939 годзе ў Віцебску. Скончыў Рыжскі інстытут грамадзянскай авіяцыі. Працуе інжынерам.
Аўтар зборніка вершаў «Буслы над аэрадромам».

●

**МАЎЗОН Аркадзь** нарадзіўся ў 1918 годзе ў Віцебску. Скончыў сямігодку і фабрычна-заводскае вучылішча. Працаваў токарам, потым акцёрам, асістэнтам рэжысёра.
Аўтар п'ес «Канстанцін Заслонаў», «Наталля Краўцова», «У ціхім завулку», «У бітве вялікай», «Пад адным небам», «Усяго адно жыццё» і інш.

●

**ЛУКША Валянцін** нарадзіўся ў 1937 годзе ў Полацку. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна.
Аўтар зборнікаў вершаў «Гарады нараджаюцца сёння» і «Атава».
Працуе ў рэдакцыі газеты «Чырвоная змена».

●

**КАРАТКЕВІЧ Уладзімір** нарадзіўся ў 1930 годзе ў Оршы. Скончыў Кіеўскі дзяржаўны ўніверсітэт і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Яго кнігі прозы і паэзіі: «Матчына душа», «Вячэрнія ветразі», «Мая Іліяда», «Блакіт і золата дня», «Каласы пад сярпом тваім».

●

**ХАМЧУК Валянціна** нарадзілася ў 1946 годзе ў вёсцы Навасёлкі на Гродзеншчыне. Працавала дыванОўшчыцай у Малдавіі, настаўніцай на Урале. Цяпер займаецца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна.

●

**ЛЕ Вінь** нарадзіўся ў 1943 годзе ў Паўднёвым В'етнаме. Вучыцца ў Маскоўскім універсітэце імя Ламаносава.
Аўтар зборніка вершаў «Карэнне».

●

**ТХО Ань нарадзілася** ў 1921 годзе ў Паўночным В'етнаме.
Аўтар зборнікаў «Сельскія замалёўкі», «Жанчына з Рэу-Ланга» і «Пад крыллем голуба».

●

**ПАДРЭЗ Уладзімір** нарадзіўся ў 1937 годзе ў горадзе Чашнікі. Скончыў геафак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. З 1958 года — на камсамольскай рабоце.
Цяпер — першы сакратар ЦК ЛКСМБ.

●

**МАЧУЛЬСКІ Раман** нарадзіўся ў 1903 годзе ў вёсцы Крываносы Старадарожскага раёна. Служыў у Савецкай Арміі, працаваў культасветработнікам, зменным майстрам. Скончыў Вышэйшую школу прапагандыстаў пры ЦК КП(б)Б у Мінску.

У гады Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў тыле ворага. Быў адным з сакратароў Мінскага падпольнага абкома партыі і камандзірам партызанскага злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны.

Аўтар кнігі ўспамінаў «Вечны агонь».

●

**БАЧЫЛА Алесь** нарадзіўся ў 1918 годзе ў вёсцы Лешніца на Міншчыне. Скончыў настаўніцкі інстытут. Настаўнічаў, служыў у Савецкай Арміі.

Цяпер — адказны сакратар рэдакцыі часопіса «Полымя». Аўтар зборнікаў вершаў «Шляхі», «Подых вясны», «Зоры вясенція», «Дарыце цюльпаны», «Асенняя аповесць», «Снежная балада» і інш.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 9**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктар **Пятро ЛІПАЙ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдацыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854 — сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592 — аддзелы паэзіі і прозы,
2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 26282. Здадзена ў набор 27/VII-70 г. Падпісана да друку 4/IX-70 г.
Тыраж 13740 экз. Зак. 1048. Цана 40 кап. Папера 70×108¹/₁₆. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**



Вячаслаў АБУХАЎ. Скульптура для дзіцячага сада. Шамот.

Фота В. ЖДАНОВІЧА.



Аўтобусны прыпынак.

ПЯТРО ЛЫСЕНКА. З ПАЕЗДКІ У НОВАЛУКОМЛЬ.

Тынкоўшчыца Люба Смірнова.





Слесар-мантажнік Валянцін Шабанаў

ПЯТРО ЛЫСЕНКА. З ПАЕЗДКІ У НОВАЛУКОМЛЬ.



Вера МАРЦІНЕНКА. Спартыўны касцюм.



Віктар УГРЫНОВІЧ. Дэкаратыўны фрыз для інтэр'ера «Карчмы». Кераміка, дрэва, крышталь.



Маргарыта АБАКУМАВА. Біжутэрыя. Кераміка, метал.

ДЫПЛОМНЫЯ РАБОТЫ МАСТАКОЎ-ПРЫКЛАДНІКОЎ.

Фота Валянціна Ждановіча

Міхась БАСАЛЫГА. Каробка для сувенірнага набору цукерак.



Яўген ЛАРЧАНКА. Інтэр'ер Дома пісьменнікаў у Мінску. Праект.

